


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**12** (1058)

СНЕЖАНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2017

*ЗМЕСТ*



Васіль ЗУЁНАК

# КЛЮЧЫ АД ЗОР

## «ПА-ЦАРСКУ»…

А тата й не знаў, што быў цар ён — *Васіль,*
Што й я паймянован па-царску,
Бо з моваю грэцкай стасункаў зусім
Не мела дзядоў гаспадарства.

Ніхто з нас па-грэцку ні думаць не мог,
Ні сноў алімпійскіх не бачыў, —
Імя ж — нібы грэку — не цар і не бог,
А поп наш шчаўроўскі прызначыў.

У полі з сяўнёю, на лузе з касой —
То й значыць: царуй па-мужыцку…
Маё ж цараванне пайшло паласой
Бядняцкай: на рыфму разжыцца…

Ды з гартам мужыцкім і я не прасіў
У Музы планіды ліхвярскай, —

---

***Зуёнак Васіль Васільевіч*** *нарадзіўся 3 чэрвеня 1935 года ў вёсцы Мачулішчы Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Барысаўскае педагагічнае вучылішча (1954), аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1959). Працаваў у рэдакцыях газет «Рабочае юнацтва» (Мінск) і «Піянер Беларусі», быў галоўным рэдактарам часопіса «Бярозка», намеснікам галоўнага рэдактара, галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», сакратаром, першым сакратаром, з 1990 па 1998 гг. — старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі. Кандыдат філалагічных навук.*

*Аўтар кніг паэзіі «Крэсіва» (1960), «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980), «Час вяртання» (1981), «Світальныя птушкі» (1982), «Лукам'е» (1984), «Вызначэнне» (1987), «Лета трывожных дажджоў» (1990), «Чорная лесвіца» (1992) і інш.*

*Вядомы таксама як дзіцячы паэт, перакладчык, аўтар кніг гумару, лірычнай прозы, нарысаў і замалёвак.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1982).*

А як жа іначай: Васіль ёсць Васіль, —
Як цар, то ўпраўляйся па-царску!..

І ўрок мой у гэтым. Аднак жа не ўвесь, —
Я мерай зямною праверыў:
Хоць з іменем царскім — на неба не лезь, —
Тут трэба спытацца ў Гамера.

## НА ПЕЧЫ

*Іскрынка маленства*

На гарачую чарэнь
Кінута ватоўка, —
Наблукалася за дзень
Ты са мной, сяброўка.

Хоць і страшыла зіма —
Мы не замярзалі!
Целагрэйка! — нездарма
Так цябе назвалі.

Грэла ты ў мароз круты
Грудзі мне і плечы,
А цяпер пагрэйся ты
І сама на печы…

Светлы месяц з-за вакон
Пазірае зябка…
Падпаўзае ціха сон
На каціных лапках…

## ШКАДАВАННЕ

*Замест пісьма*

Узн*а*цкая школа драўляная,
Дзе сямігодку канчаў,—
Памяці ныючай ранаю
Трывожыць сон па начах.

Б*у*дзіць, — а не паклікала
Ў госці ні разу мяне, —
Ну хоць бы ў свята вялікае…

Дык жа й тады абміне…

І прамаўчыць, як заўжды.
Быццам стаў які́м

Я непатрэбнікам… Толькі яно,
Можа, зусім і не дзіўна:
Настаўнікі
Іншыя ў класах даўно…

А пра дзяцей — што й казаць: пакаленні
Тут адшумелі сваё…
Так яно так, — ды адчужанасць ценем
Легла на сэрца маё.

І што замецены сцежкі парошаю,
Можа й мая ёсць правіна… Аднак
Як жа я раптам на ганку — няпрошаны —
Стану: ці свой, ці чужак?..

Школа мая драўляная, —
Неадступна стаіш уваччу…
Прабач, а прыеду — хоць і нязваны я:
Можа й гукала, ды я не пачуў?..

* * *

Сонечны сон быў — палетак даспелы:
Колас да коласа шэпча хвалу
Плоднай зямлі, а на ўзмежку прысела
Сейбіта стома — з прыспешкай жніву.

З ёю наўпобач і я прымасціўся:
Можа, ашчадзіцца й мне хоць скрылёк
Сейбіцкай долі, — і згодна свяціўся
Кропелькай неба мой брат-васілёк.

Сонечны сон быў… Палетак даспелы…
Ранкам прачнуўся, — а дзе ж ураджай?
Ціха зярнятак сям’я адляцела, —
Дзе яны ўзыдуць? — не знаю, на жаль…

## МАТЫЎ

На дварэ васьмёрка коней,—
Коні вараныя,
Даганяйце мае леты,
Леты маладыя,

Што рассяяліся ў веснім
Небе жаўрукамі.
Як не іх — вярніце песню,—
А я пачакаю…

## А ВЕЧНАСЦЬ МАЎЧЫЦЬ…

Гляджу ў асенняе неба,
Дзе зор лічыць не злічыць:

Набліжаецца вечнасць — і трэба
Мне штосьці сказаць ёй. Аб чым?
Не знаю. Не маю хвалебных
Ні помыслаў, ні прычын…

То лепей спытаць: дзе ключы
Ад зор, і якая там глеба,
Каб жыта пасеяць, каб хлебам —
О вечнасць, зямным не пагрэбуй! —
Аздобіць на небе харчы…

Не знаю… А вечнасць маўчыць…

## ДА САМАГА ДОНЦА…

Смакуй юнацтва гады
На зайздрасць каргі сустрэчнае,
А грошы лічы тады,
Калі лічыць ужо нечага…

## ГОНКА

Якія жарсці разгараюцца!
Куды вы ўсе ў зялёных шорах?!
Купіць Мальдзівы ці абранніцу?
Ці куш стаеміць у афшорах?

Куды вас гоніць хіжы бізнес,
Куды спяшаецеся здуру?
Ці ў той даляравай свярбізне
Аздоба людскае натуры?

Хіба няўцям: *каса і граблі*
Дадуць прыстанішча рэзоннае.
Ці й *там* намерыліся з д’яблам
Хаваць свае, хапаць казённыя?..

## ЯКІЯ ДНІ!..

Якія дні! Які — натхнёна —
Уславіць возьмецца пясняр:

Даўно прысмерклыя імёны
І дзён тых неадкупны дар?

Я не бяруся. Як і, зрэшты,
Не пхнуся ў плойму песняроў.
А памяць скардзіцца: «А дзе ж ты
Мяне схаваеш? — ці звядзеш ты
Ад тых нясплачаных дароў?

Ад летуценняў несмяротных,
Якім і Марксаў «Капітал»
Падасца сівізной дрымотнай
І ваш камп’ютарны партал…»

Я не хаваюся, і памяць
Я не намераны хаваць
У забыццё. Ды часу замець
Сноў не аматарка вяртаць.

З тым і пагодзімся. Квітнее
Ўсё недзе там, у тым краі,
Дзе надвячорак светла днее,
Бо сонца вечнае ў раі.

Было!.. Жыла тады ў нябёсах
Зямля, а неба — на зямлі…
Бог з намі бег па росах босы,
І мы анёламі былі.

Вясна, і райская наіўнасць,
І спакушэння адкрыццё,
І перад вечнасцю нявіннасць,
Што ўсе цяпер вы несяцё…

Дык што ж тады было? — спытацца
Вам не карціць?.. Магу сказаць:
Было тады нам па сямнаццаць,
А зараз больш… разоў у пяць…





**Мікола ГІЛЬ**

# БРАТЫ

*Водбліск жніўня сорак першага*

*Напачатку вайна, можна сказаць, абышла бокам гэты куточак беларускіх абшараў. На пяты дзень пасля нечаканае і страшэннае пагалоскі паехалі ў раён на калгаснай палутарцы мабілізаваныя маладзейшыя мужчыны (да сарака гадоў) і хлопцы, а на шосты праз вёску весела, з песнямі (на пярэднім браневіку стаяў грамафон, і Русланава голасна спявала пра валёнкі) прагрукатала невялікая калона немцаў. На тым і скончылася. Без стрэлаў і выбухаў. Адно што ў суседнім ляску доўга гарэў і бязладна страляў (ад агню ірваліся патроны) пакінуты напярэдадні малакалькасным гарнізонам невялікі ваенны гарадок, пабудаваны калісь паблізу старой граніцы з Польшчай, які тыя ж немцы па дарозе і падпалілі. Вайна пакацілася далей, на ўсход.*

*А час, між тым, не спыніўся. Неўпрыкмет, у бясконцых трывожных пытаннях-недаўменнях: «Як жа тое здарылася? Чаму? Хто дапусціў, што гаварылася адно, а здзеелася зусім іншае? Каго і дзеля чаго падманвалі? Хто ж бо думаў? Ці ж надоўга? Што і як будзе?» скончыўся чэрвень. Не прынёс адхлання ад іх і такі ж спякотны і пыльны ліпень, спарадзіўшы новыя: «Як жыць? Што рабіць? Улада ж, пэўна, будзе нямецкая, але якая? Пакінуць калгасы ці распусцяць? А ўсё астатняе?»*

*Пакуль вёска гаманіла, а больш сцішана, баязліва перашэптвалася пра ўсё гэта, новая ўлада якраз і азвалася. Замест сельсаветаў вярталіся, як і да рэвалюцыі, валасці, ствараліся раённыя ўправы, у вёсках выбіраліся, а папраўдзе прызначаліся старасты. Калгас распусцілі. Маёмасць падзялілі з крыкам, вядома, але без калатуна — дзякуючы ў першую чаргу старшыні. Чалавек у вышэйшай ступені справядлівы, ён і дзяліў гэтак жа, каб не пакрыўдзіць нікога, а найперш — жанчын з дзецьмі, што засталіся без мужчын у хаце.*

---

***Гіль Мікола (сапр. Гілевіч Мікалай Сымонавіч)** нарадзіўся 15 кастрычніка 1936 года ў вёсцы Слабада Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ (1959). Працаваў у газеце «Рабочае юнацтва», на Мінскай студыі тэлебачання, у газеце «Літаратура і мастацтва» (з 1990-га па 1996-ты — галоўным рэдактарам), у часопісе «Маладосць», у газеце «Культура» і часопісе «Мастацтва» (з 2005-га па 2008-мы — галоўным рэдактарам).*

*Аўтар кніг прозы «Ранішнія сны» (1973), «Тацянін чэрвень» (1978), «Пуд жыта» (1982), «Камандзіроўка ў Вішанькі» (1986), «Тэлеграма з Кавалевіч» (1988), «Бралася на дзень» (1993), «Неадступнасць» (2016) і інш.*

*Конь ці калёсы такой бабе, бадай, без патрэбы, хай гэта ў суседа будзе, падможа пры нагодзе, а вось кароўка, авечка ці яшчэ што такое акурат такой кабеціне — у першую чаргу. Палеткі збажыны і бульбы падзялілі па душах, а зямлю наогул — і зусім проста: усе яшчэ памяталі свае шнуры, палоскі, раўкі і балотцы. Старшыню (былога ўжо) людзі ўпрошвалі застацца і старастам, але ён адмовіўся: і гады яго ўжо немалыя, і наўрад ці ўхваліць такі выбар новая ўлада.*

*У прывыканні да новых і надта ж нязвычных варункаў жыцця (а прывыкаць трэба было не толькі людзям, але й жывёле — да новых хлявоў і новага статку ў полі) ліпень памалу перацёк у жнівень, таксама спякотны і яшчэ больш пыльны...*

* * *

Крыстына ўжо дадойвала Малюту, калі да яе падышла суседка, Ганна Петрусёва, і сказала, як агаломшыла:

— Чуеш-далібог, бяжы дадому, твой жа Сцяпан вярнуўся!

«Вярнуўся? Сцяпан?» У Крыстыны ўмомант ногі сталі ватовымі, абліло яе млявасцю, у вачах пацямнела, і яна ціха абсунулася долу, у цёплую траву, выпусціўшы з рук каровіны цыцкі. Як паспела не ўпусціць і паставіць на зямлю вядро, не памятае. Зрабіла тое, па ўсім, машынальна і хапатліва, рэзка, бо, здаецца, Малюта зрэагавала, крутнулася да яе галавою і паглядзела сінім здзіўленым вокам.

«Сцяпан вярнуўся… А божачкі!» Зноў нема паўтарыла, ачомаўшыся пасля хвіліннае млоснасці. Не чула, як Ганна, усё яшчэ стоячы ля яе, гаварыла:

— Твой жа во вярнуўся, а мае дзе? І Пятрусь, і Сяргей… Пайшлі ж разам… Пыталася ў Сцяпана, дык не ведае, кажа, размінуліся яны яшчэ ў Загорску…

Не стала Крыстына дадойваць Малюту — абыдзецца. Хуценька абвязала па звычцы даёнку паркалёвай хустачкай і ледзь не подбегам пашыбавала да сцежкі, што вяла ў вёску. І па сцежцы амаль бегла, ані не зважаючы на тое, што малако лішне боўтаецца. Ды каб большае бяды не мець! Не прападзе яно, малако тое. Не да яго ёй цяперака…

Гэтак, з даёнкаю ў руцэ, і ў хату ўбегла. Убегла, верачы і яшчэ не верачы. А яно й праўда: дома Сцяпан! На канапе сядзіць, акурат пад люстэркам на сцяне. Перш і кінулася ёй у вочы ў тым люстэрку ягоная патыліца, чужая быццам, аброслая, даўно нямытая. А пасля ўжо ўсяго яго самога ўбачыла! Таксама як чужога. Бо і апратка на ім не яго, і твар як не ягоны — барадаты, дайце веры, — гэтак зарослы шчэццю, адно вочы ягоныя, Сцяпанавы, ды хіба яшчэ й бровы, яшчэ больш, чым раней, кусцістыя.

Убачыла яго Крыстына — і зноў ногі яе ватовымі зрабіліся, і зноў яна, як у полі ля каровы, самлела і абсунулася долу — ужо на падлогу. Гэтак жа знячэўку, раптоўна абвяла, спалохаўшы там Малюту, а тут — Сцяпана. Той, сам нямоглы і знясілены, ушчэнт дабіты дарогаю, кінуўся да жонкі, абхапіў за плечы, сілячыся і не могучы падняць яе з чыстае, як заўсёды старанна вышараванае дзеркачом падлогі. Добра, падбеглі Ліза, дачка старэйшая, і сын Лёня, таксама старэйшы, пасля Лізы нарадзіўся, дык ужо ўсе разам, утраіх, паднялі і перанеслі непрытомную на ложак. Ды яшчэ калі неслі, Крыстына вочы расплюшчыла, пачала даходзіць да памяці, таму на ложку і хвіліны не паляжала: падхапілася, ашчарэпіла Сцяпана і зайшлася ў бязгучным плачы. І, пэўна, занадта моцна, засумаваўшы, сціснула ягонае худое выпетрахлае цела

ў сваіх абдымках, не разлічыўшы сіл, як захмялеўшы трошкі ад неспадзяванае радасці, бо ўжо Сцяпан нечакана абвяў, захліпнуўшыся ад перахопу дыхання ў тугім абручы жончыных рук. Тое заўважыла няйначай па бацькавым твары Ліза, спалохалася і не сказала — закрычала:

— Мамачка, не трэба гэтак моцна, задушыш тату!

«А божачкі! Ці не ўжо задушыла?» Разамкнула Крыстына рукі, адхінулася, злавіла змучаны, але шчаслівы пагляд Сцяпанавых вачэй, усміхнулася…

Неўзабаве яны ўдваіх ішлі загуменнай сцежкай да лазні. Яна была пастаўлена колькі гадоў таму разам з суседам, Васілём Курылам, акурат на мяжы, і грэлі яны яе па чарзе. Ды як забралі Сцяпана, чарга тая парушылася. Не бабская гэта работа — лазню грэць. Вады нанасіць, дроў каламажку прывезці — гэта адно, з гэтым і баба ўправіцца. А камяні распаленыя з печы выкаціць ды паўпускаць абцугамі ў бочку? Не бабскі спрыт і не бабская сіла тут патрэбны. Крыстына й не рупілася: лета, можна і ў рэчцы абмыцца, а там неяк будзе. Васіль таксама чамусьці не падахвочваўся грэць лазню. А ўчора як знаццё тое: раптам даўмеўся. І надта ж добра напаліў! Яна, Крыстына, як мылася з дзецьмі, дык амаль і духу не давала, бо й без таго было не прадыхнуць. Значыць, яшчэ й сёння, па летняй пары, будзе калі не гарачая, дык цёплая. І вады ж там заставалася ці не паўбочкі. От яна й памые Сцяпана. Не карміла з дарогі — адно кубачак малака з лустай хлеба дала. Хай сабе асаблівага духу ў лазні і не будзе, але ўсё адно поўны жывот туды несці не трэба. Спачатку яна яго вымые, пераапране з дарогі, пасля больш чым месячных мучэнняў-блуканняў, а потым ужо й за стол пасадзіць, пачастуе-накорміць як след.

— Распранайся, скідай з сябе гэтае рыззё, Сцёпа, а я пакуль саломкі свежай падсцялю, ражку спаласну, — казала Крыстына, калі яны апынуліся ў прылазніку. — І йдзі туды, узлезь на палок, паляжы ды папацей трохі, каб бруд хутчэй адкарэў. Я ж скокну яшчэ й да рэчкі, вады прынясу, мо разбаўляць трэба будзе.

Нейкая неўтаймоўная, даўнавата ўжо нязнаная энергія і сіла перапаўнялі Крыстыну. Пакуль Сцяпан сцягваў-скідаў з сябе чыесьці заношаныя, латаныя-пералатаныя порткі і сарочку і бруднае, амаль чорнае нацельнае, яна паспела і саломы ахапак растрэсці, — балазе, была тут жа, у куце прылазніка, і ражку спаласнуць і наліць у яе вады з бочкі, і да рэчкі збегаць, бо й папраўдзе спатрэбіцца і халодная вада. Яна паспела нават лінуць карэц вады на каменне — пaглядзець, ці будзе дух. Зверху каменне астыла, але спадыспаду жар яшчэ трымаўся, бо трохі там, глыбей, зашыпела, і Крыстына абрадавалася: значыцца, мо нават і папарыць яна Сцяпана.

Сцяпан ляжаў на палку худы і, пэўна, з гэтае прычыны нязвычна доўгі. Худзізна ягоная ці не злякала Крыстыну. Яна памкнулася было апаласнуць яго напачатку з галавы да ног, каб ён, як той карэлік, адмакаў памалу, ды неўспадзеў запынілася: боязна было дакранацца да Сцяпанавых касцей, абцягнутых учарнелаю, лускаватай скураю. Нечакана заплакала ўголас:

— Мой ты Сцёпачка, што ж яны з табою зрабілі, немцы паганыя! Адна душа, а цела нямашака: скура ды косці… Як ты йшчэ йшоў такі…

Ён, не варушачыся і не дыхаючы, здаецца, азваўся з палка тым не менш досыць бадзёра:

— Нічога, Крыстынка, былі б косці, а мяса нарасце. Добра, што дабрыў, бо думаў — усё, не дайду, павалюся і больш не ўстану. Апошнія суткі ішлі, не кладучыся, каб не ўставаць. А пакуль на нагах — значыць, жывы яшчэ, на гэтым свеце, не на тым…

Яна ўрэшце абліла яго гарачаю — аж ён войкнуў — вадою, пачала, макаючы венік у ражку, пырскаць вадою на печ. Памаленьку ў лазні збіраўся — спачатку пад столлю, а пасля і ніжэй — дух. Паспрабавала ўрэшце памахаць венікам над Сцяпанам, пагладзіць мяккім, трошкі ліпкім лісцем яго па грудзях, жываце, нагах. Сцяпан ад асалоды аж вочы заплюшчыў.

— Ой, Крыстынка, каб ты ведала, як мне добранька! Быццам на свет нарадзіўся! — Нечакана, зірнуўшы на яе, сказаў: — А ты чаго мокнеш? Надумалася — у сукенцы мыць мяне сабралася! Скідай, дурненькая! Ці саромеешся ўжо?

Яна як адмахнулася ад яго:

— Ты ўжо скажаш! На сукенку я й забылася. Ведама ж, трэба было скінуць.

Яна выскачыла ў прылазнік, сцягнула цераз галаву макраватую ўжо сукенку. Падумала: мо і ўсё астатняе скінуць? Не ў прыклад іншым бабам, яна і летам насіла станік, каб грудзі не матляліся, не заміналі, і трусы, няхай сабе і не заўсёды крамныя, часцей самою сшытыя, — не хацела яна, каб пры нейкім выпадку — вецер падол задзярэ — свяціць галізною. Падумала і сама сабе кіўнула: не будзе і іх мачыць, скінула і трусы, і станік, бо ні пра што такое і сама яна не думае, і тым больш Сцяпану тое не ў галаве. Ды вярнулася да Сцяпана ўсё ж збянтэжанаю і, каб трошкі прыхаваць яе, гэтую сваю ніякаватасць, знарок весела загаманіла:

— Дык дзе ж тут мой венічак? Зараз я цябе добранька адхвашчу, ой адхвашчу! Увесь твой бруд з цябе злезе, як лушпайка. А ты ляжы ды бакі, спіну мне падстаўляй.

Крыстына і сапраўды ўхапіла венік і пачала завіхацца з ім над Сцяпанам. Ды нядоўга яна завіхалася. Сцяпан не зводзіў з яе вачэй. І чым больш глядзеў, тым усё большая хэнць ім авалодвала. Аж з самога сябе здзівіўся: адкуль што й бралася?! Сілы не было ногі валачы, а тут, чуе, не можа трываць, забірае ўсяго, як жарэбчыка маладога. Варухнуўся, выдыхнуў:

— Чакай, Крыстынка, пакладзі венік, пасля дамыюся…

Яна не спалохалася, што яму зрабілася блага, бачыла, што прычына іншая, з ходу зразумела, і не паклала, выпусціла венік, а сама ўся да Сцяпана памкнулася, яго на сябе ўзваліла, сцягнула з палка і разам з ім не апусцілася, а бадай што ўпала спінаю долу, на натрэсеную самой жа нядаўна свежую, яшчэ не стаптаную салому…

Калі яны, здаволіўшыся, яшчэ похапкам дыхаючы, ляжалі побач, ён нечакана спытаў:

— А ты хоць дзверы на зашчапку ўзяла?

Крыстына, нібы нашкодзіўшае дзяўчо, падхапілася, бы ўджаленая:

— Ой, Сцёпа, не!

Сцяпан ціха, шчасліва засмяяўся:

— А ты ўсё як дзяўчынка! Спалохалася, аж збялела. Не бойся, ляжы, адпачывай.

— А каб жа хто паткнуўся? — яна не магла супакоіцца.

— Ну і што? Каб не дзеці толькі…

— Я ўсё ж пайду зашчаплю. — І яна лёгенька, шустра, сапраўды як дзяўчынка, падхапілася, вышмыгнула за дзверы і гэтак жа хуценька вярнулася, апусцілася побач з ім на калені, прыкрываючы рукамі таемнае месца.

Сцяпан глядзеў на яе з замілаваннем, якога ўжо даўнавата не зведваў. Тое, што было толькі што між імі, ён не мог параўнаць ні з чым. Асалода была сапраўды незямная: ён пабыў акурат у раі. Кожнай частачкай самога сябе

адчуваў, што Крыстына кахае яго. Яна аддавалася яму з усёй самаахвярнасцю, угадваючы кожны ягоны рух, кожны дотык, памкненне і намер. І побач з гэтым не было ў яе паводзінах ні знаку вульгарнасці і пажадлівасці. І праз гэта была яна яму яшчэ больш жаданая і родная. Заўважыў ён і гэты яе сарамяжы поклад рук, і зноў яго ці не пачала забіраць цёплая хваля жарсці, і ён памкнуўся разняць яе складзеныя адна на адну далонямі рукі, але Крыстына мякка ды рашуча запярэчыла:

— Хопіць, Сцёпа! На сёння досыць. Бо й надарвешся яшчэ! Акрыяй трошкі. Я ж ад цябе не ўцяку. Я ж у цябе пад бокам, мой любенькі!

Ён паслухмяна прыняў свае рукі, зноў апусціў галаву на салому. Нечакана прыбегла думка аб тым, што такія шчаслівыя хвіліны, тое, што ён жывы і дома, — гэта няйначай плата, узнагарода яму за ўсё, пяражытае ім за паўтара месяца перад гэтым. Думка была пабегла і далей, хочучы, няйначай, сцвердзіць не такую ўжо і высокую вартасць усяго іншага, аж да высокіх паняццяў доўгу і абавязку, перад усім вось гэтым цёплым, жывым, блізкім і родным, што, напэўна, і завецца звычайным чалавечым шчасцем, але ён, як спалохаўшыся самога сябе, сваёй нечаканай смеласці, абарваў яе. Пра гэта — не трэба, сказаў сам сабе. Досыць і таго, што ён нарэшце дома, з дзецьмі і жонкаю, нават вось зведаў асалоду любошчаў, што ж больш жадаць? Думаць пра яшчэ нешта наўрад ці варта. Ды і не жадае ён ні пра што іншае думаць. Прынамсі, пакуль што. Спачатку трэба ачомацца, акрэпнуць, вярнуць сілу нагам ды рукам, тады мо і галава пасвятлее, пачне думаць і падкажа, што і як, дзе і хто. Але, але, перадусім трэба агледзецца, пагаварыць з людзьмі, найперш з Васілём Курылам, з братам Паўлюком…

Вымыла яго Крыстына, выскрабла, вышаравала, як таго, няўрокам кажучы, толькі што асвежаванага падсвінка, пераапранула. А ў дадатак Сцяпан не забыўся ўзяць з сабою ў лазню брытву і пагаліўся. Дык ужо вярнуўся ён у хату амаль тым жа ранейшым Сцяпанам Кудрэвічам, нядаўнім старшынёй сельсавета, адно што знячэўку і з незразумелае прычыны надта ж схуднелым.

А ў хаце — Паўлюк. Кінуўся да Сцяпана, ашчарэпіў, моцна пацалаваў у шчаку, загаласіў, як баба:

— А браток мой, а кроўка мая, а ты ж жывы, дзякаваць богу, а то ж думалася благое, мог жа і галаву скласці без дай прычыны ў гэтай неўразумелай, бесталковай завірусе… — І раптам, на момант змоўкнуўшы, загаварыў ужо зусім іншым голасам: — Хіба ж гэта вайна, Сцёпа? «И врагу никогда не гулять по республикам нашим…» Дык якраз жа — як на прагулянцы! На перагонкі! Адны даганяюць, другія ўцякаюць. І куды ж, браток, уцякуць? Ты ж, мусіць, не ведаеш, а кажуць жа, што ўжо пад Смаленскам…

— Ціха ты, гарлапан! — прыкрыкнула Крыстына. — Абавязкова, каб усе чулі?

Паўлюк схамянуўся:

— Твая праўда, братавуха. Ніяк не прывыкну язык за зубамі трымаць. Стаў лепш на стол гарэлку — за Сцяпанава вяртанне.

Крыстына і тут памкнулася астудзіць дзевера:

— Будзе табе яшчэ гарэлка, счакай трошку, трэба ж што на вячэру сабраць, можа ж, і яшчэ каго паклікаць трэба...

Але Паўлюк тут ужо не паслухаўся, запярэчыў:

— Э не, вячэра — вячэраю, а мы з браткам павінны от зараз па чарцы ўзяць. За сустрэчу. Хіба няпраўду кажу, Сцёпа?

Сцяпан, улагоджаны лазняю і расчулены Паўлюковым ледзь не слёзным галашэннем, падтрымаў брата:

— Мусіць, трэба, Крыстынка, га?

Яна не стала пярэчыць. Пабегла ў істопку, намацала там у цёмным прахалодным кутку на зямлі пляшку крамнай, там жа адрэзала ў кубельцы шматок сала, што зберагала, як штогод, да апошняга, каб можна было затаўчы булён які ці зацірчыну. Падумала, што добра зрабіла, узяўшы, як адпраўляла Сцяпана, у краме не адну, а ўсе тры пляшкі гарэлкі. Адну тады на стол паставіла, а дзве прыхавала ў істопцы. Быццам ведала. Бо як праехалі праз вёску немцы, пакуль людзі ачомваліся, узіраючыся ў пажар над лесам і ўслухоўваючыся ў бязладную страляніну, крамшчык усё лепшае і гарэлку, вядома ж, дахаты перавалок. Прыбеглі людзі ў краму, а там ужо і ўзяць нічога няма, акрамя солі (не даў рады ўсю перацягнуць), посуду ды іншае якое драбязы…

Вярнулася ў хату, парэзала сала, агурок, хлеба адкроіла дзве лустачкі — от і досыць будзе для сустрэчы. Разводзіць балантэсу няма калі: хай вып'юць хуценька і ўсё, вечарам нагамоняцца, а ёй не хапуном хапаць, трэба, каб палюдску было, бо — свята ж у хаце. Мужчынам наліла па поўнай, сабе — дзеля прыліку, на дно пырсканула. І запрасіла:

— Ну, то давайце, за Сцёпаў зварот!

Сама ж першай і кульнула тую кроплю ў рот, бы паказваючы прыклад мужу і дзеверу: і вы не марудзьце. Больш ім не наліла, хоць Паўлюк і пазіраў на яе, падміргваючы: маўляў, налі яшчэ па кроплі. Не паддалася яна ягоным просьбам-намёкам, рашуча прыбрала пляшку са стала: не і не, будзе вячэра — будзе яшчэ і чарка, нікуды яна ад вас, ад цябе, Паўлючок, не ўцячэ.

На тым і скончылася сустрэча. Паўлюк пачаў быў распытваць, што і як з ім, Сцяпанам, было за гэты час, які ён прападаў немаведама дзе, але Крыстына і тут пакіравала ім:

— Паўлюк, і які ж ты назойлівы і нездагадлівы! Ну хай жа Сцёпа паспіць гадзінку-другую з дарогі, адпачне! Нагаворыцеся яшчэ! Вечар і ноч наперадзе. Дый мне ж трэба прыкінуць, што на стол сабраць, а часу ўжо — не жджы, Паланея, не паранее!..

Урэшце Паўлюк пайшоў. Крыстына ўклала і Сцяпана: каб хутчэй заснуў і спаў крапчэй, накрыла, нягледзячы на лета, цёплаю коўдраю.

Дык жа не паспела і ад ложка адысціся, як прыйшла Ганна Петрусёва. Не пытаючы, спіць Сцяпан ці не, пасунулася да ложка:

— Іванавіч, не крыўдуй, што надакучаю, але скажы мне ясней, калі ты апошні раз маіх бачыў?

Сцяпан ужо трошкі ленавата, як спрасонку, адказаў:

— У раёне яшчэ, Ганна. Я ж казаў табе. Нас там падзялілі ў розныя каманды. Я ў адну патрапіў, а яны ў другую. І ўсё. Больш я іх не бачыў. Ні Петруся, ні Сяргея. Ці іх раней на Мінск адправілі, чым мяне, ці пазней — не ведаю. А ў Мінску мы ўжо не сустрэліся. Там такое пачалося…

— Ой, Іванавіч, табе ж во собіла дадому прыбіцца, дзякаваць богу, а дзе мой Пятрусь, дзе дзіцятка маё Сяргей — адзін Бог ведае! — Ганна пачала румзаць, шморгаючы носам і выціраючы вочы даланёю.

— Што ж зробіш, Ганна. Казаў і кажу табе: не ведаю!

— Дык я веру, Іванавіч, веру, а ўсё роўна…

Патапталася яшчэ хвіліну Ганна, але ўсё ж не даўмелася прысесці, пайшла. Прычыніла за ёю Крыстына дзверы ў другую палову хаты, шапнула Сцяпану:

— Спі!

Ён, бы паслухаўшыся, тут жа заснуў. І спаў як забіты. Упершыню за гэтае лета, прынамсі — за ліпень і во гэты пачатак жніўня. Не наструніўшы

сябе на небяспеку, на кожны шолах ці шоргат, на чужы крок ці голас. Проста спаў, як калісь, без боязі і напругі. Анічога не чуў: ні тарахцення калёс па бруку пад вокнамі, ні галасоў ніякіх. Апошніх жа якраз і шмат было. І ў двары, і ў хаце. І сусед, каторы Васіль Курыла, заходзіў з намерам пабачыцца, словам перакінуцца, і сябрук Сцяпанаў Андрэй Кутас (яго не мабілізавалі з-за грыжы ў пахвіне), і Зося Марцёшкава — папытаць, мо што чуў пра яе Валодзю, які на палутарцы павёз іх усіх у раён. Нічога і нікога не чуў Сцяпан. А толькі тое, што ў сне… пачуў і пабачыў.

А сон сасніў такі, што, прачнуўшыся, доўга не мог даўмецца, ці то сон быў, ці наяве гэтак было. У тым Красным Урочышчы, куды іх прывезлі з райцэнтра, ці мо ўжо ва Уруччы, куды пазней пехатою прыдыбалі. Сабралі іх, усіх камуністаў, нядаўніх старшынь сельсаветаў і калгасаў, загадчыкаў паліт-аддзелаў МТС, у клубе. А клуб — акурат як іхні вясковы ДСК — Дом сацыя-лістычнай культуры: і сцэна такая ж маленькая, і лаўкі такія ж, і крэслы каля сцен, і такі ж лозунг чырвоны над сцэнай. А на сцэне — камандзір са шпаламі і камісарскай зоркай на рукаве, і кажа ён да іх, а яны на тых лаўках сядзяць, не пераадзетыя, а толькі падстрыжаныя пад нулёўку: так і так, дарагія тава-рышы, час цяпер такі, што ўсялякае можа быць, а партыйныя дакументы, гэта значыць, білеты вашы не павінны ні пры якіх акалічнасцях трапіць ворагу ў рукі, таму папрашу здаць іх на захоўванне ў сейфе вайсковае часткі, на часо-вае захоўванне, таварышы, датуль, калі пагонім фашыста праклятага назад у ягонае логава, от тады білеты вашы зноў будуць пры вас…

Аддаў ён свой білет камісару ці не аддаў — не памятае. Акурат калі трэба было аддаваць — прачнуўся Сцяпан. Прачнуўся і адразу не мог зразумець, дзе ён. Павёў вачыма па столі, сценах — і абрадаваўся: дома. А сам усё яшчэ — бы ў тым дзіўным сне. Што за сон, скуль ён узяўся? Не было ж такога! Адно праўда тое, што іх паспелі падстрыгчы — перад лазняю, у якую яны так і не схадзілі — не паспелі, бо бамбіць пачалі. Не збіралі іх на такую гаворку, тым больш у клубе, як дзве кроплі вады падобным на іх вясковы ДСК. Ні да бамбёжкі, ні пасля яе. Ён жа білет свой — сам сабе баіцца і дасюль пры-знацца — закапаў. Пад сасною. Не адразу пасля таго, як пачалася бамбёжка, як завухкалі вакол выбухі, як пачало жыхаць агнём і сеч асколкамі людзей і дрэвы — яму чамусьці акурат запомнілася, як пачалі секчыся і сыпацца долу лапнік і галлё, ігліца і лісце. Тады не да таго было. Што там рабілася — не расказаць! Людзі не ведалі, куды падзецца. Адны бегаюць, мітусяцца, рука-мі махаюць, бы нешта намацаць хочуць, як аслеплыя, другія ляжаць, носам у зямлю ўткнуўшыся, галаву рукамі ашчапіўшы, а хто стаў, як слуп, і стаіць, вочы вырачыўшы. А крыкі і стогны, енкі параненых! Сцяпан у грукаце, у выцці самалётаў, у пыле і дыме не адразу і зразумеў, што гэта чалавек так крычыць, паміраючы, енчыць, рукамі хапаючыся за прастрэленую нагу ці жывот. Паніка была несусветная. Куды бегчы, што рабіць, дзе раду шукаць — ніхто не ведаў. А як сціхлі выбухі і стала раптоўна ціха-ціха, дык і пачуліся адусюль тыя нечалавечыя, а самыя што ні ёсць жывёльныя стогны-енкі. Пачалі падымацца тыя, хто ацалеў, азірацца, каб начальства згледзець, якое падкажа, што рабіць, куды ісці. Сёй-той ля параненага аднавяскоўца ці знаёмага пачаў мітусіцца, спрабуючы хоць чым дапамагчы бедаку, сяк-так перавязаць, забінтаваць рану, бо нідзе ні санітараў, ні каго-небудзь з сумкай фельчарскай. Мо з паўгадзіны мінулася, калі пакрысе пачалі людзі да памяці прыходзіць, нешта ўсвядомлена казаць і рабіць. Ды тут раптам крыкі: дэсант, дэсант! А яно і праўда: немцы ідуць ад дарогі да ўзлеска іхняга. А ў іх у нікога — ні вінтовачкі, нічагуткі. А ў немцаў — аўтаматы і кулямёты: вокам відаць. Ідуць сабе спакойна гэтак,

уразвалку, і не страляюць. І чаго ім страляць, каб хто спытаў, калі па іх ніхто не страляе? Нехта мацюкнуўся: от і наваяваліся!.. Хтосьці сплюнуў: з голымі рукамі, як мышэй!.. Бальшыня ж маўчала, амаль тупа гледзячы, як усё бліжэе і бліжэе да іх шарэнга ворагаў…

Моўчкі глядзеў на іх і Сцяпан. Яго бамбёжка таксама страшэнна пералякала, аднак жа не зачапіла. І хвіліну назад ён ці не рады быў, што ўсё, здаецца, скончылася, што бяда абышла яго бокам. Значыць, мо планіда ягоная не з горшых, мо і надалей яму будзе трошкі больш шанцаваць, чым іншым. Але трэба, мусіць, дзеля гэтага нешта рабіць і самому. Адкуль і чаму прыбегла гэтая думка, наўрад ці мог сказаць. Прыйшла і ўсё. Але ён за яе ўхапіўся. Калі гэта так, дык што ён мусіць зрабіць вось зараз, неадкладна, пакуль смерць (а фашысты — гэта смерць) яшчэ не наблізілася ўпрытык да яго? Білет! Партыйны білет! Ён павінен ад яго пазбавіцца, бо інакш можа быць бяда. На шчасце, нядаўняга страху чамусьці нібыта не было, рукі не дрыжэлі. Ён дастаў білет, абгорнуты ў дзве столкі газетай. Загарнуў яго яшчэ ў насоўку — ужо брудную, скамечаную. Урэшце абгарнуў пакуначак наскрозь прамоклай ад тлушчу зрэбнай анучкай — Крыстына ў ёй давала яму на дарогу брусочак сала. Не прыцягваючы ўвагі, выграб пад сабой, дзе сядзеў, у пяску з ігліцаю ямку, паклаў туды свой скарб і гэтак жа няўзнак прыгрэб яго. Зірнуў, задзёршы галаву, на сасну, пад якою сядзеў. Яна была прыкметнаю: на вышыні чалавечага росту раздвойвалася. Гэта добра, нечакана падумаў, лягчэй будзе знайсці. Як усё скончыцца, ён вернецца і лёгка адшукае сваю схованку. Чамусьці тады ў тое верылася…

Здорава ж ён пералякаўся ў час бамбёжкі! Амаль папраўдзе наклаў у споднікі! Душа ўцякла ў пяткі. Гэта ж ён толькі пасля даўмеўся, што бегаў з месца на месца на карачках, нібы сабака, а тады бы й не заўважаючы таго. Вухне, блісне злева — ён у правы бок кінецца, вухне справа — ён назад, дзе толькі што быў. І сорамна ж прызнацца: не думаў ні пра жонку, ні пра дзяцей, адно даймала — уратавацца. Прынамсі, у тыя, самыя жахлівыя хвіліны. Пазней ужо, калі за дротам апынуўся, дык не пра сябе, а найперш акурат пра іх думкі не адпускалі: загіне ён, складзе во тут галаву, зойдзецца ад голаду і здзекаў, дык як яны там будуць, хто дапаможа, што будзе адна рабіць Крыстына, ці дасць рады зберагчы ды выгадаваць ажно шасцёра дзетак?.. І прыходзіла ў галаву думка, якой палохаўся і ад якое бянтэжыўся: як жа гэта яго мабілізавалі ад шасцярых дзяцей? Нават за царскім часам нібыта такога не рабілі. Сам ён не ведае, праўда гэта ці не, але ж казалі, што з адной сям'і нават двух братоў на службу не бралі: другога пакідалі весці рэй на гаспадарцы. Вось табе і маеш: родная савецкая ўлада!.. Ды праганяў ён прэч гэтую думку. Сам сабе не верыў, што мог гэтак падумаць. Гэта няйначай страх смерці яго адолеў, зацьміў розум...

Саснёны сон не выходзіў з галавы. Што ён можа значыць? Дагэтуль не надта верыў Сцяпан снам, пасміхваўся адно, калі Крыстына ці хто іншы пачыналі гаварыць пра тое, што снілася, ды гадаць, шукаць у тым нейкага патаемнага, прарочага сэнсу. А тут раптам і сам задумаўся. Ну сапраўды ж дзіўны сон! І ён жа не прыдумаў яго. Ну сядзеў жа ён на лаўцы ў тым надта ж падобным на іхні клубе, чуў, што гаварыў камандзір са шпаламі і камісарскай зоркай на рукаве. І нібыта ж праўду ён казаў. Ім жа і раней шмат разоў гаварылі, што білет трэба берагчы як зрэнку вока, ён сімвал вялікай ленінскай справы, частачка іх святога камуністычнага сцяга, што яго трэба насіць заўсёды пры сэрцы. Тое ж, па сутнасці, казаў у сне і камісар. Выдавала ўсё на чыстую праўду. Але ж такога не было! Калі б сапраўды было, дык хіба ж бы ён сумняваўся ў тым?

Знячэўку прыбегла думка аб тым, што сон гэты няйначай як прарочы. Як падказка яму ад кагосьці і адкульсці. Не адтуль, вядома, не звыш, не ад Бога. Так думаць яму проста смешна: ён, Сцяпан, развітаўся з усім тым даўно і незваротна. Дык тады адкуль і ад каго, каб хто спытаў? Ад чорта лысага? Таксама тая ж недарэчнасць. Але, тым не менш, хтосьці ці штосьці папраўдзе быццам падказвае яму нешта кшталту паратунку. Ну, калі не паратунку, дык, прынамсі, спробы, варыянту яго. Пра тое, дзе ягоны партбілет, Сцяпан не можа, не рашыцца сказаць праўды ні Васілю, ні брату Паўлюку, ні нават Крыстыне. А вось пра ягонае месцазнаходжанне паводле гэтага дзіўнага сну сказаць пры нагодзе, бадай, можна будзе. Акурат пры нагодзе, калі ўзнікне ў тым патрэба. І найперш, мусіць, не гэтак ім, як камусьці іншаму. А ў тым, што з цягам часу ў яго могуць папытацца пра партбілет, сумнявацца Сцяпану не выпадала: за гады свайго партыйства і савецкага службоўства ён і розумам, і скурай адчуў (зведаць — засцярог лёс), наколькі чуйныя вушы і доўгія рукі маюць «органы». Ды, як кажуць, да пары збан ваду носіць. Не выпаў бы з-пад іхняе ўвагі і ён, Сцяпан. І наўрад ці выпадзе, нягледзячы нават на тое, што здарылася, што няма, адышла разам з адышоўшай Чырвонай Арміяй такая нядаўна надзейная, выдавала, савецкая ўлада. Улады няма, а — «органы»? Іх, вядома, таксама не відаць, але ж яны і раней, пры ўладзе, не надта лезлі на вочы, часцей дзейнічалі, рабілі сваю справу спадцішка, прынамсі — не напаказ, а цяпер, вядома ж, тым больш…

Ляжаў Сцяпан і ў гэтым нечаканым дзіўным одуме не спяшаўся ўставаць. Гэта ўсё ж сон яго ўстрывожыў і разбудзіў. І начыста прагнаў санлівасць. Бо калі б не ён, дык спаў бы, пэўна, ды спаў, столькі часу пазбаўлены нармальнага сну. Спаў жа там, калі выпадала, як заяц пад кустом: пры першым шораху прахопліваўся. Колькі ён праспаў? Гадзіны дзве, мо і менш нават, і на табе — сну ні ў адным воку. Трэба было, пэўна, падымацца, але ён не спяшаўся. Надта ж прыемна было ляжаць вось так — дома, у мяккай і чыстай пасцелі, у цішыні і спакоі. Даўно ён не меў такой магчымасці. Крыстына, мусіць, і дзецям наказала не шумець, даць бацьку паспаць. Што ж, калі так, дык ён яшчэ проста паляжыць, хоць і не спіць. Паляжыць, ды падумае. Балазе, ёсць аб чым.

Сон пра камісара, які забіраў у байцоў на захоўванне партыйныя білеты, Сцяпан намаганнем волі адпіхнуў наўзбоч: маўляў, з гэтым бліжэйшай парою наўрад ці будзе хто падступацца да яго з нажом пад горла. Нават і тыя самыя «органы», якім, — калі яны нейкім чынам азавуцца тут, пад немцам, — пэўна, пакуль што зусім не да ягонага, Сцяпанавага, існавання. Скіраваў думку на іншае: як ён наогул будзе дома. Ад людзей жа не схаваецца, ужо ўся вёска ведае, што вярнуўся з палону. А што далей? Ён жа хадзіў у сельсавецкім начальстве, камуніст-бальшавік. Зла людзям, здаецца, не рабіў, наўрад ці хто пачне свядома помсціць яму за нейкія колішнія крыўды, але ж раты людскія не завяжаш і языкі не ўкароціш: ці мала хто і дзе можа ляпнуць, збрахнуць што з прычыны або й без прычыны?.. Паўлюк вунь казаў, што фронт пад Смаленскам ці нават за Смаленскам, дык акупацыя можа і задоўжыцца. І на які час? Хто і што пэўнае сёння скажа? Ніхто ж не думаў, што гэтак падзеі павернуцца. Як Заходнюю Беларусь далучылі, дык радаваліся, што і граніца далёка адсунулася, ажно за Брэст і Буг. А якім бокам вылезла тая радасць? За тыдзень немцы да Мінска дайшлі! Гэта ж яны, новаспечаныя чырвонаармейцы, думалі там, ва Уруччы, што да іх з аўтаматамі дэсант нямецкі ідзе, а то ж зусім і не дэсант быў: немцы ўжо з бакоў Мінск абышлі, каб хутчэй на ўсход, на Маскву перціся...

Дык і што з таго, што ён дома? Ці ж будзе тут спакойна і зацішна? А ён жа акурат пра гэта думае. Даўно ўжо. Ці не з часу той першай нямецкай бам-

бардзіроўкі і абстрэлу. Ці не тады ён упершыню гэтак востра адчуў, пабачыў на ўласныя вочы жахлівую крохкасць чалавечага жыцця і — невымерны ні з чым кошт яго? Нешта тады быццам трэснула ў ім, ці абарвалася. Усталяваная ў душы за гады раўнавага ўвобміг змянілася сумненнем. У чым? Палохаўся прызнавацца, але няйначай як у самым галоўным: ці надта слушна і разумна ён жыў і рабіў усё дагэтуль? Одум аб тым, убіўшыся знянацку ў галаву, не адпускаў. А часу на думанне ставала. Асабліва пасля таго, як апынуўся за калючым дротам лагера ваеннапалонных. Бачыў, разумеў, што ягонае жыццё, як і жыцці пабрацімцаў па гаратлівым лёсе, можа абарвацца ў любую хвіліну. І разуменне гэтага той одум не толькі не адпускала, а ў дадатак яшчэ і абвастрала. І чым больш думаў ды ўспамінаў, тым больш пераконваўся, што, па ўсім, сумненні ягоныя не беспадстаўныя. Жыў ён, калі папраўдзе, неяк безаглядна, мо нават і не вельмі ўдумна. У дваццатым, калі яму, Сцяпану, было ўсяго толькі шаснаццццаць, па-юнацку шчыра і ўсёй душой наросхліст прыняў палымяныя і баявітыя лозунгі і заклікі камсамоліі. І паверыў у іх гэтак жа аддана, без долі сумневу, як ягоная бабуля верыла ў свайго Бога. Праз чатыры гады стаў членам партыі — у час так званага ленінскага прызыву, што яшчэ больш падмацавала яго веру. З той пары і жыў з ёю, а лепш сказаць — ёю. Анічога не браў пад сумненне. Калі партыя сказала, значыць, так трэба. Служыў, а папраўдзе слугаваў партыі, як мог. Не лічыўся ні з часам, ні з чым іншым — прападаў на рабоце да паўночы, не ведаў ні святаў, ні выхадных. Сям’я, жонка, дзеці — на іх ягонага клопату і ўвагі ставала ўжо не заўсёды, Крыстына ўсё часцей валакла сямейнае ярэмца адна. І калі напачатку яму было сяды-тады сорамна перад жонкаю і дзецьмі, дык спакваля звыкся, і ягоны мужчынскі гонар ужо не бунтаваў, не паўставаў супраць такога стану рэчаў. Апраўдваў сябе Сцяпан тым, што, маўляў, партыйныя, савецкія, дзяржаўныя клопаты куды важнейшыя за асабістыя клопаты чалавека…

І толькі ў лагеры, пад неадступнай і штохвіліннай пагрозай смерці, прыйшло да яго, разам з пачуццём жалю да сябе, і пачуццё сораму перад самымі блізкімі для яго людзьмі. І ўжо з вінаватай расчуленасцю думаў аб тым, што калі выпадзе яму лёс выбавіцца адсюль, дык ён абавязкова пастараецца нейкім чынам загладзіць гэтую сваю правіну. Тым больш, што цяпер, у сённяшніх варунках, толькі гэта яму, бадай, і выпадае — ціха і спакойна, па-сямейнаму жыць, весці разам з жонкаю гаспадарку, гадаваць дзяцей...

І вось ён, насуперак усім напасцям, дома. І пакуль што тут сапраўды ціха і спакойна. Толькі ж ці надоўга? Немцы і тут пачнуць свой парадак усталёўваць. Людзі ў спадзеве выжыць будуць, напэўна, неяк прыстасоўвацца, жывымі ж у магілу не палезуць. Найперш, вядома, тыя, у каторых сем’і, дзеці. А ён, Сцяпан Кудрэвіч? Мо і яму змірыцца, быць ніжэй травы, цішэй вады і нейк перачакаць, пераседзець разам з дзецьмі і жонкаю навалу? Здаецца, ён адно гэтага і хацеў бы. І сённяшні дзень дужа падмацаваў гэтае ягонае жаданне. Што яшчэ чалавеку трэба? Хата, любячая жонка, дзеці — жыві, чалавеча, не памірай! Але ці ўдасца гэта — проста жыць?

І сумеўся, бо знячэўку, не званая, здаецца, нікім і нічым, прыбегла думка: а ці па-мужчынску гэта будзе, ці да твару патрыёту, не кажучы пра камуніста? Паморшчыўся Сцяпан, крутнуў на падушцы галавою: маўляў, не трэба гучных слоў, не на мітынгу, сам з сабою гаворыш. Мо і не трэба, пагадзіўся. Сам ён акурат гэтага і хацеў бы. Пасля ўсяго анічога больш яму не трэба. Проста жыць, працаваць на зямлі, гадаваць дзяцей, як адвеку заведзена, — адно з такім жаданнем вырываўся ён з пасткі і плёўся-валокся, хаваючыся, бы злодзей, дахаты. І больш не хоча ён чуць гучных слоў, больш не хоча і сам паў-

тарацъ іх. Як кажуць, наслухаўся і нагаварыўся! Мо нават і занадта! Ды пэўна занадта! Бо калі б было інакш, дык наўрад ці павярнулася б усё гэтак раптоўна, нечакана і крута. Мусіць, тыя гучныя словы былі ўсё ж не ва ўсім праўдзівыя, і справы, што рабіліся ў імя іх і з імі, не ва ўсім справядлівыя. Усё бралася на веру, як, няўрокам кажучы, у царкве. А вось як давялося задумацца, прыгадаць ды перадумаць-паразважаць над усім тым, дык ужо не толькі сумненне бярэ, а быццам і пярэчанне ўзнікае. Быў настрой, што ўжо думалася: пайшло б яно ўсё прахам! Жывуць жа іншыя людзі, ні аб чым такім не думаюць, і галава ім з гэтае прычыны не баліць. Чаму б і яму гэтак? Падзеі такія закруціліся, што мо і праўда нічога іншага яму й не выпадае? Мо і ён абыдзецца ўрэшце без гучных слоў? Але ж…

Але ж сёй-той можа і нагадаць пра іх. І ўся штука ў тым, што яны, так званыя гучныя словы, азначаюць часцей за ўсё самыя будзённыя, звычайныя, вонкава нічым асабліва не прыкметныя, шараговыя чалавечыя ўчынкі, паводзіны і справы. Акурат і найперш у іх і праз іх выяўляецца сапраўдная годнасць і вартасць чалавека. І сіла яго, і слабасць. Вось ён сам, Сцяпан? Які ён чалавек? Дужы, моцны, ці кволы, слабавольны? Лацвей было раней, калі ўсё было, як кажуць, добра. Тады падобныя пытанні не прыходзілі і не турбавалі. Былі ўпэўненасць, і тая ж самая вера, і сіла волі. А як прыпякло? Дзе ўсё тое дзелася? У пяткі ўцякло? Сабе самому хлусіць не стане. Тады не толькі на тое высокае забыўся, але й на жонку і на дзяцей. Страх — амаль жывёльны — за ўласнае жыццё адолеў, перакрэсліў усё... А што наперадзе? Што яго чакае дома, тут, у роднай вёсцы, сярод сваіх людзей? Добра было б, каб зацішак і спакой. А калі не? Калі зноў прыпячэ?..

Ды мандражыць сябе раней часу, бадай, не трэба, рашыў. Прынамсі, пакуль што не варта. Пароць гарачкі не трэба, тым больш — за такім часам. Сёння дзякуй і на тым, што ён дабрыў дахаты, ляжыць у сваёй пасцелі, а заўтра — будзе відаць. Ён такі не адзін. Засталіся ж у раёне і іншыя партыйцы, камсамольскія, савецкія актывісты. Быць таго не можа, каб не засталіся. Вось і трэба счакаць, агледзецца. І без патрэбы не вытыркацца, каб не наклікаць бяды ні на сябе, ні на сям'ю, дзяцей. Вайна во якім бокам для людзей, у тым ліку і для яго, абарочваецца. Вінтоўку ў рукі і ў акоп — гэта адно, а тут табе акурат, як Троцкі некалі казаў: нібыта сапраўды — ні вайны, ні міру. І жыві, чалавеча, як можаш, як табе твой мужычы розум падказвае, выкручвайся, каб ацалець самому і аберагчы блізкіх. А чуе душа, што ацалець дужа цяжка будзе. Бо за гэтага паўтара месяца шмат чаго пабачыў і пачуў Сцяпан, і ўсё яно гаварыла акурат пра гэта самае. Але, але, пра тое, што цяжка будзе. Мо нават вельмі, невыносна цяжка. Пра фашыстаў не дарэмна благое казалі. Нелюдзяў Гітлер выгадаваў. Старыя людзі, каторыя тую вайну помнілі, казалі: не той немец тады быў. Немцы то немцы, але ўсё ж людзі былі. А гэтыя — чыстай вады нелюдзі. Ні старога для іх няма, ні бабы, ні дзіцяці. Сцяпан гэта на свае вочы бачыў. Гналі іх, як быдла, на другі бок Мінска, некуды за Ратамку, здаецца, дзе яны зрабілі лагер для ваеннапалонных. Нагледзеўся, колькі людцаў пабітых уздоўж дарогі ляжала. І ўсё больш жанчыны і дзеці. Не будзе ўжо казаць, як з імі абыходзіліся. А яны ж яшчэ і не ваявалі, многія і зброі ў руках не трымалі. А з імі — акурат як з быдлам. Ледзь што — кіем па спіне, а то з аўтамата чаргою. Коням у калгасе ваду чысцейшую ў карыта налівалі, чым ім прывозілі. Хлеб на зямлю знарок кідалі, каб парагатаць з таго, як людзі, давячы адно аднаго, той хлеб рвуць. Былі б немцы людзьмі, гэтак бы не рабілі...

Як выжыў, не можа вытлумачыць Сцяпан. Калі пачынаў думаць пра тое, дык усё да аднаго адказу зводзілася: трэба было выжыць. Бо і дужэйшыя, зда-

равейшыя за яго ногі адкідвалі, заходзіліся з галадухі, з крываўкі, з іншае якое трасцы. Шмат мёрла людцаў, і найперш маладыя, бязвусыя хлопцы, падлеткі амаль, лічы. Старэйшыя ж, каторыя ў гадах ужо, тыя аказваліся больш цягавітымі, вынослівымі. Сяго-таго і выпускалі з лагера. Пайшла была пагалоска, што ўсіх толькі што мабілізаваных, каторых яшчэ нават і пераапрануць не паспелі, як і яго, Сцяпана, адпусцяць, але — дудкі. Некалькіх чалавек, нібыта, і праўда выпусцілі, але ўсяго некалькіх, як астатнім на здзек. Некаторых выпускалі з-за дроту, калі іхнія жонкі ці маткі прыходзілі, Сцяпан сам на свае вочы бачыў, але нямногія гэтак уратаваліся. Усцешвала хіба тое, што людзі ў бядзе прыходзілі адно аднаму на падмогу. Першыя дні бязладдзе было, кожны, можна сказаць, сам за сябе. А пасля сякі-такі парадак навялі, старшых выбралі, каторыя мо і самі падахвоціліся, які б ні быў харч, але ўжо дзялілі яго па справядлівасці, слабейшых не крыўдзячы. І хворых як маглі ратавалі, хоць рабіць тое было амаль немажліва, бо лекаў і ў паміне не было.

Яшчэ цяжэй стала, як іх недзе праз месяц загналі ў вагоны і павезлі некуды на захад, на Маладзечна, здаецца. Больш стаялі, чым ехалі. Было — цэлымі суткамі прастойвалі. На спякотным сонцы. Без паветра, бо дзвярэй не адчынялі, ратавалі адно акенцы маленькія пад столлю, часта без вады нават. А людзей — бітком, як селядцоў у бочцы, адзін на адным, не прысесці, не тое каб прылегчы.

У вагоне ён адноечы ледзь не аддаў духі. Не стала чым дыхаць. Хапае, зяўкае ротам, а дыхання няма.

Халодным потам пакрыўся, вочы вось-вось вылезуць наверх. Добра, што ўгледзеў тое Кузьма Аўласевіч, нечаканы дружбак яго па няшчасці. Сталася так, што ў тую першую бамбёжку Сцяпан паразгубляў усіх сваіх. Хто яго ведае, дзе ўсе падзеліся. Не магло ж усіх пазабіваць. Але як тыя немцы, пра якіх казалі, што дэсант, пагналі іх кудысьці, дык нікога з землякоў вакол сябе не знайшоў. А пагналі іх з Уручча за Ратамку. От у дарозе туды Сцяпан і пазнаёміўся з Кузьмой Аўласевічам. Земляком, можна сказаць, — з-пад недалёкай Плешніцы, парторгам быў там у сельсавеце. Парашылі трымацца адзін аднаго — гэтак будзе лацвей трываць усё, а можа й выжываць. Вось Кузьма і ўгледзеў, што ён даходзіць. Дык папрасіў суседзяў, яны разам падцягнулі Сцяпана бліжэй да акенца, паднялі троху на руках, каб хапануў паветра, перавёў дых. І хапіла ж, дайце веры, тых лічаных хвілін ля акна — акрыяў, прыйшоў да памяці...

За Маладзечнам цягнік іхні звярнуў на Ліду. Значыць, загаварылі ў вагоне, павязуць на Гродна, а там Бог ведае куды. Пакуль яшчэ на сваёй зямлі, трэба думаць, як вырвацца з гэтае пасткі, уцячы. Знайшліся мужчыны і хлопцы дападныя, вопытныя, мо і чыгуначнікі былыя. Абстукалі ўвесь вагон, абмацалі кожную дошку. Сцяпан адно зразумеў з іхніх перашэптаў, што зручней за ўсё будзе ўздзерці пару дошчак падлогі, балазе, досыць падгніўшыя ўжо, лягчэй паддадуцца. Як тое ўдалося зрабіць, ён не ведае. Падалося, нібыта ў некага цудам збярогся ножык, малюпасенькі складанчык з тонкім і вострым лёзкам. Вось ім і прарэзалі шчыліну, каб пальцы залажыць. Спакваля рабілі ўсё, цішком, каб не прыцягнуць нічым увагу, хоць, як ім, паланянам, выдавала, ахоўвалі іх не надта моцна. Яшчэ калі заганялі іх у цяплушкі, дык хоць краем вока, але прыкмецілі, што аховы няшмат як на такі даўжэзны цягнік — мо чалавек дзесяць усяго: немцы паводзілі сябе яшчэ досыць самаўпэўнена. Гэтым і скарысталіся вязні. Уцякалі на сконе начы, калі золак яшчэ й не пазначыўся. Пашанцавала: цягнік спыніўся акурат у такім месцы, што і справа і злева ад невысокага насыпу цямнеў кустарнік, за якім амаль адразу ж

пачынаўся лес. Тут і парашылі рызыкнуць. Першымі праціснуліся кудысьці ўніз двое. Астатнія ў вагоне замёрлі, услухоўваючыся. Мінула хвіліна, другая, трэцяя — было ціха. Усе з палёгкаю ўздыхнулі: значыць, абышлося. Палез трэці. Счакаўшы нейкі час — чацвёрты, пяты…

Не ўсе вязні пагаджаліся ўцякаць. Не пускала боязь: ведалі, калі зловяць, дык расстраляюць, тут жа, на месцы. Сцяпан з Кузьмой таксама не адразу рашыліся, нейкі час вагаліся. Але логіка пераконвала, што варта паспрабаваць. Ён жа, Сцяпан, во ўжо ледзь не сканаў, дык як не ўцячэ, заўтра сканае. А так будзе хоць нейкі шанец выжыць.

І апусціў ногі ў шчыліну між дошак, а пасля і сам праціснуўся, павісшы на хвіліну на руках. А ўжо і шарэла. Прапоўз ён між коламі, ціхенька на руках і троху на азадку ссунуўся з насыпу, шуснуў у кусты. Там ужо крыху выпрастаўся, азірнуўся, прыслухаўся: дзе Кузьма? Аж і ён тут як тут. А больш — нікога. То і правільна: вялікім гуртам не надта ўратуешся. І аднаму нявыкрутка. Лепш, калі во як іх — двое. І вочы не лішнія, і вушы, і помач, калі што. Яму, Сцяпану, Кузьму сам бог паслаў няйначай. Не згаворваючыся, пашыліся ў напрамку лесу. Ды неўзабаве апомніліся. Калі папраўдзе, дык не ён, Сцяпан — Кузьма запыніўся і шапнуў, што дарэмна яны ў лес ідуць, што лепш, мусіць, ісці ўзбоч чыгункі кустоўем, назад, у бок Маладзечна, што акурат гэтак будзе разумна з іхняга боку: калі немцы і кінуцца шукаць уцекачоў, дык не каля чыгункі.

Ішлі яны вобмацкам тым золкам і раніцай колькі змогі было, пакуль ногі трымалі. На людзі стараліся не вытыркацца. Калі дзе каго згледжвалі, шыліся глыбей у кусты ці ў лес і перачэквалі. І вёскі абміналі. Не згаворваючыся, пагадзіліся, што яшчэ зарана выяўляць сябе, трэба далей адысціся, мо праз суткі паспрабуюць у якой-небудзь вёсцы ці на хутары пашукаць шчасця — узяць што-небудзь на зуб. А пакуль што кідалі ў рот у лесе ягадзіну якую, падымалі грыб-сыраежку, у ніжэйшых мясцінах жавалі белае надкарэнне аеру. Самую спякоту — з паўдня да надвячорка — ляжалі і чуйна драмалі пад маладым ельнікам дзе-небудзь на ўзлессі…

Захапіўся Сцяпан згадкамі і не пачуў, як зайшла ў чыстую палавіну хаты Крыстына, асцярожна, крадком зазірнула да яго за шафу і, пабачыўшы, што ён не спіць, сказала:

— Ну то, можа, і ўставай, калі прачнуўся? Ужо й вечар набег, скора з поля прыгоняць, а там і людзі прыйдуць.

— Якія людзі? — спытаў трошкі здзіўлена Сцяпан.

— Або, шчэ й пытаешся! Паўлюк з Волькай, Васіль, твой Андрэй Кутас, мо яшчэ хто зойдзе — от і людзі!

— А я думаю: што за людзі… Ты ўсё-ткі наважылася зрабіць госці? — Сцяпан канчаткова скінуў з сябе соннае здранцвенне.

— Якія там і госці, няма з чаго надта выстарчаць, але ж трэба, Сцёпа. Яны ж і не клікаўшы прыйдуць, дык не будзеш тады пустым вокам лыпаць. Збяру нештачкі. Яечню спяку, аладак намачаю, бульбы маладой падгледзела — звару да агурочкаў…

— У мяне ўжо слінкі пацяклі, — сказаў Сцяпан, скідваючы на падлогу худыя ногі.

— Дык жа найпярвей для цябе і раблю, Сцёпа! Каб ты хутчэй ад’еўся ды пагладчэў хоць трошачкі, — Крыстына, гледзячы на яго, не змагла стрымаць і радасці, што звалілася на яе сёння, і засмучэння ад Сцяпанавай жахлівае худзізны.

— Пагладчэю, — памяркоўна пагадзіўся Сцяпан. — Так і быць, пагладчэю… А дзеці дзе? — спытаў, бадай, проста так, абы спытаць.

— Гойсаюць недзе, — досыць бесклапотна адказала Крыстына. — Папрасіла, каб не галёкалі тут, каб далі табе паспаць хоць трошкі, дык іх як ветрам здзьмула. Іх жа хлебам не кармі, а дай на сяло пайсці. Ці старэйшым, ці меншым — усё адно.

— Хай бегаюць,— сказаў Сцяпан з замілаваннем у голасе. Ды нечакана для сябе задуменна дадаў: — Пакуль можна…

Крыстына не ўлавіла гэтае апошняе ноткі трывогі ці непакою, прамаўчала, моўчкі пайшла да дзвярэй. А Сцяпан, абуваючы чаравікі і апранаючы сарочку, нечакана падумаў пра адну акалічнасць, з якою сутыкнуўся і якую міжволі адзначыў для сябе за больш чым чатырохдзённае блуканне ў пошуку дарогі дадому.

Спачатку яны з Кузьмой і не думалі аб тым, што ідуць па былой Заходняй Беларусі. Для іх, усходнікаў, хай сабе і блізкіх да колішняе мяжы з Польшчай, не бачылася ў тым аніякае розніцы. Хіба ж не тая самая зямля, не тыя самыя нашы людзі? Але і тут Кузьма аказаўся мудрэйшым за Сцяпана. Калі яны на другі дзень вырашылі зазірнуць на ўбачаны непадалёк хутар, Кузьма раптам, неяк дзіўна пакруціўшы галавой, сказаў, што з гаспадарамі трэба гаварыць не так, як яны прывыклі за савецкім часам, — на рускі лад, а па-мясцоваму, як гавораць усе вясковыя людзі, адным словам — па-беларуску, бо інакш могуць выклікаць у хутаранцаў лішнюю падазронасць. А яны, Кузьма і Сцяпан, скажуць ім амаль чыстую праўду: што былі мабілізаваныя, але не ваявалі, нават і пераапрануцца не паспелі, як узялі іх немцы ў палон, з якога, аднак, яны не ўцяклі, а былі адпушчаны ў рэшце рэшт, ды, не маючы патрэбных папер, вымушаны не надта вылазіць на торныя дарогі, а трымацца больш ціхіх, глухіх сцежак і, калі ўжо й зусім папраўдзе, дык і карацейшых, прамейшых. Наогул, сказаў Кузьма, пакуль яны тут, не трэба гаварыць, што яны з-за Мінска, а лепш казаць, што вёска іхняя па гэты бок Маладзечна, амаль пры былой польскай мяжы. Чаму так будзе лепш, Кузьма не мог патлумачыць, але чамусьці быў перакананы, што казаць пакуль што трэба акурат гэтак. І Сцяпан інтуітыўна з ім пагаджаўся. Нешта яму таксама падказвала, што праўда на Кузьмовым баку.

На тым хутары яны так і гаварылі. І, дзіва, гаспадар і гаспадыня, яшчэ не надта старыя, паспагадалі ім, добра накармілі і нават далі на дарогу ладную лусту хлеба і малюпасенькі скрылёчак сала — як сказала сама гаспадыня, адно дзеля паху. Ды, пэўна, канспіратары яны былі благія, бо гаспадар, выйшаўшы ўслед за імі з хаты, папярэдзіў, каб на хутары, пакуль дойдуць дадому, яны асабліва не патыкаліся, бо хутаранцы ўсё ж не любяць савецкіх, наогул маскалёў-усходнікаў, а зараз, з прыходам немцаў, тым больш, лепш ужо, калі конча трэба будзе, пастукацца ў бяднейшую хату ў сяле. Пераглянуліся цішком Кузьма са Сцяпанам, удзячна кіўнулі галовамі на развітанне добраму чалавеку. І пасля гэтага нават рашыліся і папрасілі: мо знойдзе для іх якія-небудзь каптуры на галовы, каб схаваць ад людскіх вачэй сляды не надта адрослай стрыжкі, а заадно і прыкрыць голыя патыліцы ад сонца. Гаспадар і тут пайшоў ім насустрач: Кузьму вынес са свірна стары, ужо ўвесь патрэсканы саламяны брыль, а Сцяпану такую ж старую, але, што добра, ладнаватую кепку, якая лягла яму ажно на вушы.

Аднойчы, калі яны, седзячы ў кустах пры дарозе і маючы намер зайсці ў якую хату блізкай вёскі, убачылі чалавека на веласіпедзе. Насцярожыла, што ён, хоць і ў цывільным касцюме, ды з вінтоўкаю. Прыгнулі галовы, каб нечакана не выдаць сябе, дачакаліся, пакуль ён праедзе міма іх — ён ехаў акурат у вёску. І якое ж было іхняе здзіўленне, калі ўбачылі на рукаве белую павязку,

на якой было штосьці напісана. Прачытаць яны не змаглі, не паспелі, але і без таго даўмеліся, што гэта няйначай нейкае новае начальства. Яны тады не пайшлі ў тую вёску, абмінулі яе, пагаджаючыся з тым, што беражонага і бог беражэ. І толькі пасля даведаліся, што белыя павязкі на рукаве носяць паліцэйскія: гэтак пазначаліся служкі новай улады.

Усяго было ў дарозе. Тым больш, што карацейшай і прамейшай, як яны наіўна думалі, яна аніяк не магла быць: даводзілася не ісці, а блукаць, даваць кругаля, а то і вяртацца назад. Аднаго разу ў лесе, трошкі расслабіўшыся, адчуўшы сябе ў адноснай бяспецы, ледзь не сутыкнуліся нос у нос з групай якіхсьці людзей. Не паспелі згледзець, са зброяй тыя людзі былі, ці без зброі. Хутчэй за ўсё, такія ж бедакі, як і ён з Кузьмой, бо іначай чаго б яны кінуліся ад іх наўцёкі, як і яны ад іх? Пералякаліся гэтак моцна, што пёрлі абы-куды з паўгадзіны, і зусім, вядома ж, не ў той бок, куды кіраваліся.

З тым гасцінным гаспадаром хутара ім, папраўдзе, толькі адноечы і пашанцавала. Дзве ж ці тры пазнейшыя спробы расстарацца якога-небудзь харчу былі няўдалыя. У адной хаце гаспадыня быццам ужо і завіхнулася сёетое даць ім на зуб, ды, падалося, падазрона паводзіў сябе гаспадар, нечакана цішком паслаўшы кудысьці свайго хлопца-падшыванца. Яны не сталі чакаць, пакуль гаспадыня ім што вынесе, а рукі ў ногі і ходу адтуль як мага далей. Мо і дарэмна гэтак зрабілі, мо падалося ім падазроным тое адсыланне кудысьці малога, але ўзважваць усе за і супраць не ставала ім ні часу, ні вопыту, хоць і гаварылі самі сабе пасля, што такімі раптоўнымі ўцёкамі маглі сабе адно нашкодзіць. Другі раз, пастукаўшыся пазнаватым ужо надвячоркам у беднаватую з выгляду хату, змаглі атрымаць там адно акраец ацеслівага праснакаскавародніка: жанчына, па ўсім удава, шчыра сказала, што і рада б даць, ды нічагуські няма, нават і бульбіны, а на сала ці што такое і сама з дзецьмі даўно забылася.

Ды з гэтае прычыны яны асабліва не перажывалі. Што такое голад — ведалі добра, атрыманы праснак ці лусту хлеба елі ашчадна, дадаючы да яго розны падножны корм — ад лясное ягадзіны да лапатак гароху на чыім-небудзь загоне пры лесе ці мышыных хвосцікаў морквы на градах пры рэчцы, паблізу ратавальных для іх кустоў.

Аднойчы ж пашчасціла нават досыць добра паласавацца, падышоўшы да пастуха ў полі. Гэта ўжо было паблізу ад родных мясцін. Пастух быў у гадах, папраўдзе — стары ўжо, і таму сустрэў іх спакойна, можна сказаць, нават памяркоўна: маўляў, час такі, што многа людцаў параскідалася па свеце, і дай ім бог усім дайсці дахаты, пабачыць родных і блізкіх. Стары развязаў перад імі торбу, не чакаючы іх просьбы. Аддаў усё, што меў: два вараныя яйкі, добры акраец хлеба, скрыль сала і пляшку малака.

Сцяпан з Кузьмой былі на сёмым небе: цяпер яны па ядзе і шманаць не будуць, па гэтым ужо і дадому дойдуць. Стары той і распавёў ім трошкі пра новыя парадкі: і пра паліцаяў, і пра бургамістра раёна, і пра воласці заместа сельсаветаў, і пра старастаў. Так што Сцяпан, падыходзячы да роднай вёскі, сёе-тое ўжо ведаў.

І ўсё ж, вярнуўшыся, не чакаў, што за такі кароткі час тут адбудзецца столькі змен. Лічы, нічога ад колішняга ўладкаванага парадку не засталося. Крамы не стала ў першы ж дзень, як прыйшлі немцы. Будынкі пошты, сельсавета, хаты-чытальні і школы стаяць, але ж пустуюць. Як і калгасныя будынкі. Людзі зноў корпаюцца на сваіх загонах, вяртаюць старыя межы, хоць жыта, яравыя і бульбу не дзялілі: падзеляць, як пажнуць і памалоцяць. Пра сябе Сцяпан не думаў, ён жа не калгаснік, яму быццам і не належала нічога. Але ж

Крыстына рабіла ў калгасе. Значыць, павінна быць нейкая і яе доля. Ды ліха з ім, неяк абыдзецца, не выдае яму на нешта разяўляцца, выстаўляць нейкія патрабаванні. Яму цяпер трэба спакой і цішыня — каб акрыяць, дайсці да пэўнае і фізічнае, і маральнае раўнавагі. Хоць апошняе наўрад ці прадбачыцца. Спакою не будзе. Не было спакою, калі пераходзілі да савецкага, калгаснага ладу, а тым больш не будзе спакою цяпер, пры адваротнай хадзе. Не ўсе ж пакрыўджаныя і раскулачаныя. Куды больш тых, што папрывыкалі ўжо да новага жыцця, каторыя дзяцей павывучвалі і вучылі, у свет выправілі. Дык што, цяпер усё тое забыць, парушыць, адкінуць? Не, людзі мо на нейкі час і змірацца, але канчаткова не пагодзяцца на такое. Будуць сnaваць думку пра вяртанне таго, што было. Яны зжыліся з савецкай уладай, прынялі яе. Сцяпан бачыў гэта на ўласныя вочы, ён з усіх сіл спрыяў таму, агітаваў, заклікаў людзей ад імя партыі будаваць новае жыццё. І многія, бальшыня, бадай, паверылі. А значыць, паверылі і Сцяпану. Не да каго-небудзь, а менавіта да яго ішлі са сваімі турботамі і сумненнямі. І праз гэта Сцяпан і сам пачынаў усё больш верыць у праўду новага жыцця, і ўжо ані не сумняваўся, што калісьці, у маладосці, абраў сабе правільную жыццёвую дарогу.

Ён, бадай, не сумняваўся б і цяпер, ды штосьці ўсё ж замінае. Гэтае «штосьці», як ён казаў ужо сабе неаднойчы, закралася ў душу ў тыя жахлівыя хвіліны бамбёжкі. Яно мае зусім просценькі і ўсім, пэўна, зразумелы назоў — страх. Страх смерці. Ён тады ці не ўпершыню пабачыў смерць гэтак блізка, ва ўсёй яе рэальнай бязлітаснасці і жудаснасці. І страх той не пакінуў яго, на жаль, асеў у душы. Сцяпан праганяў яго, ды — беспаспяхова. Можа, нават наадварот: з кожным днём знаходжання пасля за калючым дротам ён ці не большаў. Прынамсі, амаль неадступна нагадваў аб сабе непрыемным, да дрыжыкаў агідным халадком у грудзях і спакваля ўплываў на паводзіны Сцяпана: ён пачаў цурацца людзей. Бачыў, разумеў, што паратунак толькі ў грамадзе, у падтрымцы і дапамозе іншых, але насуперак гэтаму разуменню ўсё больш адасабляўся ад усіх. Колішняя вера ў людзей пакідала яго. А ў выніку страх той мусіць і папраўдзе большаў. І добра, што лёс звёў яго з Кузьмой Аўласевічам. Да яго Сцяпан нечакана пагарнуўся. Памкнуўся, як тапелец да ратоўчага круга. І, звыклы за немалыя гады пэўным чынам калі не камандаваць, дык кіраваць людзьмі, наўздзіў лёгка падпарадкаваўся Аўласевічу, адзначаючы, хоць і з крыўдаю ці то з нейкім сорамам, што Кузьма ва ўсім, бадай, спрытнейшы, больш кемлівы, вопытны і дасведчаны за яго. А крыўдаваць Сцяпану якраз было і не да твару, бо менавіта дзякуючы Аўласевічу ён выжыў і дадыбаў дадому…

З Аўласевічам Сцяпан сёння шчасліва развітаўся. Цяпер ён зноў адзін, сам-насам са сваім страхам і сваімі раней няведамымі сумненнямі. А іх жа з часам не паменее, адно пабольшае. Гэта ўжо відавочна. Сёння яму добра і шчасна, а як і што будзе заўтра, паслязаўтра, праз тыдзень? А тым больш — праз месяц, праз год? Сітуацыя ж такая, што можа быць і гэтак. Жахліва й думаць. А думаць — трэба, давядзецца, каб і не хацеў. І не толькі думаць, але нешта й рабіць. Адкрываць жа душу каму — небяспечна, усялякае можа быць, на што заўгодна можна напароцца. Самаму блізкаму і то сёння не ўсё скажаш, каб не напалохаць заўчасна, не збіць з панталыку, а тым больш не падставіць, не наклікаць бяды.

Вось, аказваецца, якая радасць ягоная, чым абарочваецца. Тады, як туляліся з Кузьмой па лясных ды лугавых сцежках ды не надта торных дарогах, пра адно думалася: дабрысці б да роднай аселіцы, да знанае з маленства сцежкі, да ганка сваёй хаты, а там — Бог бацька, што будзе, тое й будзе, не можа таго

быць, каб было горш, чым вось гэтае палахлівае, бы загнанага звера, бадзянне. А от жа, калі разважыць ды ўлічыць усе акалічнасці, дык, выглядае, што і дома, па ўсім, будзе не лягчэй, прынамсі — не прасцей…

Першым прыйшоў Васіль Курыла — ведама, сусед. Абняў Сцяпана, паляпаў яго па худых плячах, пасля паставіў на стол пляшку рускагоркай. Толькі тады, па натуры не гаваркі, сказаў:

— Ну, то і добра, што дома. Дома і сцены памагаюць. — І дадаў: — Я па табе ўжо засумаваў. Няма з кім словам перамовіцца.

— Я таксама, Васіль! — ахвотна азваўся Сцяпан. — Там шмат людзей было, зблізку і са свету, але пагаварыць не надта выпадала з кім. Адзін аднаго пабойваліся. Пахінуўся быў да аднаго, а ён вазьмі ды яўрэя выдай немцам. Таго тут жа і расстралялі. Дык я сабе думаю: о не, ад такіх падалей. Добра, пасля земляка напаткаў, з-пад самай Плешніцы, дык ужо да канца не разлучаліся, пакуль во і дома не аказаўся.

Васіль тым часам дастаў капшук, скруціў самакрутку, прыкурыў, выдыхнуў разам з дымам:

— Праўду кажаш, Сцяпан. Пакуль добра ўсё, дык і ўсе добрыя. А як пойдзе на ліха, дык адкуль толькі гад той ні выпаўзае.

Сусед Васіль Курыла быў вельмі падобны на Сталіна, хоць нікому з вяскоўцаў і ў галаву не магло прыйсці параўнаць свайго старшыню з самім правадыром.

Тым больш, што ніхто з іх нават і памысліць не мог, што Сталін такі ж каржакаваты і трохі крываногі, як і Васіль, што ў яго такі ж рабаціністы твар, такія ж чорныя шорсткія валасы над невысокім ілбом, такі ж трохі гарбаваты нос і невялікія, глыбакавата пасаджаныя вочы і такія ж тапырыстыя вусы. А між тым, падабенства было надзвычайным, бо нават і зубы Васіль меў падобныя на сталінскія — рэдкія, гнілыя, жоўтыя ад тытуню. І курыў Васіль таксама амаль па-сталінску — практычна не выпускаючы з рота свайго дымакура, адно што Сталін пыхкаў люлькай, а Сцяпанаў сусед — усяго толькі газетнай самакруткай. Ды невядома яшчэ, хто з іх больш пускаў дыму. Зважаючы на тое, што Васіль курыў не «Казбек», а самім жа вырашчаны на ўласным гародзе і самім жа адмыслова высушаны і скрышаны разам з дуддзём мультан, ён трымаў тут перад правадыром безумоўнае першынство.

За апошняе Крыстына, па звычцы, і пачала была сварыцца на Васіля:

— Ну не паспеў у хату зайсці, а ўжо сваю качагарню распаліў…

Ды Сцяпан лагодна спыніў яе:

— Сёння ты памаўчы ўжо, Крыстынка.

Яна махнула рукой:

— Хай дыміць. Але ж каб хоць яго дымакур быў прыемны, а то ж — горла дзярэ! — Пайшла ў другую палову, да печы, дзе пякліся аладкі.

Застаўшыся ўдвух, нейкі час маўчалі Сцяпан з Васілём. Ні адзін, ні другі быццам не ведалі, з чаго пачынаць гаворку, якое абодва гэтак зачакаліся. Урэшце пачаў Сцяпан:

— Дык што тут, дома, дзе й сцены памагаюць, як ты кажаш? Што ёсць і што будзе?

Васіль развёў рукамі:

— А нічога. Як у вуху. Ніхто і нічога не ведае. Кожны сам па сабе. У хаце ці ля хаты. Радзіва няма, газет няма. Усе навіны, калі хто ў Загорск ці ў Мінск па якой патрэбе трапляе. Ад таго і ўсе навіны.

— І якія, Васіль?

Курыла неяк нязвычна хутка адказаў:

— А ўсё больш вясёлыя, каб ты ведаў. То некага павесілі, то расстралялі, то спалілі.

Сцяпан крэкнуў:

— А каб цябе з тваімі жартамі!

— Гэта акурат і не жарты, Сцяпан. Навіны такія цяпер… вясёлыя. Нас, дзякаваць богу, яшчэ нейк абыходзіць, пакуль што ціха…

— Ці ж надоўга, Васіль?

— Ты б пра што лягчэйшае папытаў. Тут не ведаеш, што заўтра будзе, ці паспіш спакойна да ранку, — Васіль, гаворачы, увесь час тупаў туд-сюд па хаце — меў такую звычку, і ў гэтым таксама быў падобны да правадыра, пра што вяскоўцы таксама, як і пра Сталінавы зубы, не ведалі.

Сцяпан звычку суседаву ведаў, але ўсё ж не стрываў, сказаў:

— Ды прысядзь ты, не матляйся перад вачыма. — Счакаўшы, пакуль Васіль урэшце прысеў на табурэтку, сказаў: — Гэта ты праўду кажаш. Хто ж думаў ці сніў? Я во, не ваяваўшы, у палон патрапіў.

— І як табе собіла?

— Гэ, як собіла! Не па сваёй ахвоце, Васіль, не па сваёй. Такое неразбярыхі, такога тлуму бачыць не даводзілася. Ніхто нічога не ведае. Суцэльны вэрхал!.. Нас жа прывезлі спачатку ў Краснае Урочышча пад Мінскам. Сказалі — чакаць. Сядзім, чакаем. Гадзіну, другую — нікому да нас справы няма. Так, чакаючы, і ацямнелі. Поначы ўжо нарэшце нас пастроілі і кудысьці павялі. Куды, чаго — зноў ніхто не ведае. Нібыта ва Уручча, пайшла пагалоска, там нас будуць, нехта сказаў, размяркоўваць — каго куды. Прыйшлі. Пад раніцу ўжо. Дык жа і там адна мітусня і беганіна, зноў чакаць сказалі. Потым пачулі: у асобны знішчальны батальён нас, мо сотні паўтары навабранцаў, а можа, і больш, можа, і ўсе тры сотні, залічылі. Павялі да лазні — мыцца, стрыгчыся, пераапранацца. А там — натоўп, не падступіцца, не прабіцца, і зноў ніхто нічога не ведае, што рабіць, як быць. Стаялі і таўкліся ажно да паўдня. Адно што паспелі — абгаліць нас пад нулёўку. Не стрыглі, а жыўцом валасы вырывалі — гэтак спяшаліся. Ды і недарэкі, пэўна, былі тыя цырульнікі, мо машынкі першы раз у рукі пабралі. На лазню ўжо махнулі рукой: ліха з ёй, спаласнёмся пры нагодзе і ў рэчцы якой. Павялі нас на абмундзіроўку. Кудысьці ўбок, бліжэй да ўзлесся, дзе нібыта салдацкія склады-капцёркі. Там нас і накрылі самалёты нямецкія. Хто паспеў пераапрануцца, а хто і не паспеў, адно споднее надзеў. Я акурат у споднім быў, калі пачало кругом грукатаць і агнём паласкаць. Пасля ўжо, як аціхла бамбёжка, некім знятыя штаны ды сарочку знайшоў, прыкрыў нацельнае. І босымі перад немцамі многія аказаліся. Хіба хто падхапіў з зямлі чые-небудзь чаравікі ці боты, калі нас ужо з усіх бакоў немцы ў гурт зганялі…

Васіль слухаў, не перапыняў. Але калі Сцяпан на хвіліну прымоўк, каб пракаўтнуць нечаканую сухасць у роце, сказаў:

— І што ж гэта такое, Сцяпан? Ты ж парцейны, ты ж лепш за мяне ведаеш, што гаварылі і пісалі ўвесь час. Хіба ж не ведалі, што Гітлер не надзейны дружбак, што з ваўкамі дружыць не выпадае? Скажы, Сцяпан, хіба ж не ведалі?

— Я, Васіль, ведаю тое ж, што і ты, хоць і партыйны. Ведаю толькі тое, што кажу: такое неразбярыхі, такога бедламу, такое панікі нават у страшным сне не бачылася і не чакалася. Як розум ва ўсіх адняло. Немцы лапалі нас, як бездапаможных, кволых куранят. Сотнямі, тысячамі… Бачыў на ўласныя вочы, Васіль…

Стол ужо тым часам быў засланы чыстым і бялюткім, вытканым у шашачкі Крыстынай і ёю ж старанна выкачаным абрусам, на ім стаялі прынесеная

Васілём і пачатая Сцяпанам з Паўлюком пляшкі гарэлкі, ляжалі лусты хлеба, на талерках — маласольныя агуркі, нарэзанае скрылькамі сала, вараныя і абабраныя яйкі. Але мужчыны на ўсё гэта не зважалі: разумелі, што яшчэ не пара, прыйдзе час падсунуцца да стала бліжэй. Раней, па-суседску, яны часта сядзелі вечарамі за гэтым сталом — калі з чаркай, а калі і сухама. Падоўгу сядзелі, было што і за поўнач, пакуль Крыстына ўжо ці не са злосцю папрэ суседа дадому. Гаманілі часцей міралюбна, але было, што і сварыліся, нават зацята. Асабліва не любіў саступаць Васіль. Упрэцца ў што — Сцяпан не давядзе, нічым і нізавошта не пераканае, ажно пакуль сам не зазлуе і не махне рукой: ды ліха з табой, калі ты такі казёл упарты. Але гэта было тады, за мірным часам. Цяпер жа — не да спрэчак, іншым галовы заняты.

— І што думаеш рабіць? Дзякаваць богу, прыбіўся дахаты, а далей што?

Сцяпан паморшчыўся, як ад болю:

— А ты? Што ты сам пра сябе ведаеш?

Васіль сумеўся:

— І я, брат, не ведаю. Але ж між намі розніца. Ты ж парцейны, з цябе спрос іншы. Я што? Як усе, гэтак і я.

— Кінь, Васіль! Як усе… Ну я, няхай, партыйны, а ты што — контрык? Ты — старшыня калгаса, я — старшыня сельсавета, якая розніца? Пра што ты кажаш, Васіль? — Сцяпан як пачынаў злавацца.

Васіль выпусціў чарговую хмару дыму і нечакана не запярэчыў, кіўнуў:

— Твая праўда, ніякай розніцы. Гэта я так сабе сказаў, бо таксама ж нічога не ведаю. Хоць і думаў багата.

— Дык і я думаў, Васіль. Усе дні, асабліва калі былі ў дарозе, думаў. А нічога добрага не прыдумваецца. Гэта ж не на дзень-два. А што, калі на паўгода, на год?

— Баюся, Сцяпан, што на даўжэй. Сіла ж у яго надта моцная. Расея вялікая, вядома, да Масквы шмат і за Масквой яшчэ больш, але ж нешта яно не так складваецца, як хацелася б, як раней складвалася. Напалівон і Маскву ўзяў, ды ўсё адно падавіўся. А чаму? Ну, мо і праўда мароз дапамог, бо сілы былі бадай роўныя. І тыя, і другія на коніках ды пяшэчкам. А гэты ж прэ на колах. Колькі ні глядзеў — не бачыў, каб пешкам. Значыць, не раўня мы яму…

Сцяпан не даў Васілю дагаварыць, падхапіў, як пра набалелае:

— Дык жа і я пра тое думаў! Колькі гадоў пелі, помніш: «Браня крапка, і танкі нашы быстры» і «Усё вышай і вышай страмім мы палёт нашых пціц»? А дзе яны, нашы танкі і самалёты? Яны нас бамбяць і танкамі акружаюць, а нашых — ні заваду. Як гэта разумець, Васіль? Дзе ўсё падзелася? Ну мы ж знаем з табой: было ж яно ўсё! І танкі былі, і самалёты. Чаму ж у небе няма тых ястрабкоў, слаўных сталінскіх сокалаў? Чаму, Васіль?

— Ты ў мяне пытаешся? Гэта я ў цябе магу папытацца, не ты ў мяне! Як у парцейнага…

Сцяпан зазлаваў амаль па-сапраўднаму:

— Зноў ты за сваё? Што з той маёй партыйнасці? Мне ж гэтаксама дакладвалі, як і табе, беспартыйнаму!

Васіль махнуў рукой:

— А не зважай ты, Сцяпан! Гэта я па звычцы. Не хапала яшчэ, каб мы і пасварыліся па-дурному.

— Дык гэта ж ты прыслепіўся да маёй партыйнасці. Далася яна табе ў знакі! — буркнуў, але ўжо трохі прымірэнча, Сцяпан. — Скажы лепш, як калгас падзяліў? Загадалі ці самі даўмеліся?

Васіль падняўся, падышоў да грубкі, адчыніў дзверцы і пстрыкнуў у чорны задзверны зеў недакураны абсмылак. Вярнуўшыся да стала і, зноў сеўшы, сказаў:

— Рашылі не чакаць, пакуль загадаюць. Падзялілі і ўсё. Калі й прычэпяцца, дык адгаворка ёсць: людзі настаялі. А дзялілі таксама як людзі захацелі: каб нікому не крыўдна было. За грудкі, здэцца, не хапаліся, мірна ўсё абышлося.

— А тое, што ў полі? Як мяркуеш, дадуць падзяліць?

— А хто ж яго ведае, — пацiснуў плячыма Васіль. І нечакана дадаў: — Казалі табе, не? Ужо ж і паліцыю стварылі. Загадалі ўсім хлопцам з'явіцца, і нашы пайшлі таксама: Сяргей Маўчан, Пецька Колік, Змітракоў Андрэй, яшчэ Мікалай Дрозд... Пяцёра ўсіх... Сабралі іх у будынку міліцыі. Але моцна не пільнавалі. Дык нашы хлопцы агледзеліся, адумаліся, ды па адным паціху за дзверы — быццам на двор прыспічыла. А там, за прыбіральняй, у кусты і ўздоўж рэчкі — дадому. Ніводнага з нашых не запісалі. Усе ўцяклі. А не згаворваліся ж, казалі. Сяргей Маўчаноў першым падаўся за дзверы, а за ім ужо і ўсе астатнія. Адным словам, паліцыі ў нас нямашака пакуль.

— Дык і добра, Васіль! — бы пахваліў суседа Сцяпан. — Як кажуць, далей ад ліха. Але ж ты праўду кажаш: пакуль нямашака. А зноў жа: ці надоўга? Зноў могуць паклікаць. Ды не могуць — паклічуць, абавязкова паклічуць! І другім разам ужо гэтак проста не вышмыгнуць за дзверы — пільнаваць будуць.

— Бадай, твая праўда. Уласць не будзе ўласцю, калі не пачне гайкі закручваць. А такая пара рана ці позна прыйдзе. Дык я неяк быў і падумаў: мо й дарэмна ўсе паўцякалі? Хай бы хто з хлапцоў і застаўся, каб свой чалавек быў, калі што.

Сцяпан зноў, як нядаўна пра Кузьму, ці не з нейкаю зайздрасцю падумаў, што і тут, бадай, Васілёва праўда, што ён, Сцяпан, не дапяў да такое думкі, а сусед, хоць, як сам падкрэслівае, хай сабе і знарочыста, што беспартыйны, а глядзіць, аказваецца, далей за яго, партыйца. Але крыўды не выдаў, сказаў памяркоўна:

— Мо і праўду кажаш. Ніхто ж не ведае, што нас усіх чакае ў будучым, мо нават у зусім недалёкім, як павернуцца справы.

Васіль падтрымаў:

— Каб жа знаццё! Таму я і падумаў, што мо і ў паліцыі той самай варта мець свайго чалавека. І, мусіць, не толькі ў паліцыі, Сцяпан?

— Само сабою! Трэба ж неяк будзе жыць людзям, хоць пакуль што мы з табою, во, і не ведаем, як яно будзе, — ахвотна пагадзіўся Сцяпан і нават, неўспадзеў для сябе, дадаў:— Праўду людзі кажуць: адна галава добра, а дзве — лепш. Як адзін, дык думкі ўсё ля аднаго круцяцца, а ўдвух, глядзі, ужо на нешта і іншае выходзяць.

— Ну дык а як жа? Яно ж заўсёды гэтак. Сам-насам больш пра сваё толькі, іншы хто хай пра сябе сам думае, а на пару дык ужо і не толькі пра сваё…

Зайшла Крыстына, паставіла на стол міску мачаных у смятану аладак і глыбокую патэльню яешні з добра высмажанымі скварачкамі наверсе, сказала:

— Паслала Лёніка наказаць Паўлюку з Волькай, каб не цягнулі, ішлі ўжо, карову можа падаіць і Лёдзя, не зломак ужо. Я і бульбу даварваю. Ранавата капаць, не надта яшчэ ўбралася ў сілу, вадзяністая, але на такі выпадак шкадаваць грэх.

— І Андрэю трэба наказаць, — сказаў Сцяпан.

— Сказана ўжо і Андрэю твайму, а нягож, — Крыстына пяшчотна, зусім па-маладому ўсміхнулася Сцяпану. — Шкада, Кастусю ці ікнецца, каб даўмеўся таксама прыйсці, няма ж кім перадаць.

— Я ўжо таксама даўнавата яго не бачыў, — сказаў Васіль. — Гэта ж, мусіць, да вайны яшчэ.

— Авохці мне, сказануў: да вайны!.. Як Сцёпа во вярнуўся, дык быццам і не верыцца, што вайна!

Васіль паторгаў вусамі, пачмякаў вуснамі, спрабуючы ці то пасміхнуцца, ці то зморшчыцца, урэшце прамовіў:

— Не была б ты баба, Крыстына! Мужык ля спадніцы, дык табе і па вайне ўжо!

Крыстына як пакрыўдзілася:

— Прыкусіў бы ты лепш язык, Васіль! Знайшоў час для жартаў!

Васіль на тое ўжо ці не ашчэрыўся ў шырокай усмешцы:

— Які б ні быў ліхі час, а жывому — жывое!

Крыстына жарту не падтрымала, ці не зазлавала, рэзка крутнулася да парога, кінуўшы Васілю на хаду:

— Што цябе слухаць?! Стары, а дурны!

Сцяпан паспяшаўся перавесці гаворку на іншае. Зрэшты, не перавесці, а вярнуцца да брата Кастуся, якога згадаў Васіль. Дзіўна, але калі Крыстына сказала, што добра было б, каб яму ікнулася ды даўмеўся дапяць сюды са свайго Загорска, Сцяпан не падумаў, а ўсім нутром адчуў, што гэтак і будзе: прыдыбае на гэтую вячэру і Кастусь. Якім чынам, не мог сказаць, але адчуванне было акурат такое.

Таму і паспяшаўся сказаць Васілю пасля Крыстынінага зласнаватага «дурня»:

— Ты ў мяне з зубоў сарваў пра Кастуся! Гэта ж я падумаў, ды не паспеў сказаць пра яго, а ты апярэдзіў. Нешта як падказала, як цюкнула ў галаву, што прыйдзе і Кастусь.

— Мо хто такі накажа, пра каго каб і хацеў не падумаеш.

Сцяпан пацiснуў плячыма:

— Не ведаю, што й сказаць. Ваўчкі, бывае, прычэпяцца немаведама адкуль узяўшыся — не адарваць. Гэтак і згадка пра Кастуся. Дзынь у галаве — засела і не сыходзіць.

Васіль чмыхнуў:

— Дык чаго ты вярэдзіш сябе? Прыйдзе — то і добра. Мо і навіны якія прынясе.

Сцяпан крутнуў галавой:

— Ага, прынясе! Не ведаеш ты Кастуся. Байку якую — от гэта точна! Яго ж хлебам не кармі, а дай пагавэндзіць.

— Цяпер не да гавэндаў, пэўна, і Кастусю, — як запярэчыў Васіль.

— Ай, баюся, яго і сённяшняе ўсё мала кранае. Ён на нас з Паўлюком не падобны, яго мама ў калядны тыдзень нарадзіла, калі не адно дзеці, але й дарослыя прыдурняюцца. Ён ад маладых гадоў мала змяніўся, усё скамарошнічае, ніяк яму тое не абрыдзе.

Васіль хітнуў галавой:

— Мо і правільна робіць. Скамарохі — вясёлы народ, да галавы надта не бяруць, сівізна іх доўга не беліць.

За фіранкамі акна, што выходзіць на панадворак, штосьці як матлянулася. І праўда: за дзвярыма, у першай хаце, загаманілі. Тут жа дзверы адчыніліся і ў другую палову хаты зайшлі Паўлюк (ён адразу ж ступіў да стала і паставіў

між талерак пляшку самагонкі), за ім — Волька, а пасля ўжо і Крыстына. Яна адразу ж закамандавала:

— Раз прыйшлі, то і не стойце, сядайце да стала. І ты, Васіль, сунься, і ты, бацька. Андрэй падыдзе — месца знойдзецца. Я таксама сяду: бульбу трошкі пазней падам, пакуль што ёсць чым прыкусіць. Сядайце, сядайце, не ўпершыню, дзякаваць богу, Васіль, ты як сядзіш даўно ўжо тут, налівай, не чакай, што Тодар з Янкам нальюць.

Неўзабаве ўсе дружна кульнулі чаркі, моўчкі, бадай, не чакаючы нейкіх асаблівых запросін. І без таго вядома, за што: за шчаслівае Сцяпанава вяртанне. Гэтак жа дружна населі і на закусь.

Счакаўшы, пакуль, як кажуць, была сагнана першая слінка, Крыстына зноў лёгенька і нават мо трошкі гулліва таўханула Васіля пад локаць:

— Давай! Пакуль не скісла — па другой! Бо вы ж пасля і на гарэлку забудзецеся, як балантэсы свае разведзяце.

Гэтым разам не прамаўчаў Паўлюк, сказаў да Сцяпана:

— Ну, браток, за ўсё добрае! І для цябе, і для ўсіх нас, як той казаў. Няхай і нас таксама ліха абміне!

Сцяпан, бы ніякавата ўгнуўшы галаву, пагадзіўся:

— Ды, здаецца, абмінула-такі. — І дадаў, бы ўдакладніў: — Пакуль…

Трэцюю чарку пілі ўжо без Крыстыны — пайшла даіць Малюту, але затое застолле папоўніў Андрэй Кутас — стары халасцяк і Сцяпанаў сябрук яшчэ з сумеснай іхняй камсамольскай маладосці. І яна, трэцяя чарка, развязала нарэшце языкі мужчынам. І ўсчалася не проста гаворка, а ці не адразу ж — спрэчка.

Першае паленца ў вогнішча падкінуў, як заўсёды, Паўлюк. Даўно яны, два родныя браты, наколькі любяцца, настолькі ж і чубяцца. Як сыдуцца, асабліва пры чарцы, абавязкова пасварацца. Пакрыўджаны Паўлюк на савецкую ўладу. Гэтак моцна пакрыўджаны, што аніяк не можа супакоіцца, не кажучы ўжо пра тое, каб дараваць і забыць. Гэта ж акурат выйшла паводле прымаўкі: з вялікай любові — вялікая крыўда. Ці: любоў і здрада побач ходзяць. Чацвёра іх у маці было, а зямлі ў бацькі — як добрай бабе сесці, дзяліць на чатырох няма чаго. У дадатак бацька памёр рана, гаспадарка на матчыны плечы звалілася. На самым пачатку 20-х Паўлюк, як старэйшы і жанаты ўжо, з радасцю пайшоў на хутар. Дзякаваць богу, новая ўлада і зямлю дала, і лесу будавацца. Рваў сам Паўлюк жылы, жонку не шкадаваў — упрагаў у працу, дачку старэйшую з пяці гадоў, лічы, прымушаў пасільную работу рабіць… Але ж у выніку не хутар паўстаў на былой пустцы — цацачка. І хата, як звон, і гаспадарчыя будынкі дарэчныя, прасторныя, і зямля наўкол урабленая, угноеная — шчодра пачала аддзячваць. Думаў Паўлюк і радаваўся: будуць падрастаць дзеці, а разам з імі сад, пасаджаны ім, і прысады вакол сядзібы, здалёк усё будзе радаваць вока, з якога б боку ні падыходзіць да хутара. Дык, як на тое ліха, калгасы зваліліся. Далоў хутарское кулацкае жыццё — усе ў калгас, на рэйкі новага калектыўнага жыцця! Хацеў, быў такі сверб — спаліць усё, пусціць агнёмдымам, а самому засіліцца. Дзеці астудзілі гарачлівую галаву бацькі: трое ўжо да калгасаў знайшлося ў яго і Волькі. Перасіліў сябе, зацяўся, перацягнуў хату і будынкі ў вёску. На злосць усяму і ўсім і сабе самому скідаў хату, хоць і на краю вёскі, але ў самай нізіне, на балоціне, лічы. Чаго тыя пярэбары каштавалі яму і той жа Вольцы — адзін Бог ведае. Ну, мо яшчэ Кастусь, Міхась ды Сцяпан — памагалі ж брату пераязджаць і асталёўвацца на новым месцы. Хоць Паўлюк быў і супраць тае дапамогі, асабліва Сцяпанавай: лічыў і брата вінаватым у ягоных нягодах. А як жа: бальшавік! Гэта ж яго партыя круціць-

верціць мужыком, не дае яму ні жыцця, ні прадухі. У злосці бэсціў Сцяпана апошнімі словамі, праганяў з новага дворышча, замахваўся паленам, а то й сякерай. Разумеў, вядома, што ні прычым Сцяпан, што шкадуе ён яго, Паўлюка, што бяссільны зрабіць што-небудзь, супрацьстаяць усеагульнай навале, а не мог супакоіцца. А ўзяўшы чарку, дык і зусім узрываўся, у бойку кідаўся. Праўда, пасля, ачомаўшыся, расслабіўшыся, адыходзіў, пускаў слязу і лез да Сцяпана абдымацца-цалавацца: маўляў, даруй, браток, дурань я, душыць мяне халера нейкая, бярэ загрудкі, трасе і калоціць, як чорт ігрушу. А Сцяпан адно супакойваў яго, кажучы, што трэба ператрываць, не лезці на ражон, бо можна нарвацца і на высяленне, наогул на самае страшнае — на загубу. І, будучы ўсё ж партыйцам, казаў і пра тое, што, можа, і ў калгасе горш не будзе, мо нават лепей, гуртам жа не толькі весяліцца, але і працаваць лацвей, дружней, спарней. Ды лепей бы не казаў! Бо Паўлюк зноў узрываўся, зноў яго забірала калатнеча, зноў пераходзіў на крык: не кажы дурнога, браток, бо гультай і ў калгасе застанецца гультаём, і ты хочаш, каб я й на яго рабіў?! А трасцу яму ў бок! Сваё раблю, дык я ведаю, што гэта сваё, на спажыву сям'і, дзецям, а ў гурце каму на спажыву? Чорту лысаму?!

Вось так чарка сварыла і прымірала іх, і тут жа зноў сварыла. Ніводнае, бадай, бяседы — ці ў Сцяпанавай хаце, ці ў Паўлюковай — не абыходзілася без таго, каб браты не пасварыліся. Праўда, ці тым жа вечарам, ці назаўтра яны й мірыліся, але, зноў жа, да пары да часу: Паўлюкова крыўда на ўладу, а значыць і на Сцяпана, як на прадстаўніка гэтае ўлады, за страчаны хутар, дзе ён на кароткі час адчуў сябе шчаслівым чалавекам, не міналася.

Цяпер жа, з вайною, з такім нечакана хуткім прыходам ажно сюды, за старую мяжу з Польшчай, немцаў даўняя крыўда разгарэлася з новаю сілаю. Злосці ў Паўлюка бы пабалела нават. Так і падмывала яго пракрычаць, плюхнуць проста ў твар свайму не надта відочнаму і акрэсленаму зламысніку-ліхадзею ўсё, што накіпела на душы. А накіпела там шмат чаго. Хацелася сказаць ім, сваім крыўдзіцелям, што скончылася іхняе панаванне на гэтай зямлі, што вось і адрыгнуліся ім выпітыя людскія слёзы і крывавы пот, спытацца ў іх, дзе яны цяпер, у якіх норах дрыжаць ад страху ў чаканні хуткай і непазбежнай адплаты за здзейсненыя невыкупныя грахі.

Ды не было каму сказаць усяго гэтага. А тут во зноў, як і некалі, Сцяпан перад ім. А ён жа не проста браток яго крэўны, але, аказваецца, і зламыснік закляты, верай і праўдай служыў новай уладзе, гэтак шчыра, што парой і на сям'ю, на дзяцей забываўся. Дармо, што давялося яму нясоладка, што ледзь жывыя косці дадому прывалок, але ён, Паўлюк, усё адно спытае ў яго, бо — няма ў каго больш. І спытаў:

— Дык і дзе ж, браток, твая магучая і непабядзімая, га?

Сцяпан зірнуў на Паўлюка, пабачыў, што выпітыя чаркі добра-такі падагрэлі яго, што завёўся Паўлюк, і засмуціўся: значыць, не злезе ён ужо з гэтага свайго коніка, таму трэба неяк як мага спакайней стрымаць яго, стрыножыць. Сказаў памяркоўна:

— Ты ж лепш за мяне ведаеш, Паўлюк. Я гэтыя паўтара месяца прабыў у суцэльным няведанні, як у сне. А вы ж тут хоць сёе-тое, ды ведалі, чулі. Сам жа мне казаў…

Паўлюк ці не павысіў голас:

— Таму, браток ты мой дарагі, і пытаюся, што ведаю: пад Смаленскам, ці мо ўжо і за Смаленскам твая магучая і непабядзімая! Во як!

— І ты, Паўлюк, рады гэтаму? — замест Сцяпана спытаў Андрэй.

Паўлюк з ходу на яго папёр:

— А ты ваабшчэ памаўчы! Гэта маё дзела: рады ці не рады! Ніхто цяпер мне не ўказ! Кончыліся ўказчыкі!

— Як сказаць, Паўлюк! — падаў голас Васіль. — Добра, калі так. А калі станецца гэтак, што і пра колішніх указчыкаў пашкадуем?

— Ты пра што гэта?

— А пра тое, як павядзе сябе цяперашняя ўлада. Мы ж не ведаем. Жывём пакуль без улады нібыта.

— Горш не будзе! — адмахнуўся Паўлюк.

— Як сказаць, — паўтарыў Васіль. — Вораг, чужынец і ёсць вораг, чужынец, заваёўнік. Не свой чалавек.

Паўлюк не палез па слова ў кішэнь:

— А тыя, значыць, свае былі?

— Ну, калі і не свае, то й не чужыя.

— Пазбаў мяне, Божа, ад такіх сяброў, а ад ворагаў я сам адаб'юся, — Паўлюк не раскілзоўваў асядланага коніка. Не зважаў і на Вольку, якая ўжо некалькі разоў тузала яго за рукаво. Наадварот, агрызаўся і на яе досыць груба: — Не лезь, не твайго бабскага розуму гэта дзела.

— Не гарачыся ты, Паўлюк, — азваўся ўрэшце і Сцяпан. — Любіш ты гарачку пароць там, дзе трэба цвяроза думаць. Не будзем гаварыць пра магутую і непабядзімую, хоць, твая праўда, цяжка зразумець, чаму яна аказалася зусім не такою. Трэба думаць, што яна яшчэ збярэцца з сілаю і дасць немцу па зубах… А другое…

Паўлюк не даў дагаварыць, перапыніў:

— Каб магла, дык бы дала! Дзе яна сілу тую возьме?

— Бывае, і дужэйшы спачатку паддасца, а пасля…

— А пасля заплача і дамоў пойдзе! — скончыў за Сцяпана Паўлюк. — Не, браток, цяпер ужо ты мне пра светлую будучыню не кажы, досыць, нагаварыліся і наслухаліся. Ажно паверылі! І моцна нават паверылі. У вечнае царствіе труда! А немец прыйшоў — і дзе тое царствіе? Рассыпалася прахам!

Трэба было б прамаўчаць Сцяпану. Ведае ж ён брата! Не супыніцца той, калі яму пярэчыць хто, наадварот — яшчэ больш завядзецца. Тым больш зараз не варта яму пярэчыць і нешта даводзіць. І не меркаваў Сцяпан рабіць гэта. За час палону зразумеў, перадумаўшы не раз і не два ўсё сваё пражытае жыццё, што праўда на Паўлюковым баку, што крыўда і боль ягоныя справядлівыя. Доўгі час быў Сцяпан нібы аслеплены. Не заўважаў, не хацеў заўважаць і бачыць многае з таго, што грэх было не заўважаць і не бачыць. Ні тое бязглуздае і жорсткае ссяленне хутароў, ні гвалтоўнае і такое ж бязглуздае раскулачванне найбольш старанных, працавітых, а таму і заможных вяскоўцаў, ні яшчэ больш бязглуздае абвінавачванне ў шпіёнстве і шкодніцтве са смяротным пакараннем ані ў чым не вінаватых людзей, кшталту іхняга чацвёртага брата Міхася, які і мухі ў жыцці не пакрыўдзіў, а не тое каб учыніць каму бяду ці шкоду. Ды як быццам нейкая крыўда раптам ускінулася ў душы. Занадта шмат гадоў жыў Сцяпан у згодзе з той савецкай, бальшавіцкай праўдай, каб з ходу, адным махам адкінуць яе, хоць колішняя вера і пахіснулася. Першым штуршком быў страх, боязь смерці ў той калатнечы. Ды яго можна было б і перажыць, час лечыць любы боль і любое нервовае ўзрушэнне. Але зведаны гэтак нечакана і гэтак жахліва страх скалануў думку, і яна пабегла несутрымна і непадуладана, і ўсё чамусьці больш назад, у прошласць, чым у прышласць. І нечакана высвеціла ў той прошласці, якая выдавала такою светлай, радаснай, шчаслівай і заманлівай, занадта шмат чаго сумнага, недарэчнага, бяздумнага, жорсткага і нават трагічнага. Вось і пахіснулася вера. Ды гэтак, што Сцяпан

бы сябе не пазнаваў. Дальбог жа, увесь час палону адзіным жаданнем жыў — дапасці дадому, да сям'і і дзяцей. Усё іншае адступіла на другі план, мала яго займала. Прыбягала думка, што гэтак яно і павінна быць, і не толькі от зараз, у гэты трудны і няцямны час, але і пасля, заўсёды. А от жа, калі апынуўся дома і трошку акрыяў — не целам пакуль, а душою, пачало вяртацца да яго, на ўздзіў сабе самому, колішняе самаадчуванне. Зноў ён у звычнай для сябе, знешне амаль нічым не парушанай колішняй сітуацыі: у сваёй хаце, за сваім сталом, разам са сваімі людзьмі. А тут яшчэ і чарка — адна, другая. Ад усяго гэтага галава, пэўна, і пайшла кругам. Не ў тым сэнсе, што захмялеў Сцяпан, а ў тым, што ў чэрапцы ягонай нейкі няведамы механізм зрабіў нечаканага кругаля да ранейшага стану. І той, ранейшы, Сцяпан не стрымаўся і насуперак сабе сённяшняму запярэчыў брату:

— А я кажу, Паўлюк, што, бывае, і дужэйшы спачатку паддасца, а пасля збярэцца з сіламі і на лапаткі саперніка пакладзе. І хаваць заўчасна каго б там ні было не трэба.

— Ай-яй-яй, — як і трэба было чакаць, заекатаў Паўлюк. — Пакрыўдзіўся за любімы ленінскі авангард рабочага класа і калгаснага сялянства! Дык жа няма яго! Быў і няма! Ану, пакажы, дастань з кішэні, што ля сэрца, свой партбілет, Сцяпан! Ну, дастань, пакажы!

Сцяпан збялеў. Не чакаў ён, што Паўлюк да такога дабрэшацца. Задрыжэла, заныла ў яго ўсё ўнутры, аднак жа ўзяў сябе ў рукі, сказаў нібыта спакойна:

— Ты, Паўлюк, кажы, ды не загаворвайся. Што ты хочаш п'яным вокам убачыць у тым білеце, га?

Сказаў і пашкадаваў, бо тут жа зразумеў: сказанае толькі сапсуе абедню, яшчэ больш раззлуе Паўлюка.

Так і сталася. Апошнія Сцяпанавы словы Паўлюк успрыняў яшчэ з большаю крыўдаю:

— Ты што, чаркаю сваёю мяне папракаеш? Дык жа я во і сваю пляшку прынёс, гэткай жа моцы, як і крамная, дармо што самагонка. Ну, усё, браток, стаўлю кропку, больш я за гэтым сталом не п'ю. Не! І не ўгаворвай!

Сцяпан ухапіўся за гэта, як за саломінку, паспрабаваў усё звесці да жарту:

— Ай, добра, Паўлюк, што ты ўспомніў, чаго мы тут сабраліся, за гэтым сталом. А то і закусь уся астыла, і гарэлка скісла. Васіль, Андрэй, налівайце!

Акурат у гэтую хвіліну зайшла ў хату Крыстына з глыбокаю місаю маладой бульбы, пасыпанай зверху дробненька скрышанымі высмажанымі скварачкамі і кропам. Міса, урачыста пастаўленая між рассунутых талерак пасярод стала, найбольш і паспрыяла таму, што спрэчка, гатовая перарасці ў сапраўдную сварку, адступіла і сціхла. Як згаварыўшыся, усе дружна пацягнуліся да сваіх чарак і да закусі, быццам збянтэжыўшыся ад таго, што дазволілі ўзгарэцца за сталом неразумнай і ў такі час цалкам недарэчнай сварцы, прытым між братамі, якія маглі, каб на ліха павяло, больш і не пабачыцца, не тое што во пасядзець у такой шчаслівай бяседзе.

А ў хаце між тым пачало шарэць, як і за вокнамі. Праўда, тое, што на стале, яшчэ можна было ўгледзець і несці відэлец за вуха не даводзілася, аднак жа час нагадаў пра неабходнасць святла. Пад столлю вісела лямпа з комінкам і абажурам, і Крыстына, падаўшыся да стала, памкнулася да яе рукою. Васіль, убачыўшы тое, папытаў:

— Ёсць там крыху газы? Калі няма, дык я схаджу прынясу пляшку, у мяне яшчэ ёсць, пакуль лета, дык я ашчаджаю, не палю. Калі што падсвяціць трэба, дык лучынку запальваю.

— І я ж гэтаксама, Васілёк! — азвалася Крыстына. — Гэтую лямпу калі й запальвала! Во, булькае троху, павінна пасвяціць гадзінку-другую.

— Ну, глядзі, а то ж, кажу, магу прынесці, — падахвочваўся сусед.

— Дзякуй, Васіль. Пакуль сядзі, закусвай, а трэба будзе, дык — недалёка ж, сходзіш, — запыніла яго Крыстына.

Лямпу запаліў Сцяпан. Надзяваючы камінок, па звычцы хукнуў у яго і шмаргануў даланёю. Потым ужо падкруціў кнот. Святло лінулася на хату, і яна ўвачавідкі пашырэла, вышараваная да жаўцізны столь таксама нібы павышэла. І бяседа пры святле неяк адразу таксама набыла весялейшыя ход і тон, быццам віднata адсунула кудысь разам з прыцемкамі і неадступныя тымчасовыя непакой і няпэўнасць.

Волька, ціхмяная і прывучаная Паўлюком да паслушэнства, у мужчынскую гаворку не ўмешвалася. Яна паманіла да сябе Крыстыну і, калі тая прысела ля яе, пачала амаль шэптам, на вуха распавядаць ёй пра свае бабскія клопаты: яна хадзіла пятым дзіцем. Гэта ўжо не было тайнаю, жывот ужо добра-такі пазначыўся, усё ішло быццам як след, гэтак, як і раней, ды собіла Вольцы нязручна паваліцца, ударыцца клубам. Паднялася яна сама, і не сказаць каб балела моцна ўдаранае месца, ды ўбілася ў галаву, што гэтае яе няўдалае падзенне няйнакш чымсьці нашкодзіла дзіцяці. От цяпер яна і нашэптвала пра гэта ятроўцы, не так чакаючы ад яе парады, як суцяшэння і супакаення. І Крыстына гэтак жа ціха, каб не чула лішняе вуха, казала Вольцы акурат тое, што яна і хацела пачуць:

— Не думай ты пра дурное, Волечка! Падумаеш: павалілася! Ці ж мы з табой маладзёны дурныя, зялепушныя? Мы ж бабы цягавітыя! Бывала, да апошняга і ваду носіш, і сечку карове замешваеш, і свінням ражку мешанкі валачэш… Усё будзе добра, от пабачыш. Галоўнае, не думай пра благое. От калі будзеш думаць, дык і намовіць можаш. Сама сабе на шкоду, а заадно і дзіцятку. А як пра добрае думаеш, дык і яму добра. Ці ж ты не знаеш, ці ж цябе вучыць гэтаму трэба?!

— Дык жа як насланнё якое! — шаптала ёй Волька. — Не хачу думаць, а яно не выходзіць з галавы.

Крыстына абняла ятровіцу за плечы, страсянула лёгенька:

— Кінь, кажу! На добрае трэба і думаць добрае!

— Дай жа бог!

— Папомніш мяне, усё будзе добра…

Іхні перашэпт перапыніў Андрэй Кутас, нечакана, быццам акурат цяпер, пры святле, толькі і ўбачыў тое, выгукнуў:

— О, далібог дзіва! Сцяпан — выліты Паўлюк!

Васіль паказаў з-пад вусоў зубы:

— Дзіва знайшоў: браты ж родныя! Таму й падобныя, як грыбы. Большае дзіва, што і па дзецях яны аднолькавыя. Гэта ж дай веры: у аднаго — шасцёра, у другога жонка пятым ходзіць, а ў Кастуся і Міхася — па чацвёра!

Андрэй апошняга як не пачуў, запярэчыў:

— Гэ, браты! Непадобныя ж былі! А цяпер во, як схуднеў Сцяпан, дык цюцелька ў цюцельку — Паўлюк!

— На адзін капыл робленыя! — зноў пасміхнуўся Васіль. — Ты ж бацьку іхняга не помніш, вядома, а я памятаю. Паставіць бы яго цяпер побач з імі — не адрозніў бы, дзе хто.

— Які цесля, такі й клін, які бацька, такі й сын! — Андрэй таксама выявіў на твары нешта кшталту ўсмешкі.

А ўвогуле даўно ўжо ён не схільны да жартаў ды зубаскальства. Не пашэнціла яму ў жыцці. Яшчэ ў васямнаццатым, калі падлеткам быў, памагаў

бацьку траляваць лес. Тады, карыстаючыся безуладдзем, шмат хто нацягаў з былога панскага лесу бярвення на хаты. Заманууўся на тое і Андрэеў бацька, балазе хата папраўдзе вымагала замены: і малая, і струпехлая, цяпла зусім не трымала. І вось там, у лесе, хапіўся яшчэ не надта апераны пеўнік Андрэй за камель сама меней васьмідзесяцігадовай сасны — і надарваўся. Мог і зусім загнуцца, ды акрыяў, але пакінуў яму той выпадак досыць ладную грыжу. З-за яе, пэўна, ім і дзеўкі ганьбавалі. Прынамсі, пад сорак бярэцца, а ўсё яшчэ Андрэй у кавалерах ходзіць, хоць ужо, бадай, і польскага перарос. А ў дадатак — і ў гультаях, бо і за плугам уперціся не спрабаваў, і на коску налегчы — таксама. Адно было: хадзіў разам са Сцяпанам у першых вясковых камсамольцах. Ды ці не з той самай прычыны — сваёй недарэчнай і ледзь не ганебнай хваробы — асаблівага аўтарытэту, не ў прыклад Сцяпану, не здабыў. Ні сярод вяскоўцаў, ні сярод дзяўчат. У партыю, услед за Сцяпанам, не ўступіў. Не таму, што не хацеў — не было яму такое прапановы. Ды камсамольства яму ўсё ж у сім-тым дапамагло: паслалі на курсы рахункаводаў. Пасля іх парабіў быў трохі ў малачарні ў суседняй вёсцы, у былым панскім маёнтку, а як з’арганізаваўся калгас — у калгасе. У сябруках Сцяпанавых застаўся. Балазе, падмацоўвала гэтае сяброўства і ягоная праца ў калгаснай канторы: як-ніяк, а ўсё-такі нейкае начальства. У канторы ён, пры выпадку, і старшыню, Васіля Курылу, падмяняў. А Васіль, у дадатак да старшыні, яшчэ і сусед Сцяпанаў. Вось і выходзіла, што яны ўжо нібы і ўтрох сяброўства тое водзяць. Так што ў застоллі ў Сцяпанавай хаце Андрэй не выпадковы госць. Ды нешта ўсё ж муляла яму, было яму чамусьці не надта ўтульна. Адчуваў, што ранейшы звычны і ўсталяваны распарадак парушыўся. Усё раптам стала не тое і не тым. І Васіль ужо не старшыня, і ён — не рахункавод, і Сцяпан сёння немаведама хто. Зацеміў Андрэй, як зрэагаваў сябрук ягоны на Паўлюкова пацвельванне адносна партбілета. А й праўда: дзе ён сёння, ягоны партыйны білет, якім Сцяпан гэтак ганарыўся і нават яму, Андрэю, ніколі не даваў у рукі? Ці ёсць ён наогул? Мусіць, хутчэй за ўсё, няма. Бо каб быў, дык ці зазлаваў бы гэтак раптам і гэтак моцна Сцяпан на Паўлюкова запытанне? Нешта тут няйначай не тое, думаў Андрэй. Не сягоння гэта, вядома, высвятляць, але мець на ўвазе — варта. Бо, па ўсім, жыццё ад нейкае пары пакоціцца, папраўдзе дык ужо коціцца па іншых рэйках. І куды яны выведуць, гэтыя іншыя рэйкі, адзін Бог ведае.

І злавіў сябе Андрэй на думцы, што — зайздросціць Сцяпану. Даўно ўжо зайздросціць. І за тое, што аўтарытэт той займеў, любоў і пашану людскую. І за тое, што мае ажно шасцёра дзяцей. Нават Паўлюку Андрэй зайздросціць — хоць бы таксама за тое, што мае такую ж вялікую і дарэчную сям’ю.

Можа, яшчэ і з гэтае прычыны не кідаўся асабліва Андрэй у гаворку, распачатую Паўлюком. За ўсе папярэднія гады, асабліва за апошнія калгасныя, прывык ён не лезці нікуды і ні з якімі ініцыятывамі. Пераканаўся, што ініцыятарам першым жа і дастаецца. Лепш за ўсё — пачакаць, а мо й наогул перачакаць. Камсамольства ягонае было даўно, з сённяшняга гледзішча дык ужо быццам і зусім не было, а рахункаводства — пасада ці занятак бясскрыўдны: костачкамі шчоўкаць. Калі на тое пайшло, без іх, рахункаводаўскіх лічыльнікаў, любая ўлада не абыдзецца. А без старшынь, як ні дзіўна, можа абысціся...

Ад гэтае апошняе, нечаканае і неспадзявана вясёлае думкі Андрэю ажно засвярбела ўсміхнуцца, але ён стрымаўся і знарок насупіўся: не хапала яшчэ, каб хто прыкмеціў ды падумаў, чаго гэта ён усміхаецца сам сабе. Зрэшты, ён жа нічога такога. Ён жа шчыра прыйшоў пабачыцца са Сцяпанам пасля такой доўгай і трывожна-няпэўнай разлукі. І калі знячэўку прыбеглі да яго трошкі

іншыя і дзіўна нечаканыя думкі, дык у тым ягонай віны няма, гэта ўсё Паўлюк распачаў. Як ён яшчэ і пра Міхася Сцяпану не напомніў? Пра чацёртага з братоў Кудрэвічаў, якога ў трыццаць сёмым энкавэдэ хапанула? Дзіўна гэта. Паўлюк жа часта папікаў брата братам. Ён Сцяпану не адну свінню падклаў. Мо і жартам, не цалкам усур'ёз, але часта назаляўся Сцяпану з яго партыйнасцю. А ў дадатак яшчэ й набрэша яму на савецкую ўладу. Андрэй не аднойчы быў сведкам такіх Паўлюковых выбрыкаў. Сцяпан, бывае, ажно вушы заткне. І ўзмоліцца: «Браток, не будзь дурнем, і сцены ж вушы маюць, дзяцей сваіх пашкадуй, калі сябе й мяне не шкадуеш…» А Паўлюк, як знарок, яшчэ больш Сцяпана падколвае: маўляў, каго і што ты абараняеш, ты пра братку нашага Міхаську ўспомні, за што і дзе ён галаву злажыў, што ты сам выслужыў у сваёй роднай улады, на штаны парцяныя ўсяго й зарабіў, а дзеці, як і мае, цукеркі не бачаць і ў саматканых портках бегаюць… Сцяпан мо куды й вышэй пайшоў бы, калі б не браты. Міхась, праўда, наўрад ці вінаваты ў чым быў. Запека запекам. Конюхам рабіў. І маўклівы, бы сугней. Ад яго ж мала хто й слова чуў. За што яго варанок забраў, дык і не даўмецца. Мо й праўда, як ягоная Альжбета казала, нехта па злосці ўдаў, напаклёпнічаў, напрасліну ўзвёў. Ён жа і да калгаса не быў гаспадаром, да Альжбеты ў прымы прыстаўшы. З прымака які гаспадар? Адно што чацвярых дзяцей Альжбеце наstругаў — да яе дваіх. А Паўлюк іншае натуры. Ён папраўдзе савецкую ўладу не любіў, і не надта хаваў гэтую сваю нелюбоў. Брахаў лішне ў злосці і без злосці. І, пэўна, недзе наверсе вядома ўсё было, слова ж не верабей, не зловіш. А Паўлюк не перад адным братам гэтак шчыраваў. Ну хоць бы яго самога, Андрэя, ці Васіля таго ж — таксама не асцерагаўся. Добра, што яны ўмеюць язык трымаць за зубамі. Цяпер от усё змянілася, а ён усё роўна не паразумнеў, гэтак сама плешча, не цямячы, што слухаць ягоныя папрокі Сцяпану сёння яшчэ цяжэй, чым раней было. Дурань Паўлюк!..

А ўголас сказаў зусім іншае:

— Сцяпан, дружбак мой камсамольскі, давай з табой чокнемся! Хачу я выпіць за здароўе тваё, за ўдачу тваю, што прыбіла цябе дахаты, за сямейку тваю, за ўсё добрае! Што б ні здарылася, а мы ж якія былі, такія й ёсць. Праўду кажу?

— Праўду, мой даражэнькі! — Сцяпан ці не расчуліўся. — Каб вы ведалі ўсе, як я рады вас бачыць, як мне добра тут, сярод вас і з вамі. Думаў жа, пакаюся, што ўжо не давядзецца стрэнуцца, сысціся, пасядзець во гэтак… Давайце яшчэ па кроплі за ўсё добрае!

Нечакана і Паўлюк пусціў слязу:

— Ты ж, браток, не думай, што я злыдзень які! Я ж цябе люблю, як гада смажанага, каб ты ведаў! І пакладу за цябе душу і саму жытку! Хіба ж я не бачу, які ты быў і ёсць? Сабе ж ні кроплі нічога і ніадкуль, хоць і мог бы, я ведаю. Сабе — нізавошта, а людзям — найперш. За што людзі цябе й шануюць, я гэта таксама ведаю. А цяпер во трывожуся за цябе. Бо інакш жыццё павярнулася, яшчэ горш не па-людску, чым было. А што было, я помню і не забуду. І брата нашага Міхася, бязвінна загубленага, не забуду. Няма ў тым тваёй віны. А цяпер што? А тое, што табе трудненька давядзецца. Мы што? Мы не прападзём, як не заб'юць, дык будзем жыць. А ты? Вырваўся, дапяў у родную хату — дзякаваць богу. А далей што будзе? Як быць і што рабіць, каб бяда цябе абмінула?.. Давай вып'ем, халерачка на яе!

Выпілі, пацягнуліся да закусі. Скарыстаўшыся тым, што мужчыны знайшлі сабе лацвейшы занятак, чым сварлівае перабрэхванне, жанчыны пакінулі застолле. Волька цішком, не сказаўшы нічога Паўлюку, пайшла да-

хаты — сядзець доўга нерухліва ёй было ўжо цяжкавата, а Крыстына падалася пакласці спаць дзяцей. Найперш — чатырох меншых. Пра Лізу і Лёніка клопат невялікі, яны самі знойдуць, што з'есці і калі легчы, а малым жа даўно час спаць. Добра, што паспела іх пакарміць, Малюту падаіўшы. «А дзе ж яны, каб хто сказаў? Няўжо яшчэ на вуліцы?» Самыя малыя, пагодчыкі Коля і Маня, спалі на печы. У печы палілася, чарэнь цёплая, от яны і скруціліся там, як кацяняты, адно каля аднаго. «Ну, то хай і спяць», — рашыла. Сямігадовы Сашка і дзевяцігадовы Тонік былі яшчэ на дварэ — сядзелі на лаўцы пры вуліцы, з імі яшчэ і нечыя суседскія дзеці. Забрала сваіх Крыстына дадому. Тоніку паслала на палацях, а Сашку павяла ў другую хату, туды, дзе мужчыны: пасцеліць яму на лежаку за грубачкай. Не бяды, што ў хаце гамоняць: за дзень набегаўся, натаміўся, дык засне, як снапок, і пры галасе тым…

А мужчыны, як разняволіўшыся без бабскага кантролю, сапраўды разгавэндзіліся ва ўсю. Андрэй, дайце веры, быў нават зацягнуў песню:

— Шырака страна мая радная,
Многа ў ней палёў, лясоў і рэк…

На яго дружна зашыкалі:

— Зусім здурнеў?! Завёў курну! Ты б яшчэ пра Сталіна!

Андрэй не здаваўся:

— Не даспадобы ўжо? Ну дык тады: «Ой, за лугам зеляненькім…»

Паўлюк амаль сярдзіта прыкрыкнуў на яго:

— Якія песні, Андрэй? Паспеў мазгі адпіць? Ці хлапечая дурнота ўсё яшчэ прэ з цябе?

Напамін пра «хлапцоўства» пакрыўдзіў Андрэя папраўдзе. Падхапіўся быў, памкнуўся адпіхнуць табурэтку, выйсці з-за стала ды пайсці дахаты, ды гэтак жа раптоўна і астыў, сеў, сказаўшы напаследак:

— Я ж хацеў… Яно, ведама, не да песень цяперака, але ж…

— То-та ж, Андрэй: не да песень! — усё яшчэ строга паўтарыў Паўлюк. — Ты лепш скажы, што чуў пра школу? Ад каго і што?

Андрэй не прымусіў сябе доўга чакаць, загаварыў з ходу:

— Бутрыма сустрэў. Хадзіў пад Ліпнік гліны паглядзець, комін пацёк, там і сустрэў настаўніка. Дык казаў, нібыта абавязваюць з верасня, як і раней, вучыць дзяцей.

— І чаму ж яны мяркуюць вучыць? — перастаў жаваць Сцяпан. — Па якіх кніжках?

Андрэй паціснуў плячыма:

— Пра гэта не казаў Бутрым. Адно, што нібыта загад ёсць — школа мусіць рабіць.

Васіль хмыкнуў:

— Гм, мусіць… Лёгка сказаць! Хіба толькі — чытаць ды лічыць!

— А мо больш нічога ім і не трэба, Васіль?

Курыла зірнуў на Сцяпана. Той глядзеў на яго, падалося, неяк дзіўнавата, бы на незнаёмца ці нават чужака, кажучы гэта, Васіль не адразу датумкаў, перапытаў:

— Каму — ім? Дзецям нашым?

— Скажаш таксама! — Сцяпан як дакорліва пахітаў галавою. — Тым, хто загадвае, Васіль, — новай уладзе!

— А-а-а, — прамычэў Васіль. — Можа, і праўда, як даўней: распісацца ўмееш і лічыць да дзесяці — от і па грамаце…

— Я ж і кажу…

Сцяпан і яшчэ хацеў нешта сказаць, але Паўлюк абарваў яго:

— Перастаньце вы балабоніць абы-што! Тут, як кажуць, няма пытання. Дзяцей вучыць трэба пры любой уладзе. Бацькі, дзяды нашы былі непісьменныя, але нас жа яны вучылі ўжо. Пабачылі, што без навукі мала што ўмеюць рукі. Дык чаго вы?

— Мы ж не аб гэтым, браток, — запярэчыў яму Сцяпан. — Мы якраз аб тым, як і чаму вучыць збіраюцца.

— Дык жа будзе і відаць, як збяруцца! — амаль выгукнуў Паўлюк.

— Позна будзе тады аб чым-небудзь гаварыць, — вяла сказаў Сцяпан.

Паўлюк па-ранейшаму задзірыста парыраваў:

— Быццам нешта зменіцца, калі вы тут пабалантэсіце!

Пляшкі крамнай былі пустыя ўжо, і Паўлюкову самагонку пачалі, але мужчыны не сказаць каб ап'янелі. Адзін хіба Андрэй сядзеў ужо ачмурэлы. І Сцяпан, і Паўлюк ведалі, прынамсі, чулі людскую пагалоску, што старая Кутасіха, Андрэева маці, не надта ўмела і шчодра яму варыць і смажыць, сама абыходзячыся лустай хлеба ды конаўкай малака, што ходзіць, а больш сядзіць на лаўцы пры вуліцы яе сынок днямі навылёт надгаладзь. Вось на пусты жывот і захмялеў. І чым даўжэй сядзеў, тым больш хмялеў. Ён ужо не надта ўлоўліваў, пра што ідзе гаворка, і каб прагнаць сон, які ўсё больш навальваўся на яго, Андрэй зноў зацягнуў:

— Як пасеяў Андрэй грэчку,
Рыцу-рай!
Сеў на дубе, на вяршэчку,
Гоп, рыцу-рыцу-рай…

Выйшла з-за шафы ля грубкі Крыстына, падышла да яго, абняла за плечы, сказала жартаўліва, але строга:

— Андрэй, не дурэй! Табе ж сказалі: не да песень цяпер. Не хапала яшчэ, каб…

Андрэй не стаў упарціцца, падняўся:

— Пайду я, Крыстынка! Аслабеў! Смачна ты накарміла, дзякуй табе! Я пайшоў…

Яго не сталі затрымліваць. За ім памкнуўся быў вылезці з-за стала і Васіль, але Крыстына апусціла яго зноў на табурэтку:

— А ты не спяшайся, недалёка ісці. Вазьміце яшчэ па грамульцы, акурат на трох хопіць.

— Дык я й табе пырскану, Крыстынка, — Васіль пацягнуўся да пляшкі.

Крыстына запярэчыла:

— Не-не! Мне досыць! Сваю бабскую норму я й так перабрала. Вы ўжо ўтрох.

Апаражнілі мужчыны і Паўлюкову пляшку. Пасля апошняе чаркі дабралі, бадай што, і яны. Не ў такой ступені, вядома, як Андрэй, але языкі пачалі пакрысе заплятацца. Гаворка ўжо пайшла бадай бязладная. Сцяпан дзякаваў Васілю за вельмі дарэчы нагрэтую лазню, якая як ніколі раней усцешыла ягоныя цела і душу, нешта спрабаваў распавядаць са свайго бадзяжніцтва па былой Заходняй Беларусі. Паўлюк плакаў па сваім хутары, лез абдымацца і цалавацца да Сцяпана, папракаў Васіля, што мала даваў пытлу гультаям і злодзеям у часе свайго старшынёўства, а Васіль больш маўчаў, цмыгаючы і дымячы сваёй заўсёднай у роце газетнай аглобляй…

Крыстына хацела б ужо і легчы, але вымушана была быць пры мужчынскай кампаніі. Пачала гаснуць лямпа — канчалася газа. Крыстына прынесла з

першай хаты і паставіла на днішча перавернутага жбанка сярод стала газнічку, а лямпу над сталом патушыла. Прыкідвала, варта ці не варта ісці ў варыўню, намацаць там і прынесці апошнюю зберажоную ёю пляшку, ці можа абыдзецца сёння тым, што было. Мо ўрэшце і пайшла б, ды тут Васіль заявіў, што йдзе дадому — успомніў, што заўтра яму трэба, душу вынь ды пакладзі, рана ўставаць: ёсць, маўляў, пільная работа. Ён, як і Андрэй кагадзе, не марудзіў: падняўся і за парог.

Ды не паспелі браты, застаўшыся ўдвох, і словам перамовіцца, як расчыніліся дзверы і ў хату шумна, як заўсёды, і нападпітку, таксама як заўсёды, уваліўся Кастусь.

Крыстына ажно разгубілася:

— А божачкі, Кастусёк-дзевярок! Якім жа гэта ветрам? А яшчэ трошкі пазней не мог?

Кастусь жарту не прыняў, прыкрыкнуў:

— Крыстына, не злуй мяне! Стаў гарэлку на стол! — І да Сцяпана: — Сцёпа, братка, я як пачуў, дык ногі падпахі і сюды. Братка, дай жа я цябе пацалую! — Ён, перагнуўшыся цераз стол, ашчарэпіў Сцяпана і моцна чмокнуў яго ў адну шчаку і ў другую. — А мой жа ты братка, я ж ужо думаў ліха яго ведае што, у такой куламесі надта ж лёгка згінуць і знаку не пакінуць. Налівай!

Сцяпан быў рады Кастусю. Ён самы малодшы сярод іх. Мо і з гэтае прычыны Кастусь быў улюбёнцам — малодшаму ж заўсёды больш перападае і мацярыскай, і братава-сястрынскай пяшчоты, увагі і падтрымкі. Ды Кастусь і сам не лыкам шыты: меў дужа добрую, спагадлівую натуру. Дабрыня ягоная была не пазычанаю, а прыроднаю, ад Бога няйначай. Ажаніўся ён, само сабою, пазней за Паўлюка і Сцяпана, пасля таго ўжо, як і Міхась падаўся ў прымакі, і пакуль халасцякаваў, памагаў братам як і чым мог: і будавацца, і на зямлі ўрабляцца. Браты ўжо з ніякаватасці і не просяць яго, а ён усё адно падбяжыць і пасобіць. Ён наогул неяк лягчэй жыў, чым браты, асабліва Паўлюк са Сцяпанам. І не сказаць жа, каб нічога да сэрца не браў. Наадварот, бадай! Рупіўся, каб у сям'і быў дастатак і лад, не менш за старэйшых братоў, але не высільваўся гэтак, як Паўлюк, і не перажываў, калі што выходзіла не па-ягонаму, гэтак, як Сцяпан, і не скараўся лёсу, як Міхась. Неяк умеў знаходзіць ці то сярэдзіну, ці то раўнавагу — і фізічную, і душэўную. Адно кепска — у чарку часцей, чым след, заглядаў. Ды, выходзіла, што і чарка яго чамусьці не так псавала і нявечыла, як каго іншага. Пад чаркаю Кастусь рабіўся нават ці не дабрэйшым. Прынамсі, ніколі ні з кім не сварыўся. Хіба толькі са сваёй Кацярынай. Грызліся яны, як сабакі, і досыць часта. Але, зноў жа, больш жартам, бадай, чым усур'ёз. Прынамсі, ніколі ягоная Кацярына Кастусёвых гузакоў ці сінякоў не насіла.

Кастусь таксама, ажаніўшыся, падаўся ўслед за Паўлюком на хутар, а папраўдзе — на пасёлак з харошаю назваю Новы Быт. І яму таксама давялося, толькі-толькі на новым месцы адбудаваўшыся і не паспеўшы як след акрыяць, здымацца з седала: загадалі ссяляцца ў калгас. Кастусь к таму часу меў спецыяльнасць: паспеў скончыць бухгалтарскія курсы. Таму перавёз хату і хлеў не ў калгас, а ў Загорск: райспажыўсаюз, дзе меўся рабіць Кастусь малодшым бухгалтарам, дапамог атрымаць на ўскраіне мястэчка пляц. Так Кастусь стаўся местачкоўцам. І ўжо наязджаў па святах да братоў у госці. Браты і рады былі, і не рады, бо Кастусь нязменна яшчэ з парога загадваў ставіць на стол гарэлку. Ды, зрэшты, зноў жа гэта быў хутчэй такі ўжо ягоны рытуал, бо выпіваў ён звычайна адну, ад ліха дзве чаркі. Астатняе было ўсяго толькі свайго роду скамароствам.

Тым не менш, калі Кастусь гэтак знячэўку, сярод ночы ўваліўся ў хату, Крыстына не стала чакаць яго чарговага неадступнага патрабавання і збегала ў варыўню. Шанавала і яна, услед за Сцяпанам, гэтага свайго дзевера. А ён жа, да ўсяго, і падлабуніцца ўмеў. Колькі разоў пад чаркаю казаў Крыстыне: «Ніколі не дарую Сцяпану, што перабег мне дарогу. Гэта ж я павінен быў узяць цябе замуж!» Жартаваў, вядома, але, скажыце, якой бабе не мілы такі жарт?!

Сцяпан, вызваліўшыся з братавых абдымкаў, спытаў:

— І як табе собіла даведацца? Мы ж згадвалі цябе тут. Я ж толькі сёння і прывалокся дадому. Хто наказаў?

— А ніхто, братка, і не наказваў. Гэта планіда такая, няйначай! Скажу — не паверыш!

— Дык і скажы!

Кастусь, сеўшы за стол і наліўшы сабе і братам, а таксама грамульку й Крыстыне, з п’янаватаю ўсмешкаю на твары блазнаваў:

— Дык і скажу! Але і Шлёма дайнаўскі не разблытае гэтае галаваломкі!

— Прычым тут Шлёма?

— Шлёма, вядома, ні прычым, але і ён быў бы слабак развязаць загадку, гэтак крута закручаную.

— Ну што ты, Кастусь, цягнеш ката за хвост? Чаго ты вечна прыдурняешся? Якая загадка? Прычым тут Шлёма з Дайны? — не вытрываў і Паўлюк.

— Гэ, табе каб адразу… А ты пасядзі і паслухай. Вуй як Шлёма доўга слухае, каб пасля рашыць. Ён мяне вучыў: не трэба, каб дзела было паперадзе слова. Слухай і раз, і два, а калі трэба, дык і пяць разоў, і толькі пасля рашай. Гэ, Шлёма ёсць Шлёма, таму ў яго і ёсць заўсёды грошы. Гэ, я йшчэ вам скажу: Шлёма толькі з выгляду Шлёма, а розуму і хітрасці ў яго больш, чым у нашага…

— Ну, досыць, Кастусь, — Сцяпан рашуча паклаў сваю руку на яго руку. — Шлёма і праўда ні прычым. Як ты даведаўся?

Кастусь перастаў блазнаваць, распавёў:

— Ужо вечарэла, выйшаў я да калодзежа — вада ў вядры, што ў хаце, скончылася. А тут сусед падыходзіць і кажа: «Слухай, вярнуўся мой сваяк з палону, ён ля Плешніцы жыве. Я там быў па другому дзелу, ажно неўспадзеўку ён у двор заходзіць. І пачуў ад яго, што з ім разам вырваўся з палону і нібыта разам ішоў усю дарогу Сцяпан Кудрэвіч з-пад Дайны. Гэта не твой брат»? Як пачуў я гэта, дык, вады прынёсшы, ногі падпахі і папёр сюды. Добра, чалавек нейкі ехаў, падвёз мяне аж да Гарадзішчанскай павароткі, а то б і цяпер яшчэ дыбаў. Хто б гадаў, га? Вуй, толькі Шлёма мог бы прыдумаць такое!..

— А хай цябе, мой ты Кастусёк! — засмяялася разам з усімі і Крыстына. — Ну, калі гэтак, дык і выпі з дарогі.

— Гэ, ты думаеш, я посны дасюль? Што-што, а ў дарогу я ў кішаню родненькую паклаў. Думаў, прынясу непачатую, ды як было з добрым чалавекам не пачаць? Патроху-патроху, глядзь, а ўжо і ніжэй сярэдзінкі. Во, не маню! — і Кастусь дастаў з кішэні і паставіў на стол апарожненую напалову пляшку.

Слухачы ягоныя зноў не маглі не засмяяцца.

Кастусь, на ўздзіў усім, не спяшаўся браць у рукі чарку.

— Братка ты мой, — загаварыў ён да Сцяпана, — хацеў бы пачуць, што ты перажыў і як удалося апынуцца дома, але — не буду надакучаць, ты ўжо нарасказваў, іншым разам калі і мне раскажаш. За другое ў мяне трывога. Гэта ж, ведаеце ці не, у нас ужо і бургамістр раёна аб’явіўся. Іван Забаўскі,

вы, пэўна, чулі, а ты, Сцяпан, мусіць, і ведаў яго — у земаддзеле рабіў. Такі непрыкметненькі, ціхенечкі, культурненькі. І нехта ж апароў яго, адкапаў. Бацька ягоны, кажуць, быў калісь ці то войтам, ці то панскім упраўляючым... І ўправа раённая створана… Бяруцца новы парадак заводзіць. Дык я і трывожуся: мусіць жа, возьмуцца за камуністаў ды камсамольцаў і ўсіх сачуствуючых? Га, як мяркуеш, Сцёпа? Нікога чужога тут няма, таму і пытаюся.

Зніякавеў Сцяпан, хмель начыста пакінуў яго. Вось табе і маеш! Вось і па ягоным жаданні быць як усе, жыць сабе ціха і непрыкметна пры жонцы і дзецях, пільнавацца гаспадаркі і не лезці на ражон! А ўжо ж было ці не супакоіўся, пагадзіўся ў душы з тым, што так будзе найлепш і найразумней. Паўлюк неаднойчы казаў яму, і мусіць жа праўду, што нічога ён сваім шчыраваннем не выслужыў у савецкай улады, акрамя парцяных штаноў. Ён крыўдаваў на братавы кепікі, бо служыў не за штаны, а таму, што паверыў у праўду новага жыцця. Думалася ж тады, што яно — наўсягды, для дзяцей і ўнукаў. А яго ў адзін момант не стала. Пшык — і няма! І ён воляю лёсу ці выпадку бачыў тое на ўласныя вочы. Было ад чаго, як той казаў, схамянуцца ды задумацца. Одум той быў бясконцы, неадступны і суцэльна бязрадасны. Куды ні сягаў, чаго ні кранаўся — паўсюль паўставалі загадкі ды сумненні. Колішняе бяздумнае і безагляднае веры ў сабе не знаходзіў. Усё больш запалоньвалі душу сумненні. І адносна самога — што было і што чакае яго наперадзе, і наогул адносна таго, што будзе. Немец не вечны, сыдзе з часам, калі нават і надоўга тут атабарыцца. А ўлада колішняя — ці вернецца? Хто дасць гарантыю? Мо пасля немца нешта зусім іншае ўсталюецца? І не царскія парадкі, і не савецкія… Дык жа вось: не чужы хто, а браты родныя змушаюць яго па-ранейшаму быць камуністам, бальшавіком, не пытаючыся нават, хочацца яму таго ці не. Выходзіць, што яны больш за яго вераць у савецкую ўладу? І што ён, Сцяпан, мусіць у такім разе адказваць на Кастусёва пытанне?

Сказаў, не мудруючы доўга, праўду:

— Што я магу знаць, Кастусь? Хто і што мог мне сказаць там, дзе я быў? Ты ж во куды больш ведаеш — бач, якія навіны прынёс. — Ды не паставіў тут кропку. Штосьці бы падштурхоўвала, вымагала яго выконваць сваю ранейшую ролю партыйца, савецкага начальства. І ўжо іншым, бы не зусім сваім голасам дадаў: — Знаю, прадчуваю адно — ціха адсядзецца не ўдасца. Сама горш, калі задоўжыцца ўсё гэта.

Кастусь у знак згоды ўздыхнуў:

— Баюся, задоўжыцца, бо грунтоўна асталёўваюцца. Па ўсім, не на год і не на два.

Уваскрэслы ў Сцяпанавай душы партыец запярэчыў:

— Не можа таго быць, Кастусь! Мо да зімы толькі!

— Не, Сцёпа, не! Я хоць і не Шлёма, але таксама не дурны, ты ж ведаеш. Дык от бачу, нутром чую: на гады гэта! На два, а мо і на ўсе тры, Сцёпа! Павер майму нюху, ён мяне ні разу не падводзіў.

Сцяпан памаўчаў, перш чым што сказаць на гэта. Яшчэ нейкага паўтара месяца назад ён бы рашуча запярэчыў брату з ходу, запярэчыў бы з абурэннем і гневам. Цяпер жа чамусьці Кастусёвы словы не выклікалі ні абурэння, ні гневу. І ўрэшце ён шчыра прамовіў:

— Ну, тады дрэнь дзела. Не толькі я, але і вы можаце не ацалець.

Сцяпан не паспеў і падумаць пра тое, што, напэўна, дарма супрацьпаставіў сябе і сваіх беспартыйных братоў (аб чым падумаў неўзабаве са шкадаваннем), як Паўлюк з ходу запярэчыў:

— А за што яны могуць да мяне прычапіцца? Што я такога зрабіў? І нічо-

га такога рабіць не збіраюся. Араць, касіць, дзяцей, сям'ю карміць… Гэта не правіна, за гэта ніхто караць не будзе.

Ушчэмленая стрэмка, што ныла напамінкам аб колішняй розніцы між ім і братамі, пад'юджвала Сцяпана ўжо ці не са злосцю запярэчыць Паўлюку, але не паспеў. Замест яго Паўлюку адказаў Кастусь:

— Слухай, Паўлюк, вуй-вуй, і што ты кажаш? А за што нашага Міхася энкавэдэ забрала? Ты ж ведаеш, ён ніякім польскім шпіёнам не быў. Дык ты думаеш, гэтыя будуць лепш разбірацца, хто вінаваты, а хто не?

— Будуць! — буркнуў Паўлюк. — Знаю адно: калі буду ціха і спакойна жыць, працаваць на сваёй зямлі і гадаваць дзяцей, дык каму я буду замінаць, скажы?

— Гэта ты не ў мяне пытайся. Запытаеш у тых, хто цябе да сценкі паставіць. Толькі ці пачуюць яны цябе, Паўлюк?

Той узвіўся, ажно падскочыў на крэсле:

— За што? За што мяне да сценкі? Хіба за тое, што маю брата камуніста, га, Сцяпан? — І як спахапіўшыся, крутнуўся да Кастуся: — Кастусь, ты папытай у яго: за што?

У хаце павісла цішыня. Напятая і звонкая. Стала чуваць, як за грубачкай на лежаку пасопвае, трошкі бы ўсхліпваючы, малы Сашка. Цішыня гэтая пагражала абарвацца благою сваркаю. І першай адчула гэта сваім жаночым сэрцам Крыстына. Падхапілася яна, ступіла да Паўлюка, паклала руку яму на плячо, загаварыла:

— Саступі, Паўлючок! Сцёпа не адышоўшы яшчэ, пашкадуй яго. Гэта ж як добранька, што і ты прыйшоў, і Кастусёк. Не трэба такога гаварыць. Бо можна дагаварыцца ліха яго ведае да чаго. Лепш ужо яшчэ па чарцы вазьміце. Во, яны ж якраз налітыя, а вы й забыліся…

Падмывала Сцяпана сказаць Паўлюку: «Ну дык ідзі і скажы, што твой брат-камуніст вярнуўся дадому, хай яго расстраляюць разам з сям'ёй, а цябе пакінуць у спакоі…» І рады быў, што не сказаў, што апярэдзіла яго Крыстына. І зноў, каторы ўжо раз за гэты дзень, паглядзеў на яе з удзячнасцю і з абуджанай у лазні закаханасцю.

Невядома, ці дайшло сказанае Крыстынай да Паўлюка, прынамсі, выгляду не падаў, хоць і прамаўчаў, а вось Кастусь пачуў яе і зразумеў правільна. Бо тут жа ўзяў у руку чарку і завуйкаў:

— Вуй-вуй, і хто б гэта калі сказаў, што перад носам будзе стаяць поўная чарка, а Кастусь будзе глядзець на яе і не шманаць? А браткі мае, а родненькія, давайце змыем гэты грэх! — І, не чакаючы братоў, кульнуў чарку ў рот.

Сцяпан з Паўлюком выпілі моўчкі. Моўчкі пачалі зажоўваць. Акурат зажоўваць гарчэчу, а не закусваць, бо паспелі ўжо здаволіцца з ядою. Адзін, бадай, Кастусь мог бы і з'есці што-небудзь, бо, пэўна ж, не вячэраў, але ён пры гарэлцы заўсёды амаль не еў, пітво менавіта ўсяго толькі сім-тым зажоўваў. Гэтак і зараз. Укінуў у рот скрылёк агурка з кусмачком хлеба — вось і па ядзе. І, заўсёдны хітраванец, зноў пачаў цвяліцца — знарок, вядома, каб недарэчны Паўлюкоў жарт хутчэй забыўся. Ні з таго, ні з сяго местачковы базар успомніў:

— Во, скажу, каб не забыцца. У нас на базары мяса — заваліся! Калгасы падзялілі, у тым ліку і быдла, дык многія парэзалі: і бычкоў, і авечак, і свіней. Грошы надта не бяруць, больш на абмен: на соль, запалкі, газу. А яшчэ, дайце веры, — на цвікі, на што іншае жалезнае: вядро, рыдлёўку, балейку якую. І гэта, Сцяпан, таксама пра нешта гаворыць. Раз людзі запасаюцца, значыць, загадваюць надоўга. А можа, хто нешта і знае. Зямля, кажуць, чуткамі поўніцца. У душу чалавеку не залезеш, а тое, што ён робіць, кідаецца ў вока.

Сцяпан, стараючыся хутчэй пазбавіцца ад непрыемнага асадку ў душы, ахвотна падтрымаў пачатую Кастусём гаворку.

— І правільна робяць, — сказаў. — Што самі спажывуць, што людзям збудуць. Бо калі ўлада паявілася, яна бяздзейнічаць не будзе. Фронт нямецкі хто карміць будзе? З Германіі не навозяцца. Наша будуць жэрці! Гэта ж і дурню ясна! Вось і возьмуцца за калгаснае і саўгаснае, што ацалела, і за калгаснікаў, за вяскоўцаў — пачнуць іх трэсці і абдзіраць, як ліпку.

— Дык ужо ўзяліся, Сцяпан! Даводзяць планы здачы яек, жывёлы, малака, збожжа кожнай вёсцы, кожнаму двару. Гэта ж ужо не чуткі. Таму людзі і збываюць жыўнасць. — Кастусёў голас страціў ноткі пацвельвання і несур'ёзнасці.

— От бачыш! — Сцяпан не прамарудзіў пагадзіцца з малодшым братам, быццам трошкі як задаволены тым, што меркаванне ягонае пацвярджаецца. — Каб зразумець гэта, не трэба быць і Шлёмам, як ты кажаш.

Нечакана і Паўлюк азваўся, прытым цалкам ціхамірна і як бы сябе ў чымсьці дакараючы:

— От як яно паварочваецца! А я, дурань, і не падумаў пра гэта. Хоць яно ясна, як божы дзень. Значыцца, пакуль не позна, хаваць сёе-тое трэба, прыкопваць у непрыкметных месцах, няўгледных для чужога вока.

— Твая праўда, Паўлюк. Мусіць, гэтак зрабіць будзе разумна, — падтрымаў яго Кастусь. — Адно пільнавацца трэба, каб сваё вока, суседскае, да прыкладу, не пабачыла. Чужое яно і ёсць чужое, яно, бадай, і не падумае шукаць у нязвычным месцы, ад сваіх жа мышапораў цяжэй уберагчыся.

Гаворка пра гэта неспадзявана задоўжылася. Быццам ужо заўтра кожны з іх будзе заняты акурат гэтым клопатам, пачалі прыкідваць, што перш-наперш варта было б прыхаваць. Усе трое адзінагалосна пагадзіліся, што найперш трэба парупіцца і надзейна прыхаваць лепшае адзенне, швейныя машыны (іх мелі гаспадыні ўсіх трох братоў), веласіпеды (летась набыў Сцяпан, а сёлета і Кастусь), патэфон (быў у Паўлюка, упрасіла купіць старэйшая дачка Лёдзя, ужо амаль нявеста), а таксама, само сабою, крыху пазней — збожжа і бульбу. Жыўнасць схаваць, па ўсім, наўрад ці ўдасца, з ёю трэба будзе абыходзіцца пры кожным выпадку па-рознаму — выводзіць у кусты ці ў равы на час небяспекі, абсталяваць хітрую схованку ў тым жа хляве альбо пуні. І гаварылі пра ўсё гэта на дзіва спакойна, засяроджана, амаль дзелавіта — найперш Паўлюк, але і Сцяпан з Кастусём — таксама. Быццам гаворка ішла пра нешта самае звычайнае, будзённае, шмат разоў імі робленае і даўно вядомае. Нічога ні ў кога не выклікала спрэчак і нязгоды, паразуменне было цалкавітае. І, гледзячы на іх збоку, можна было б падумаць, што гавораць браты пра нейкія зусім мірныя чалавечыя клопаты і турботы і што наогул у свеце пануе мір і спакой, ніхто і нідзе нікога не забівае, не рвуцца на зямлі снарады і бомбы, не палыхаюць і не куродымяць вёскі і гарады. Адзінае, што ў гэтай начной вясковай хаце нагадвала аб вялікай бядзе, што абрынулася на гэтую зямлю і захліснула і яе, гэтую хату, была цьмяная газнічка на днішчы перавернутага жбанка пасярод стала...

Было ўжо за поўнач, але браты не спяшаліся разыходзіцца. Што іх трымала, змушала сядзець за гэтым даўно астылым і ўжо не надта апетытным, з недаедкамі ў талерках сталом? Калі б хто знячэўку спытаў у іх пра гэта, наўрад ці пачуў бы ў адказ што-небудзь уцямнае. А, між тым, лучыла і не адпускала іх падсвядомае, але неадчэпнае пачуццё, вострае і балючае прадчуванне небяспекі, разуменне таго, што калі гэта і не апошняе іхняе сумеснае застолле, дык, прынамсі, апошняе на немалы будучы час, можа быць, не на адзін год. Сёння яны ўсе трое ўпершыню, бадай, гэтак блізка задумаліся над

тым, што здарылася са светам і з імі самімі. Не, сказаць гэтак будзе, мусіць, не зусім праўдзіва. Думаць то яны думалі пра гэта і раней, не адзін і нават не дзесяць разоў. А вось пра тое, што рабіць акурат ім, кожнаму паасобку і ўсім разам заўтра ці паслязаўтра, праз тыдзень ці праз месяц, задумаліся, папраўдзе, якраз ці не сёння. І пітво не падвясельвала іхніх думак — думкі былі сумныя і трывожныя.

Першапачатковае радасці ад усведамлення таго, што ён нарэшце дома, што амаль паўтарамесячныя пакуты і жахі скончыліся, у Сцяпана ў застоллі не паболела. Наадварот, бадай. Зноў вярнулася да яго ранейшая, паланянская скруха, хоць і трошкі іншага зместу. Наіўныя спадзяванні, што дома, як сказаў яму ў першыя ж хвіліны сустрэчы Курыла, і сцены памагаюць, будуць, гэта ўжо відавочна, марныя. Нікуды ні ад сябе, ні ад людзей ён, Сцяпан, не ўцячэ, не схаваецца, як бы ні хацеў таго. Творыцца такое вялікае зло, што не выпадзе нікому ўцячы ці схавацца, — усе будуць уцягнуты ў крывавы і бязлітасны вір. І зусім усё роўна, ці партыйны хто, як ён, Сцяпан, ці беспартыйны, як ягоныя браты Паўлюк і Кастусь. Зведаўшы неспадзеўны палон, усё тое, што выпала яму пабачыць і вытрываць там, ён, Сцяпан, зразумеў гэта. І зразумеў даўно, бадай што ў першыя дні знаходжання за калючым дротам. Прынамсі, вельмі хутка пасля таго, як апынуўся там. Калі іх, бяззбройных, бралі ў палон, калі ён похапкам прыгрэбваў пясок, хаваючы свой партбілет, Сцяпан яшчэ наіўна верыў, што гэта можа яго ўратаваць. Бо з партбілетам фашысты расстралялі б яго з ходу, на тым жа месцы пад той раздвоенай вышай камля сасною. А пасля пабачыў, што гэтак жа мала шанцаў ацалець, выжыць у тым пекле было і ва ўсіх іншых, у тых, што ніколі не мелі партыйных білетаў. Усяе і розніцы, што адны гінулі раней, а іншыя — пазней.

І ўсё ж тое першае памкненне — каб выратавацца, трэба расстацца з білетам — асела ў галаве. Ён, Сцяпан, вяртаўся да таго моманту ў думках шмат разоў. Мо таму й сон той сасніў. Спачатку бадай што падсвядома прыдумаў яго, а пасля ўжо — сасніў. І сон так уразіў яго, так запаў у памяць, што Сцяпан ці не адразу паверыў у ягоную яву. І ўжо яго, выдавала, пакінула прыкрае, ажно балючае пачуццё сораму і страху за той свой, як лічыў, слабавольны, не варты годнасці сапраўднага камуніста ўчынак. Бы раптоўна звыкся з тым сорамам і страхам, амаль пагадзіўшыся, што партбілет ён сапраўды здаў на захоўванне. І дарма, што не памятае ні нумару вайсковай часці, ні прозвішча таго камісара на сцэне звычайнага вясковага Дома культуры. Гэта толькі ягоная, Сцяпанава, тайна і больш нічыя. Прыйдзе час і нагода, дык уведае яе і той, каму трэба будзе ведаць. А пакуль што нават і Паўлюк з Кастусём яе ведаць не павінны — далей ад бяды.

Ён, Сцяпан, нават хацеў бы, калі на тое, каб яны на ягонае партыйства наогул забыліся. У цяперашніх варунках згадваць пра яго недарэчна, а галоўнае — небяспечна. Ды як ім тое давесці? І загадаць не загадаеш. Прывыклі яны, што брат іхні ў начальстве ходзіць, хай сабе і невысокім. Нядаўна тым і паганарыцца можна было. А цяпер выйдзі ды паганарыся! Гонар той тут жа не па прымаўцы — папраўдзе бокам вылезе…

Лезлі Сцяпану такія думкі ў галаву ў час гэтай хай і не зусім цвярозай гаворкі з братамі. Лезлі, бо і Паўлюк, і Кастусь, як знарок, акурат акалічнасць, звязаную з братавай партыйнасцю, і выпіналі, раючы яму асцерагацца, падказваючы, як сябе паводзіць, вучачы спосабам канспірацыі і наладжванню месц-хованак. Асабліва стараўся, на ўздзіў Сцяпану, Паўлюк. Меланхалічны ўсё ж ягоны старэйшы брат. То, здаецца, за горла ўхопіць, каб задушыць, то раптам расчуліцца і, як баба, слязу пусціць.

— Ты не вылазь надта на людзі, — чуў Сцяпан трохі надрывісты, з высокімі ўсхліпамі, як ва ўсіх не надта ўраўнаважаных людзей, Паўлюкоў голас. — Хто ведае, што ты вярнуўся, а хто й не. Цябе ж усюды ведаюць, не толькі ў нашых сёлах. І ўсе знаюць, што пайшоў ты на фронт. От і не вытыркайся без патрэбы. Звягаць будуць менш. А табе якраз гэта й трэба.

Сцяпан удзячліва ківаў галавою і ахвотна пагаджаўся з братам:

— Твая праўда, Паўлюк. Гэта ўсё так. Але ж, — разводзіў рукамі, — шыла ў мяшку не схаваеш — усё адно вытыркнецца. — І дадаваў, нібы апярэджваючы Паўлюкова пярэчанне: — Лезці на вочы, канешне, не трэба, ды толькі ж і ў запеччы ўвесь час сядзець не будзеш.

— Увесь час не будзеш, але часам і пасядзець трэба, — настойваў і Кастусь.

Сцяпан з пяшчотаю паглядзеў на аднаго брата, пасля на другога, нават, хоць і не надта весела, усміхнуўся, сказаў:

— Каб жа яно ўсё ад нас саміх залежала! А то ж можа гэтак раптоўна на бяду крутнуцца, што і вокам міргнуць не паспееш. Вы думаеце, вам лацвей, ці лягчэй будзе? Дай бог! Толькі здаецца мне, што ўсе мы з адною доляю заручаныя. На ўсіх нас нямецкая дубіна паднята. — Ён усё ж не мог адразу і цалкам перамяніцца, адхрысціцца ад сябе ранейшага.

— На ўсіх, ведама, але на цябе — першага, — Паўлюк стаяў на сваім. — І ты ведаеш, чаму. Бо — парцейны! От і асцерагайся! І ты, Крыстына, глядзі. Ледзь што пачуеш — адразу ж Сцяпана папярэдзь. І дзецям накажы, каб нікому нічога.

— Анягож, Паўлюк! Ці ж я не ведаю?! — Крыстына азвалася бы пакрыўджана.

— А нагадаць лішні раз не зашкодзіць! — павысіў голас Паўлюк. — Малых наогул больш пры сабе трымай, пад наглядам, каб не ляпнулі дзе чаго па-дурному. А табе, Сцяпан, яшчэ вось што скажу. Мо і зарана пра тое, але ты паслухай. Глядзі сам, ведама, але каторую ноч мо і ў пуні, ці ў хляве на вышках пераспі. Ці мала што можа быць.

І зноў здзівіўся Сцяпан. Гэтым разам — з такой Паўлюковай прадбачлівасці. Адкуль гэта ў яго? Здаецца ж, не даводзілася яму нешта падобнае рабіць. А, тым не менш, праўду кажа! Самому такое ў галаву пакуль не прыходзіла. Ад гэтае думкі ажно паківаў галавою Сцяпан, нібы кажучы сам сабе: «Ці мала чаму яшчэ навучыць час! Усё яшчэ, можа, толькі пачынаецца…»

Пацягнуўся рукою да Паўлюковага пляча, сціснуў пальцамі, сказаў:

— Дзякую, браток! Разумная парада! — І дадаў: — Сам не даўмеўся, а меркаваў жа…

Дагаварыць думку да канца перашкодзіў Кастусь. Ён нечакана напусціў на твар маску блазна і ці то хіхікнуў, ці то плямкнуў губамі і языком:

— Вуй-вуй, якія дамарошчаныя канспіратары-падпольшчыкі! А я табе, Сцёпа, і большае нешта скажу. У таго майго суседа, пра якога я казаў, радыёпрыёмнік ёсць. Спраўны. Слухае часам Маскву. І аднойчы, быццам мімаходзь, сказаў: гавораць пра нейкіх партызанаў у тыле немцаў. Быццам ужо ёсць недзе такія. Я дурнем прыкінуўся, нібы й не зразумеў, пра што ён, прапусціў міма вушэй. Здаецца мне, што і да свайго сваяка пад Плешніцу ён не проста так ездзіў. Нешта варыцца, Сцёпа! Энкавэдэ не спіць!

Сцяпан яшчэ больш збянтэжыўся. Ён перад братамі выяўляецца самым што ні ёсць недарэкам. Страх той, пэўна, сапраўды ў ім сядзіць дасюль, ці мо ад радасці, што дадому дапяў, розум страціў. Расслабіўся, размяк, раскіс, далей свайго носа ўжо і бачыць нічога не хоча. А гэтага ж — ну, партызанаў

тых самых — трэба было чакаць. Яшчэ ж тады, як іх, партыйцаў і актывістаў, адпраўлялі на Мінск, пра гэта гаварылася. Ён жа добра памятае: усе, маўляў, на фронт не трапяць і не эвакуіруюцца, значыць, застануцца для работы ў тыле. А для якой работы? Вядома ж, для арганізацыі партызанскай барацьбы. Ды пасля, у раптоўнай і надта ж неспадзеўнай калатнечы адышло ўсё тое на задні план, апусцілася, як кажуць, на дно, усе думкі круціліся адно вакол таго, як выжыць, як вырвацца на волю і патрапіць у родныя мясціны, дабрысці да сваёй хаты, дзе і сцены памагаюць. Ды вось як яно выйшла: не паспеў і ачомацца, акрыяць хоць збольшага, як новая ява нагадала аб сабе, паўстала з усімі сваімі нялёгкімі, няпростымі, мо нават шмат у чым і нявырашальнымі турботамі і вымогамі. Бачылася ўсё трошкі ў іншым святле. Прынамсі, што, калі апынецца дома, будзе ў яго час спакваля, няспешна ўсё абдумаць-узважыць, убачыць і сябе трошкі нібы збоку, і вызначыцца з людзьмі ў новых абставінах і акалічнасцях. Уцячы ці нават проста ўхінуцца ад іх яму, Сцяпану, адназначна не суджана. Ды, папраўдзе, ніякавата яму, як і раней, думаць пра такое. Не сёння і не ўчора абраў ён свой лёс і выракацца яго не так і проста, хоць лёс той і павярнуўся нечакана такім вось выпрабоўчым, трывожным і небяспечным бокам. Смяртэльна небяспечным, у чым паспеў пераканацца. І тут Паўлюк з Кастусём кажуць праўду: трэба дзейнічаць асцярожна, на ражон не лезці. Ды калі б і не гаварылі, і сам ён заўтра ці паслязаўтра нікуды не кінецца каго-небудзь шукаць ці апытваць. Не будзе ў яго асаблівай хэнці рабіць тое і праз тыдні ці нават месяцы. Непамысна рабілася, але адчуваў, што ранейшага партыйнага свербу, маладога камсамольскага імпэту ўжо няма ў ім. І вінаватыя ў тым былі не толькі абставіны, якія вымагалі, дыктавалі зусім іншыя паводзіны — асцярожныя, узважаныя, абачлівыя. Сёння першаму стрэчнаму не адкрыешся і ў яго нічога не папытаеш. Калі на тое, дык, мусіць, нават і з братамі не трэба ў гэтым плане пакуль шчыраваць, выкладваць, што ў яго ў душы і галаве. Гэтак будзе лепш найперш для іх жа саміх: менш будуць ведаць, дык будуць далей ад ліха. І яму, Сцяпану, будзе спакайней.

Таму і сказаў братам:

— Пакуль што буду адлежвацца, вяртаць сілы. А там будзе відаць… Пабыў я, не думаючы, не гадаючы, у самім пекле, можна сказаць, на тым свеце, і зноў туды не хачу. Прынамсі, спяшаца не стану. Найперш зразумеў адно: кволасць і неабароненасць чалавечага жыцця. Мёрлі там людзі, як мухі. Выжыў я, казаў ужо вам, цудам. Смерць у вочы глядзела штодня, штохвілінна. Нікому таго не пажадаю. А ў такія хвіліны жыць хацелася, як ніколі раней. Бадай, на ўсё забываешся, адно цвеліць — ацалець. Бо што даражэйшае ў чалавека за ўласнае жыццё ёсць? Анічога. Хіба жыцці сямейнікаў, дзяцей. От аб гэтым нам і трэба найпярвей думаць: як абараніць іх.

— Я, Сцяпан, сябе не пашкадую, а іх у крыўду не дам. Усё вытрываю, любую знявагу, любое паніжэнне і прымус! — ледзь не гукнуў Паўлюк. — Калі што, дык горла перагрызу, вілы ўхаплю…

— Віламі, братка, не наваюеш, — пасміхнуўся Кастусь. — Ты рабі гэтак, як я. Дзе хітрым, а дзе дурненькім прыкінься. Ат, ведама: дурны мужык, як варона…

Паўлюк агрызнуўся нязлосна:

— Не ўмею я блазнаваць, як ты! Я, калі што…

Кастусь запярэчыў усё з тым жа сваім посмехам:

— І дарма! Блазны, братка, і каралёў утаймоўвалі.

— Ну ты й даеш, Кастусь! Ад каго толькі й набраўся! — Паўлюк памякчэў.

Кастусь жа па-ранейшаму трошкі блазнаваў:

— Людзей разумных шмат, братка! Толькі слухаць трэба ўмець. Каб у адно ўлятала, а з другога не вылятала...

Слухаў Сцяпан нязлосныя братавыя перабрэхі ці не з усмешкаю, ды нечакана — ажно скалануўся нутром! — апяклі яго згадкаю нядаўнія Кастусёвы словы пра тое, што энкавэдэ не спіць. Тады яны чамусьці не зачапілі яго, а зараз знячэўку ўсплылі такім вострым напамінкам, што яго папраўдзе дрыжыкі працялі. Як ён мог забыцца на гэта?! Ён жа лепш за Кастуся ведае, што энкавэдэ акурат не спіць. І ўсім астатнім спаць не дае. Не дасць спаць і зараз. Тым больш — зараз! Калі людзі апынуліся пад чужынцам. Калі страх стаў папраўдзе ўсеагульным. Гэта акурат і ёсць улюбёнае поле яго дзейнасці. Ясна, як божы дзень: не ўдасца яму, Сцяпану, застацца ўбаку, адседзецца ў схованцы, нават самай патаемнай. Не захоча сам адшукаць шляхоў і спосабаў барацьбы з ворагам, энкавэдысты яго самога знойдуць. Пад зямлёй знойдуць!..

І згасла лагодная — ад любасці да братоў — усмешка на Сцяпанавых вуснах. Крутнуў ён галавой, быццам страсаючы з сябе непрыемную, нейкую сцюдзёную здранцвеласць. Дома добра, вядома, але — колькі яно будзе доўжыцца, гэтае добра? Мо ўжо заўтра можа абарвацца, нечакана скончыцца. Чым і як? Не падказвалі таго ні думка, ні ўяўленне. Адно відавочна: хоцькі-няхоцькі, а давядзецца і яму, Сцяпану, нешта рабіць, а не адседжвацца. І не дападныя энкавэдысты будуць тут вінаватыя. Найпершы віноўнік — быццам бы і знаны, ды, аказваецца, зусім нязнаны, а, галоўнае, надта ж неспадзеўны, вераломны і бязлітасны вораг. Аніякага міру з ім, па ўсім, не будзе.

Перапыніў братоў Сцяпан, сказаў да абодвух:

— Не спрачайцеся попусту. Што і як яно папраўдзе будзе, можна толькі гадаць, гэта сёння наўрад ці хто і ведае. Я ж знаю толькі адно: не будзе з немцамі ў нас міру. Не пра сябе кажу — пра ўсіх нашых людзей. Тое, што я пабачыў, што адчуў не толькі скураю, але і душою, нутром, усімі касцямі сваімі, гаворыць за гэта. Страшэнная бяда звалілася на нас. На ўсіх чыста, Паўлюк…

— Вуй-вуй, і ты нас палохаеш, братка! Дык мы ўжо пужатыя! — Кастусь быў у сваёй талерцы.

— Не я палохаю, Кастусь, — ціха, але цвёрда сказаў Сцяпан. — Вораг палохае. Тут не да жартаў, брат.

Кастусь паёрзаўся на табурэтцы:

— Ну, калі не, дык не...

Адчуваў Сцяпан, што трэба было б пашукаць нейкія іншыя словы ў гаворцы з братамі, блізкімі, роднымі людзьмі, ды словы тыя не знаходзіліся. Прамаўляліся звычныя, тыя, што былі з ім цягам доўгіх гадоў, што друкаваліся ў газетах і гучалі з радыё. Мо таму, што адчуваў, бачыў: і Паўлюк, і Кастусь глядзяць на яго ўсё ж не проста як на брата, што вырваўся з пасткі і вярнуўся дадому, а па-ранейшаму — як на партыйца. І гавораць з ім, зважаючы акурат на гэтую ягоную адрознасць ад іх.

— Не я палохаю, вораг палохае, — паўтарыў. — Я з вамі не палітзаняткі праводжу. Кажу, каб вы зразумелі, што гэта не той немец, не васямнаццатага года. Гэты немец — страшны, нялюдскі вораг. Такога ці бачыў калі свет. Адным словам, фашыст. А пра фашыстаў праўду пісалі, не выдумлялі…

— Дык і да чаго ты гнеш? — зноў набычыўся Паўлюк, літаральна колькі хвілін назад зусім памяркоўны, нават лагодны.

Сцяпан адказаў не адразу. Не хацелася яму спрачацца з Паўлюком. Але і маўчаць не выпадала: брат жа чакае адказу. А гнуў ён, як Паўлюк сказаў,

усяго да таго ж самага, пра што ўжо казаў сёння тут жа, за гэтым сталом: што адсядзецца ў зацішку нікому, каб хто й хацеў, не ўдасца, што трэба настройвацца не проста на сядзенне ў запечку, а на гатоўнасць да сустрэчы з вялікай бядою, з ліхой часінай, а мо нават, калі давядзецца, і да пэўнага адпору ворагу, і не абавязкова са зброяй у руках, мо нават акурат без зброі, сілаю веры і духу. Кожнаму на сваім месцы і ў меру сваіх сіл і здольнасцей. У тым ліку, як Кастусь кажа, і хітрасцю. Раней, за дротам і ў дарозе дахаты, не думаў пра гэта Сцяпан. Думалася тады аб адным: вырвацца, выжыць, ацалець. Урэшце і настроіў сябе, бадай, толькі на гэта. Маўляў, з яго досыць, яму хапіла, наваяваўся. Ацалее, вернецца да сям'і, дык будзе ціха і непрыкметна жыць, аберагаць і гадаваць дзяцей. Але от і дня не прабыў дома, а ўжо высветлілася, відочна акрэслілася, што планы тыя былі цалкам наіўныя і марныя. Каб зразумець гэта, досыць было нават гэтай застольнай, не надта цвярозай гаворкі з братамі, з суседам і сябрам юнацтва.

Уздыхнуў Сцяпан, паныла сказаў:

— Да таго, Паўлюк, пра што мы і гаварылі: трэба нейк супрацьстаяць бядзе, не паддавацца, змагацца з ёю.

— Усім у партызаны? — Кастусь знарочыста вырачыўся на Сцяпана.

— Ну й памяло ў цябе, Кастусь! Сказаў абы-што! У партызаны… Хоць, як сам жа казаў, яны нібыта і ёсць ужо. А калі няма, дык будуць. Але добра было б, каб і той, хто будзе дома, з дзецьмі і жонкаю, хто будзе араць і сеяць, быў бы быццам і пакорлівы, ды — не скароны. Не на каленях. Стаячы на каленях ніякага адпору не дасць. Той, хто на каленях, хутчэй і гіне. Па схіленых карках заўсёды гулялі і панскія бізуны, і казацкія шашкі. Сіла пакуль што на яго баку, але мірыцца з лёсам, скарацца не трэба…

Паўлюк незадаволена матлянуў галавою, запярэчыў:

— Мы табе раілі па-брацку, Сцяпан, каб усё добра было, каб ты галавою без пары не налажыў, бо табе дзяцей яшчэ падымаць трэба, а ты нам і праўда як на палітзанятках…

Сцяпан спахапіўся:

— Не, Паўлюк, не! Якія палітзаняткі? Мо словы й праўда трошкі не тыя, але… Мо не ўмею я інакш, развучыўся па-простаму, па-чалавечы, за што выбачайце. А сказаць хачу адно: суцяшаць нам саміх сябе, што мо неяк абыдзецца, не варта, трэба настройвацца на горшае, на страшнейшае, чым мы сёння з вамі думаем і ведаем. Каб пры выпадку, калі прыцісне, быць гатовым не толькі схавацца, уцячы ад бяды, але мо і адпор даць.

— Дык так бы й казаў, — унурыўся, не падняў вачэй Паўлюк.

Прамаўчаў Сцяпан. Падумаў пра тое, што нават і з братамі ранавата яшчэ называць рэчы сваімі імёнамі. Не хацеў, а, мусіць жа і праўда, сказаў нешта не тое і не так. І Паўлюк, і Кастусь заклапочаны адным: як ацалець, выбавіцца з найменшымі выдаткамі з бяды, у якую нечакана трапілі. Гэткі ж клопат трывожыць і турбуе і пераважную большасць людзей. І сам ён ці даўно таксама ні пра што іншае не думаў. Не хоча думаць і цяпер. Цьмяна, а фактычна зусім не ўяўляе, што будзе рабіць, як жыць пасля таго, калі крыху ачуняе, паздаравее ды падужэе. Канешне, не можа быць і гаворкі пра якое-небудзь супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі. А што тады? Нейкі супраціў? Якім чынам і ў якой форме? Не думалася пра гэта. Нідзе і ні разу. Ажно пакуль Кастусь не згадаў пра партызанаў. Але й тады, як пачуў, не ўзнікла ў яго думкі аб тым, што трэба і яму пашукаць з імі сувязі. Гэта, маўляў, павінна адбыцца неяк само па сабе, без асаблівых Сцяпанавых высілкаў. Нейкім адным днём і нейкім чынам усё стане на сваё месца.

І толькі вось цяпер, калі Паўлюк нечакана перапыніў яго сваім пытаннем аб тым, да чаго ён гне, цюкнула Сцяпану, што партызанства, пэўна, гэта і яго дарога. Іншай, па ўсім, няма і наўрад ці можа быць. Для яго. Ну, а для братоў? Добра ведаючы аднаго і другога, Сцяпан разумеў, што яны тут з ім не будуць хаўруснікамі. Яны, вядома, і немцам служыць не будуць, але і ў партызаны не пойдуць. Найперш — Паўлюк. Зацяты ён, не такі адыходлівы, як Кастусь ці сам ён, Сцяпан. Крыўду, нанесеную яму зносам ягонага хутара, ягонай мары, Паўлюк і ў магілу з сабой забярэ. Кастусь жа ўстрымаецца па іншай прычыне. Не змагар ён па натуры сваёй. Лёгка жыве, трошкі як бы проста з невялікай гары коціцца. Калі дзе што раптам пачынае перашкаджаць, дык не намагаецца сам прыняць тую перашкоду, а прыкінецца бедненькім і кволым недарэкам: маўляў, пашкадуйце мяне, людцы добрыя! І неяк так атрымліваецца, што людзі акурат і пашкадуюць, памогуць, паспрыяюць небараку. Цяпер, пад немцам, Кастусю пэўна цяжэй будзе, чым Паўлюку, хоць, папраўдзе, хто яго ведае. Апошняга ягоная празмерная зацятасць якраз можа і падвесці…

Вось на што і куды негадана-нечакана вывела Сцяпана думка пра тое, што пакорліва скарыцца акупантам і тым самым здабыць хоць нейкую мажлівасць выжыць і ўратаваць ад згубы дзяцей наўрад ці каму ўдасца, што да паратунку вядуць зусім іншыя шляхі — шляхі супраціву і барацьбы, а не сляпое пакоры. Ды пра ўсё гэта гаварыць з братамі ён, Сцяпан, прынамсі сёння — не будзе. Лепш, для канчатковага супакою, запросіць узяць яшчэ па кроплі. Мо ўжо і на адыход, бо, па ўсім, і ў газнічцы, здаецца, газа канчаецца…

— Цыркану яшчэ пакрысе,— узяў Сцяпан пляшку ў руку. — Не супраць?

— Ну, хіба на дарогу, — сказаў Паўлюк.

Кастусь узяў са стала налітую чарку моўчкі.

Сядзела з імі, трохі клююючы носам, і Крыстына. Іншым разам яна б даўно пайшла ды лягла, а сёння штосьці яе не пускала. Што? Пэўна, нейкі нязнаны дасюль жаль да Сцяпана. Жаль і нейкая таксама нязнаная дасюль, неўсвядомленая трывога. Яна прызвычаілася бачыць Сцяпана моцным і ўпэўненым, які рэдка калі ў чым-небудзь сумняваўся і, бадай, ніколі не вагаўся, калі трэба было нешта зрабіць ці куды пайсці. Яна, можа, найперш і пакахала яго за гэта, рашучага і бясстрашнага маладога камсамольца. Пакахала так моцна і аддана, што ён хутка і досыць лёгка перацягнуў яе ў сваю веру, і яна смела, адкрыта, наросхліст пайшла за ім і з ім у абяцаную «светлую будучыню». І ніколі не сумнявалася ў правільнасці свайго выбару, свайго лёсу. І ўсюды адстойвала, найперш перад вясковымі жанчынамі, ягоную праваты і сваё ўласнае права жыць гэтак, як жыла, па-новаму, без малітваў і абразоў у хаце. І радавалася, што людзі, у тым ліку дзеўкі і маладыя, як яна сама, бабы не асуджалі яе, а галоўнае — яго, яе Сцяпана, бо паводзіў сябе і жыў ён амаль па-хрысціянску, па-боску: не курыў, чарку браў гады ў рады, не мацюкаўся, быў добрым, уважлівым і спагадлівым да людзей, не крыўдзячы нават і тых, хто асабліва і не варты быў добрага слова, пільнае ўвагі. І калі Сцяпана нечакана мабілізавалі, Крыстына разгубілася. Што яна будзе рабіць адна з такою кучаю дзяцей? Вядома, яе Сцяпан гаспадаром і бацькам быў неважнецкім, не ў прыклад іншым мужчынам, якія дбалі найперш аб сям'і, аб дабрабыце і дастатку ў хаце. Бачачы, што ў яго на першым месцы грамадскі клопат, Крыстына ці не з першых дзён іх сумеснага жыцця ўзяла на сябе практычна ўсю нялёгкую ношку па вядзенні сямейна-хатняй гаспадаркі. Даставалася ёй, вядома, але яна не наракала: была маладая, дужая, спрытная і здатная да ўсяго, у тым ліку да сякеры і касы.

Яна абрадавалася Сцяпанаваму вяртанню гэтак моцна, што й расказаць каму-небудзь наўрад ці змагла б. Пабачыўшы яго, змучанага, але жывога, Крыстына аб адной хвіліне як уваскрэсла. Адчула сябе, і ёй ні кропелькі не сорамна ў гэтым прызнацца, зноў маладой, дужай, здольнай горы перавярнуць. Быццам вярнулася ў маладосць. Дарма, што вайна, што немец прыйшоў: цяпер ёй нічога не страшна. Усё будзе добра, бо з ёю зноў побач яе Сцяпан — упэўнены, мэтаімкнёны, непахісны!

Ды гэтае пачуццё насіла яе на сваіх крылах усяго толькі да вечара. А як пасядзела ў наспех самой жа падрыхтаваным застоллі, як паслухала мужчынскую на дзіва цвярозую (гарэлка быццам як не брала іх) гаману, дык у нейкую хвіліну не так галавою, як сваім бабскім нутром адчула, што нейкі не той ужо яе Сцяпан, што быццам авалодаў ягоным кволым целам такі ж кволы дух, што як зняверыўся ён у сваёй калісь вялікай і непарушнай веры, а таму яна, па ўсім, застанецца адною, сама-насам з дзецьмі, і ў гэты няпэўны пакуль што, але ж дужа нейкі трывожны і палахлівы, а ў блізкай будучыні (лезе насланнём прадчуванне) і трагічны час. І падкочвалася пад горла горкім камяком боязь. Ды, зноў жа, чамусьці не за сябе, а за Сцяпана. Сляпіцаю віліся думкі аб тым, што чакаюць яго наперадзе новыя нягоды і беды, што і яшчэ глытне ён іх напоўніцу...

Схамянулася Крыстына, прагнала іх прэч, зноў, як ужо рабіла за гэтым сталом неаднойчы, падахвоціла мужчын выпіць — канешне ж, на адыход. Гэтак і сталася. Выпілі, хукнулі, не закусваючы бадай, і падняліся з-за стала, пасунуліся да дзвярэй. Крыстына паспрабавала была затрымаць Кастуся, прапанаваўшы класціся ў іх, месца знойдзецца, але дзевер адмовіўся, жартуючы:

— Далей ад бяды, Крыстына! І ці засну, калі ты будзеш побач? Не, пайду да Паўлюка. Ад ягонай хаты і да гравійкі бліжэй. Ранічкою ж дадому трэба дыбаць.

— Хай цябе кот убрыкне з тваімі жартамі, Кастусёк! Няма на цябе ўпыну! — абняла яго на развітанне Крыстына. — Добра, што прыйшоў пабачыцца з братам. Цяпер жа і не ўгадаеш, калі тое зноў надарыцца.

Усе ўчатырох выйшлі на двор. Сцяпан і Крыстына правялі Паўлюка з Кастусём за вароты. Калі іхнія постаці расталі ў не надта густой цемры, вярнуліся ў двор. Але ў хату не пайшлі, прыселі, бы згаварыўшыся, на лаўку пад сцяною.

Ноч была ціхая, зорная. Недзе быў, пэўна, і невялікі месяц, але за шатамі дрэў не праглядваўся. Сядзелі і маўчалі, бы зачараваныя начнымі цішаю і таемнасцю. Спачатку было і ў Сцяпана ў галаве, і ў Крыстыны нядаўняе, застольнае, але неўзабаве думкі абаіх дружна скіраваліся ўвысь, у зорнае неба. Яно не магло не хваляваць, не навейваць іншых, адрозных ад цяжкіх і гнятлівых зямных, думак. Думкі тыя на нейкі час пакінулі Сцяпана і Крыстыну. Пра тое, што яны абое паддаліся чарам зорнай начы, сведчылі падсвядомыя рухі ягонай і ёйнай рук — яны знайшлі адна адну і пяшчотна самкнуліся. Доўгая ростань не разбурае — мацуе сапраўднае пачуццё. І яны, як маладзёны, дрыготка пераплялі пальцы рук. І Сцяпан ці то падумаў, ці сказаў сам сабе: «Божа, як добра было б, калі б мяне не чапалі, пакінулі ў спакоі і адны, і другія…»

Зорнае неба нячутна пазвоньвала вечнасцю.

Заўсёды, праз год, праз пяць, праз сто гадоў, двое будуць сядзець вось так, сплёўшы рукі, і глядзець на зоркі. А яны, Сцяпан і Крыстына? Пасядзяць яны яшчэ вось так, калі скончыцца ліха, калі начное неба сапраўды будзе ліць сяйво міру, спакою і любові?

Наўрад ці падумалі яны пра гэта. Зорная высь бязгучна, ды настойліва нашэптвала ім дзіўныя чары, адорваючы іх усеўладнай жарсцю еднасці. І, паддаўшыся гэтым чарам, яны ціха падаліся, не размыкаючы рук, у хату.

Жыццё не жадала спыняцца, прагла працягу…

* * *

*А наперадзе былі амаль пяць месяцаў 1941-га, увесь 1942-гі і 1943-ці, першая палова 1944-га…*

*Яны пазначыліся ў гэтым куточку нашай зямлі тым жа, чым і паўсюль: і тут лютавалі карныя фашысцкія батальёны, пракочваліся блакады партызанскіх зон, крывавілі неба зарывы шматлікіх тутэйшых Хатыняў; і тут гінулі ад куль і ў агні пажарышчаў старыя, жанчыны і дзеці, нішчыліся набыткі шматгадовай чалавечай працы… Вайна — страшэннае з'явішча, яна выяўляла не толькі лепшае ў чалавеку, — а часам горшае, нечалавечае, звярынае, абуджала і разнявольвала цёмныя інстынкты і жарсці, абясцэньвала чалавечае жыццё…*

*А што ж тры браты, а таксама іншыя людзі з так і неабазначанай канкрэтнаю назваю беларускай вёскі, якія спякотным днём у пачатку жніўня 41-га сышліся ў хаце аднаго з братоў? Якая доля выпала ім? Спаткалі яны 2 ліпеня 44-га запыленых і стомленых вызваліцеляў, што імкліва каціліся (ужо не ішлі, а менавіта каціліся на «студабекерах» і «шаўрале») праз вёску на Захад, наступаючы на пяты ўцякаючым нямецка-фашысцкім акупантам?*

*Сцяпан марудзіў з пошукам кантактаў з падполлем, з людзьмі, што, як і сам ён, з розных прычын засталіся ў тыле ворага. Ды не проста марудзіў — практычна, нічога не рабіў дзеля гэтага. Прынамсі, не прыспешваў сябе. Як усё на нешта спадзяваўся, на нейкую жаданую выпадковасць. Чамусьці ўбіў сабе ў галаву акурат такі спосаб свайго ўключэння ў супраціў ворагу. Партызаны ж паблізу ўсё не падавалі аб сабе ніякага знаку. І Сцяпан усё вычэкваў, жыў хаваючыся, не надта высоўваючыся нават на вуліцу, не кажучы пра нешта далейшае, часам тыднямі не начуючы дома — то ў сваякоў на пасёлку, то ў былога сельсавецкага сакратара ў прылеснай вёсцы. Ажно пакуль Васіль Курыла, зайшоўшы неяк па-суседску, не шапнуў яму, што зусім выпадкова пабачыў былога старшыню суседняга сельсавета Матусевіча, які перадае яму, Сцяпану, прывітанне і запрашае на спатканне ў сасоннік, што ў развілцы дарог на Селішча і Гуні. Гэта было ўжо вясною сорак другога. Сцяпан не абрадаваўся гэтай навіне, але ўсё ж схадзіў, пагутарыў з Матусевічам, якога ведаў не адзін год і якому не было падстаў не верыць. Застаўся незадаволены. Практычна Матусевіч нічога яму не сказаў. Было такое ўражанне, што той сам нічога не ведае і спадзяваўся пачуць нешта ад Сцяпана. Дамовіліся, што калі трэба будзе зноў пабачыцца, дык — праз таго ж Курылу.*

*Сусед жа, не ў прыклад Сцяпану, сям-там бываў, дападаў і ў Загорск, і нават у Менск (сталіцу зноў пачалі, як і ў 20-я — 30-я гады, называць гэтак), і аднойчы прынёс вестку, што быццам адбыўся нейкі сход камуністаў раёна, але зноў жа — нічога пэўнага, акрамя таго, што сход той быў ініцыяваны групай, перакінутай з-за лініі фронту, ці не з самой Масквы, і Сцяпан адразу ж даўмеўся, што гэта была за група, з якіх людзей яна складалася. Але і пасля гэтага зноў было няпэўнае і асцярожлівае чаканне. Даходзілі да Сцяпана чуткі, што нібыта колішнія мясцовыя камуністы і актывісты, якіх засталося ў раёне нямала, пакрысе наладжваюць між сабою сувязі, што нават*

*быццам створаны падпольны райкам партыі. Але асабіста да Сцяпана ніхто не агукваўся, якога-небудзь пэўнага загаду ці сігналу ён не атрымліваў, а сам па-ранейшаму, асцерагаючыся, жыў, неўпрыкмет, не пераходзячы, а хутчэй перапаўзаючы з дня ў дзень.*

*Скончылася вясна, мінавала лета, і толькі на пачатку восені таго ж сорак другога года апынуўся, нарэшце, Сцяпан у лесе. І быў таму ўжо ці не рады, бо столькі часу гуляць у хованкі страшэнна абрыдла, змучыўся і знерваваўся ўшчэнт. Трапіў ён да партызан таксама праз суседа. Да Васіля Курылы яны самі наведаліся. Прыйшлі неяк ноччу ўдвох, паклікалі з хаты ў двор. Нічога такога не сказалі, нават не прызналіся, што з лесу, — адно запыталі пра ягонае калгаснае старшынёўства і ці служыць у немцаў. На развітанне быццам намякнулі, што могуць заглянуць і яшчэ пры нагодзе. І заглянулі, гэтаксама ноччу, і зноў бы так сабе, між іншым. Васіль зразумеў, што гэткім чынам яны, пэўна, правяраюць яго. Пры нейкіх чарговых адведках Курыла і звёў іх са Сцяпанам…*

*Атрад быў малалікі і амаль бяззбройны, на чале яго былі людзі з Масквы. Не было яшчэ з каго фарміраваць узводы і роты, але штаб з асобым аддзелам ужо быў. Паклікалі туды і Сцяпана. Ён не прызнаўся, што закапаў свой білет. Сказаў, як прысніў у сне, што здаў на захоўванне ў сейфе вайсковай часткі, у знішчальны батальён якой быў залічаны. Яму не паверылі: ні прозвішча камісара, ні нумар часткі ён не ведаў, не памятаў. Ды неспадзявана пашчасціла: і яшчэ хтосьці распавёў такую ж гісторыю пра здачу білета на захоўванне перад адпраўкай у тыл ворага. Паверылі пасля таго і Сцяпану. З цягам часу, калі ў атрадзе было ўжо за сотню байцоў, Сцяпан нават стаў — гэта было ўжо ў канцы сорак трэцяга — палітруком роты.*

*Яму ў партызанах, можна сказаць, шанцавала. У крутыя пераплёты не трапляў. У буйных аперацыях атрад бадай што не браў удзелу. Іх, па сутнасці, і не было, буйных аперацый. Звычайна партызаны разганялі невялічкія паліцэйскія гарнізоны ў колішніх цэнтрах сельсаветаў, палявалі на паасобных немцаў і «бобікаў», на рэдкія варожыя аўтамашыны, ліквідоўвалі фашысцкіх паслугачоў-старастаў, палілі хаты сем'яў паліцэйскіх.*

*Дасталося Сцяпану адно ў сорак чацвёртым, калі, у канцы мая, атрад трапіў у блакаду. Вырвацца з яе партызаны не змаглі. Сядзелі пад абстрэлам з гармат і пад бомбамі з самалётаў на балоцістай лясной выспе. З'елі ўсё, што можна было, у тым ліку скураныя рамяні і боты. Сцяпан гэтак аслабеў, што сам хадзіць ужо не мог. Прывезлі дадому ледзь жывога на другі ці трэці дзень пасля вызвалення.*

*І Крыстына з дзецьмі ацалела. Як выжылі, і сама не можа сказаць, ажно не верыць. І ў зямлянках з дзецьмі жыла, і на балоце, і ў буданах у кустоўі, і ў чужых хатах прылесных вёсак, апусцелых пасля блакад. І ўсюды практычна адна. Сцяпан вырываўся з атрада зрэдку. Сама сабе кажа адно: суджана было выжыць. Іншай прычыны збавення не знаходзіць.*

*Паўлюк з сям'ёю як ні асцерагаўся, але ў бяду трапіў. Калі ішла пагалоска, што будуць немцы, Паўлюк звычайна хаваўся ў не надта далёкім лясным рове. Там была ім выкапана адмысловая зямлянка з такім жа адмысловым сакрэтным уваходам: побач будзеш хадзіць, а не датумкаеш, што тут ёсць схоў. Карову і каня таксама хаваў у тым жа рове. А ў красавіку сорак трэцяга падаўся разам з сем'ямі некалькіх суседзяў у другі бок, у больш, выдавала, надзейнае месца. Там немцы ўсіх іх і вылавілі, і адправілі на машынах у Менск, а адтуль — у Германію. Трапіў Паўлюк з сям'ёю да баўэра, працаваў парабкам ажно да вызвалення. Дасталося, вядома, ды, дзякаваць богу, і дзеці былі пры*

*ім, і не надта галадалі, і дадому ўсе вярнуліся, нават прывезлі з сабою пяры-ны, машынку швейную, з адзежы сёе-тое. Касавурыліся на Паўлюка, вядома: а як жа, у Нямеччыне быў! Дзецям не надта ходу было, як падрасталі: ні на вучобу, ні на работу людскую. Але ж, кажуць, не было б шчасця, дык няшча-сце памагло.*

*Паўлюк, праўда, не дажыў, а Волька ягоная дацягнула і атрымала з дзецьмі выплату «за Германію» — нямецкія маркі. Дык ім ужо сёй-той нават і зайздросціў.*

*Сын Паўлюкоў, якім Волька хадзіла тады, улетку сорак першага, прыняўшы пасля смерці бацькоў іх спадчыну, знайшоў на бэльцы хлява акуратна закручаную ў радніну добра змазаную трохлінейку з сямю патронамі. Паўлюк, аказваецца, усё ж праўду казаў, што пры выпадку хопіцца і за вілы. Ды пабачыўшы, што на вілы малая надзея, недзе раздабыў і больш моцны сродак абароны сям'і і сябе і прыхаваў на ўсялякі выпадак...*

*Кастусь нейкі час сяк-так перабіваўся з сям'ёю на бульбе ды капусце, практычна нікуды не выходзячы. Працы ў мястэчку не было. Ды пасля нечакана знайшлася. Зноў пачала дымець на ўскраіне смалакурня: немцам патрэбны былі шкіпінар і каніфоль. Заарканілі туды на працу і Кастуся. А ён, папраўдзе, і рады быў: пачаў атрымліваць прадуктовыя картачкі. Ды ў сорак трэцім, восенню, ледзь Богу душу не аддаў. Няйначай нехта звягнуў, што мае сувязь з партызанамі. Схапілі яго, кінулі ў падвал былога панскага палаца, у якім акупанты турму зрабілі. Білі, выпытвалі, з кім і дзе сустракаецца. Не прызнаваўся, усё адмаўляў, прыкідваўся прасцячком, трохі нават наогул дурня корчыў — па звычцы. Кацярына ягоная да бургамістра дапяла, паліцаяў самагонкай задобрыўшы. І той Забаўскі, трошкі памятаючы Кастуся (бухгалтары да вайны былі ўсе напералік), заступіўся. Нібыта сказаў эсэсаўцам, што з дурня яны нічога не выб'юць, бо дурань і ёсць дурань, блазан, клоун. І Кастуся выпусцілі, добра адлупцаваўшы на адыход. А Кастусь і праўда меў сувязь з партызанамі. Не такую, каб у героях хадзіць, але ж меў: то перадасць нешта, то сходзіць да каго, каб папярэдзіць ці пасланць куды...*

*А Васіля Курылу за сувязь з партызанамі акупанты расстралялі. Які чалавечны ні быў старшыня калгаса, як ні стараўся падзяліць калгасную жыўнасць і маёмасць па справядлівасці, але ўсё ж нехта, пэўна, быў і пакрыўджаны, і данёс на Курылу. Наляцелі да яго з вобыскам. І знайшлі ў пуні пад адонкам саломы чатыры вінтоўкі і кулямёт. Аказаліся яны там, можна сказаць, выпадкова. Васіль неяк паехаў у лес — набраць якога сухастою на дровы. Ехаў сценкаю, што вяла да колішняга ваеннага гарадка. Апынуўшыся ля пажарышча, раптам падумаў, што ўсё да тла згарэць там не магло, нешта павінна было і ацалець. І амаль з хлапечай цікаўнасці пакорпаўся на пажарышчы. Нечакана для сябе зусім лёгка, у куточку лёху, куды, пэўна, не надта дабраўся агонь, знайшоў ажно чатыры вінтоўкі, амаль непашкоджаныя, нават са слядамі змазкі, і кулямёт Дзегцярова. Укінуў іх у калёсы і пад яловымі жэрдкамі прывёз дадому, схаваў у пуні: а раптам спатрэбяцца? Есці ж не просяць, хай ляжаць. Пры нагодзе можа і ў лес перадаць, там такому падарунку будуць рады. Меркаваў, што ўсё рабіў без сведкаў, ды памыляўся. Нехта ўсё ж угледзеў. Яго хацелі там жа, ля пуні, і расстраляць. Паставілі былі ўжо да сцяны. А пасля перадумалі і павезлі з сабой у Загорск. Спадзяваліся, пэўна, што выведзе на «лясных бандытаў». Ці не два тыдні білі і дапытвалі, і ўрэшце расстралялі. Хадзілі чуткі, што, нібыта, каб быў маладзейшы, павезлі б, як рабсілу, у Германію, а Васілю пераваліла за шэсцьдзясят, работнік з яго быў ужо неважнецкі, вось і лёг без пары ў родную зямельку...*

*Расстралялі і Андрэя Кутаса. Ды не акупанты, а партызаны. Летам сорак трэцяга. Кутас, на ўздзіў, асабліва Сцяпану, нечакана стаў старастам. Ніхто не хацеў браць на сябе такую службу, вось і сышоўся свет клінам на ім. А ён не толькі згадзіўся, але і ганарыцца пачаў. Праўда, асабліва не выслужваўся — хутчэй за ўсё, па ляноце сваёй. Сам ініцыятывы не праяўляў. А як прыязджалі немцы з падводамі, дык хадзіў па хатах, загадваў здаваць яйкі, сала, муку, збожжа. Ва ўправе даведаліся пра ягоную хваробу і раздабылі Андрэю нейкі адмысловы пояс-папругу для падтрымкі ягонае грыжы. Кутас быў дужа рады, атрымаўшы такі прэзент ад самога бургамістра. Пояс даў яму магчымасць памяняць лад жыцця. Калі раней Андрэй днямі сядзеў на вулічнай лаўцы, дык цяпер досыць шмат хадзіў па вёсцы, а то і на аселіцу, на балота, у бліжэйшы лясок. Партызаны спрабавалі прыручыць яго, але Кутас на кантакт чамусьці не пайшоў. Пэўна, баяўся, што паўторыць лёс Курылы. Скончылася ж тым, што яго расстралялі не немцы, а свае — партызаны. Прылюдна, на школьным двары. Яго, здаецца, ніхто і не шкадаваў. Галасіла па ім адна яго матка — старая Кутасіха...*

*Пецька Колік у ліпені сорак першага збег разам з іншымі вясковымі хлопцамі з Загорска, не запісаўся тады ў паліцыю. Ды неўзабаве ўсё ж стаў паліцаем. Казалі, на злосць Феньцы Юлікавай, да якой заляцаўся. Тая нешта носам круціла, бы пагарджала ім. Дык ён, каб пазлаваць яе, не дадумаўся да нічога лепшага, як надзець павязку на рукаво і вінтоўку на плячо — стаць «бобікам», бо паліцаяў толькі гэтак і звалі. Партызаны, неяк днём наведаўшыся ў вёску, у адплату за ягонае здрадніцтва выгналі з хаты Пецькаву сям'ю, а хату спалілі. Дзіўна, але гэта падзейнічала на Пецьку ацвярэжальна. Мо таму, што не паспеў яшчэ рук крывёю чалавечай запляміць? Як бы там ні было, ды апамятаўся ён, неўзабаве разам са зброяй перайшоў да партызан. Дык і Феньку сваю адразу ж «заваяваў», і яна ўслед за ім у лес пайшла, паварыхай у атрадзе была. Там, у атрадзе, яны нібыта і пажаніліся. Ды нядоўга парадаваліся, пацешыліся адно ля аднаго: загінулі абое ў апошнюю нямецкую блакаду сорак чацвёртага, у канцы мая…*

*Ганна Петрусёва не дачакалася сваіх Петруся і Сяргея. Згінулі яны бясследна. Хутчэй за ўсё, папалі, як і Сцяпан, у Мінску пад бамбёжку, і пашанцавала ім меней, чым яму. А мо і ў лагеры для ваеннапалонных зайшліся з голаду...*

*А Зося Марцёшкава, дзякаваць богу, дачакала свайго Валодзю. Вайна, як і Бог, таксама, аказваецца, не роўна дзеліць. Валодзя на сваёй палутарцы ўсю яе прайшоў, да апошняга дзянька, і не толькі не загінуў, а нават і не параніла сур'ёзна, адно што кантузіла аднойчы. Праўда, на перадавую франтавыя дарогі прыводзілі яго зрэдчас, больш па тылах, хоць і неглыбокіх, сноўдаўся. Вядома, даводзілася трапляць у розныя пераплёты і яму — і пад артабстрэл, і пад бамбёжку. Было, што на яго немец і з самалёта паляваў. Аднак жа анёлы адводзілі ад яго бяду, не далі загінуць. І вярнуўся Валодзя Марцёшка дадому жывы і здаровы, нават з некалькімі медалямі, і пасля, калі ў калгасе зноў завялася машына, шмат гадоў, ажно да пенсіі, круціў абаранак — ужо не па франтавых, але амаль што па гэткіх самых разбітых, раскалашмачаных, выбоістых і каляіністых паваенных вясковых дарогах…*

*Ды гэта ўжо іншыя, хоць і звязаныя з вайной, са жніўнем сорак першага, гісторыі.*



Мікола МЯТЛІЦКІ

# ДАЛЕЧЫ ЧАСУ

## АДЧУВАННЕ ТРАМПЛІНА

У маленстве маім,
Што снягамі замецена ўсцяж,
Лыжнік шустры малы
Круціць з выспіны-горкі віраж.
І са страхам сваім,
Сцяўшы зубы,
Адзін на адзін,
Узлятае уміг
На кідліва-сярдзіты трамплін.
І…
    уцёгшы паветра глыбока у грудзі —
                                        ляціць.
Толькі бель у вачах,
І аснежаны лес зіхаціць.
Збегла ў далечы часу
Паласатая тая лыжня.
Ды на старце яе
Адчуваю сябе я штодня.
І даўно пабялелы,

---

*__Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч__ нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002—2014 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010), «Чалавек падымае неба» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010), Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013), Міжнароднай літаратурнай прэміі «Алаш» (Казахстан, 2017).*

Як і той, што цярусіцца, снег,
Не спыняю па ёй
З даўна чутай адышкаю бег.
І імклівы палёт лыж
Гаворыць: штосілы наляж!
Вось і выспіна-горка,
Дзяцінства забыты віраж…

Утрапення хвіліна.
І халоднае сонца, як лёд.
Адчуванне трампліна…
І самы высокі палёт…

## СОРАК СЁМЫ

Мне, галадушны, не вядомы
Па нараджэнні ад вайны,
Ды працінае, сорак сёмы,
Наскрозь твой сібер ледзяны.

Не пазабыць таго ніколі:
У красавіцкі дзень вясны
З матуляй крочылі па полі —
Збіралі ў лужах бабаны.

Не, не галодныя з пасцелі,
Устаўшы ледзьве, мы ішлі, —
Каб паспытаць, што людзі елі,
Ў час галадушны чым жылі.

У роце доўга прысмак гнілі
Нёс, паспытаўшы, праз гады.
Таму нягоды не скарылі —
Цану жыцця я знаў заўжды.

І там, дзе дух стаіць задушны,
Дзе праклінаюць ўся і ўсіх,
Цябе я ўспомню, галадушны,
Дзяцей не ўзрошчаных тваіх.

Ачэзлі мы ад атлусцення,
Жадалі б — зоркі ухапіць.
Багата ў кім цяпер сумленне
Дрымучым сном у сэрцы спіць.

Мой родны край, табе жадаю
Не ведаць гэтакіх нягод.

А сціснe скрута — прыгадаю
Пачварны той галодны год.

Ён адступіўся ўжо далёка
За далягляды, курганы.
Ды бачу й сёння сэрца зрокам:
Збіраюць дзеці бабаны.

## УНУЧЦЫ

Я дачакаўся, крошка любая,
Сустрэчы светлае з табой.
Уся сям’я, цябе галубячы,
Сышлася дружнаю гурбой.

Шукаем рысы падабенства —
Радня азвалася чыя?
А ты прыйшла — з майго маленства,
Дакладна гэта знаю я.

Святлей з табою стала ў хаце,
Нагбом я шчасце сёння п’ю.
Ў вачах тваіх я вочы маці
Сваёй, сышоўшай, пазнаю.

Ты для мяне, як зорка ў небе,
У самай чыстай пекнаце.
Няхай расстанемся мы недзе
На абарванай мной вярсце,

Ты будзеш іскрай залатою
Світаць у роднай старане.
За той, астатняю, вярстою
Калісь згадаеш і мяне.

А шчасце грае, як жалейка,
Супыну радасці няма.
Ты стань надзеяю, Надзейка,
Таму, з кім пройдзеш шлях сама.

## НАЙДАН ВЫЛЧАЎ У МІНСКУ

Нібы са стагоддзя пагаслага выйшаў,
Пераступіўшы мерыдыяны,
Крочыць па Мінску Найдан Вылчаў,
Другар, у Беларусь закаханы.

Даўным-даўно ў ягонай Сафіі
Не толькі чаі пілі мы.
Крочыць па Мінску. І сэрца ные
Ў старэчага пілігрыма.

Сябры-паэты! Сёння ў нябыце.
Колькі іх засталося?
І вуліца — быццам сцяжына ў жыце.
І памяці гнецца калоссе.

Над Мінскам раззорыўся позні вечар,
А ў сэрцы — пякучая рана.
Крочыць, як вой ацалелы з сечы,
Другар, у Беларусь закаханы.

* * *

Не спыніш дождж, калі ён не патрэбны,
Не спыніш гойстры сібер ледзяны.
Не спыніш ненажэрнае вайны —
Гнеў чалавечы згубны і ганебны.

Дождж нахвастаўся ўволю і суціх,
Утаймаваўся надакучны сібер.
Вайна — грыміць… —
Твой, чалавечы, выбар:
Ёй быць ці не — залежыць ад усіх.

* * *

Сягоння у гэтым расстрэльным бары
Тужлівую песню спяваюць вятры.

Амшэлыя сосны падлескам былі,
Калі тут начамі маторы раўлі.

Іх колкія лапкі былі ўсё ж мякчэй
За позіркі лютыя катаў вачэй.

І жвір, што зыбуча прамок ад крыві,
Лагодней, мякчэй быў за позірк крывы.

Спяшаліся каты… Марыў крэпкі сон…
Маўчаць Курапаты… Ім шэпчуць праклён.

* * *

Марс бязводны, Марс бясплодны,
Як цябе і мне шкада.

Для жыцця ты непрыгодны,
Для майго дыхання — шкодны.
Дзе падзелася вада?

А калісь бруілі рэкі,
Акіянаў стыла сінь.
Апусцеў, згібеў навекі,
І цяпер, нібы калека,
Пазіраеш з высачынь.

І лятаеш, саржавелы,
Па-суседску ад Зямлі.
Сарамліва-счырванелы,
Клічаш нашы душы-целы,
Каб ажыць дапамаглі.

Дачакаешся, мы ступім
На чырвоны крохкі дол.
Беззваротны білет купім,
Бо зрабіць мы тое рупім,
Што ажыць дасць зноў дазвол.

Мы жывем здагадкай ранняй,
Што сюды адтуль прыйшлі,
Што па роду — марсіяне,
Недалёкі дзень настане —
Мы паявімся з Зямлі.

* * *

Здаўна сямейны, моцны быт у пчол,
Ад раніцы гудзе руплівы вулей.
Ў квяцістых дзікаросах траўны дол
Яны яшчэ нідзе не абмінулі.

На кветцы кожнай пахкай па пчале,
Гудзе-ідзе пчаліная работа,
Стагоддзямі працуецца, але
Не гасне медазборная ахвота.

Яны шукаюць зваблівы нектар
На лугавіне і паблізу рэчкі.
Аблётаны ўжо не адзін гектар
І рапсу, і бялютка-снежнай грэчкі.

І вось, пачула вуха, загула, —
Імклівая, рухавая, як куля,
Ляціць прыцэльна рупная пчала
У свой, пачуты нейкім нюхам, вулей.

Ды дзень атрутнай хіміяй прапах,
І з болем часта бачыцца такое:
Пчала, што выжывала у вяках,
У травы роніць цельца нежывое.

І цягнуць трупік жвава мурашы
Ці блытаецца ў павучынай сетцы.
О век мой неаглядны, зберажы
Вялікі цуд зямны — пчалу на кветцы!

* * *

Маладая пара, залатая зара,
Толькі ценькі агонь, толькі водсвет кастра.

Як нядоўга яна цешыць сэрца і зрок,
Пабыла, адгула і сышла незнарок.

Заблудзілася ў днях, што імкліва сплылі,
І пакінула нам зыркіх зор вугалі.

Не нацешыла нас асалодай спаўна,
Не дала ўсмак папіць залатога віна.

І дала пaглядзець, бы дакор, не з дабра,
Як красуе другіх маладая пара.

* * *

Ніл Гілевіч лекцыю чытае.
Льецца мова матчына святая.
Ён натхнёна-сцішана гаворыць
Аб вытоках нашых, аб фальклоры.
Ўжо стагоддзі спехам прамінулі,
Скарбаў творцы ў вечнасці паснулі.
Толькі песня-памяць засталася,
З прошласці у дзень наш пралілася.
Мы фальклор на практыцы збіраем,
Ўсцяж вандруем мы радзімым краем.
Нам спяваюць і дзяды сівыя,
І жанчыны — цёткі маладыя.
І фальклору цэлыя ўжо сшыткі —
Мовы роднай залатыя зліткі.
Мы душу народа спеўна чуем,
Мы па хатах днюем і начуем.
Наша экспедыцыя — удача.
Што ж сягоння мова горка плача?

Значыць, мы чагосьці не дабралі,
Не да ўсіх данеслі — паказалі.
Не сумелі ў вольны дзень, свабодны,
Зберагчы, засвоіць скарб народны.
Не скарыўся ён і галадухам,
Не ачэз сваім магутным духам.
Бізунамі сечаны і біты,
Продкамі не быў ён пазабыты.
Праз стагоддзі нёс, жывы заўсёды,
Гордае імя свайго народа.
І чаму, скажыце мне, чынушы,
Не кранае сёння вашы душы?

* * *

Было калісь ажно сем цудаў свету,
Зямлянін кожны ведае пра гэта.

Так беззваротна страціліся ў часе
Маўсолаў маўзалей ў Галікарнасе,

Калос Радоскі, бог Зеўс Алімпійскі,
Егіпецкі маяк Александрыйскі,

Згарэлы храм славуты Артэміды,
Вісячыя сады Семіраміды.

Гісторыі свавольствы і капрызы!
Ды ацалелі піраміды Гізы,

І як вяршыні горныя, над Нілам,
Не звергнутыя часу грознай сілай.

Не страшны ім ні дождж, ні шквал усякі.
Як чалавечай памяці пазнакі.

Сучасны дзень, які ствараюць людзі,
Не што другое ўжо, як цуд на цудзе.

І іх злічыць ужо даўно не можна.
Яны паўсюд, іх бачыць сёння кожны

І лічыць часта нават звычнай справай.
Пра мноства з іх — і думаць нецікава.

О, каб жа тыя, што сем цудаў свету
Пакінулі, — маглі пабачыць гэта!



**Уладзімір СЦЯПАН**

# СУСТРЭЧЫ-РАЗВІТАННІ

*Сем гісторый*

## Свечка

Студзеньскі ледзяны вецер наскрозь прадзімаў горад.

Мужчына ў карычневым кароткім паліто, які сыходзіў па шырокай лесвіцы з другога паверха Гандлёвага дома «На Нямізе», прыпыніўся, павярнуўся бокам. Ён убачыў жанчыну ў белым касматым футры, некалькі імгненняў падумаў, пайшоў насустрач.

Жанчына ішла да лесвіцы ад царквы. Па гэткай ветранай сцюжы, нават заўсёдныя жабракі пахаваліся, не стаялі побач з царкоўнай брамай і агароджай. Жанчына таропка перавязвала шэрую хустку, якая спаўзала, — рукі хутка замерзлі.

Яна зрабіла тры крокі, заміргала, паспрабавала ўсміхнуцца, атрымалася, і пачала зноў папраўляць хустку, якую вецер насунуў на вочы.

— Прывітанне, Ганна! Са святамі цябе! — сказаў ён нягучна, хацеў дадаць звыклае, што яна добра выглядае, але стрымаўся, бо заўважыў у руках жанчыны танную жоўценькую свечку.

Яна разгубілася потым, крыху мітуслівa, але акуратна, схавала свечку ў сумку, якая вісела праз плячо.

— А ў мяне гора, Алег.

— Давай схаваемся пад лесвіцу, тут такі холад.

Ён хацеў узяць яе пад руку, каб дапамагчы, але яна зрабіла нервовы рух, і ён зразумеў, што яна гэтага не жадае.

І пад лесвіцай халодна, але зацішна.

— Што здарылася?

Яна доўга клацала запальнічкай, аж пакуль ён не забраў і не дапамог прыкурыць тонкую цыгарэту. З пытаннямі не лез, бо ведаў, што яна сама ўсё раскажа. Пад нагамі таўкліся ўскудлачаныя галубы, усе аднаго колеру, хаваліся ад ветру.

---

*__Сцяпан Уладзімір (Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч)__ нарадзіўся 22 студзеня 1958 года ў гарадскім пасёлку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава (1977) і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1983). Служыў у войску. Працаваў мастаком, рэдактарам на тэлебачанні, займаўся кніжнай графікай.*

*Аўтар кніжак прозы «Вежа» (1990), «Сам-насам» (1990), «Адна капейка» (2012). Піша таксама вершы, п’есы, сцэнарыі дакументальных і мастацкіх фільмаў.*

— Яна памерла… Учора. — Жанчына выдыхнула тры словы разам з блакітным дымам, які толькі на імгненне затрымаўся і прапаў. — На мінулым тыдні перастала есці, нават піць не хацела, хавалася ў спачывальні. А ўчора раніцай… Яшчэ ў цемры прыйшла да мяне і легла побач. Я гладзіла яе, размаўляла з ёй. Доўга мы так ляжалі, слухалі вецер…

Мужчына памкнуўся зняць шапку, але спахапіўся і ўсміхнуўся.

— І як я цяпер буду, пуста ў доме цяпер. Муся, Муся…

— Слухай, а колькі ёй было?

— Чатырнаццаць гадоў…

— Узрост… Але магла яшчэ й пажыць.

Ён уявіў, як яна хавала котку Мусю, як капала цвёрдую, мёрзлую, амаль каменную зямлю. Ён хацеў сказаць, што трэбы было патэлефанаваць яму. Прыехаў бы, дапамог, але толькі ўздыхнуў і паглядзеў на галубоў пад нагамі.

— Я пайшла на кухню, малака пагрэла, каб цёплага даць. Наліла ў місачку. Паклікала, а яна не прыйшла… Я так плакала, так плакала. Яна, як чалавек, усё разумела.

— Шкада…

— Я яе паклала ў кардонку з-пад новых ботаў. Глыбокая, добрая кардонка, белая. У рушнік чысты загарнула, місачкі паставіла, паклала мячык, каштан…

— Які яшчэ каштан, навошта?

— Самы звычайны. Я восенню яго на Ракаўскай падняла. Яна з ім добра гуляла, лапай штурхала, а потым даставала з-пад шафы. А на вуліцу выйшла і спахапілася-падумала, а дзе яе закапаць? Потым пайшла-пайшла і ўбачыла будоўлю, адразу за дзіцячым садком, там і пахавала. У катлаване, на дне… А як твае дзеці, не хварэюць?

— Па-рознаму, — разгублена адказаў мужчына.

— А я свечку паставіла…

— За яе?

— І за яе… Не стой тут, ідзі, такі вецер сёння халодны. Ідзі…

Мужчына і жанчына пайшлі ў розныя бакі. Ён хутка, бо спяшаўся, а яна ціха, бо яе ніхто не чакаў.

Ён спрабаваў думаць пра котку, якая з’явілася ў кватэры былой жонкі ў той год, калі яны яшчэ не збіраліся разыходзіцца, спадзяваліся, што ўсё неяк наладзіцца… Успомніў, як старая, у якой ён купіў рудое кацянё побач з Камароўкай, паглядзела на іх з жонкай сумна, а потым адвярнулася, калі хавала грошы запазуху.

## Пад капірку

Машыністка сказала пракураным, але ціхім голасам, што выдатная папера ў яе ёсць, але вось толькі капіркі бракуе, паклала трубку… Разам з рукапісам я прынёс і чорную капірку. У кватэры высокай старой у вязанай сіняй кофце паверх доўгага халата ўсё было такім жа, як і яна сама — старым.

Жоўтыя трамваі праязджалі па вуліцы Чырвоная, шыбкі ў пакоях трымцелі.

Праз два дні, калі прыйшоў забіраць перадрукаваныя апавяданні і разлічыўся, гаспадыня прапанавала выпіць чаю. Прынесла з кухні ў залу імбрычак, цукар, вазачку з пячэннем і два кубкі. Наліла, закурыла папяросу, загасіла запалку і мне дазволіла закурыць. Я дастаў цыгарэты. Яна падсунула старамодную алюмініевую попельніцу з вінаграднай гронкай, адціснутай на донцы.

— Не надрукуюць апавяданне пра каханне… — сказала, зацягнуўшыся. Нафарбаваныя вочы прымружыла зморшчанымі павекамі, адкінулася на высокую спінку старога фатэля. — Колькі вам гадоў?

— Дваццаць пяты.

— Што вы такі малады можаце пра яго ведаць… Пра грыбы надрукуюць, а пра каханне — не!

Папяроса калацілася, попел упаў на падлогу, рассыпаўся, але старая жанчына і не заўважыла, а пачала пастукваць «беламорынай» па краі попельніцы.

Я хацеў запярэчыць і пачаць гаварыць пра Багдановіча, Лермантава і шмат пра каго яшчэ, хто ў маладыя гады здолеў напісаць пра каханне, але змаўчаў.

— Давайце я вам нешта пакажу. Я гэта нікому даўно не паказвала, а вам пакажу, вы ж — на мастака вучыцеся.

Яна паклала папяросу і ціха, з асцярожнасцю, падалася да высокіх філёнчатых дзвярэй у спачывальню. Запаліла там святло. Груваcтая шафа з люстэркам, вузкі ложак, тумбачка, два крэслы, столік з рознымі шклянкамі. Над засланым ложкам вісела палатно, сто сантыметраў на восемдзесят. На ім аголеная. На чорна-сінім фоне бела-залатая меднавалосая маладая дзяўчына…

— Гэта я… Падабаецца?

— Вы?

Розніца паміж выявай на палатне і старой у сіняй кофце такая, як паміж чыстым аркушам паперы, да якога так і хочацца дакрануцца, і пакамечаным, брудным, запэцканым і падраным. Куды ўсё падзелася: колер, пругкасць, шыя, плечы, грудзі, жывот… Кучаравыя кудзеры, бліскучыя вочы…

— Ён мяне моцна кахаў. Гэта ж відаць! Жыць без мяне не мог.

Я ўздыхнуў…

— Ён прапанаваў распрануцца, я і распранулася… Усё ў мяне з ім было. Два тыдні… І чым я яму не дагадзіла… Ён мяне кінуў і паехаў у Маскву, а я чакала… Потым вайна пачалася, а я ўсё чакала… У сорак шостым бачыла яго з жонкай. Сказала, што ў мяне захавалася палатно. Ён пачырванеў, прашаптаў, што я — курва… Больш яго не бачыла. Потым тройчы замуж выходзіла, але гэта ўсё не тое, і зусім не так было…

Яна пайшла са спачывальні, а я застаўся перад палатном з выявай аголенай дзяўчыны. На палатне меўся подпіс і дата. Але і без подпісу я пазнаў руку вядомага мастака. З пакоя пачуўся ціхі звон шкла.

— Дапамажыце даме шампанскае адкаркаваць, малады чалавек. — Старая машыністка трымала ў руках цёмную бутэльку. — Цяпер вы разумееце пра што я?

Я тады не разумеў пра што яна спрабуе сказаць. Палатно на сцяне спачывальні абазваў «Голая старая».

Апавяданне пра каханне надрукавалі, а пра грыбы вярнулі. Яно час ад часу трапляецца на вочы, калі перабіраю рукапісы. Выдатная папера, нават не пажаўцела.

## Сюжэт

Яны сутыкнуліся ў падземным пераходзе, побач са станцыяй «Усход», там, дзе бібліятэка, дзе заўсёды шматлюдна. Мужчына з карцінай пад пахай ішоў у метро. Вялікае, метр на метр дваццаць, палатно абгортвала шэрая шчыльная папера, перахопленая рудым шпагатам.

Мужчына, які выйшаў з метро, трымаў рукі ў кішэнях плашча, глядзеў сабе пад ногі, быццам баяўся забрудзіць новыя бліскучыя чаравікі. З-пад плашча, пад чыста паголеным падбароддзем, святочна бялеў каўнер кашулі — верхні гузік расшпілены.

Яны не бачыліся пяць гадоў. Павіталіся. Той, з карцінай, паставіў палатно пад сцяну і пачаў узбуджана гаварыць. Мужчына ў белай кашулі адышоў на крок і глядзеў знаёмаму ў твар, на мокры і чырвоны рот, на бліскучыя роўныя зубы, на сівую шчэць.

— Яны ж купляюць толькі ў сваіх, а я ім чужы, хоць і вучыліся разам. У іх змова супраць мастацтва, супраць такіх, як я… Ты слухаеш? У мяне за апошнія тры гады не купілі, хоць сто разоў і абяцалі, ні адной карціны. Быццам ні жонкі, ні дзецей, ні ўнукаў… А дачка з намі жыве… А ты, я чуў, быў у Еўропе?

— Быў, але даўно, пазалетась.

— А мяне і не запрашаюць. Хацеў выставу зрабіць, у музеі не далі. Кажуць, што ўсё на тры гады наперад распісана. Каб не жонка, дык і прапалі б. А што ты не на машыне? Разумею, як усе, эканоміш на бензіне.

— Не атрымліваецца сёння на машыне.

— Правільна: вып’еш, зловяць, праблемы. Ты ж у госці, відаць?

— Не зусім.

— Хочаш карціну пакажу? З апошніх! Не хвалюйся, я потым загарну. Яны кажуць, што такое сёння нікому не трэба. Кажуць, што гэта ўчарашні дзень.

Мужчына хацеў разгарнуць паперу, але вузел на рудым шпагаце зацісънуўся, не развязваўся.

— Анатоль, не трэба, мяне чакаюць. Ты прабач, можа, іншым разам як-небудзь.

— Іншага разу можа не быць. Сёння жывы, а праз дзень — капут! Усе цяпер на нервах, няма ніякай упэўненасці, што заўтра прачнешся і з ложка здолееш падняцца. Слухай, запішы мой новы тэлефон, можа, каму скажаш, там, у Еўропе, што ёсць такі мастак.

Вакол ішлі людзі, абміналі мастака і яго знаёмага, кідалі на іх незадаволеныя позіркі, бо яны заміналі аднастайнаму руху, нібы дзве пабітыя машыны пасярэдзіне шашы.

Мастак працягваў расказваць, як у яго ўсё кепска, як не пашанцавала дачцэ з мужам, як шмат даводзіцца плаціць за майстэрню, як усе скурвіліся і кожны глядзіць адно сябе. Потым сказаў, што ён нарадзіўся не ў той час і не ў той краіне... Што жыццё — брыда, якое даўно страціла сэнс…

— Анатоль, я спазняюся, кажы свой новы тэлефон.

Мастак не змог успомніць уласны нумар і змоўк. Спахапіўся і тут жа ўзрадаваўся, бо выцягнуў з кішэні самаробную візітоўку — прамакутнік шчыльнай паперы, на якім чарнелі лічбы і літары, напісаныя тушшу.

— Толькі ты, Сярожа, абавязкова патэлефануй.

Сяргей паабяцаў патэлефанаваць.

Мастак усміхнуўся, моцна пацiснуў вузкую і халодную далонь. Паглядзеў у твар былому аднакурсніку.

— Шэры ты нейкі, як гэтая папера… Ці, можа, гэта святло тут такое, нежывое. Спадзяюся, што хоць у цябе ўсё добра?

— Святло такое… Усё ў мяне добра. Бывай! — мужчына ў шэрым плашчы павольна павярнуўся і пайшоў.

Не мог, ды і не хацеў гаварыць, што спяшаецца на маршрутку да Бараўлян, што едзе на чарговы сеанс апраменьвання.

Мастак падхапіў палатно, павярнуўся і з зайздрасцю паглядзеў у спіну былому аднакурсніку.

## Грыбны суп

Ён ляжаў і вывучаў сваю левую руку. Павярнуў да сябе далонню і падумаў, што заўтра зноў на працу, а потым трэба будзе заехаць да маці, памераць ёй ціск, пагаварыць, з'есці талерку грыбнога супу… Думаў пра заўтрашні суп і засынаў.

У калідоры затрашчаў хатні тэлефон. Так настырна і гучна, што аж мурашкі пабеглі па спіне. Сяргей падняўся і басанож пайшоў да тэлефона, са спадзяваннем, што ён змоўкне ў той самы момант, калі рука дакранецца да трубкі. Апошнім часам так і бывала.

Ён прыціснуў трубку да вуха і сказаў:

— Слухаю…

— Яна не хацела, каб я табе расказваў… — з амаль няўлоўным акцэнтам прамовіў мужчына.

— Хто?

— Маша…

— Маша?!!

— А што ў цябе з голасам? Спаў…

— …

— Яна ў шпіталі і дактары сказалі што ёй засталося — дзень-два… Яна не хацела, каб ты ведаў, але я падумаў, што гэта неяк не тое, вы ж сем гадоў пражылі… Разумею, ты не дапаможаш…

— Тры гады і два месяцы…

— Віктар, сем, ты п'яны?

— Я? Я — Сяргей! Сяргей Станіслававіч Гарэлік! Чорт, ты што капытом нумар набіраеш! Я — хірург, бля!

— Ай-sorry-sorry-sorry…

Сяргей папіў вады. Лёг і пачаў думаць пра Машу… Пра тое, што памятае ўсе свае самыя цяжкія і складаныя аперацыі. Памятае не тых жанчын, з якімі было добра, а тых, з якімі было цяжка, якіх страціў… Потым пра гарачы грыбны суп і пра тое, якія ў Машы рукі.

На працу ён спазніўся, у калідоры паліклінікі сабралася чарга — сярдзітыя жанчыны з дзецьмі.

## Дзед Сімон і баба Сіманіха

Сяргей мог згарэць і раней. Ён сто разоў засынаў з цыгарэтай у руцэ. Недапалак падаў на ватную коўдру, на суконную, на палавік, на адзежу — і яны пачыналі няспешна, амаль незаўважна, смылець і смярдзець.

Неяк я зайшоў да яго ў хату і пачаў палохаць, казаць, што калі-небудзь ён згарыць як запалка. Сяргей ціха засмяяўся і расказаў пра дзеда Сімона і бабу Сіманіху. Іхныя партрэта віселі пад столлю, паміж вокнамі над канапай, насупраць высокага жалезнага ложка пры грубцы. Тыя фотаздымкі былі налепленыя на руды кардон, устаўлены ў самаробныя груваскія рамкі. Дзед Сімон чарнавусы, а Сіманіха ў цёмнай хустцы з кутасамі глядзелі ў цёмную хату праз каламутнае, заседжанае мухамі шкло. Выгляд напружаны, суворы, як у святых на абразах.

— Не бойся, не згару! Дзед і баба не дазволяць. Яны мяне берагуць, бо няма ў іх больш унукаў — толькі я! Гады тры таму, зімой, заснуў… Ну, з

калыму вярнуўся — дровы калоў, там і пакармілі добра, і напаілі, яшчэ і з сабой бутэльку далі. Сон мне тады добры сніўся — прыгожы такі: рэчка, коні, матацыклет новы-новы. І я той матацыклет мыць узяўся. Памыў, ён зіхціць. Думаю сабе, няхай высахне, потым сяду і ў суседнюю вёску палячу. Падумаў, на траву ў цянёк прылёг, заснуў. Гэта ўсё мне сніцца. Тут дзед Сімон з бабай з'яўляюцца, і дзед мяне штурхае ціхенька ў плячо, кажа, каб я прачынаўся хутчэй. Падхопліваюся, а хата поўная дыму. Руку выцягні — пальцаў не відаць… А на канапе жоўты агонь… Полымя я заліў, рыззё гарэлае на вуліцу павыцягваў, у двары пакідаў, каб высахла, дзверы парасчыняў, а сам і думаю пра дзеда з бабай. Якія ж яны, бляха, малайцы — зноў уратавалі! — шэптам казаў Сяргей і запальваў трэскі ў грубцы. — Пачастуй цыгарэтай, дзякуй!

Я прысеў на канапу пад партрэтамі, а Сяргей узяўся раздзімаць агонь у грубцы. Ён трымаў цыгарэту ў левай, а правай запіхваў у грубку скамечаную газету.

— А другім разам мне прыснілася войска. Класны такі сон. На мне ўсё новае, чыстае, мы сядзім і ядзім кашу з мясам з бліскучых місак, лыжкамі грукаем і смяёмся. Добра было ў войску. Сябар у мяне — кухар Мішка, ён яшчэ кашы прапаноўвае, я згаджаюся. Ён з катла чарпаком награбае — і мне ў міску. Тут дзед з бабай з'яўляюцца. Адкуль яны тут, думаю? Хто іх сюды пусціў? Яны глядзяць на мяне і кажуць, каб я за імі пайшоў. А я адказваю, што трэба кашу даесці, пакуль гарачая. Тлумачу, што не пусцяць мяне, бо я ў войску… А баба міску з маіх рук выхоплівае, цягне. Я не даю, і каша тая мне на калені выварочваецца. Я тут бабу адштурхоўваю, злуюся, крычу, каб адчапілася! Замахнуўся, каб дзеда ўдарыць, і прачнуўся… Вочы расплюшчыў, а на мне коўдра гарыць, на нагах… Кашу смачную так і не даеў… — Сяргей паказаў, як баба міску цягнула.

— Ты б гэтыя партрэты дзеда з бабай хоць памыў, павуцінне паздымаў! — пажартаваў я, і зірнуў на суворых старых пад цёмнай столлю.

— Кашу даесці не далі… — прамармытаў Сяргей і прычыніў чыгунныя дзверцы, за якімі шумеў агонь.

Сяргей Карабань напіўся. Прыцягнуўся дамоў і паваліўся апрануты на ложак. Закурыў чырвоны «Прэм'ер», пару разоў зацягнуўся і заснуў… Заснуў, каб не прачнуцца ніколі. Згарэў на ложку. Яго хавалі ў чорным бліскучым мяху. У труну, на мех, паклалі новы касцюм, кашулю, чаравікі. Усё гэта набылі за семдзесят восем рублёў у самай вялікай краме райцэнтра Ушачы… Пахавалі. Хаўтуры зладзілі. Пазгадвалі пра яго, як добрае, так і кепскае. Добрага больш, як заўсёды.

Абгарэлую хату і хлявы пажарныя праз тыдзень спалілі. Засталіся толькі коміны, ад печы і грубкі. Тырчаць, як зубы… Вяскоўцы, вядома ж, хацелі расцягнуць пабудовы — каму шыфер трэба, каму бярвёны на дровы, але не склалася…

Я стаяў на папялішчы, сярод кавалкаў шыферу, цэглы, ламачча, глядзеў на пагнутыя жалезныя ложкі — чорныя, кранутыя ржой. Адзін стаяў побач з грубкай. На спінку сеў верабей — звычайны, вясковы. Я палез у кішэнь, каб дастаць тэлефон і зрабіць здымак. Папялішча, пагнуты ложак, птушка на ім, але верабей пырхнуў і паляцеў. Уявіўся пяцідзесяцігадовы чарнавусы Сяргей. Белы шчыльны дым, што ад столі да падлогі запаўняе пакой, і партрэты дзеда Сімона і бабы Сіманіхі, якія праз дым глядзяць на ўнука… Гэтым разам яны не прыйшлі, не пабудзілі, а далі дагледзець сон.

## Царскае золата

Чысціў зубы і мяне калатнула.

Гадоў дваццаць таму вярнуўся я з Барселоны і паехаў у Касцюкоўку да бацькоў. Пабачыцца, падарункі завезці.

Сядзім з бацькам на кухні і выпіваем, гаворым. Тут званок у дзверы. Дамафонаў тады яшчэ не было. Адчыняю, а на парозе браты Яўхімчыкі — Шурка з Генкам. Шурка на два гады за мяне старэйшы, а Генка на столькі ж маладзейшы. Стаім на лесвіцы і курым. Шурка маўчаў, а потым і кажа ўпэнена так: «А купі ў нас царскае золата. У цябе ж ёсць грошы, ты ж за мяжу ездзіш, жывеш у сталіцы…» Генка згодна ківае на братавы словы і ўсміхаецца. Тут жа, на лесвіцы, Шурка дастае з кішэні насоўку і разгортвае яе. Я чакаў убачыць бліскучыя манеты, а ўбачыў жоўта-зялёныя зубы — дзве сківіцы.

Ад выгляду тых зубоў кукурузных мяне калатнула.

— Я думаў у вас манеты, а тут такое… Бля! Вас жа пасадзяць! — бадзёра сказаў і зірнуў на зубы.

— Гэта бацькавы, не бойся, памацай, узваж, чыстае золата… З царскіх чырвонцаў! — паведаміў старэйшы з братоў і падаў мне пакунак.

— Як бацькавы? — выдыхнуў я.

— Ён сам нам з Шуркам загадаў: калі памрэ, каб мы ягоныя зубы дасталі. А то чужыя магілу раскапаюць і ўсё адно выдзеруць… Усе ж пра яго зубы ведалі. Я дык трохі баяўся, а Шурка акуратненька, пасаціжамі іх выцягнуў. Ён даставаў, а я свяціў... Мы хацелі ў Гомель цыганам завезці, а потым твой стары сказаў, што ты дамоў прыехаў. Мы падумалі, што лепш табе прапанаваць, — малодшы Яўхімчык гаварыў і глядзеў мне ў вочы.

— Купляй, зробіш сабе пячатку, з «Пагоняй». Золата ж сапраўднае — царскае! — разважаў Шурка.

Я ўспомніў бліскучую ўсмешку нашага суседа па Кастрычніцкай — дзядзькі Хведара. Ён усміхаўся шырока, каб усе бачылі, што ў ягоным роце поўна залатых зубоў.

— А што хлопцы хацелі? — спытаў бацька, калі я памыў рукі і сеў да стала.

— Нічога… На рыбу прапаноўвалі ноччу з’ездзіць, але не выпадае…

— Правільна. Заўтра схаджу да зубнога, а потым у вёску паедзем… Можа, ў грыбы сходзім? — бацька паглядзеў на бутэльку. Там яшчэ крыху заставалася.

## Коскі

Мужчына за суседнім столікам невялікай кавярні нічым асабліва не вылучаўся. Узрост — гадоў сорак, можа, крыху больш, а можа, і менш. Апрануты звычайна: куртка, джынсы, футболка, красоўкі. Не, ён вылучаўся сваёй пунктуальнасцю, магчыма, вымушанай. Прыходзіў у кавярню па суботах, раніцай, без чвэрці дзесяць, калі амаль усе столікі вольныя. У кавярні ў гэты час чыста і светла, падлога памытая, на століках сурвэткі. Сытыя рыбкі — тры чырвоныя і чорны сомік, плаваюць лянiва і меланхалічна ў зялёнай вадзе.

Ён стараўся заняць той столік, з якога відаць шкляныя дзверы. Клаў перад сабой мабільнік, але я ні разу не бачыў, каб ён тэлефанаваў, ці некаму адказваў. З’яўлялася афіцыянтка, віталася… Магла і не пытаць, бо штораз замаўлялася кава. Толькі аднойчы ён папрасіў шклянку вады. Калі афіцыянтка Анжэла

прынесла ваду і каву, то мужчына дастаў з кішэні пігулку, па колеры — цытрамон, праглынуў, запіў вадой і паглядзеў на дзверы. Там, за шклом, праходзілі ранішнія наведвальнікі ўніверсама, але ў кавярню яны не зазіралі.

Ён заўсёды паспяваў выпіць сваю каву гарачай. У дзесяць шкляныя дзверы адчыняліся і заходзіла дзяўчынка гадоў адзінаццаці-дванаццаці. За спінай скураны каштанавага колеру пляцак і дзве светлыя коскі.

— Вось і я… Ледзь паспела, прывітанне! — голасам ціхім і бадзёрым казала дзяўчынка і глядзела на бацьку.

— А я чакаў, прывітанне! — гучала, можа, крышку разгублена, з усмешкай. — Сок будзеш?

— Не, дзякуй!

Дачка і бацька. Падобныя, калі разам, і непадобныя, калі па-асобку. Яна здымала пляцак, ставіла на крэсла і сядала насупраць.

— Што ў цябе цікавенькага?

— Быў у Магілёве.

— Ух ты… А я вучылася-вучылася, на танцы хадзіла… А чаму сомік заўсёды на дне? А ты гэтую песню чуў? Яна і мінулым разам гучала.

— Так яму падабаецца… Ён — донная рыба. Думаеш, гэта тая песня?

— Тая самая, не сумнявайся…

Яна калі-нікалі брала ягоны мабільнік, круціла, націскала кнопкі, а ён глядзеў на яе. Чакаў, калі яна скажа, што час ісці. Тады ён адразу ўздыхне, падхопіцца, возьме яе цяжкаваты пляцак і яны пойдуць з кавярні.

Сустрэчы адбываліся ўвесь мінулы год. І калі я прыходзіў у кавярню раніцай, па суботах, то ніколі не займаў той столік, за якім бацька будзе чакаць дачку.

Гэтай восенню дзяўчынка прыбегла ў кавярню, а за іх столікам — нікога. На яе дробным, расчырванелым твары з'явілася здзіўленне, а потым разгубленасць… Яна дайшла да століка, уздыхнула, запытальна паглядзела на мяне. Вочы шэрыя, як дым. Выцягнула з кішэні паліто мабільнік, зірнула, каб спраўдзіць час. Акуратна, пляцак не здымала, села на бацькава месца і паклала на стол тэлефон.

З'явілася цяжарная афіцыянтка Анжэла. Падышла да дзяўчынкі са светлымі коскамі, што віселі за роўнай і прамой спінаю. Павіталася і прапанавала сок.

— А можна, я тут пачакаю?

— Можна, калі ласка! — дазволіла Анжэла, асцярожна павярнулася і павольна, быццам плыла, выйшла.

Дзяўчынка правяла афіцыянтку позіркам і стала глядзець на шкляныя дзверы. Потым патэлефанавала некалькі разоў, даслала смску, зноў патэлефанавала.

Яна прасядзела з паўгадзіны. Мне падалося, што светлыя коскі леглі на спіну.

Не ведаю, што адбылося з мужчынам. Болей не бачыў ні яго, ні дзяўчынку. Па суботах у тую кавярню не хаджу, хоць мне там і падабалася.

*2017*





Алесь БАДАК

# ЖЫЦЬ АДЧУВАННЕМ ЧАСУ НЕЗЯМНОГА

## ПАЭЗІЯ

Сыходзіць паэзія з вечных вышынь,
Дзе сонцам прасвечвае слова.
Сыходзіць паэзія ціха з душы,
І слепне душа паступова.

Вядома, на ёй не канчаецца свет,
І не апусцеюць вышыні.
І скажа разумны:
— Такі цяпер век.
А мудры:
— Нічога не згіне.

Разумны дадасць:
— У эпохі любой
Куміры свае на прыкмеце.
А мудры запэўніць:
— Заўсёды травой
Трава вырастае на свеце.

Падхопіць размову дваіх інтэрнэт
І тэлевізійныя шоу.

---

*__Бадак Аляксандр Мікалаевіч__ нарадзіўся 28 лютага 1966 года ў вёсцы Туркі Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1990). Працаваў у Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў Беларусі, у рэдакцыях часопісаў «Бярозка», «Маладосць», «Нёман», «Полымя». Цяпер — дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Будзень» (1989), «За ценем самотнага сонца» (1995), «Маланкавы посах» (2004), кніг для дзяцей і падлеткаў «Маленькі чалавек у вялікім свеце» (1995), «Верабей з рагаткай» (1999), «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў» (2001), «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца» (2014), «Зорка для вавёркі» (2015) і інш.*

У спрэчках праблему паэзіі свет
Звядзе да пытанняў грашовых.

Мой свет, пра душу ты і не ўспамянеш
У часу крутой мізансцэне, —
Пра тое, што проста балець стала менш,
Бо ў ёй і паэзіі меней.

* * *

У гэты свет не першы век
Адной і той дарогай
Прыходзіць кожны чалавек
З душой, пасланкай Бога.

Душа — для згоды і дабра,
Засцерагчы ад злога,
Каб свет не заступіў за край,
За край сябе самога.

Ды край паўсюль усё бліжэй —
На моры і на сушы.
Таму і Бог усё часцей
Шле
І вяртае
Душы.

## БОЛЬ

Як жыць,
Калі душа баліць
Тваёй душы незаціханым болем.
Ды мне ім, нібы скарбам, даражыць,
Пакуль мяне ён звязвае з табою,

Пакуль яго сягоння пазнаю
Па тым, як гора *ты* перажывала:
Не першы раз над безданню стаю,
А так душа ніколі не рыдала.

Цяпер ён мой, каб, перасекшы край
Быцця зямнога і скупога лёсу,
Табе не плакаць па дарозе ў рай
Над тым, што тут пакінуць давялося;

Каб памяці ў кватэрнай цішыні
Праз гэты боль пакутліва вяртацца
У нашы нібы высненыя дні,
Дзе белы свет без чорных дэкарацый;

Каб дзён былых вартуючы святло,
Жыць адчуваннем часу незямнога:
Што да цябе нічога не было,
Пасля цябе не будзе больш нічога.

Я вымаліў у Бога гэты боль, —
Душа прасіла немачна і слёзна.
Астатняе, што звязана з табой,
Вымольваць у яго было ўжо позна.

## КЛЯНОВЫ ЛІСТ

Не ляці за мною, ліст кляновы,
Каб цябе ад холаду ўбярог.
Я і сам жыццё сваё нанова
Пачынаю з прывідных дарог.

Я і сам не ведаю, навошта
І куды мне рухацца цяпер.
Нібы лёс запозненаю поштай
Мне прыслаў з мінулага цябе.

Я ў мінулым тым, канешне, рады
Быў бы табе шчыра памагчы.
Даў бы неацэнныя парады
Як ад сцюж зімовых уцячы.

Свет вялікі, недзе ёсць, вядома,
Для такіх, як ты, зімою рай.
Ну, а можа, я б цябе дадому
У цяпло кватэрнае забраў.

Ды цяпер, у вечнай адзіноце,
Я гляджу па-іншаму на свет.
І душа бязважкая ў палёце,
Як пустым адпраўлены канверт.

Не ляці, спыніся, ліст асенні.
Мо пад снегам заўтра прападзеш,
Ды затое лішнія імгненні
Сёння ты з сям’ёю правядзеш.



**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

# ЗВЫЧАЙНЫЯ ЦУДЫ

*Апавяданні*

## Вочы зімовага бога

Марыйка любіць зіму. Неяк самаахвярна, да болю. Ёй падабаецца, калі кончыкі валасоў робяцца сівымі, як у бабулі, а з рота ідзе цёплая пара. Калі паветра ў грудзях нібы застывае і падыходзіць потым да горла цвёрдым камяком. Калі сотні маленькіх іголачак працінаюць халодныя рукі на батарэі. Але найбольш ёй падабаецца ўглядацца ў яснае (на мароз!) начное неба. Летам такога не бывае… Глыбокае ў сваёй чарнільнай смузе, з зыркімі, ажно, здаецца, калючымі, зоркамі, яно чамусьці заўсёды палохае і цікавіць Марыйку. Неяк бабуля расказвала ёй, што зоркі — гэта вочы. Тых, хто памёр ці тых, хто яшчэ не нарадзіўся. Мільёны, мільярды цікаўных вачэй! І ўсе яны бачаць цябе. Соннага, бездапаможнага. «Таму і трэба на ноч завешваць вокны. Каб ніхто на цябе не глядзеў!» — камандуе ўвішная бабуля, калі абыходзіць на ноч хату, падбірае непрыбраныя рэчы, закрывае скрыні, папраўляе абрус. І — нечакана робіцца пяшчотнай, старэнькай-маленькай, калі ціха кранае Марыйчыны валасы. А можа і праспяваць ціха, калі надта папросіш. Пра стары сад, пра вайну, пра Ярся… Марыйка любіць слухаць тыя песні, хоць усе-ўсе ўжо ведае, можа паўтарыць. На хвалях бабулінага надтрэснутага голасу падплывае яна тады блізка-блізка да зорак. І бачыць, што самыя вялікія з іх — вочы істоты, якая ідзе па зямлі, а галава яе — у аблоках. Істота тая добрая, Марыйка гэта адчувае. І хоча яе абняць. Ды не можа, бо дзяўчынка занадта малая, раздушыць яшчэ. Істота ідзе сабе ўпарта праз заснежанае поле. За ноч трэба абысці ўсю зямлю, паглядзець, ці добра людзям жывецца. Месяц чапляецца за галінкі, снегу намятае ўсё больш. А зімовы бог не спыняецца…

---

***Алейчанка Юлія Аляксандраўна*** *нарадзілася 21 снежня 1991 года ў горадзе Орша Віцебскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2014), магістратуру (2015), цяпер — вучыцца ў аспірантуры. Піша вершы, апавяданні, крытычныя артыкулы, перакладае.*

*Вершы друкаваліся ў анталогіях «Дняпроўскія галасы-60» (2010), «Першацвет» (2017), пераклады — у кніжнай серыі «Светлыя знакі. Паэты Кітая». Аўтар паэтычнага зборніка «Пад чароўным шкельцам» (2017).*

*Лаўрэат Міжнароднага конкурсу маладых літаратараў «Першацвет» (2016).*

*Творы перакладаліся на рускую, украінскую, сербскую, кітайскую, азербайджанскую мовы.*

Тое, што гэта ён — Марыйка зразумела адразу. У школе ім расказвалі пра нейкага Зюзю, белага дзядка, бога холаду і маразоў, якога ўяўлялі сабе нашы продкі. Ходзіць ён босы па дварах, стукае ў сцены калатушкай, наганяе мяцеліцы ды сцюжы. А яшчэ — яны разам з мамай маліліся таму богу, што на іконах. Ён прыгожы, худы, сур'ёзны і пра ўсіх усё ведае. «Ён цябе любіць», — часта паўтарае мама. А яшчэ кажа, што бог можа быць агнём, птушкай, думкай. Бог — у кожным з нас. Чаму ж тады няма бога ў снезе, у ветры, у зорцы? Значыць, ёсць ён! Вялізны, добры, усюдыісны. Вясной — ён ужо іншы. Летам, восенню… Але сніцца Марыйцы толькі зімовы. Зімовы бог не раз яе ратаваў…

Калі загінуў Марыйчын тата, стаяў душны, дажджлівы май. Тата паехаў ізноў у камандзіроўку. Нешта пачалі вельмі часта яго пасылаць. І раптоўна. Мама тады жартавала, што не паспявае яму піражкоў напекчы. А калі з'язджаў — доўга стаяла каля зачыненых дзвярэй, цішком выцірала слёзы. Але, як на дзіва, тады, як выпраўляла ў апошнюю камандзіроўку — была вясёлая, руплівая. Напяваючы нешта, прасавала татаў касцюм. Какетліва прыглажвала валасы. Тата абяцаў, што як прыедзе — звозіць маму ў Адэсу, месца іх знаёмства. Не жарцікі ж — пятнаццаць гадоў разам! І мама чакала. Ажно да таго дня, калі не пачула навіны па тэлевізары. «Выбух у метро. Дваццаць чалавек у цяжкім стане, сем — загінула на месцы»… Тое, што адбывалася пасля, Марыйка памятае дрэнна. Бясконцыя званкі, слёзы, незнаёмыя людзі ў кватэры. Спачуванні, вянкі, незнаёмы пах, які адчувае, здаецца, і зараз… «Добра трымалася дзяўчынка на пахаванні, свечку з рук не выпускала, і тварык такі сур'ёзны — як быццам усё разумее!» — казала потым нейкая незнаёмая Марыйцы жанчына, татава траюрадная сястра. А што гэта значыць «як быццам»? Яна ж і сапраўды ўсё зразумела. Што калі тату засыпаюць зямлёй — то больш ніколі ён не прыйдзе дадому, не прынясе Марыйцы цукровага пеўня ці мандарынаў. Не станцуе з мамай вальс — яны ж так любілі танцаваць! Не пасварыцца за двойку і не пахваліць за прыгожы малюнак. Ні-ко-леч-кі! І ад гэтага страшнага слова казыча ў носе, перасыхае ў горле і хочацца збегчы некуды далёка ад усіх гэтых добранькіх, якія шкадуюць «бедную сіротку». І Марыйка часта збягала. З урокаў, ад незнаёмых цётак, ад сяброўак, якія не разумеюць, чаму ты не смяешся з імі… Так прайшоў май, доўгае сумнае лета, восень без таты на лінейцы і на бацькоўскім сходзе. А мама… Мама быццам бы таксама зрабілася іншай. Ціхай, занурай, няўважлівай. Яна часта забывалася памыць посуд, прыгатаваць вячэру, звадзіць Марыйку на трэніроўку. Сядзела гадзінамі ў сваім пакоі і невідушчымі вачыма глядзела на экран тэлевізара без гуку. «Не замінай!» — адказвала злосна дачцэ на яе просьбы. А потым — разам з ёй плакала і прасіла прабачэння.

Крыху лягчэй стала толькі зімой. Калі прыехала маміна сястра. Вясёлая, мажная, але надта рухавая цётка Тамара. Яна Марыйку не шкадавала. А наадварот — і за дрэнныя паводзіны магла хлёстка адчытаць, і прыбрацца ва ўсёй кватэры прымусіць. Але ж тое — нязлосна. Усё з жарцікамі, «з бізуном ды пернікам». А якія цікавыя гісторыі расказвала! Пра сваю маладосць, пра студэнцкія прыгоды, пра знакамітых сяброў-мастакоў. Бо і сама цётка вучылася на мастачку. І гучныя выставы ў яе былі, і прызнанне… Але ж закінула пасля тое. Бізнес, сямейныя турботы. Ды талент жа застаецца! Вось і вучыла Марыйку маляваць зімовыя пейзажы, яблыкі ў місе, туфлікі на пярэстым дыванку… Мама з ёй таксама неяк ажыла, павесялела. Пачала зноў гатаваць свае фірмовыя катлеты і пірагі. Вяртацца раней з працы. Схадзіла нават неяк

з сястрой у кіно. І ўсе разам яны рыхтаваліся да Новага года. Праўда, мама абмовілася неяк, што не варта было б сёлета Новы год адзначаць. Але цётка Тамара — адразу ж у крык: «Ты што, у роднай дачкі адзіную радасць хочаш адабраць?» І мама перастала пярэчыць.

31 снежня мама з цёткай кудысьці таямніча зніклі. Марыйка сядзела самотна ў святочна прыбраным пакоі і чакала. Гадзіну, дзве, тры... Спачатку — спакойна малявала снежных коней, чытала кніжку, слухала музыку. Потым — не на жарт расхвалявалася. «А калі і з мамай нешта здарылася? Калі я застануся ЗУСІМ адна?» — трывожныя думкі гулі ў галаве назоламі-мухамі, не давалі супакоіцца. Яна колькі разоў падыходзіла да дзвярэй, чакала: вось-вось жа павінны адчыніцца. Потым бегла да акна і ўглядалася да болю ў вачах у заснежаны, са штучнай ялінкай, двор. НІКОГА! Гнятлівая цішыня кватэры ажно звінела. «Мама, прыходзь! Мама, прыходзь!» — пачала ўжо ўслых прамаўляць напалоханая Марыйка. І тут — успомніла раптам пра яго. Вялікага, добрага, усемагутнага. Зімовы бог! Ён жа і зараз глядзіць на яе — ужо з’явіліся на вечаровым небе першыя зоркі… Імгненне — і малая, кволая Марыйка ўскочыла на шырокі падаконнік. «Бог, добры бог, вярні маю маму! Я ніколі не буду сварыцца з ёй! Я буду дапамагаць! Я выпраўлю ўсе адзнакі» — не вытрымаўшы, дзяўчынка горка, няўцешна заплакала.

— Дачушка, што ты там робіш? — мама на хаду зрывала шалік, падбягаючы да акна. — Як ты мяне напалохала!

— А ты — мяне! — адказала заплаканая, але шчаслівая Марыйка.

Тым часам з вітальні пачуўся нейкі шоргат і ціхае павіскванне.

— Хто гэта там? — усхвалявана спытала Марыйка, прадчуваючы вялікую радасць.

— Хто-хто? Твой новы сябар. Як назавеш? — азвалася цётка Тамара і ўнесла ў пакой смешнага, тлустага шчанюка.

…Ральф рос не па днях, а па гадзінах. Хварэў, праўда, крыху. Але тое ж звычайная справа для шчанюкоў. Марыйка цярпліва давала яму кроплі і вітаміны, вычэсвала шэрстку. Клопаты пра сабаку зблізілі дзяўчынку і з матуляй. Яна таксама палюбіла кемлівага сабаку. І не магла стрымаць смеху, калі бачыла ўсё новыя і новыя Ральфавы свавольствы. Ужо праз месяц сабака весела гойсаў па двары, пераскокваючы снежныя гурбы. Марыйцы нават зайздросцілі сябры: які сябар-прыгажун у яе ёсць! А Ральф і праўда вырас у вялікага, з бліскучай чорнай поўсцю лабрадора. Умеў лапу падаць і як быццам бы з вясёлай усмешкай і цікаўнасцю ўзіраўся ў вочы людзей. Калі Марыйка часам сумавала — прыходзіў да яе і клаў на калені галаву, шчыра спачуваў. Летам хадзіў з дзяўчынкай на рэчку, плаваў, лавіў мячык у вадзе, а потым пацешна чмыхаў і абтрасаўся на беразе.

Але вось ізноў настаў верасень. Марыйка, сур’ёзная, дарослая, ішла ў сёмы клас. Дадалі да звычайнага раскладу новыя прадметы, падоўжыўся школьны дзень. Часам з Ральфам хадзіла гуляць мама, калі дачка рыхтавалася да сур’ёзных кантрольных ці пісала сачыненні. І вось з адной з такіх прагулак маці прыйшла позна, расхрыстаная, з дрыжачымі рукамі.

— Мама, што здарылася? Дзе Ральф? — закрычала Марыйка.

Мама падышла да стала, гаротна абняла дачушку.

— Прабач, родная, Ральфа больш няма. Я вінаватая, не зберагла, — зайшлася матуля ў невыносным рыданні.

Аказалася, што яна не ўтрымала моцнага сабаку на павадку, і той выбег на праезджую частку акурат перад вялікай фурай.

У тую ноч у Марыйкі ад узрушэння паднялася тэмпература. Урачы ў бальніцы сказалі, што ў дзяўчынкі нервовы зрыў, прызначылі лекі. Дома Марыйка глядзела ў столь невідушчымі вачыма і нічога не гаварыла. Нават калі ўжо падлячылася — у школе амаль перастала размаўляць з сябрамі, сцялася, адказвала толькі на пытанні настаўніка на ўроку. Мама страшна перажывала, тэлефанавала часта цётцы Тамары, бабулі, раілася, што рабіць з дачкой.

— Што ж тут дзіўнага? — спагадліва адказвала бабуля. — Дзяўчынка за сваё кароткае жыццё столькі гора перажыла. Дабрынёй яе трэба лячыць, дабрынёй. Прывозь да мяне на зімовыя канікулы, пастараюся ўнучку парадаваць.

…Марыйка ляжыць у цёплым ложку ў вясковай хаце, чуе, як бабуля грыміць лыжкай і паступова пранікае ў яе пакой прыемны, салодкі пах каляднага пірага. Ён прымушае раптоўна ўстаць, пабегчы на кухню.

— Што табе не спіцца, не ляжыцца? — з усмешкай пытаецца румяная ад агню ў печы бабуля. — Адпачыла б, пакуль пірог спячэцца, потым жа на службу пойдзем. У царкве зараз ведаеш як прыгожа! І ўсе радуюцца, бо нарадзіўся наш Збавіцель.

Бабуля і ўнучка ідуць па глыбокім снезе. Вакол — прыгажосць! Заснежаныя лапкі ялінак так і хочуць ухапіць за каўнер, у небе з-за празрыстага воблачка выглядае месячык, гараць па-святочнаму вокны хат. Марыйка любіць заглядаць у іх, бачыць вясёлыя твары, стракатае ўбранне пакояў. А бабуля ўсё расказвае дзівосныя гісторыі пра Віфлеемскую зорку і чарадзейных вешчуноў… У царкве цёпла і ўтульна, патрэскваюць свечы. Марыйка ставіць сваю, купленую на сабраныя грошы — за спакой татавай душы. Слухае ўрачыстую службу, разглядае абразы і пачынае паціху драмаць. Бабуля тое заўважае і ціха кажа:

— Ну, пайшлі-пайшлі, мая памочніца даражэнькая. Стамілася ты за дзень.

…На хвалях бабулінага голасу далятае Марыйка да чарнільных нябёсаў і бачыць запаветныя вялікія вочы.

— Божа, чаму я губляю самых дарагіх? — пытаецца спалохана Марыйка.

— Больш не будзеш! Прадракаю табе шчаслівае жыццё, — голасна адказвае зімовы бог. І рушыць, рушыць далей праз казачны лес.

## Ігар

Ясна, што са шматлікіх больш ці менш сталых «месцаў жыхарства» ў Мінску Лізе найярчэй сёння ўзгадваецца апошняе перад набыццём уласнага кутка… Распачынаўся пяты курс універсітэта, лета перад якім поўнілася вострымі перажываннямі, смелымі надзеямі, нейкімі незразумелымі, падсвядомымі, шчымлівымі прадчуваннямі рэзкай змены, незваротнай страты чагось звыклага і знаёмага. Але яны не засмучалі, наадварот, нейк ап’янялі нястрымным жаданнем забыцца на ўсё тое, чаму вучылі… Дзе і хто вучыў? Людзі, што расчароўвалі, радавалі, зневажалі, прагна кахалі… У цесных калідорах факультэта, у знаёмых задымленых сценах пабаў, у роснай траве за горадам, на дахах шматпавярховак пад зменлівымі зорамі. Не, не назаўсёды забыцца. А проста на час. Каб не так балюча было аддавацца ўспамінам. Новая порцыя адрэналіну ў кроў — і ўсё старое перагарае. Так Ліза рабіла не

раз. Ад «гарэння» таго часам моцна апякалася. Ды салодкага «танга матылька над аганьком» ніхто ж не адмяняў, праўда?

Вось і пошукам жытла на апошні курс не асабліва сабе жыццё ўскладняла. Галоўнае цяпер вызначыцца, уладкавацца на жаданую працу, адкрыць яшчэ столькі, каб галава кругам ішла. Не да бытавых выгод! Таму на прапанову размясціцца ў кватэры з гаспадаром згадзілася. Стандартная пяціпавярхоўка на Народнай. Трэці паверх. Дзверы старыя (ну і што з таго?). Заходзячы ўпершыню, з прыемнасцю адзначыла для сябе вялікую бібліятэку з кнігамі, карціны… Яе пакой, з савецкімі папяровымі шпалерамі, трумо, рыпучым ложкам, не засмучаў. Асобны, зачыняецца на ключ. Уласная тэрыторыя. Дзед-пенсіянер у першы ж дзень з ахвотаю распавядаў пра свой раён, раіў наведаць недалёкі лесапарк, дзяліўся ўспамінамі маладосці. Да таго ж падараваў адразу значную частку ўласнай бібліятэкі. Позна вечарам вярнуўся ўнук, з якім перакінуліся парай фраз. Засынаючы ў руках з «Вішнёвым садам» Чэхава, Ліза адчувала сябе даволі ўтульна…

Праз пару дзён, яшчэ лежачы раніцой у ложку, пачула грукат на кухні і гучны ўскрык дзеда, які абварыў нагу кіпнем. Пабегла дапамагаць. Зразумелым было адно: гаспадар трымаўся з апошніх сіл, каб не расчараваць новую жыхарку, ды, нарэшце, увайшоў у чарговы запой. Запалкі, раскіданыя па падлозе, пачатая пляшка, нямыты посуд… Перыядычна да бацькі наведвалася дачка, што жыла ў тым жа пад’ездзе. Часам лаялася на старога, прасіла Лізу аддаваць грошы за кватэру выключна ёй, каб ішлі на аплату камунальных, а не на ненавіснае пойла. А часам спакушалася магчымасцю «пасядзець», узгадаць памерлую маці за чаркай, другой, трэцяй… Пасядзелкі такія маглі цягнуцца да другой гадзіны ночы.

— Ліза, глянь на фотку, якая наша маці прыгажуня была! Гэта ў Ялце ў адпачынку, гэта на працы. Гэта я маленькая…

Дзіўна, што на свайго сына, які жыў з дзедам, яна асаблівай увагі не звяртала. У таго не склалася з працай: днямі ён спаў, позна ўвечары сыходзіў некуды да ранку.

— Зноў са сваімі наркаманамі швэндаўся? Вось патрапіш у турму, павер мне, патрапіш!

Не жадаючы перавозіць рэчы некалькі разоў на год (бо чакала яшчэ засялення ў інтэрнат), Ліза не спяшалася з’язджаць, цярпела. Ды і не так, па сутнасці, адчувала яна дыскамфорт. Новых уражанняў хапала. Вярталася дахаты толькі ўвечары, стомленая. Распачалася заключная, перад абаронай дыплома, практыка ў гімназіі. Ды яшчэ ў якой, прэстыжнай, з паглыбленым вывучэннем замежных моў. Дзеці паслоў, юрыстаў міжнароднага права… Амаль усе з крутымі тэлефонамі, планшэтамі, малінавым латэ на перапынку… Як цяжка было патлумачыць тое, што апявалася ў «Песні пра зубра»! Ці дабіцца ўсведамлення, з-за чаго гаруе Плачка ў Яна Баршчэўскага. Ды нічога, спраўляліся. І смяяліся разам да colікаў, і сур’ёзна разважалі… А яшчэ было на той час у Лізы «авантурнае» каханне з прыгодамі. Атрымала прапанову ўладкавацца на цікавую працу. Стракаты карагод падзей не даваў спыніцца і перавесці дыханне хаця б на хвілінку. Стоячы неяк на старым мосце, што пераразае Партызанскі праспект, і ўдыхаючы паветра вячэрняга Мінска, Ліза злавіла сябе на думцы, што нічога змяняць у жыцці не хоча…

Нават калі ўночы прачыналася ад грукату ў дзверы пакоя з патрабаваннямі пагаварыць… Нават калі перакрывала пад раніцу газ ці ваду, што пакінулі адчыненымі госці гаспадара пасля пасядзелак. Яна жыла з нейкім

шчаслівым філасофскім усведамленнем, што ўсё часовае, усё мінае, трэба абавязкова ўвабраць у сябе тыя фарбы, гукі, смакі, што пасылае жыццё тут і цяпер…

Ды, на жаль, праходзіць і тое шчаслівае адчуванне. Ужо ў час набліжэння зімы, калі лужыны рабіліся цвёрдымі, а гаспадарскі кот не лавіў галубоў на двары, Ліза вярталася ўвечары дамоў. Расчараваная, спустошаная… Той, дзеля каго яна рызыкавала, каму дазволіла адкрыць запаветныя таямніцы, не апраўдаў яе спадзяванні. Банальнае жаданне прыгод, аскепкі прыгожага шкла… Бытавая стомленасць на той час таксама ўсё больш давалася ў знакі. Што далей? Колькі яшчэ танцаў над агеньком свечкі ёй дадзена станцаваць? Узіраючыся ў святло рэдкіх ліхтароў, Ліза ратавалася тым, што прыгадвала часы маленства, калі вельмі любіла гуляць у прыцемках, адчуваючы скрозь цуды.

І раптам пабачыла на прыступках аптэкі бруднага, у заношаным адзенні чалавека, які роспачна, не звяртаючы ні на каго ўвагі, плакаў. Ён прыкрываў вялізную рану на руцэ, кроў капала на ганак. Калі б дзяўчына не была ў тым стане самашкадавання ды шкадавання ўсяго свету, які насяляюць гэткія ж гаротнікі, дакладна б прайшла ганарыста і нат не глянула лішні раз… Ды не цяпер. Сэрца тады так збалела, што патрабавала растварэння ў чужым горы, каб на хвілінку суцішыць уласны боль. Яна прыпынілася, падумала… і рашуча падышла да няшчаснага. Прысела на кукішкі, дапытліва паглядзела ў вочы.

— Вам дапамагчы?

Праз плач (так увогуе могуць плакаць дарослыя мужчыны?) не разабрала адказ. Тады перахапіла рашуча брудныя рукі сваімі, худымі, арыстакратычнымі, і пачала агледаць рану. Зразумеўшы, што справа сур'ёзная — хуценька забегла ў аптэку, набыла бінт, антысэптык. Чалавек быў агаломшаны, здзіўлены, прыціхлы. Не верыў у тое, што адбываецца. Стаў заікацца і кідаць дробныя бязглуздыя фразы:

— Я сам далей… Дзякуй… Не трэба… Дзякуй… Я не бомж, ну, так, часова… Я не заразны… Я трэнерам працаваў… Прабач…

Ліза намагалася нешта зразумець, ды тое давалася цяжкавата. Бачыла, што «пацыент» яе сапраўды не падобны асабліва да таго, хто пастаянна жыве на вуліцы. І такая трагедыя чыталася ў яго вачах, што проста ўстаць і пайсці было немагчыма. Таму, закончыўшы бінтаваць рану, дапамагла незнаёмцу ўзняцца, прапанавала прысесці на лаўку ў бліжэйшым двары. Цяжка дыхаючы, Ігар (так, імя ўжо вядомае — і тое добра), пачаў пакрысе гаварыць больш павольна...

— Ведаеш, я не заўсёды быў такім… Аж самому цяпер брыдка. Я дзяцей боксу вучыў, жыў у Заслаўі. Сям'я была, жонка, сын малы. Я ўсё для іх рабіў. На жонку кватэру, што ў спадчыну ад маці атрымаў, перапісаў… Маці мая маладая памерла, анкалогія, на руках маіх канала. Я Насці (жонка мая) ва ўсім верыў. Яна прыгожая, як ты, нечым нават падобная. А за нос мяне вадзіла. Калі даведаўся пра палюбоўніка, перажываў моцна. Потым прабачыць хацеў. Ды ён круты. Рэчы выкінуў з уласнае кватэркі… І бокс мой не дапамог. Я так знерваваўся, больш родзічаў тут няма. Думаў да цёткі ва Украіну ехаць. Ды мо я ёй непатрэбны? Пасля працы на вакзале спаў колькі дзён. А потым сябрукі вулічныя з'явіліся. На нейкіх блат-хатах жыў… Усё як вір страшны ў галаве… Прабач, прабач. Навошта табе гэта слухаць. А рука гэта — сабака пакусаў. Дайшоў да аптэкі і зразумеў, што грошай не маю. І такім пустым месцам сябе адчуў! Тут мяне і накрыла...

— Дык вам у паліклініку трэба. Гэта ж мо шалёны сабака.

— Зайду-зайду, толькі вопраткі сваёй саромлюся.

Ліза слухала той сумны аповед, пра нешта пыталася, падбадзёрвала.

— А выйсце якое ёсць?

— Я не закончаны алкаш. Я працаваць магу. Толькі каб жытло, хоць кут які далі б дзе. Адзін знаёмы, не, не з тых, нармальны, выбіць можа месца на заводзе, там інтэрнат даюць.

— Дык чапляйцеся за тую магчымасць!

— Ай, дзеля чаго тое? Як Насцю ўзгадаю, Дзімку, з якім бачыцца не дае, — хачу пад зямлю праваліцца…

— Хопіць! На што цяпер жыццё патраціце? Многім здраджваюць, многіх кідаюць, ды каб кожны ў пятлю лез! — Ліза крычала, не пазнаючы сябе.

— Прабач, прабач, і ты цяпер хвалюешся. Падумаю я, падумаю. Дай мне тэлефон свой — знайду адкуль пазваніць. Я табе грошы за лекі аддаць павінен…

Ліза рашуча адмаўлялася ад звароту грошай, нумар дала толькі каб адчапіўся. Ігар запэўніў, што начуе сёння ў «нармальнага» знаёмага — і пакрочыў няўпэўнена ў змрок. Ліза — на здымную кватэру.

Цікава, што ўласны боль пасля такого «кантраснага душа» стаў заціхаць. Вядома, не ўсё забылася, не ўсё ўладкавалася. Проста стала здавацца больш дробязным. Ліза працавала, хадзіла на практыку да школьнікаў, знаёмілася з новымі людзьмі. Чытала «Салярыс» Лема… І сапраўды думала, што касмічную адзіноту нельга прыручыць… Званка Ігара яна, канешне, не чакала. Таму, адпачываючы аднойчы вечарам пасля цяжкога дня, яна раздумвала, адказваць ці не на выклік з незнаёмага нумара. Цікавасць усё ж узяла верх.

— Прывітанне! Ліза, гэта ты?

— Так. Хіба мы знаёмыя?

— Гэта Ігар. Ну брудны дзядзька ля аптэкі, — голас яўна выдаваў незласлівую ўсмешку суразмоўцы. Грошы хачу вярнуць. І проста сустрэцца.

Не тое, каб надта хацелася Лізе ісці на тую сустрэчу. Яна не ведала, чаго чакаць. Што ад яе акрамя вяртання грошай хоча той Ігар, якога бачыла раз у жыцці? Аднак пайшла. І не пашкадавала.

Сустрэцца дамовіліся каля «Партызанскай». Стоячы тварам да ўвахода ў падземку, дзяўчына адчула далікатны дотык да спіны. Ігар падышоў з адваротнага боку. Тое, што гэта ён, пазнала толькі добра прыглядаючыся. Паголены, падстрыжаны, апрануты не шыкоўна, але чыста, мужчына сарамліва ўсміхаўся. У руках трымаў невялікі букецік:

— Гэта — табе. І грошы — вось. Мо прагуляемся крыху?

Ігар падрабязна расказваў, як уладкоўваўся на новую працу, дзе цяпер жыве. Асабліва свяціліся вочы, калі гаварыў пра сустрэчы з сынам, якія цяпер сталі магчымымі.

— Мяне тады так праняло, што ты маладая, прыгожая, інтэлігентная не пабаялася аб мяне рукі запэцкаць. Што накрычала, у галаву нешта ўбіла. Канешне, не на заўтра я пайшоў жыццё мяняць. Але адумаўся, канкрэтна. І цяпер усё інакш будзе.

Гулялі добрыя гадзіны дзве. Размаўляць было лёгка. Ліза таксама расказала шмат асабістага. Шчырасць нараджае шчырасць. На развітанне Ігар папрасіў:

— Можна я табе званіць буду? Каб лягчэй было. Не падумай нічога благога, я не маньяк які. Проста пагаварыць з добрым чалавекам хочацца. З ратавальніцай маёй.

Седзячы вечарамі ва ўласнай кватэры з кубкам кавы ці шпацыруючы па вялікім парку каля дома, Ліза часта цяпер узгадвае моманты такога адносна недалёкага мінулага. Ігар сапраўды званіў пасля. Колькі разоў хадзілі ў кавярню, смяяліся, гаравалі. Той жартам пытаў:

— Кавалераў хоць тваіх не спалохаю? Перадай, што я такой прыгажуні сам баюся.

Тое была гісторыя шчырага, нечаканага сяброўства. Паўгода таму Ігар усё ж з’ехаў да цёткі. Працуе цяпер па спецыяльнасці. Піша часам у сацыяльных сетках, дасылае фотаздымкі.

Часам Ліза думае, што ў сапраўднасці так не бывае. Быццам нейкі вышэйшы «рэжысёр» наўмысна паслаў ёй Ігара ў той вечар. Каб паказаць, як можа быць. Бо калі ён змог, стрымаў слова, то і няма чаго прыдумляць для сябе апраўданні.

«Люди як кораблі», — гучыць песня загінулага музыкі Андрэя Кузьменкі. Ігар кажа, што ва Украіне яго любяць і памятаюць…

Людзі сапраўды як тыя караблі. І калі нехта набірае «повні трюми води», трэба не даць яму пайсці на дно.

Ліза цяпер не хоча забыцца на тое, чаму яе вучылі людзі. У цесных калідорах факультэта, у знаёмых задымленых сценах пабаў, у роснай траве за горадам, на дахах шматпавярховак пад зменлівымі зорамі. Яны — частка таго вялікага акіяна, што хавае таямніцы, што злучае лёсы.

Усе невыпадковыя.



# ПА-ВЕНЕСУЭЛЬСКУ, ПРАНІКНЁНА І З ГУМАРАМ

*А**нібаль Насоа** (1928—2001) — знакаміты венесуэльскі журналіст, пісьменнік і гумарыст. Сваю літаратурную дзейнасць ён пачаў ва ўзросце 18 гадоў, стаўшы адным з фундатараў і аўтараў папулярнага ў Венесуэле гумарыстычнага тыднёвіка. Затым працаваў у рэдакцыях розных літаратурна-гумарыстычных часопісаў, быў аўтарам спецыяльнай калонкі ў цэнтральных друкаваных выданнях, аўтарам і вядучым тэматычнай рубрыкі на нацыянальным радыё.*

*Яго першая кніга «Тут горача» пабачыла свет у 1969 годзе. Гэта зборнік артыкулаў-разважанняў наконт паўсядзённай венесуэльскай рэчаіснасці. Шматлікія матэрыялы, напісаныя для розных масмедыя, леглі ў аснову зборнікаў «Мастацтвы і Рамёствы» (1973), «Сучаснае слова» (1981), «Паміж Лацінамі і Амерыканцамі» (1990), «Няпоўныя творы» (1992). Ужо пасля яго смерці выходзіць зборнік «Вароты Каракаса» (2007), для якога былі адабраны 107 з 1200 артыкулаў, напісаных для аднайменнай газетнай рубрыкі ў перыяд з 1972 па 1994 гады, у якіх адлюстравана хроніка паўсядзённага жыцця венесуэльскай сталіцы.*

*Творчасць Анібаля Насоа была высока ацэнена ў краіне. Ён лаўрэат Нацыянальнай прэміі журналістыкі (1969), якая, пачынаючы з 2009 года, носіць яго імя, іншых спецыяльных прэмій і ўзнагарод, у тым ліку Ордэна Франсіска-дэ-Міранда[1] (1976) і Ордэна Працоўнай Славы (1991).*

*Даследчыкі творчасці А. Насоа адзначаюць яго адметны стыль, арыгінальную для венесуэльскай літаратуры манеру распавядаць пра штодзённыя з'явы і падзеі ў маляўнічых дэталях, пранікнёна і з гумарам. Яму ўдаецца прымірыць эрудыцыю і вытанчанасць, чуласць і калючасць, абавязак і свабоду сумлення, важкасць і лёгкасць, вышыню і глыбіню.*

*Дасціпны і бязлітасны гумар, якім ён «частуе» ўсіх, не зважаючы на чыны і рангі, прынёс яму шмат непрыемных момантаў у жыцці. Ён гаворыць адкрыта па любой праблеме, выкладае свае думкі, не «фільтруючы» іх, апелюючы пры гэтым шырокімі ведамі амаль што ва ўсіх жыццёвых сферах. Часта ён гаворыць пра канкрэтныя рэчы з такой глыбінёю, якой мог бы пазайздросціць нават эксперт у гэтай галіне.*

*У 2002 годзе ў выдавецтве Адміністрацыі Прэзідэнта Венесуэлы выйшла першая кніга Поўнага збору твораў пісьменніка, прадстаўленая зборнікам «Мастацтвы і Рамёствы», прысвечаным розным «рэальным і нерэальным»*

---

*[1] Ордэн Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла, названы ў гонар Себасцьяна Франсіска-дэ-Міранда-і-Радрыгеса (1750—1816) — кіраўніка барацьбы за незалежнасць ад іспанскіх калоній у Паўднёвай Амерыцы, рэвалюцыянера, нацыянальнага героя, знакавай фігуры ў Венесуэле.*

*спецыяльнасцям, пачынаючы з беспрацоўнага, кіроўцы, вампіра, філантропа да ўрача, мастака, касманаўта і заканчваючы кіраўніком краіны. Для прыкладу з 29 сюжэтаў абраны 5, якія выносяцца на суд беларускага чытача. Пераклады зроблены з выдання «Aníbal Nazoa. Las Artes y los Oficios. Ediciones de la Presidencia de la República» (Caracas, Venezuela, 2002).*

*У прадмове да зборніка аўтар тлумачыць, што сюжэты напісаны па заданні рэдакцыі і павінны служыць свайго роду прафесійным арыенцірам для маладога пакалення, якому належыць уліцца ў рынак працы «для выканання біблейскага пракляцця ў поце твару свайго здабываць хлеб надзённы».*

*Усведамляючы складанасць і адказнасць пастаўленай задачы, аўтар спачатку хацеў быў адмовіцца, але потым у характэрнай яму манеры вырашыў паспрабаваць сябе ў ролі літаратара, абраўшы асобныя прафесіі, каб даць ім простае апісанне, як яму гэта бачыцца, дадаўшы гумару, прыязні, спагадлівасці і павагі.*

*Па словах А. Насоа, кніга не прэтэндуе на ролю навукова-практычнага дапаможніка, а хутчэй наадварот — мае сваёй мэтай, каб прачытаўшы яе, «можна было зрабіць адзіна магчымае заключэнне: гэта ўсё нікуды не варта».*

*Кніга ўяўляе сабой першы накід сучаснага венесуэльскага авантурнага рамана, поўнага вытанчанасці, глыбокай дасціпнасці і завершанасці літаратурнага майстэрства ў кожным з яе сюжэтаў. У іх аўтар аднолькава ўдала валодае гаворкай аўтамеханікаў другой паловы XX стагоддзя і мовай хітрunoў іспанскага Залатога веку. Дастаткова толькі ўвесці ў іх канкрэтных персажанаў, — і першы сучасны венесуэльскі авантурны раман поўнасцю будзе гатовы для спажывання.*

***Рыгор ЛЯШУК***

**Анібаль НАСОА**



# МАЯ ГАЛЕРЭЯ

## Акуліст

***Вы гэта можаце прачытаць?***

Калі вы гэта можаце прачытаць, то неадкладна звяртайцеся да акуліста, таму што гэта сведчыць аб нечым пагрозлівым, што дзеецца ў вашым вочным яблыку. Гэтыя радкі напісаны тым самым памерам шрыфта, што выкарыстоўваецца на адваротным баку авіябілетаў, гарантыйных талонаў, страхавых полісаў і іншых дакументаў, каб адмяніць калі не ўсё, то значную частку таго, што прапануецца на відавым баку. Калі вы можаце гэта прачытаць, то не вагайцеся ў прызнанні сябе хворым на зрок з тае простай прычыны, што шрыфт такога памеру быў прыдуманы спецыяльна, каб ніхто не мог прачытаць напісанае ім. Дык хавайце сваю ЛУПУ і…

***Пагаворым пра акуліста***

Акуліст у сучаснай грэчаскай мове гучыць як *Oftalmíatros* і азначае «вокавы лекар». Гэтым самым эліны спрычыняюцца да спрадвечнай блытаніны паміж акулістамі і афтальмолагамі, што неабходна прасвятліць, перш чым пераходзіць да нашага аповеду. Хаця на першы погляд яны азначаюць адно і тое ж, аднак розніца паміж імі даволі вялікая і глыбокая: афтальмолаг — гэта ўрач, што спецыялізуецца на захворваннях вачэй; акуліст — просты каліброўшчык нашых зрокавых здольнасцей. Акуліст нам прапануе прачытаць вялікія і выразныя літары, афтальмолаг уручае нам паперку з маленькімі і няўцямнымі літарамі, дзе адзінымі вялікімі і зразумелымі з'яўляюцца лічбы. Мы звяртаемся да акуліста, калі не можам добра адрозніць Н ад Я, у той час, як да афтальмолага — калі ўжо не можам адрозніць старонку з усім алфавітам ад партрэта Карласа Гардэля[1]. Візіт да афтальмолага можа скончыцца аперацыяй на нырках, або, па меншай меры, балючымі ўколамі, у той час, як ад акуліста мы вяртаемся найчасцей з акулярамі, у якіх нам няма аніякай патрэбы. Аднак, у рэшце рэшт, для простых смяротных адрозненне паміж акулістам і афтальмолагам ёсць і заўсёды будзе такім самым, як паміж псіхіятрам і псіхолагам: нам ніколі не спасцігнуць, дзе заканчваецца першы і пачынаецца другі. Адно толькі ведаем з абсалютнай упэўненасцю, што падчас выстаўлення рахунку ні адзін, ні другі нават брывёю не павядзе.

Фігура акуліста ўбірае ў сябе вартасці ўсіх прафесій, што апякуюцца дабрабытам чалавека. Яму ўласціва сур'ёзнасць лекара, ахайнасць дантыста, паслужлівасць педыкюршы, красамоўства краўца, усмешка цырульніка. Аднак не трэба забывацца яшчэ на патаемныя магічныя здольнасці, бо нельга адмаўляць той неаспрэчны факт, што толькі магіяй можна растлумачыць тое, калі чалавек пры дапамозе двух простых шкельцаў дапамагае нам адкрыць, што замест «Катамаран», што нам бачылася, трэба чытаць «Касабланка», а там, дзе нам бачыўся веласіпед, на самай справе намаляваны парсюк. Гэта тое, што ні больш ні менш патрабуецца, каб быць акулістам. Акрамя таго, калі казаць пра сцецыфіку Венесуэлы, то абавязкова трэба мець прозвішча Берэнс Белісарыё, Белісарыё Берэнс, Берэнс Брысэньё, або хаця б Гансалес Берэнс. Выключэннем з гэтай перашкоды з'яўляюцца тыя, каму пашчасціла насіць нямецкае прозвішча, напрыклад, Кон, Хершэль або Кюнстлер. Акуліст заўсёды нямецкага паходжання, або, па крайняй меры, мае справу з оптыкай, калі не акажацца наадварот.

***Важнасць акуляраў***

Агульнавядома, што тытуняводы не паляць, гаспадары бараў не п'юць, а наркадылеры не з'яўляюцца залежнымі. Акуліст, наадварот, носіць акуляры і карыстаецца імі з тых самых довадаў, што і большасць кліентаў: таму што акуляры надаюць яму прафесійны антураж, што вельмі спрыяе ягонай дзейнасці. Можна было б падумаць, што кліент, калі бачыць акуліста ў акулярах, у сваю чаргу пытаецца «*ці можа чалавек, што дрэнна бачыць, ведаць, што я бачу добра?*», аднак нікому ў галаву не прыйдзе такая думка; меркаванне кліента наконт акуляраў акуліста такое ж, якое ён хоча пачуць, надзеўшы акуляры, ад яму падобных: «*гэты, пэўна, вельмі многа ведае, халера!*».

[1] Карлас Гардэль (1887/1890—1935) — аргенцінскі спявак, кампазітар і акцёр, самая значная фігура ў гісторыі танга, ідал для мільёнаў лацінаамерыканцаў (заўвага перакладчыка).

Першы вядомы трактат па афтальмалогіі быў складзены на пачатку IX стагоддзя Хунайнам ібн Ісхакам, арабскім лекарам з хрысціянскай секты Нестарыянцаў, аднак агульнапрызнана, што акуляры ў якасці артэфакта для карэкцыі дэфектаў зроку былі вынайдзены кітайцамі, як і большасць цудаў нашай Заходняй Цывілізацыі, а першымі сярод еўрапейцаў іх згадваюць Роджэр Бэкан і Марка Пола, які ўбачыў іх пры двары Хубілай Хана. З той пары і да нашых дзён акуляры прайшлі доўгі гістарычны шлях, які можна падсумаваць сцвярджэннем: вынайдзеныя прадстаўнікамі Усходу, каб лепш бачыць, акуляры былі адаптаваны прадстаўнікамі Захаду, каб лепш выглядаць. У наш час аправа мае большае значэнне, чым лінзы, а жаданне мужчын (і жанчын, натуральна) пакрасавацца часта падвяргае іх сур'ёзнай рызыцы. У гэтым плане кліентура акуліста можа быць падзелена на дзве групы: тыя, што звяртаюцца да яго, бо *хочуць* насіць акуляры і тыя, што ідуць да яго, бо маюць у іх *патрэбу*. Цікава, што дэфект рэфракцыі назіраецца ў абедзвюх групах, прычым супярэчлівым манерам. Адныя, што хочуць надзець акуляры для надання саліднага знешняга выгляду маняць акулісту, таксама як і другія. Паглядзім, як гэта дзейнічае паасобку.

***Кліент, што хоча насіць акуляры***

Гэты звяртаецца да акуліста, як быццам бы заказвае касцюм у сучаснага мадэльера. Ён можа папрасіць, каб яму толькі паставілі простыя шкельцы ў тую модную аправу, што ён бачыў у вітрыне, аднак жа не; акуляры, што «*апранаюцца*», павінны мець не адну сотню дыёпртрый (слова дыёптрыя мае магічны ўплыў на асобу акулярыка), чым таўшчэй, тым лепш. Акуліст паказвае плакат з літарай Н памеру шасціпавярховага дома, а той кажа, што не можа дакладна сцвярджаць, ці гэта літара Г, ці малюнак Пікасо. Працягвае яму картку з урыўкам з рамана «*Донья Барбара*»[1], каб той яго прачытаў, а ў адказ чуе «*дзякуй, я не палю*». Пытаецца ў яго, якога колеру сцяна насупраць, а той у сваю чаргу пытаецца «*якая сцяна*?» Вынік заўсёды аднолькавы: чалавек, бачанню якога маглі б пазайздросціць арлы з самым дакладным зрокам, залічваецца ў гільдыю блізарукіх. Ён пакідае кабінет, учапіўшыся за руку акуліста, змятаючы крэслы і бачачы, што на яго зверху навальваюцца жэлацінападобныя сцены, аднак усё ж у акулярах, якія маглі б уразіць нават журы Нобелеўскай прэміі.

***Кліент, якому патрэбны акуляры***

Няма горшага сляпога, чым той, што верыць у свой дасканалы зрок. Сапраўдны блізарукі толькі і гаворыць пра свой добры зрок, але да таго часу, пакуль не разанецца ў шкляную сцяну, пры тым даволі забруджаную, і не акажацца ў оптаметрычным кабінеце па накіраванні тэрапеўта, або пры патрэбе памяняць вадзіцельскія правы. Ён з'яўляецца ў кабінет акуліста, падобна студэнту, што ідзе на экзамен, і гатовы выраблять усё, што заўгодна, каб толькі здаць яго. Ён садзіцца на экзаменацыйнае крэсла з відам аданталагічнага пацыента, быццам бы іспыт будзе балючым. Апараты для вымярэння зроку, што адным былі падставай, каб лічыцца найважнейшай у свеце персонай, выклікаюць у яго адчуванне найняшчаснейшага ў пекле таракана. Яму паказваюць той самы плакат

---

[1] «Донья Барбара» — знакаміты раман Ромула Гальегаса (1884—1969) — венесуэльскага прэзідэнта (1948), пісьменніка і журналіста, перакладзены на многія мовы свету (заўвага перакладчыка).

з гіганцкай літарай Н, а ён, хоць і бачыць там перакрыжаванне рога кавярні з мапай Аўстраліі, робіць удалыя намаганні, каб адгадаць і выпальвае поўнымі грудзямі: ЭМ! Яму даюць картку з урыўкам з «*Доньі Барбары*», а ён, нічога не бачачы, аднак з'яўляючыся адмысловым знаўцам творчасці пісьменніка, ледзь толькі разабраўшы першае слова, выдае ўсё на памяць. У яго пытаюцца пра колер сцяны, а ён, не ў стане разгледзець, ці то яна зялёная, ці то фіялетавая, адказвае свайго роду размытым метафарычным абаротам кшталту «*колеру парагвайскай магноліі*», або «*паміж зеленню Радэзіі і ліловым надвячоркам на Марсе*». Вынік, як заўсёды, той самы: чалавек, якому няблага было б месца для кампаніі сабаку-павадыра і кіёк, выходзіць адтуль кіроўцам, несучы пагрозу Бог ведае колькім чужым жыццям.

З такімі і падобнымі ім экзэмплярамі вымушаны змагацца акуліст, з чаго можна зрабіць выснову, што толькі дасканалае веданне псіхалогіі можа дапамагчы яму падтрымліваць у большай ці меншай ступені непарушным свой навуковы прэстыж. Бо якім чынам, акрамя як з пазіцый вялікага псіхолага, можна здагадацца, што на самай справе бачыць кліент? Гэты, падчас прымервання шкельцаў, дэманструе сваю абсалютную няўпэўненасць.

— З гэтымі добра бачыце?

— *Так.*

— А з гэтымі?

— *Лепш... не... здаецца з тымі бачылася лепш... не, ні з аднымі... Вось, з гэтымі пэўна... не, здаецца, што... з першымі...*

Потым настае прымерванне аправы.

— Добра сядзіць?

— *Так, так, вельмі добра... Хаця левая дужка мне трошкі ціснe...*

— Добра, адагнём яе крышку... А зараз як?

— *Чорт, здаецца, што ціснула правая...*

— Не турбуйцеся... Зараз лепш?

— *Так, добра, але... я не ведаю... тут на пераносіцы нешта мне...*

Псіхолаг? Не, святы — вось што патрабуецца, каб працаваць акулістам! Святым, аднак не настолькі, бо, у рэшце рэшт, патрабуецца пэўны дэманічны талент, каб прадаць прадукт. Чалавек, здатны, пачаўшы гаворку пра неабходнасць суіснавання з чытаннем пры дапамозе святла, што падаецца пад пэўным вуглом, працягваць маляваць жудасныя наступствы дачаснай міяпіі, распавядаць гісторыі пра тых, хто страціў зрок з прычыны няправільнага прымянення лекаў, або апісваць тонкі механізм падтрымання эметрапіі, пералічваць жахлівыя аперацыі, якіх можна было б пазбегнуць, калі б пацыент своечасова надзеў акуляры, і так працягваць да даго моманту, пакуль аўдыторыя не пачне валяцца ў яго нагах, чапляючыся за крысы халата і вымольваючы ў імя Бога прызначыць ім хоць якія акулярыкі — гэта і ёсць сапраўдны акуліст.

***Месца і інструментарый***

Кабінет акуліста павінен нагадваць сабой адначасова кабінет дантыста, кіназалу, салон прыгажосці, кандытарскую, артгалерэю, ювелірны салон, аперацыйную, модны буцік і камандную рубку на субмарыне. Што да інструментарыя, які выкарыстоўвае гэты элегантны рамеснік, то памятаем, што ў апошні наш візіт ён быў абстаўлены занадта цікавымі апаратамі. Але паколькі праверка зроку зусім не балючая, то мы не запомнілі ніводнага з іх. А вось што тычыцца дантыста, дык там яны надта запамінальныя.

## Аўтамеханік

***Месца***

Усё пачынаецца з маленькага шуму ў аўтамабілі: спачатку здаецца, быццам унутры рухавіка завёўся гном, які друкуе на пішучай машынцы, потым чуецца нешта накшталт свісту і штосьці падобнае на *дрындындын,* якое ідзе ці то ад кола, ці то ад прываднога рэменя вентылятара, ці ад карбюратара, і так доўжыцца, пакуль аўтамабіль не пачынае глухнуць і валачыся ў рытме «Бурлакоў на Волзе». Чарговая ахвяра ўжо гатовая для прынашэння.

І вось яна — аўтамайстэрня: *Lasciate ogni speranza, voi ch'entrate*[1]. Звычайна аўтамайстэрня ўяўляе сабой не што іншае, як павець з бляшаным дахам і прамасленым чорным земляным долам, аздобленым шматлікімі інкрустацыямі: накрыўкамі піўных бутэлек, этыкеткамі, балтамі, гайкамі. Паабапал валяюцца некалькі аўтамабіляў з распоратымі пузамі, а пасярод, зваленыя ў кучу, у неверагоднай колькасці запасныя часткі і прылады, большасць якіх заржавелыя і ўжо непрыдатныя, старыя акумулятары, шыны, што дэманструюць кордавыя лысіны ад празмернай эксплуатацыі, гара парожніх бляшанак з-пад масла. Ля ўвахода нясе варту грозны сабака нявызначанай масці, навязаны на ланцуг, даўжыня якога вымерана літаральна да мікрона з тым, каб не даць зверу кусануць кліента, аднак прымусіць яго прабірацца міма, прыціскаючыся да сцяны, падобна запалоханым тараканам. Адным з найбольш займальных заняткаў, каб неяк змарнаваць час у чаканні, пакуль майстар акажа вам вялікую міласць, верагодней усяго было б паспрабаваць разгледзець пад некалькімі тоўстымі геалагічнымі слаямі зямлі і масла, што яго ахутваюць, якога ж колеру была поўсць сабакі ў гады яго юнацтва. На розум прыходзяць дзве неверагодныя рэчы, у якія нельга паверыць: што магчыма сабраць столькі бруду, столькі зашмальцаванай старызны ў адным месцы і што гэтае месца можа выраблять такую колькасць грошай. Таму што акрамя ўраду і пахавальных агенцтваў, відаць, не існуе бізнесу, які б быў больш паспяховым, чым праца аўтамеханіка.

***Асоба***

Гэта і ёсць атачэнне, у якім праяўляе сябе наш персанаж. Назіраючы за яго дзейнасцю, міжволі думаеш, што рэклама майстэрняў па рамонце аўтамабіляў павінна была б нагадваць, па меншай меры, тую, што прапануе рытуальныя паслугі: «У выпадку, калі, на вялікі жаль, вам спатрэбяцца паслугі…» Калі кліент звяртаецца ў аўтамайстэрню, то сцэна, якая разгортваецца там, да болю нагадвае сюжэт *вестэрнаў*, дзе бледнатвары падарожнік прыбывае ў стан індзейцаў для перамоў з Вялікім Правадыром. Памятаеце, як абодва сядзяць, схіліўшыся, і доўгі час застаюцца маўклівымі, не гледзячы адзін на аднаго, пры гэтым індзеец паліць сваю люльку, а бледнатвары нешта крэсліць палачкай на зямлі? Менавіта гэта і ёсць тое дзейства, што рызыгрываецца паміж кліентам і аўтамеханікам. Гэты, напрыклад, сядзіць на кукішках каля старога гразевага шчытка, што служыць рэзервуарам для адпрацаванага паліва, у якім ён прамывае блок рухавіка. Кліент размяшчаецца на разумнай адлегласці, і калі ён спрактыкаваны і добры знаўца псіхалогіі аўтамеханіка, то цярпліва будзе чакаць, пакуль той завершыць сваю працу, ці хаця б узніме галаву, каб акінуць яго беглым позіркам. Але калі гэта нецярплівы навічок, дык ён аба-

---

[1] Пакіньце ўсялякую надзею вы, што ўваходзіце (дакладны пераклад з італьянскай. — *Р. Л.*).

вязкова спытаецца, ці можа той яго абслужыць. Калі ў першага ёсць верагодны шанец быць абслужаным, то другі паступае крайне неабдумана, паколькі нішто так не абурае аўтамеханіка, як тое, калі перапыняюць яго дзейнасць.

Дапусцім, што лёд урэшце растапіўся, і Вялікі Правадыр гатовы выслухаць пакорлівага пацярпелага. Рэдка калі аўтамеханік адказвае на расповед кліента словамі, даўжэйшымі больш чым за адзін склад. У той час, калі бедалага апісвае сімптаматыку свайго аўтамабіля, той слухае ў стане глыбокай медытацыі, а затым, замест адказу, выгуквае:

— Меарда!

Меарда — гэта дзяцюк, што корпаецца пад адным з аўтамабіляў, і каб з'явіцца, яму спатрэбіцца не менш як чвэрць гадзіны. Калі ён урэшце прыходзіць, патрон яму загадвае:

— *Уладкуй гэтае аўто вунь там і падстаў два дамкраты. Прынясі мне адзін тры чвэрці і адзін два з паловай, какадупадобны і шліцавую адвёртку.*

Менавіта тут пачынаюцца сапраўдныя мучэнні кліента і яскрава праяўляецца эзатэрычны характар рамяства аўтамеханіка. Аўтамеханікі ўяўляюць сабой разнавіднасць недаступнай касты жрацоў, што дзейнічаюць і размяркоўваюць свой час у атмасферы богабаязнага страху, які ўсяляюць у кліентаў. Яны абсалютна ўпэўнены ў дзвюх рэчах: па-першае, што кліент наўрад ці ведае, куды ў аўтамабілі трэба заліваць ваду, а куды бензін, і, па-другое, што ён звяртаецца ў майстэрню з цвёрдым перакананнем у тым, што яго машына ўжо ніколі не будзе ездзіць, хіба што здарыцца нейкі цуд. Менавіта таму яны такія панурыя і скупыя на словы. І таму абмяжоўваюцца толькі выслухоўваннем знясілелага апекуна пацыента, суправаджаючы аповед мінай нагружанага асла, або іранічнай ухмылкай. Калі кліент з заміраннем сэрца чакае пастаноўкі дыягназу, той паднімае капот аўтамабіля, варушыць свечкі запальвання, нацягвае то там, то сям правадкі, тузае за шланг, спрабуе круціць аддалены болт. Адзін з найбольш уражвальных магічных трукаў здараецца ў той момант, калі ён дакранаецца адвёрткай да нейкага агрэгата, які абавязкова выдасць цэлы сноп іскраў. А яшчэ больш дзіўным уяўляецца тое, што ў пэўным закуточку рухавіка ёсць месца, да якога чарадзей дакранаецца, і аўтамабіль заводзіцца, атрасаючыся падобна мокраму сабаку. Потым ён загадвае Меарда, каб той садзіўся за руль і пачынае даваць яму інструкцыі:

— *Заводзь… дай газу… глушы… давай… педаліруй… глушы… выжмі педаль… добра…*

Кліент ужо даходзіць да стану, што на грані зрыву, чым скарыстоўваецца аўтамеханік, как прынять задумлівы выгляд, пагладжваючы пры гэтым падбародак і не прамаўляючы ані слова. Нарэшце, калі каранарны трамбоз нацягвае свае стрэлы, как працяць сэрца кліента, майстар рашаецца парушыць сваё маўчанне.

— *Цапфы крывашыпа зусім зношаныя; рамы выпуклых восей маюць вялікі люфт; трэба замяніць дыферэнцыял, кардан і бісектаральныя ступіцы, паставіць кулачковыя і адкалібраваць масляныя датчыкі на цыліндрах. Пярэднія амартызатары, здаецца, у норме, але трэба яшчэ паглядзець.*

— Ну, дык што з ім? — пытаецца запалоханы кліент.

— *Дык тое, аб чым я вам кажу.*

Адказ больш чым адэкватны на такое недарэчнае пытанне, паколькі кліент не мае ані якіх падстаў, каб аб нечым пытацца; яму дастаткова ведаць, што аплаціўшы рамонт, ён верагодней за ўсё скончыць жабраком. Зазначым мімаходзь, што гэты спектакль падасца яшчэ больш трагічным, калі трапіць аўтамеханік з тых, хто носіць белы халат. Калі вам сустрэнецца аўтамеханік у халаце — панове, будзьце гатовы прасіць крэдыт у Сусветным Банку.

Аднак часам сустракаецца кліент, што ўяўляе сябе знаўцам і спрабуе спляжыць аўтамеханіка сваім веданнем справы. Гэта адзін з тых, хто прыкаціўшы ў аўтамайстэрню, пачынае настаўляць:

— *Маэстра, ці не маглі б вы агледзець размеркавальнік? Мне здаецца, што гэтая штучка замыкае на палюсах катушкі аўтамата і прадукуе магнітны вакуум…*

Небарака. Яму прыйдзецца яшчэ горш, паколькі ён дазволіў сабе справакаваць праведны гнеў майстра. Ён не цяміць, што тым самым падвяргае сябе сапраўднаму экзамену па механіцы, выпадку паспяховай здачы якога хаця б адным кліентам гісторыя яшчэ не ведала.

Адной з найбольш тыповых якасцей, уласцівых аўтамеханіку, з'яўляецца яго адданасць пажаданням кліента. Калі, напрыклад, побач з агрэгатам, што падлягае рамонту, выпадкова акажацца крыху аслаблены правадок, майстар можа сто разоў гэта заўважаць, і хаця, каб яго паправіць, дастаткова толькі крутануць вінт на паўабарота, аднак гэтых паўабарота ён не крутане, таму што гэтага няма ў каштарысе або «*аб гэтым гаворка не ішла*», што служыць яго жалезным аргументам. Другой, не менш тыповай якасцю, з'яўляецца яго песімізм: любы паважаючы сябе аўтамеханік першае, што паведае кліенту, — гэта тое, што яго аўтамабілю засталося нядоўга, літаральна гадзіны жыцця і што лепш было б яго «*падтынкаваць*» і знайсці *дурня, каб прадаць* як мага хутчэй, што гэты аўтамабіль будзе і надалей «*выкідваць конікаў*», што не варта мець аўто дадзенай мадэлі, бо запчастак да яе ўжо не знайсці нават на сметніку. Мэта малявання такой малапрывабнай карціны — не што іншае, як набыць удзячнага кліента: калі пасля выслухоўвання змрочнага прагнозу акажацца, што ваш аўтамабіль па сканчэнні васьмі месяцаў, а то і года, усё яшчэ на ходу, то, натуральна, вы зноў звернецеся да аўтамеханіка як да цудадзейнага збаўцы. Адно толькі ахтамеханікі-паляўнічыя, тыя, што вандруюць па дарогах у пошуках ахвяр аўтааварый, могуць сабе дазволіць выказванні кшталту «*не, браце, вось цяпер гэтае аўто, ліха на яго, атрымалася як трэба*». Абедзве катэгорыі імкнуцца да адной і той жа мэты, адны — метадам запалохвання, а другія — ліслівасцю: садраць як мага больш.

І што тычыцца вандравання па дарогах і высокага кошту, то калі аднойчы, рухаючыся па аўтастрадзе, вы прыкмеціце мурзатую асобу ў зашмальцаванай і патрапанай вопратцы, настолькі бруднай, быццам яе смажылі ў нафце, то не кажыце «вунь вар'ят». Цвёрда пераканайцеся, перш чым ацэньваць, бо не той манах, што надзеў расу. Верагодна, гэта не няшчасны звар'яцелы, што звычайна бадзяецца па абочынах дарог, а наадварот: аўтамеханік, іначай кажучы — ягамосць. Вар'ятам будзе той, хто поўнасцю даверыцца яму, не патаргаваўшыся хаця б дзеля блізіру.

## Вампір

***А-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-й-й-й-й-й-й-й-й!***

Бомм… Бомм… Бомм… Боммм… Чатыры тужлівыя ўдары званоў старога вежавага гадзінніка абвяшчаюць, што настала поўнач, справа ў тым, што сістэма званоў старога гадзінніка зусім разладзілася, і а другой гадзіне яны б'юць чатыры разы, але ўлічваючы, што яны спяшаюцца на дзве гадзіны, то лёгка можна здагадацца, што на самай справе дванаццаць гадзін. Уцямілі? Не, ясна, што справа цёмная: вельмі цёмна, амаль чарната. Толькі далёкая маланка раз-пораз рассякае цемрадзь халоднай і непагодлівай ночы. Вецер навявае

даўнія гісторыі аб прывідах, а могілкавыя кіпарысы, схіляючыся над склепамі, адказваюць яму жахлівым рыпеннем. Над пагоркамі разносіцца ваўчынае скавытанне, а сава каркае[1] сваю пахавальную малітву[2] недзе пасярод галля векавога дуба[3], што стаіць на ўскарайку могілак. У змрочным замку Картофельшале, там, на вяршыні Чорнай Гары, глыбокая ноч. Маладзенькая баранеса Ля-Крэвет салодка спіць, поўная няведання небяспекі, што ей пагражае. Верагодна, яна сніць сабе прынца на белым кані, што аплаціць ёй арэнду жылля, святло, ваду, тэлефон, газ і г. д. да сканчэння яе бестурботных дзён. Раптам нешта падобнае на ледзь чутны лёгкі ўзмах крыла, халодны подых, далікатны ўкол у мармурова-белую нявінную шыю, менавіта ў месца анёльскага пульсавання. Нявінная баранеса Ля-Крэвет, ускрыкнуўшы, прачынаецца і з жахам заўважае што па яе пасцелі поўзае таракан. Дрыжачай рукой яна цягнецца да туалетнага століка і бярэ флакон з супермагутным і дзейсным аэразольным інсектыцыдам, адзіным, што мае ў сваім саставе ФД-4 і да таго ж эканомным, бо знішчае больш за меншы кошт. Насякомае звалена з ног, атрымаўшы смяротную дозу ад аднаго толькі пырску магутнага прадукта, што лідзіруе ў серыі найбольш эфектыўных сродкаў, а прыгажуня зноў засынае пад надзейнай абаронай гэтага вернага дамашняга сябра. Вецер пагрозліва грукае ў акно.

***Між тым…***

Між тым, у другім пакоі замка злавеснае скрыпенне абвяшчае пачатак будзённай справы: граф Мантэкату, дзядзька юнай баранесы, адчыняе сваю труну, бо час ужо ісці на працу. У чым заключаецца праца вампіра? Гэта не рамяство і не прафесія. Гэта мастацтва. Вытанчанае мастацтва, якое могуць спасцігнуць толькі бессмяротныя.

Дзейнасць вампіра, на першы погляд, абмяжоўваецца выключна тым, каб хадзіць і смактаць шыі. Аднак мы зараз дакажам, чаму гэтакае спрошчанае ўспрыманне з’яўляецца абразай для Мастацтва і выклікам для Навукі, хоць яно ўсё-такі часткова і адпавядае рэальнасці: сцвярджэнне, што вампір смокча шыі, мае падставу.

***Каб быць вампірам…***

Шаноўны чытач, нам не хацелася б вас расчароўваць, аднак мяркуем, што вы ніколі не станеце вампірам, па той вельмі простай прычыне, што першай умовай, якой патрэбна адпавядаць, — гэта нарадзіцца ў Трансільваніі. За выняткам таго, што сучаснае румынскае заканадаўства дапускае існаванне натуралізаваных вампіраў (Трансільванія знаходзіцца ў самым сэрцы Румыніі, ля падножжа Карпат), народжаныя па-за межамі гэтай загадкавай балканскай тэрыторыі не павінны цешыць сябе ілюзіямі. Тут дарэчы будзе нагадаць, што вампіры вельмі адданыя свайму роднаму краю і ў любым кутку планеты, дзе б яны не аказаліся, заўсёды маюць пры сабе, акрамя труны, жменьку трансільванскай зямелькі для сваіх пахаванняў. Таму калі вы падчас турыстычнага турнэ акажацеся ў Трансільваніі, то не злуйцеся на выбоіны, што сустрэнеце па дарозе: пры такой колькасці вампіраў, што пакінулі краіну і захапілі з сабой па прыгаршчы зямлі, зусім зразумела, что яна ператварылася ў нешта падобнае на сыр Груер.

---

[1] Мы ведаем, што каркаюць вароны, аднак у Венесуэле варон няма (заўвага аўтара).

[2] Совы не каркаюць і таксама не чытаюць малітваў. Проста слова вельмі пасуе да гэтага тыпу апавяданняў (заўвага аўтара).

[3] Таксама вядома, што ў Венесуэле дубы не растуць. Вы, што, хочаце, каб для чытання малітваў мы памясцілі саву сярод галля звычайнай гуаявы ці авакада (заўвага аўтара)?

Другой умовай, каб стаць вампірам, з'яўляецца стан смерці, інакш кажучы, — мець пасведчанне аб смерці, належным чынам завяранае экспертным урачом. Калі гэтага не будзе, то няма чаго чакаць, што, адчыніўшы века труны вампіра, вы знойдзеце яго там у свежым стане і ў элегантным адзенні, або, як часта здараецца, у працэсе прыняцця крывавай ванны.

Трэцяя ўмова, і яшчэ раз паўтараю, што не хачу вас расчароўваць: вампір павінен быць шляхетнага паходжання, па меншай меры, графам, як Дракула або Насферату. Вы ўяўляецце сабе незавідную ролю вампіра з простым прозвішчам тыпу Педра Перэс або Джон Сміт? Зусім верагодна, што ім не ўдасца пасмактаць нават курыную шыю.

***Выдаткі***

Яшчэ адной першакодай, што паўстане на шляху чытача, які жадае абраць кар'еру вампіра, з'яўляецца той неаспрэчны факт, што яна патрабуе вялікіх выдаткаў. Мяркуйце самі: па-першае, уніформа вампіра ўжо сама па сабе ўяўляе значнае ўкладанне. Хто глядзеў фільмы пра вампіраў, той павінен быў заўважыць, што яны заўсёды элегантна апранутыя і маюць пры сабе плашч, кошт якога ў самым эканомным салоне Лондана адпавядае цэламу скарбу. Да гэтага трэба дадаць, строга прытрымліваючыся кінасюжэта, што вампір павінен мець бездакорную прычоску, таму, думаецца, што брыльянцін пацягне немалую частку даходу артыста. Акрамя таго ў раздзеле агульнага макіяжу мушу зазначыць, што ў адпаведнасці з патрабаваннямі кінематаграфічнага эталона, вампір павінен мець ярка намаляваныя вусны, з прычыны чаго яго ўкладанні ў губную памаду мусяць быць немалымі. Аднак тут яшчэ хацелася б дадаць, што вампір карыстаецца густымі, чорнымі і дугападобнымі брывамі, якія хутчэй за ўсё малююцца вугалем; а паколькі ўсе фільмы пра вампіраў чорна-белыя, то можна сэканоміць на памадзе, намаляваўшы вусны тым жа вугалем, што і бровы.

Пяройдзем зараз да аднаго з найбольш важных выдаткаў вампіра: зубны ўрач. Я б сказаў, што зубны ўрач — гэта вампір з вампіраў, калі ўлічыць тую частку зарплаты, якую ён высмоктвае.

***Інструментарый***

Тут мы прыступаем да практычнай тэхналогіі вампірызму. Асноўнымі рабочымі інструментамі вампіра з'яўляюцца клыкі. Імі ён пракусвае шыю ахвяры і, як нам паказваюць у фільмах, праз іх смокча кроў; мы так гэта апісваем таму, што вампіры з Галівуда нязменна пакідаюць пасля сябе адзнаку ў выглядзе дзвюх маленькіх дзірачак, як ад змяінага ўкусу, і больш нічога, з чаго лёгка можна зрабіць выснову, што смактанне ажыццяўляецца праз клыкі. Апошнія, як вынікае з папярэдне сказанага, заўсёды павінны быць у бездакорным стане. Для гэтага рэкамендуецца памяшчаць іх на дзень у шклянку з дэзынфіцыруючым растворам, хаця цяпер арганізавана вытворчасць асобных клыкоў з пластыку, што вытрымліваюць безадказнае смактанне не адну ноч, пры гэтым не губляецца іх знешні выгляд.

***Як дзейнічае вампір***

Вампіры, што гістрычна паходзяць ад рымскіх *Lemures,* якія парадніліся з сучаснымі грэчаскімі *vroukólakas* і сярэдневяковымі *loups-garous* або лабізонамі, з'яўляюцца мёртвымі бадзягамі, якія апоўначы пакідаюць свае дамавіны, каб напіцца крывёю жывых. Тут трэба зазначыць, што частка гіпагенітальных вампіраў дзеля сцэнічнага эфекту, абмяжоўваюцца толькі паходам у краму, каб купіць крывянку, развесці яе потым у гарачай вадзе і ўжываць гэты напой,

нечым нагадваючы распушчальную кроў. Існуе шмат разнавіднасцей вампіраў. Пачынаючы з тых, што выходзяць па начах, каб паядаць трупы і заканчваючы тымі, што толькі здымаюцца ў кіно і іх дубль заключаецца ў тым, каб зачыняцца ў труне, пракрадацца ў вокны замкаў і смактаць шыі нявінных шляхетных паненак. Адны абарочваюцца ў кажаноў, другія захоўваюць сваё чалавечае аблічча, а найбольш мадэрновыя не лічаць сябе нават аднаасобнымі вампірамі, а проста «жывой сілай».

***Перасцеражэнні***

Акрамя здаровых зубоў — або, па крайняй меры, клыкоў у бездакорным стане — прэтэндэнт на ўступленне ў гільдыю мусіць мець пэўную групу крыві, паколькі агульнавядома, што вампір павінен быць Універсальным Смактальшчыкам. Рэкамендуецца таксама быць надзвычай асцярожным пры выбары ахвяры, і перш чым заняцца яе шыяй, праверыць яе рукі і ногі, каб упэўніцца, што яна мае прышчэпкі. Не будзе лішнім таксама нагадаць, што лютым ворагам вампіра з'яўляецца алей, таму нельга дапусціць, каб ён трапіў на замкі труны, якія лепш было б час ад часу паліваць салёнай вадой для падтрымання іх іржавага стану. У адваротным выпадку гэтыя дэталі не будуць рыпець у момант адкрывання дамавіны, што можа нанесці ўрон прэстыжу вампіра.

Як сцвярджаюць знаўцы справы, адзіны спосаб забіць вампіра — увагнаць драўляны кол у яго сэрца. З гэтай прычыны вампіру катэгарычна проціпаказана, з аднаго боку, прысутнічаць на матчах па бейсболе, у час якіх выкарыстоўваецца кол, што называецца *бітай* для біцця па мячы, а з другога — завяшчаць пахаваць сябе ў краіне на шляху развіцця, напрыклад, у Венесуэле, дзе пастаянна і паўсюль зазямляюцца калы, каб пазначыць тое, што называецца «*будоўля дзеля Прагрэсу*»; барані бог, каб вас не праткнулі падчас гэтых зазямленняў.

***Сучасны вампір***

Дасюль мы распавядалі пра класічнага вампіра, менавіта таго, што смокча кроў сваіх ахвяр прамым спосабам, з шыі праз клыкі. Каб атрымаць інфармацыю пра сучаснага вампіра, раім пачытаць дзеючыя заканадаўчыя акты і адпаведна іншыя не менш жудасныя крыніцы.

## Дыпламат

***Вызначэнне***

Калі чытачы настойваюць, каб мы далі вызначэнне дыпламату, то лепш не ісці шляхам этымалогіі, бо этымалогія паказвае дыпламатаў у не вельмі прывабным святле. Старажытныя грэкі паслом у сучасным значэнні называлі таго, каго ў наш час называюць консулам: *próxenos*, адкуль паходзіць рамяство чалавека, аб сутнасці якога не хочацца нават успамінаць. Што тычыцца ўласна самога слова *дыпламатычны*, то яно паходзіць ад *diploma* (*diplomatos* у родным склоне), што азначае «**складзены ўдвая аркуш**», і таму нясе ў сабе не зусім прыемны сэнс «дваякасці»: акрамя «складзены ўдвая», *diplóos* азначае «*двудушны, вераломны, фальшывы*». У гэтым не наша віна, калі так гаворыць «Грэчаска-іспанскі слоўнік»; які, па праўдзе кажучы, бачыцца як самая непатрэбная рэч на свеце, бо каб ім скарыстацца, трэба, па меншай меры, ведаць грэчаскую мову, але нашто нам гэта.

Аднак вернемся да тэмы дыпламата. Каб не ігнараваць неабходнасці даць яму вызначэнне, пакуль скажам, што звычайны чалавек — гэта той, хто ўвязаўшыся ў бойку на вечарынцы, прапануе свайму праціўніку вырашыць справу на вуліцы; у той час, як дыпламат, калі спрачаецца з кімсьці на вуліцы, то для вырашэння спрэчкі запрашае таго на вечарынку. Гэта што тычыцца дыпламатыі, як умення і маральнай уласцівасці. З прафесійнага пункту гледжання дыпламат — гэта асоба, якой урад плаціць за тое, што ён жыве ў замежжы.

***Яго Экселенцыя***

Пан Амбасадар. Monsieur l'Fmbassadeur. Il Signor Ambasciatore. Herr Botschafter. O Senhor Embaixador. Mister Ambassador. Господин Посол. Які ж ён — дыпламат? Паколькі тут справа ідзе пра тое, каб для пачатку растлумачыць, якім *павінен* быць дыпламат, пачнём з першай якасці, якая патрабуецца, каб займацца такой заслужанай кар'ерай: дух самаахвярнасці. Як мы добра ведаем, дыпламат — гэта найперш грамадзянін, поўнасцю і без ваганняў гатовы ахвяраваць сабой дзеля Радзімы. Стаічна вытрымліваць суровую зіму ў Парыжы; пакорліва цярпець тужлівы лонданскі туман; цярпліва пераносіць мітусню Токіа; доўгія ночы Осла, таксічны смог Сан-Францыска, смажаных курапатак у рэстаранах Мадрыда. Без лішніх ваганняў служыць пры любым урадзе, паколькі ён прадстаўляе не ўрад, а Радзіму, якая, у рэшце рэшт, плаціць яму яго мізэрны заробак і такія ж мізэрныя прадстаўнічыя выдаткі і камандзіровачныя. Далейшымі ўмовамі, неабходнымі для дыпламатычнай чыннасці, з'яўляюцца:

а) *Элегантнасць*. Немагчыма сабе ўявіць дыпламата, які б не быў элегантным. Пан Амбасадар мае сваім маральным абавязкам быць высокім, стройным, чалавекам у гадах, рухацца размерана і цырыманіяльна, мець дагледжаную сівую шавялюру, а пры яе адсутнасці — выразную і з густам аформленую лысіну. Па магчымасці, таксама мець акуратную клінападобную бародку, якая, акрамя аздобы, вельмі будзе да месца, каб пагладжваць яе ў моманты міжнароднай напружанасці. Ён можа валодаць такім зрокам, каб палічыць валаскі ў камара на адлегласці дваццаці кіламетраў, аднак у любым выпадку павінен насіць акуляры, або яшчэ лепш — манокль. Дыпламат без акуляраў у рэдкім выпадку ўспрымаецца сур'ёзна. Хаця ў наш час, трэба гэта прызнаць, паслабленне звычак прывяло да таго, што пачалі выкарыстоўваць не толькі безакулярных дыпламатаў, але і пухлявых, няўклюдных, калматых і нават, які жах! маладых дыпламатаў.

б) *Адметнасць*. Паколькі не той манах, што надзеў расу, то не любы фізік прыдатны быць дыпламатам. Апошні вылучаецца сваёй паставай. Сур'ёзны і адначасова сардэчны, просты і афіцыйны, абачлівы і камунікабельны. Усё ў рамках пэўным чынам вызначаных дакладных нормаў і адпаведна краіне, у якой яму належыць выконваць свае функцыі; калі гэта прадстаўніцтва ў еўрапейскай краіне, то хутчэй за ўсё ён павінен быць свойскім, вясёлым, усмешлівым, аматарам дасціпных жартаў і майстрам выканання сваіх народных песень пад акампанемент нацыянальнага музычнага інструмента. Калі ж наадварот, яму выпадае краіна на шляху развіцця, то ён павінен быць вытанчаным, засяроджаным, стрыманым у размове, афіцыёзным, рухацца размерана і прамаўляць скрозь зубы нешта няўцямнае.

в) *Такт*. Гэта агульнавядомая вартасць дыпламатаў. Калі гаворка ідзе пра такт, то першае, што маецца на ўвазе, — гэта дымламат, бо нават у паўсядзённых зносінах цяпер ужо стала модным не казаць «**зрабі гэта тактычна**»,

а «**зрабі гэта дыпламатычна**», калі гаворка ідзе, напрыклад аб тым, каб выправадзіць са свята п’янага госця, які задзіраецца і мацае азадкі жанчын і які, акрамя таго, што з’яўляецца мільянерам, да таго ж яшчэ і шэф амфітрыёна вечарыны. Пад *тактам* падразумяваецца такая ўласцівасць, якая дазваляе паслу вялікай дзяржавы адмовіць у крэдыце малой дзяржаве, але каб пры гэтым не здалося, што ён адмаўляе; а паслу малой дзяржавы — папрасіць крэдыт у вялікай дзяржавы, каб гэта на падалося просьбай.

г) *Спрытнасць*. Было б залішне гаварыць пра спрытнасць — адметнасць, якая найбольш характэрная для дыпламатычнай брацііі. Выраз «спрытны дыпламат» з’яўляецца плеаназмам з разраду «ўмелы фехтавальшчык, годны афіцэр, злая мачыха, празорлівы дэтэктыў і пародзістая жывёла».

д) *Гнуткасць*. Дыпламат павінен быць вельмі гнуткім чалавекам, асабліва ў вобласці спіны, бо ў адваротным выпадку не зможа працістаяць несканчоным абавязковым укленчванням, а па сканчэнні года выканання прафесійнага доўгу яго спасцігне люмбага.

ж) *Вынослівасць*. Луджаны страўнік, здатны выносіць банкет за банкетам без яўных прымет пашкоджання; рэзістэнтнасць да напояў, што гарантуе прадстаўленай дзяржаве, каб яе дыпламаты маглі бясконца ўздымаць бакалы, але каб пры гэтым фіналам не сталася выкананне імі сапатэада[1] на банкетным стале або крыўлянне перад пасламі, напрыклад, ЗША або СССР; непарушная фартэцыя, здольная супрацьстаяць самым працяглым у свеце прамовам і пры гэтым не заснуць, а таксама голас настолькі гучны, каб не даць заснуць іншым, калі прамаўляе ён сам: адсюль і некаторыя патрабаванні фізічнага кшталту, што прад’яўляюцца да прэтэндэнта на дыпламатычную пасаду любога рангу.

***Прылады працы***

Зусім немагчыма ў сціслай форме і ў малым аб’ёме адлюстраваць усю безліч інструментаў, якімі карыстаецца дыпламат у сваёй працы. Таму мы абмяжуемся толькі згадваннем фрака, або смокінга, цыліндра і шматлікага набору ўзнагарод: адных для паўсядзённага карыстання, а другіх — на выключны выпадак, калі трапішся на вочы правіцелю або калегу. Затым ідуць шампанскае, лобстар Тэрмінадор, ікра, філе-міньён, суп-пюрэ, крэп-сюзэт і г. д. Сярод інструментаў, якімі цяжэй за ўсё карыстацца і якія патрабуюць прафесійнай падрыхтоўкі, — сыр і віно. Дыпламат, што не здольны адрозніць Камамбэр ад Бры, або не ведае: чырвонае ці белае віно Сент-Эмільён, сваёй тупасцю можа нават справакаваць вайну. А тыя, хто не маюць досведу ў якасцях віна таго ці іншага ўраджаю, не вартыя нават быць залічанымі да Дыпламатычнага Корпуса. Акрамя згаданых прылад цяжкай працы, існуюць больш вытанчаныя, што патрабуюць далікатнага абыходжання: гэта атамныя бомбы, пушкі, аўтаматы, разведвальныя самалёты, закамуфляваныя пад зажымы для гальштукаў фотакамеры, наёмнікі, дэсантныя ліхтэры, авіяносцы і г.д., што выкарыстоўваюцца часцей, чым аб тым многія думаюць і не заўсёды ўзамен першых, а часцей паралельна з імі.

***Аб дыпламатычнай валізе***

Гэты містычны аб’ект заслугоўвае асобнай увагі. Скрынка Пандоры, нутро якой хавае ў сабе ўсю загадкавую прывабнасць дыпламатычнай прафесіі. Дыпламатычная валіза — гэта недатыкальны паштовы мяшок, належным чынам праштампаваны, апячатаны, апламбіраваны, які можа ўскрыць

[1] Іспанскі народны танец, падобны да чачоткі (заўвага перакладчыка).

толькі Міністэрства замежных спраў або адпаведнае пасольства, якому яна прызначана. Калі яна паступае на мытню, то службовыя асобы бяруцца за яе дрыжачымі рукамі, быццам гэта бомба з магутным зарадам. З ёю абыходзяцца так, як не абыходзяца нават з цяжкахворымі, на ўсім яе шляху не дапускаюць яе забруджвання, пашкоджання або простага прыцiскання, яе перавозяць з цырыманіялам, вартым махараджаў. У момант яе распячатвання робяцца найнеймавернейшыя здагадкі наконт змесціва. Змяшчае ў сабе загад разарваць адносіны? (Пасол хвалюецца, думаючы пра свой заробак). Змяшчае, вобразна кажучы, першыя выстралы вайны? Выкрывае ўсеаб’ёмны план падрыву прамысловасці ў пэўным рэгіёне планеты? Нясе ў сваім нутры імя асобы, што падлягае знішчэнню? З ёю прысланы план умацаванняў і код Генеральнага Штаба краіны акрэдытацыі? Заміранне. Напружанне. Грызенне пазногцяў. Праклятая торба ўрэшце адкрываецца: дыпламатычная валіза змяшчае, як правіла, ліст да цётачкі Пасла, некалькі бутэлечак забароненых замежных лекаў, што ёсць, як кажуць, сапраўдным дынамітам у ложку, некалькі пакункаў корму для канарэек, якіх не дастаць адпаведна тут альбо там; завушніцы для жонкі міністра, якія там даволі танныя, але купленыя тут, пацягнуць на цэлы скарб, кантрабандная парфума, цацкі для дзетак Хасэфіны, чэкі на прадстаўнічыя выдаткі і яшчэ нешта падобнае.

***Руплівая праца***

Мусім папярэдзіць, каб потым не скардзіліся, што праца дыпламата цяжкая і знясільваючая. Гэта трыста шэсцьдзясят пяць дзён на год прысутнічання на банкетах, слухання і прамаўлення бясконцых выступленняў, адкрыцця помнікаў, уручэння і атрымання медалёў, крыжоў, знакаў, паясоў, зорак, стужак, ордэнаў, планак, кукард. Неабходнасць намаганняў, што патрабуюцца, каб толькі ўзваліць на сябе ўвесь груз узнагарод на кожны прыём, святкаванне ці ваенны парад, не пакідае ані якага шанцу хворым на грыжу або сардэчнікам, каб быць прыгоднымі для дыпламатычнага рамяства. Гэта вам не дзіцячыя забавы — займацца цэлы божы дзень адстойваннем годнага імя Радзімы, умацаваннем дружалюбных сувязей паміж дзвюма краінамі, цалуючы рукі дам, якія вам не заўсёды даспадобы, сплятаючы і расплятаючы пальцы, каб даць зразумець, быццам бы думаеце пра глабальныя рэчы, аднак на самай справе марыце, каб найхутчэй змыцца і наталіцца півам у бліжэйшым бары. І найбольш драматычным з усяго, што складае саму сутнасць прафесіі, уяўляецца неабходнасць жыць далёка ад родных пенатаў, сярод людзей з адрознай мовай і звычкамі, ласуючыся горкай ікрой і апрыкрым далікатэсным паштэтам замест аблюбаванай нацыянальнай стравы, наведваючы родную старонку толькі тады, калі шматлікія заданні і нацыянальныя інтарэсы вам гэта дазваляць... Не, урэшце, калі вы, чытач, маеце намер заняцца дыпламатычнай кар’ерай, то мы вам не зайздросцім. Цяжкая, занадта цяжкая гэтая праца.

## Прэзідэнт

***Недарэчнае пытанне***

**Ці хочаце Вы быць Прэзідэнтам?** Спытацца аб гэтым у венесуэльца — амаль што абраза, гэта адно, што спытаць у Жульеты, ці закаханая яна ў Рамэа, або ў рыбы, ці ўмее яна плаваць. Прэзідэнцтва для венесуэльцаў — гэта чаравічак Папялушкі, Філасофскі Камень, дотык Мідаса, лямпа Аладзіна і Боты-скараходы… А чаму мы не згадваем *Сім-сім, адчыніся?* Панове, не будзьце такімі вульгарнымі!

***Канстытуцыя і рэальнасць***

Адпаведна з палажэннем Канстытуцыі дзяржавы, *«Для абрання Прэзідэнтам Рэспублікі патрабуецца быць венесуэльцам па нараджэнні, старэйшым за трыццаць гадоў і міранінам»*. Аднак, ці гэта адно і тое ж у параўнанні з рэальнасцю? Дазволім сабе сумнявацца. Для пачатку, што да «старэйшым за трыццаць гадоў», то гэтае абагульненне недасканалае, як у прынцыпе і ўсе абагульненні. *Сапраўдныя* патрабаванні для абрання Прэзідэнтам не могуць змясціцца і ў дваццаці падобных трактатах. Зноў звяртаючыся да тэмы, мусім зазначыць, што прэтэндэнт на Прэзідэнцтва павінен быць палітыкам, а сцвярджэнне, што стаць палітыкам можна за трыццаць светавых, фінансавых, ці яшчэ як іх там называюць, гадоў — поўная лухта. Трыццаць гадоў — гэта мінімальная *траекторыя*, што патрабуецца, каб прэтэндаваць на трон, выбачайце, на Прэзідэнцкае Крэсла. Той, хто не правядзе гэты час, гаворачы іншымі словамі, не займаючыся палітыкай, няхай забудзе пра свае прэтэнзіі. Зразумела? Такім чынам, сапраўдны прэзідэнцкі ўзрост — 45 гадоў і вышэй, пры ўмове, што прэтэндэнт аказаўся здольным дзіцём, што змог поўнасцю раскрыцца ў 15-гадовым узросце. Але адкладзём у бок канстытуцыйныя акалічнасці і пяройдзем да падрабязнага разгляду кожнага з патрабаванняў, каб лепш зразумець, які ж ён — дасканалы *прэзідэнт*.

***Аб духу самаахвярнасці***

Калі вы не гатовыя ахвяраваць сабой за Радзіму, дзеля чаго тады вы хочаце быць Прэзідэнтам? Гэта і ёсць найгалоўнейшая перадумова, каб стаць Першай Асобай: дух самаахвярнасці. Быць гатовым аддаць усё ўзамен на нішто. Адмовіцца ад прыватнага дабрабыту на карысць грамадства. Без ваганняў зрабіць выбар на карысць дзяржаўных інтарэсаў ва ўрон асабістым інтарэсам. Прэзідэнцтва — гэта цярністы шлях, крыж адказнасці, вязніца доўгу (апладысменты) і хопіць ужо пытацца, чаму ж тады ўсе хочуць стаць Прэзідэнтам?

***Аб прызванні***

Займацца рамяством Прэзідэнта магчыма толькі па прызванні. Ім можа займацца толькі той, хто ад моманту свайго нараджэння да надзялення яго паўнамоцтвамі, калі такімі надзяляюць, не марыў у сваім жыцці больш ні аб чым іншым. У гэтым сэнсе асаблівая адказнасць ускладаецца на бацькоў, каб тыя як мага раней высветлілі, ці хочуць іх дзеці быць прэзідэнтамі, стаўшы дарослымі, з тым каб неадкладна заняцца іх трэніроўкай. Дзіця трэба навучаць так, каб дасягнуўшы старэйшага ўзросту, яно не ўмела рабіць нічога іншага, як толькі быць Прэзідэнтам. Пасля таго, як будучы Прэзідэнт вызваліцца з-пад бацькоўскай апекі, ён самастойна працягне выхаваўчы працэс і тое, што мы назвалі *траекторыяй*, іншымі словамі, запас гадоў, што палітык павінен пражыць, каб дайсці да Прэзідэнта. Інакш кажучы: Прэзідэнцтва — гэта нешта большае, чым рамяство або прафесія, гэта цвёрдая ўпэўненасць.

***Аб тытулах***

Хоць закон гэтага і не патрабуе катэгарычна, аднак каб займацца рамяством Прэзідэнта, пажадана мець пэўнае класавае паходжанне, а таксама вышэйшую адукацыю. Які ж з тытулаў найбольш падыходзіць? Паколькі Канстытуцыя сцвярджае, што Прэзідэнт павінен быць «*міранінам*», а гэта азначае, што ён не можа быць святаром, то метадам выключэння можна прыйсці да высновы, што найбольш падыходзіць Доктар або Генерал. Аднак гэта зусім

не азначае, што асоба з няпоўнай вышэйшай адукацыяй або афіцэр ніжэйшага звання не можа прэтэндаваць на Прэзідэнцкую Стужку. Паколькі адразу ж пасля абрання Прэзідэнтам, не зважаючы на адсутнасць у грамадзяніна якога-кольвек тытула, народ пачне называць яго «*доктарам*», не лічачы тытулаў *Honoris causa*, якімі ён будзе ўшанаваны падчас канстытуцыйнага мандата. Што да афіцэра ніжэйшага звання, то для гэтага існуе пасада Прэзідэнта: каб павысіцца да Генерала адразу ж як ён пакладзе сваю руку на ўладу. Лацінаамерыканская гісторыя мае безліч наглядных ілюстрацый на гэты конт.

***Аб лёгкасці гаварэння***

Дзевяць дзясятых дзейнасці Прэзідэнта зводзяцца да прамаўлення выступленняў і прэс-канферэнцый. Такім чынам, Кіраўнік, што ўсведамляе свой доўг і надзелены сапраўдным Прызваннем Служыць, мае Непазбежную Павіннасць дасканала валодаць Аратарскай Навукай, каб несці сваё Аўтарытэтнае Слова да Грамадства ў любы момант, калі таго патрабуе Сувярэнная Дзяржава, паколькі той, хто трымае ў руках Руль карабля Дзяржавы, павінен падтрымліваць з Народам пастаянны Дыялог з тым, каб Грамадская Думка была належным чынам інфармавана аб Кіраванні Грамадскімі Справамі і аб Найважнейшых Праблемах Сучаснасці, калі мы хочам пазбегнуць Маразму і заняць Пачэснае месца сярод Гармоніі Нацый, як аб тым марылі Праслаўленыя Мужы, што пакінулі нам у спадчыну Свабоду, праліўшы сваю Пачэсную Кроў і дараваўшы нам Вялікую Радзіму, што з Дапамогай Усявышняга ўзяла курс на Шлях Прагрэсу.

***Аб узаемаразуменні***

Прэтэндэнт на Прэзідэнцтва ніколі не павінен забываць, што Першы Кіраўнік прадстаўляе ўсю Нацыю. Таму ён мусіць знаходзіць паразуменне з усімі слаямі, што яе складаюць. Гэта азначае, што зарукай яго поспеху будзе адкрытасць і давер, якія ён зможа прабудзіць сярод іх. Прэзідэнт павінен прыслухоўвацца да запатрабаванняў Народных Мас, але пры гэтым не крыўдзіць Капітальных Мас. Абяцаць зямлю сялянам, не закранаючы інтарэсаў землеўладальнікаў. Знізіць арэндную плату жылля і не ўшчаміць уласніка дома, адначасова пераканаць арандатара, каб той не прасіў яшчэ больш адчувальнай зніжкі. Падаграваць пачуццё нацыяналізму, але не выклікаць перасцярогу сярод інвестараў, а таксама вітаць маніфестацыі народа з трыбуны яго патронаў. Карацей кажучы: *Прэзідэнт павінен быць арлом*.

***Аб прыладах працы***

Можа падацца непраўдападобным, але каб займацца такой складанай прафесіяй і несці столькі адказнасці, колькі мае Прэзідэнт, патрабуюцца ўсяго толькі два простыя інструменты: ручка для падпісання дэкрэтаў і накладвання рэзалюцыі «*Для выканання*» на законы, а таксама нажніцы, каб пераразаць стужкі на цырымоніях адкрыцця.

***Аб службовых абавязках***

Пагаворым зараз больш канкрэтнымі катэгорыямі: чым на практыцы займаецца Прэзідэнт? Каб весці пра гэта гаворку, дазволім сабе нешта, што можа падацца нехарактэрным для нашых звычак, аднак поўнасцю апраўданым: прывядзём частку артыкула, напісанага некалькі гадоў таму, у якім даволі падрабязна апісваюцца заняткі, што складаюць будзённую прэзідэнцкую дзейнасць. З вашага ласкавага дазволу прапануем яго ніжэй:

Прэзідэнт рэспублікі абавязаны амаль штодзённа прымаць прадстаўнікоў краін, аб якіх ён нават не ведае, дзе яны знаходзяцца і праводзіць з імі гадзіны, седзячы на канапе са складзенымі рукамі і гледзячы на іх, быццам бы пытаючыся, *«добра, ну і што?»*

Прэзідэнт рэспублікі павінен хаця б адзін раз на тыдзень пераразаць стужку нажніцамі, што звычайна губляюцца непасрэдна перад пераразаннем, а калі знаходзяцца, то ўжо сапсаваныя або шчарбатыя.

Ён пастаянна павінен наведваць будаўнічыя аб’екты, што прадугледжвае доўгачасовае хаджэнне пад неміласэрным сонцам, дыхаючы пылам і ў акружэнні надакучлівага натоўпу падхалімаў, папрашаек, шпіёнаў і падшыванцаў, што дзівяцца з яго, быццам з цыркавога артыста.

Ён абавязаны падчас наведвання згаданых аб’ектаў фатаграфавацца ў вартай смеху алюмініевай касцы, маючы пры гэтым выгляд удзельніка святочнага маскараду.

Падчас афіцыйнага прыёму ўсе прысутныя ў неабмежаваных аб’емах глышчуць віскі і паядаюць тоны бутэрбродаў у той час, калі ён павінен сядзець у найнязручнейшым крэсле, паміраючы ад жадання прапусціць хаця б адзін глыток.

Куды б ні накіроўваўся, ён заўсёды павінен раздзяляць кампанію з трох афіцэраў, што пастаянна маячаць за яго спінай, заўжды напагатове схапіць, калі той уздумае ўцякаць.

Амаль кожны дзень ён падвяргаецца катаванню, выслухоўваючы бясконцыя даклады ні аб чым тоўстых чыноўнікаў пры касцюмах і, што яшчэ горш, гаворачы ім у адказ немаведама што.

У якасці Прэзідэнта ён павінен быць «*звязаным з народам*», час ад часу яму даводзіцца рызыкаваць жыццём, каб абляцець на самалёце аддаленыя паселішчы, у выніку чаго, акрамя распуджаных там мух, ён скіне шэсць кіло вагі.

Ён павінен задавальняць ваенных і распавядаць масам пра «*структурныя перамены*». Пазбягаць трэнняў са Злучанымі Штатамі і ўсміхацца тым, хто просіць пашырэння гандлю з Трэцім Светам. Скарачаць бюджэт Універсітэта і выстаўляць сябе апалагетам культуры. Цярпець, калі ў прысутнасці пабочных асоб сябры дзяцінства звяртаюцца на «*Вы*», а калі ён уваходзіць, то ўсе астатнія пачынаюць размаўляць цішэй, быццам ён хворы.

І апошняе, Прэзідэнт, якім бы дэмакратычным ён ні быў, жыве пад пастаянным страхам перад мыш’яком у каве, перад падкупленым цырульнікам, што можа зрабіць яму жык! лязом і перад бомбай у шуфлядзе пісьмовага стала.

***Аб выгадах***

Дык што ж, можа спытацца чатач, усё гэта азначае, што рамяство Прэзідэнта нясе адны толькі нязручнасці і ніводнай выгады? Зусім не! Па праўдзе кажучы, той, хто цэліцца ў Прэзідэнта, можа разлічваць на дзве выгады; хоць толькі дзве, але ж найважнейшыя: па-першае, для яго не існуе праблемы дарожнага руху, не толькі па прычыне, што яму не прыходзіцца сядзець за рулём, але і таму, што шлях яму на ўсю шырыню праезджай часткі расчышчае цэлы табун матацыклістаў. І па-другое, стаўшы Прэзідэнтам, ён ужо нічога не павінен рабіць. Прэзідэнт можа не рэалізавацца як пісьменнік, не карыстацца аўтарытэтам высокага прафесіянала нават сярод суседзяў, не ведаць, што Пікасо — гэта не італьянскі кампазітар і не пітчар Цынцынаці… Аднак ён — Прэзідэнт. Хіба гэтага недастаткова?

***Пераклад з іспанскай Рыгора ЛЯШУКА.***

**Зоя ТРАЦЦЯК**

# РЭЦЭПЦЫЯ МАТЫВУ ВАЙНЫ-ПРАЦЫ Ў РАМАНЕ «СОКІ ЦАЛІНЫ» ЦІШКІ ГАРТНАГА

Беларуская ваенная проза 20—30-х гадоў мінулага стагоддзя вызначалася глыбокім і шматаспектным асэнсаваннем падзей Першай сусветнай вайны. Змяняючы ракурс, мастакі слова заўважалі новыя дэталі татальнага супрацьстаяння. М. Гарэцкі паказаў 1914—1918 гг. з нацыянальна-адраджэнскага пункту гледжання (дакументальна-мастацкія запіскі «На імперыялістычнай вайне»). А. Гародня ўвасобіў вайну, пабачаную нямецкім салдатам, які самастойна дайшоў да ідэй рэвалюцыйнага ўпарадкавання свету і інтэрнацыяналізму («Варта на Рэйне»). З. Бядуля ў аповесці «Набліжэнне» намаляваў персанажа-інтэлігента, які вытрываў крах уласных рамантычных уяўленняў пра вайну. Ц. Гартны, захоплены ідэямі сацыялістычнага будаўніцтва, распавядаў пра Першую сусветную — прадвесце рэвалюцыі («Сокі цаліны»).

На фоне тагачаснай літаратуры пра вайну 1914—1918 гг. квадры «Крыжовыя дарогі» і «Чырвоныя зарніцы» вылучаліся менавіта задумай: аўтар імкнуўся асэнсаваць і жыццё беларускай вёскі, і прыфрантавы Мінск, і рабочы Пецярбург, і далёкую Нямеччыну. І. Чыгрын, нарыклад, лічыў, што ў аснову твора пакладзены «хранікальна-аўтабіяграфічны прынцып арганізацыі матэрыялу» [1, с. 382]. Айчынныя даследчыкі неаднойчы адзначалі, што раман Ц. Гартнага разглядаецца «як першы завершаны сацыяльна-бытавы эпічны твор у нацыянальнай літаратуры» [2, с. 17]. Акрамя таго, навукоўцы падкрэслівалі адметнасць галоўнага героя твора і ў той жа час крытыкавалі яго аўтара, бо, «паказваючы некаторыя рысы новага чалавека, Гартны не змог яшчэ стварыць яркі і жывы вобраз рабочага ва ўсёй глыбіні і складанасці яго характару» [3, с. 19—20].

У мастацкай прасторы «Сокаў цаліны» канцэнтраваліся самыя розныя тыпы персанажаў, чые ўчынкі, думкі і эмоцыі падсвечвалі падзеі 1914—1918 гг. спецыфічнымі фарбамі. Але з найбольш пільнай увагай празаік паставіўся да пралетарыяў. Яго вопыт настолькі дапасаваўся да патрэб часу, што «мастацкую эстафету Гартнага падхапілі такія пісьменнікі, як Р. Мурашка, М. Лынькоў, Б. Мікуліч, Хв. Шынклер» [4, с. 376].

Паказальна, што раман звычайна разглядаўся як твор, прысвечаны выспяванню рэвалюцыйнай свядомасці Рыгора Нязвычнага. Гэты персанаж на працягу кнігі эвалюцыянаваў да ўзроўню сапраўднага лідара, здольнага захапіць іншых камуністычнымі ідэямі. Дзякуючы такой сюжэтнай лініі проза Ц. Гартнага трапляла ў знаны шэраг савецкай класікі на тую ж тэматыку. С. Александровіч, напрыклад, адзначаў, што «закончана была праца над «Сокамі цаліны» тады, калі з’явіліся творы «Справа Артамонавых» М. Горкага, «Жалезны паток» А. Серафімовіча, «Разгром» А. Фадзеева, «Цэмент» Ф. Гладкова, першыя кнігі «Ціхага Дона» М. Шолахава і «Блукання па пакутах» А. Талстога» [5, с. 268]. Адначасова, тэма Першай сусветнай, прысутная на старонках «Сокаў цаліны», адыходзіла на другі план і радзей трапляла ў поле зроку даследчыкаў літаратуры.

Ц. Гартны прыняў храналогію вайны за аснову свайго літаратурнага бачання аблічча навалы. У дзвюх частках пададзены асноўныя этапы крызіснага быцця,

ад выспявання міжнароднага палітычнага выбуху ў 1914 г. да зараджэння пратэстнага руху напрыканцы 1915 г. у Расійскай імперыі. Нягледзячы на тое, што аўтар падпарадкаваў аповед мэце ўвасаблення асноўных падзей, што набліжалі рэвалюцыйны 1917 год, ён здолеў занатаваць унікальныя малюнкі сусветнай вайны.

Глыбокая повязь з народнай стыхіяй адчуваецца ўжо ў эпізодах, прысвечаных лету 1914 г. Ц. Гартны параўнаў надыходзячы катаклізм з вогнішчам, пажарам, на які апантана дзьме вецер, а «полымя шугае ў бакі і ўгору, шырыцца, расце… Вось-вось заверціцца ўсё ў каламутным вадакруце агню» [6, с. 122]. Мастак слова акцэнтаваў увагу на легкадумнасці і цікаўнасці, з якімі звычайны чалавек чакаў надыходу чарговай навалы. Шараговы грамадзянін не ўлічыў шмат фактараў, звязаных з вайной, але адно адкрыццё адразу ўразіла кожнага індывіда, здольнага мысліць: «чалавек стаў надзвычайна чулым, каразлівым, як магнес. І ў той жа час — слабым, бяспомачным. Адразу не хапала ні сілы, ні месца. Для цэлага, для грамады — ён быў неадметным...» [6, с. 123]. Падобная выснова паўстала на старонках і іншых твораў: «Набліжэнне» З. Бядулі, «У поплавах» А. Гародні, «На імперыялістычнай вайне» М. Гарэцкага.

Слабы чалавек практычна не супраціўляўся абставінам, таму ён трапляў у махавік вайны, складзены з незлічонай колькасці шрубак, паяднаных у сувязі з іх дэструктыўным прызначэннем. Функцыянаванне такога механізма далёка адышло ад параўнанняў з традыцыйнай працай-малацьбой, неаднойчы апетай у айчынным мастацтве слова. Ц. Гартны, верагодна, адным з першых у беларускай ваеннай прозе дэталёва распрацаваў тэму дзеяння цывільна-тылавога канвеера забойства. У літаральным сэнсе ён грунтаваўся на «шырока наладжаным гатаванні снарадаў на патрэбу вайны. Цэлымі стосамі выкідацьмуць іх варштаты... У кожным снарадзе — смерць некалькіх чалавек, разбурэнне, пажары. А між тым іх гатавацьмуць яны, рабочыя, якія ўчора яшчэ, заўчора надавалі свой магутны пратэст... супроць вайны і забойства» [6, с. 138].

Такім чынам, «апаратная» частка вайны існавала таксама і дзякуючы шараговаму індывіду, што выбляў сродкі масавага знішчэння ці забяспечваў армію ежай, фуражом. Ідэалагічнай асновай узброенай барацьбы была мітуслівая дзейнасць дыпламатаў і размаітасць меркаванняў грамадска-палітычнай эліты. Ц. Гартны падрабязна спыніўся на стэрэатыпным мысленні гэтай часткі насельніцтва імперыі: «па нагрэтых панэлях расфуфыранага Неўскага паняслiся задзёрыстыя выгукі наконт закідання шапкамі «праціўнае немчуры»... Генералы і задзірыстае афіцэрства... — замарыла ордэнаў, нагарод, ганаровых званняў. Чарнасотніцкія паўзуны ўзняліся думкамі пра «славу ды перамогу расійскага самаўладдства». Кісла-ліберальная інтэлігенцыя ўспомніла «врата Цареграда», «братоў славян»… лібералы зараз выкінулі лозунг міжнацыянальнага яднання ў змаганні з «юнкерствам», «прускай ваеншчынай», «тэўтонамі»…» [6, с. 143]. У працытаваным урыўку выразна праглядаюць палітычныя погляды аўтара — змагара за сацыялістычную будучыню. Аднак, яго пазіцыя апантанага выкрывальніка заган Расійскай імперыі — рэч не зусім унікальная ў беларускай прозе і паэзіі пра Першую сусветную (маем на ўвазе асобныя фрагменты са спадчыны П. Броўкі, З. Бядулі, А. Гародні, М. Гарэцкага).

Для шараговага персанажа вайна-праца пачыналася з моманту абвяшчэння мабілізацыі. Гэтая падзея ў народнай свядомасці заўжды мела негатыўныя канатацыі, бо ўзброены канфлікт (незалежна ад яго мэт, вытокаў і вынікаў) меў сваё алагічнае заканчэнне ў стыхіі забойства. Ц. Гартны выкарыстаў «двайную оптыку», каб распавесці пра першыя тыдні вайны. З аднаго боку, пісьменнік увасобіў агульнаімперскі маштаб падзеі: «Кідай, рабочы, кватэру ды сям'ю, селянін, — саху ды каня, разлучайцеся з сям'ёю і нясеце свае галовы на алтар бацькаўшчыны....

Несканчонымі лентамі разліліся плач, енкі, рэчкамі — слёзы… Сум і жаль распластаўся цалуном над палямі незмярымае Расіі» [6, с. 144]. З другога, празаік звярнуўся да прыватнага малюнка мабілізацыі ў Смагіне. Нікому не вядомае мястэчка, выпадкова вылучанае пісьменнікам з шэрагу падобных, успрымалася як адзін з цэнтраў, дзе канцэнтравалася энергія болю і благіх прадчуванняў: «у адзін дзень усё жыццё мястэчка згусцілася, ці... было сабрана, зліта ў адно месца, на Згонішчы. І мужчыны, і кабеты, і старыя, і малыя, людзі і коні гулі, іржалі, мітусіліся — мэрам бы бачачы занесены над сабою востры, бліскучы нож ката…» [6, с. 150]. Энергія адмаўлення вайны і атмасфера бездапаможнасці прарываліся ў шырокі свет надзвычай паэтычна, бо адусюль даносіліся «лебядзіныя песні здаровых, поўных жыцця людзей — на дарозе да бойні» [6, с. 151].

Паказальна, што Ц. Гартны менавіта апявае мабілізаванага (простага чалавека, які пазней стане асноўнай сілай рэвалюцыі), бо часцей беларускія пісьменнікі занатоўвалі якраз зніжаныя праявы чалавечай прыроды, што выходзілі на паверхню пад уплывам шокавага стану. Напрыклад, у аповесці «На чырвоных лядах» М. Лынькова паказальным з’яўляецца наступны эпізод: «А пад вечар гаманіла вуліца на ўсе галасы. Сыходзіліся прызыўнікі, усе хлопцы бязвусыя... Старэйшыя каторыя, тыя цішэй...

Маладыя ж гізуюць, шалеюць...

П’янымі хісталіся на вуліцах, цалаваліся, біліся, сыпаліся шматочкі кайстр, у мэтлухі разляталіся сарочкі — усёроўна дадуць казённыя, бей іх, крышы...» [7, с. 170]. Не менш каларытны момант паўстаў на старонках аповесці «Набліжэнне» З. Бядулі: местачкоўцы напіліся спірту з бровара. Спачатку «з усіх бакоў плыло несупыннае «гуга», узнімалася п’яным хорам з п’янай зямлі» [8, с. 51], а пасля насланнё скончылася жудаснай бойкай, што забрала жыцці некалькіх чалавек. Агідным, паводле пісьменніка, было не толькі забыццё жыхароў Каганцоў, але і тое, што ад людской неахайнасці пакутавалі іншыя жывыя істоты (рыба, статак кароў).

Вайна-праца, паводле Ц. Гартнага, адпрэчвала звыклыя стваральныя віды дзейнасці, патрабуючы ад удзельнікаў выключнай канцэнтрацыі на яе патрэбах. Таму «мільёны здаровых працаздольных рабочых і сялян адрываліся ад плённае, карыснае працы. Незлічоны лік гадзінных адзінак часу кідаліся ў бяздонну процьму, на марнатраўства, на згубу жывых людзей» [6, с. 188]. Паказальна, што рух канвееру разбурэння ўсё ж па-рознаму адбіваўся на быцці вёскі і горада. Пісьменнік заўважаў, як вёска траціла сялянскія сілы і прыходзіла ў заняпад, затое горад, асабліва сталіца, ператвараўся ў сапраўдны цэнтр марнатраўства, што выглядаў як «бурлівы кацёл, у якім кіпелі прагавітыя пачуцці разнастайнага характару. Шалёна несліся ўгару акцыі фабрык і заводаў... Шпарчэй завярцеліся аперацыі банкаў... Гандляры мясам, абуткам, збожжам... пашыралі і без таго ўёмныя кішэні для лёгкага заробку» [6, с. 188—189]. Ва ўрабаністычным антуражы часу Першай сусветнай праца паўставала як адмысловае махлярства, якое, паводле Ц. Гартнага, не магло быць ухвальным заняткам асобы, што не страціла ўяўленні пра сумленне і годнасць.

Акрамя таго, вялізны горад спазнаў і новы, падобны да апакаліптычнага, від працы: «лазарэты і шпіталі вырасталі, як грыбы, перш паўнейшыя клопатамі ды дбайнасцю, а што далей — чарсцвейшыя, закіданыя» [6, с. 190]. Медыцынскія ўстановы ўяўляліся цэхам-канвеерам, дзе пакалечаныя вайной ці то ўтылізаваліся (паміралі, ператвараліся ў інвалідаў), ці то аднаўлялі свае здольнасці, каб акрыяўшы зноў заняць месца ў механізме вайны. Татальны канфлікт прыводзіў да незлічоных ахвяр, таму шпіталі літаральна захлыналіся ад чалавечай масы, якая ні ў якім разе не павінна была персаніфікавацца. Стаўленне да асобы як да «нумара», «шрубкі» палягчала дзейнасць урачоў, якія з розных нагод не жадалі патрапіць у стыхію эмоцый хворых, напоўніцу ўсвядоміць іх права на адметнасць і індывідуальнасць.

Аднак, паводле Ц. Гартнага, не кожны медык вылучаўся абсалютнай абыякавасцю да пацыентаў. Таму ў творы занатаваны і пакуты медыцынскай сястры: «…трэба мець валовыя нервы, каб дні і ночы засаб — засаб чуць перадсмертныя крыкі і енкі ўміраючых людзей, бачыць іх патухлыя, безнадзейныя ўзрокі, развітальныя, поўныя жаху споведзі, успамінкі... Гэта пекла, гэта сад катаванняў... Што варта мая дапамога,... мая спагада, ласкавае слова...» [6, с. 319].

Шпітальны канвеер падобны ці то на агляд грэшнікаў у пекле, ці то на Расійскую імперыю ў мініяцюры, ці то на парад нейкай па-вар'яцку скліканай вайсковай адзінкі. Гэта экстраардынарнае відовішча Ц. Гартны падаў эмацыйна, імпульсіўна:

«Вунь малады з круглым белым тварам мужчына... Вось тонкатвары... жывы і, напэўна, весяльчак, сібірак. Маньчжурская шапка паглынае ў сабе страхі нечуваных боляў...

Следам — чарнявы, задуменны яўрэй — без рукі і нагі... Прыплюшчаныя вочы — пэўна, ловяць жахлівыя ўчынкі казакаў...

Ах, і казак... Сярэдніх гадоў — бацька і муж. Аброслы, замурзаны раскапанаю на акопы зямляю; скрыўлены сударагамі твар; жмак марлі на галаве...

Саракавы — лязгін... У даўгім носе — арліная воля. У раскрытых вачах — водбліск вечных снягоў Казбека...

Сорак першы — льняны магілёвец... Без абедзвюх ног... без тых намардаваных ног, што так вёртка спраўляліся з носкаю дроў...

І на вайне і раней у палку — разам з ім — палтавец...» [6, с. 220—221]. Відавочны акцэнт на вядомым прынцыпе інтэрнацыяналізму; разам з тым звяртае на сябе ўвагу яскравы гуманістычны пафас пісьменніка. У такой канцэнтрацыі болю і пакут цяжка было вылучыць адну прыватную трагедыю, але Ц. Гартны імкнуўся занатаваць хоць нейкую невялікую адметнасць, каб персаніфікаваць кожнага пакутніка ваеннага часу.

Выжыўшыя ветэраны-інваліды адчувалі, што яны апынуліся на перыферыі сацыяльнага жыцця. Пашкоджаная вайной псіхіка па-рознаму рэагавала на «здраду» родных і неадэкватнае стаўленне грамадства. Ц. Гартны занатаваў найбольш радыкальныя сітуацыі, калі «кавалкі людзей, падапёртыя кастылямі і цурубалкамі, навязаныя марляю і адзетыя ў шкураныя, рыпучыя пратэзы, — пеніліся агідаю на жывых і здаровых» [6, с. 280]. Такія паводзіны ўспрымаліся як адна з форм рэакцыі на наступствы вайны. Іншыя варыянты занатаваны ў апавяданні «На этапе» М. Гарэцкага, аповесці «Набліжэнне» З. Бядулі, паэме «1914» П. Броўкі.

І франтавікі, і жыхары прыфрантавых тэрыторый, а часам і цывільныя з далёкага тылу заўважалі, што пастулова вайна-праца выходзіла з-пад іх кантролю, прыносячы пакуты, гора, нястачы. Адным з самых трагічных момантаў, паводле пісьменніка, быў перыяд, калі вялікія сялянскія масы кіраваліся ў вымушанае выгнанне. Самі бежанцы характарызавалі свой памежны стан так: «Наша гора свет заліло... Гора, гора... — вякамі не вычарпаць яго, патомкам не забыцца... Во, глядзі на нас — старцы — не старцы, валацугі, брадзягі... А завошта?... Перад кім і што мы саграшылі, чалавеча добры?.. Ніхто не кажа» [6, с. 263]. У чарговы раз у беларускай прозе, прысвечанай Першай сусветнай, з'яўлялася адсылка да пытання, падхопленага з вуснаў біблейскага Іова. Працытаваны ніжэй урывак падкрэсліваў, як пакутна чалавек працы, гаспадар на зямлі прызвычайваўся да новых абставін, адмысловых у сваёй незвычайнасці відаў дзейнасці: «І жыта, і ячмень, хлеб і аладка — усё, усё — назадзе. Адвернешся... і няма сілы адарваць вачэй, прыкоўвае болем і жудою, заве, вабіць назад. Назад — да вядомага, да пературпанага, да перамацанага... Ды назад нельга... — гоняць, нацiскаюць» [6, с. 264]. Разважаючы пра выгнаннікаў, Ц. Гартны ёміста сфармуляваў сутнасць бежанства, што ўспрымалася як «доля бадзягі, абрачонага на маркотнае вандраванне, на беспрытульны рух у неабмежаваных прасторах, сцісла атуленых голадам, хваробаю, смерцю» [6, с. 358]. Гэта азначэнне магло б паяднаць шмат твораў беларускай літаратуры на тую ж тэматыку («Набліжэнне» З. Бядулі, «Жартаўлівы Пісарэвіч», «Літоўскі хутарок» і асобныя «Сібірскія абразкі» М. Гарэцкага).

Вынікі навалы, што не падпарадкоўвалася ніякім рацыянальным законам, адразу кідаліся ў вочы, бо «вайна — і ворагу пустыя абшары. Вайна — пляваць на ўсе скаргі, на ўсе законы да аховы чалавека, жывёлы, дабра» [6, с. 267]. Грамадства, паводле Ц. Гартнага, яшчэ спрабавала апраўдваць свой удзел у працы-бойні і дыскрэдытаваць тую ж бойню з боку ворага, але з цягам часу крытыка антаганіста выглядала ўсё больш ненатуральнай: «Атрутныя газы — праступак? Абстрэл Рэймскага сабора — зверства? Зруйнаванне Лувена і Льежа — варварства?

А здзекі і глум над тысячамі польскага, беларускага, яўрэйскага, літоўскага працоўнага насельніцтва — тактыка? Гвалтоўнае спусташэнне краю, адданне соцень тысяч людзей у ахвяру бядзе, марозам, тыфусу і галоднай смерці — абарона?» [6, с. 267]. Такім чынам, аўтар падкрэсліў, што татальная вайна не магла мець справядлівы характар, прынесенае гора немагчыма было пакласці на адны вагі з самымі выбітнымі геапалітычнымі мэтамі.

Праца ваеннага канвеера дазваляла атрымаць новыя веды пра свет і яго насельнікаў. Выбітныя адкрыцці чакалі цывільных, якія сутыкаліся з палоннымі — носьбітамі адрознага светапогляду і іншай аксіялагічнай сістэмы. Паводле Ц. Гартнага, найбольш дзіўным сутыкненне з «ворагам» станавілася для селяніна ці мешчаніна, якія спрабавалі параўнаць сапраўдную постаць іншаземца-салдата са стэрэатыпамі, запраграмаванымі аўтарамі прапагандысцкіх прамоў, спецыяльных танных папулярных выданняў і да т. п. Таму рэакцыя адной з эпізадычных гераінь, калі яна сутыкнулася з «супастатам», паказальная: «Маладзіцаю валодала змешанае пачуццё цікавасці і баязлівасці. Рахманае сядзенне немца-палоннага ў яе кватэры было крыху дзіўным, крыху пікантным. Усё ж яе вострыя ўзрокі не знаходзілі на ім яўных адзнак звярынасці. Непрыкметна было таксама жадных праяў тае экзатычнай драпежнасці, пра якую маладзіца многа паслухала ў царкве і на месцы ў мястэчку» [6, с. 397]. Варожае стаўленне тым больш неабгрунтаванае, што Рыгор Шульц надзелены Ц. Гартным адметным лёсам: этнічны немец стаў «разменнай манетай» у чужой яму гульні дзвюх імперый.

Мастацкая канцэпцыя вайны-працы ў трэцяй і чацвёртай квадрах рамана «Сокі цаліны» абапіралася на думку пра татальны характар нязнанай раней навалы. Аўтар кнігі падкрэсліваў усеагульнасць найноўшых праяў вайны-працы: ад дзейнасці франтавога канвеера да функцыянавання механізма бежанства і існавання шпітальнай прасторы. Ц. Гартны заўважыў, што вайна-праца пачатку XX ст. руйнавала мірныя віды дзейнасці, пераносячы акцэнты са стваральнага на пякельнае і вынішчальнае. Паводле абсурднай логікі ўзброенага канфлікту, працаўнік ператвараўся ў салдата: вылучаліся ўласна вайсковец, што трываў у ваеннай машыне на фронце, і рабочы, які «змагаўся» на фабрыцы ў тыле. Дэструктыўны патэнцыял гэтых груп персанажаў уяўляўся прыблізна аднолькавым, бо яны бралі актыўны ўдзел у забойстве чалавека. Празаік падкрэсліваў, што селянін-працаўнік, ідучы ў вымушанае выгнанне, ператвараўся ў маргінала, адарванага не толькі ад сваёй гаспадаркі з яе штодзённымі патрэбамі, але і ад спрадвечнага ладу існавання. Падобныя дзейныя асобы радзей атаясамлівалі вайну з працай, хутчэй адносячы ўзброены канфлікт да шэрагу стыхійных бедстваў.

## Спіс літаратуры:

1. Чигрин, И. Тишка Гартный / И. Чигрин // История белорусской советской литературы. — Минск: Наука и техника, 1977. — С. 369—386.

2. Андраюк, С. Яго трагічны лёс / С. Андраюк // Ц. Гартны. Выбраныя творы. — Мінск: Беларус. навука, 2012. — С. 5—22.

3. Александровіч, С. Цішка Гартны / С. Александровіч // Ц. Гартны. Збор твораў: у 4 т. — Мінск: Маст. літ., 1987. — Т.1: Вершы, 1909—1935. Апавяданні, 1909—1927. — С. 6—26.

4. Дасаева, Т. Цішка Гартны / Т. Дасаева // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т. — Мінск: Беларус. навука, 1999. — Т. 1. 1901—1920. — С. 358—380.

5. Александровіч, С. Цішка Гартны / С. Александровіч // Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: у 2 т. — Мінск: Навука і тэхніка, 1965. — Т.1. 1917—1941. — С. 256—279.

6. Гартны, Ц. Сокі цаліны / Ц. Гартны // Збор твораў: у 4 т. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1989. — Т. 3: Раман. — С. 5—506.

7. Лынькоў, М. На чырвоных лядах / М. Лынькоў. — Менск: ДВБ ЛіМ, 1934. — 322 с.

8. Бядуля, З. Набліжэнне: Аповесць / З. Бядуля. — Менск: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, Сектар мастацкай літаратуры, 1936. — 230 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 2 кастрычніка 2017 года.

## Рэзюмэ

**Зоя ТРАЦЦЯК**

### Рэцэпцыя матыву вайны-працы ў рамане «Сокі цаліны» Ц. Гартнага

УДК 821.161.3

Артыкул прысвечаны разгляду спецыфікі ўвасаблення матыву вайны-працы ў трэцяй і чацвёртай квадрах рамана «Сокі цаліны» Ц. Гартнага. У даследаванні падкрэсліваецца, што беларускі мастак слова дапасаваў да мастацкай сітуацыі новага часу старажытныя матывы, якія паўсталі яшчэ ў фальклоры і помніку агульнаславянскага пісьменства «Слова пра паход Ігаравы». Татальны ўзброены катаклізм вымушаў развважаць пра дэструктыўны характар розных відаў працы: падчас Першай сусветнай дзейнасць салдата, рабочага і нават селяніна толькі падкрэслівала абсурднасць чалавечых высілкаў і крах гуманістычнага светапогляду.

**Ключавыя словы:** Першая сусветная вайна, беларуская ваенная літаратура, Ц. Гартны, матыў вайны-працы.

## Summary

**Zoya TRATSIAK**

### War as work motive reseption in Ts. Hartny’s novel «Soki Tsaliny»

The article deals with the specifics of the war as work motive embodiment in the third and fourth parts of the novel ‘Soki Tsaliny’ by Ts. Hartny. The work emphasizes that Belarusian artist showed the interconnection of the present-day and ancients motives found in the monument of the Slavic writing ‘The Song of Igor’s Campaign’. The total armed cataclysm made people talk about the destructive nature of the various types of work. During the First World War soldiers’, workers’, and even the peasants’ activities only emphasized the absurdity of human efforts and the collapse of the humanistic worldview.

**Keywords:** World War I (the First World War), Belarusian war literature, Ts. Hartny, war as work motive.

Вера МІЦКЕВІЧ

# ЯК КОЛАС НАСТАЎНІКАЎ БАРАНІЎ: невядомы артыкул Песняра

У велізарнай творчай спадчыне народнага паэта публіцыстыка займае не апошняе месца. Найбольш поўна яна пададзена ў 20-томным Зборы твораў, што выйшаў у 2007—2012 гг. Але і па сённяшні дзень з'яўляюцца новыя коласаўскія матэрыялы, асабліва ў эпісталярыі і інскрыптах.



*Якуб Колас (справа) з невядомым. Вільня, 1907 г. З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.*

Артыкул Якуба Коласа «Да сумнай гадавіны» (у арыгінале «К печальной годовщине», газета «Минское слово», 1907 г.) быў адшуканы вядомым беларускім літаратуразнаўцам Сцяпанам Александровічам у 1950-я гг. Гісторыя артыкула і цытаты з яго ў перакладзе на беларускую мову ўпершыню прагучалі ў публікацыі даследчыка на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» ў 1959 г., пазней увайшлі ў зборнік артыкулаў «Народны настаўнік Якуб Колас» [1; 2]. Але чамусьці цалкам вышэйзгаданы артыкул не быў прадстаўлены ні ў адным з пасмяротных Збораў твораў. Прычыны гэтага ў розныя часы маглі быць таксама рознымі: савецкая цэнзура палічыла твор малаважным; складана было зверыць тэкст з арыгіналам, паколькі неабходны нумар газеты ў бібліятэках Беларусі адсутнічае; нарэшце, прасцейшае — згубілі з вачэй.

Сёлета, акурат праз 110 гадоў пасля выхаду ў свет, артыкул-«невідзімка» «Да сумнай гадавіны» вяртаецца да беларускага чытача ў поўным аб'ёме і на мове арыгінала. Артыкул, пра гісторыю з'яўлення якога цікава распавёў сам аўтар у трылогіі «На ростанях», а ўдзельнік настаўніцкага з'езда, сведка тагачасных падзей, пісьменнік і сват Коласа Янка Маўр, як заўсёды, з гумарам, напісаў ва ўспамінах пра народнага паэта [3].

Нагадаем гісторыю, так званую легенду, з'яўлення артыкула, дзеючых асоб і што атрымалася ў выніку.

Гады Першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гг. для Якуба Коласа звязаны найперш з удзелам у нелегальным настаўніцкім з'ездзе, што адбыўся ўлетку

№ 186 Среда, 27-го іюня 1907 г. II-й годъ изд. Среда, 27-го іюня 1907 г. № 186.

# МИНСКОЕ СЛОВО

Выходитъ въ губ. гор. Минскѣ ЕЖЕДНЕВНО, кромѣ дней послѣпраздничныхъ.

Телефонъ редакціи № 242. Перемѣна адреса 20 коп. Цѣна отдѣльнаго экземпляра 3 коп. Телефонъ типографіи № 287

ЦИРКЪ. THE ROYAL VIO. Сегодня, 27 іюня, въ послѣдній разъ сорокъ картинъ пятой серіи. Начало ровно въ 9 час. веч. Завтра, 28 іюня, полная перемѣна программы.

Русскимъ избирателямъ.

Комитетъ Р. О. С.

МАГАЗИНЪ ЯРОСЛАВСКАГО ПОЛОТНА и саратовскихъ сарпинокъ. Всѣ новости сезона 1907 г. только у Н. А. Воронкова.

Открыта подписка на 2-е полугодіе на ежедневную политическую и общественную газету „Минское Слово“. Направленіе газеты національно-прогрессивное (Союза 17 октября).

Подписка принимается въ конторѣ газеты. (Минскъ, Губернат. ул., д. Верждовской).

Къ свѣдѣнію г.г. подписчиковъ.

Дешево продаются: Рояль, віолончель, буфетъ, обѣденный столъ, шкафы, письменный ...

1906 г. на Стаўбцоўшчыне. Група настаўнікаў, удзельнікаў з’езда, была звольнена з працы, у тым ліку і Канстанцін Міцкевіч, які ў тым жа 1906 г. увайшоў у літаратуру пад псеўданімам Якуб Колас. Следства цягнулася два гады, настаўнікі знаходзіліся пад наглядам паліцыі. На пачатку траўня 1907 г. пісьменнік нелегальна наведвае Вільню, працуе ў рэдакцыі газеты «Наша ніва», але ў хуткім часе па загадзе паліцыі вымушаны пакінуць горад. Перад самым ад’ездам Якуб Колас напісаў невялікае апавяданне («Неожиданность») пад псеўданімам *Иван Торба* і аднёс яго ў газету «Виленский вестник», афіцыйны орган генерал-губернатара. Апавяданне ў рэдакцыі прынялі да друку і па просьбе аўтара выдалі яму пасведчанне карэспандэнта газеты «Виленский вестник» на імя Ивана Торбы. З ім Якуб Колас паехаў у Мінск.

Далей дадзім слова галоўнаму герою трылогіі «На ростанях» Лабановічу, прататыпу пісьменніка, які «*ў скверыку насупраць архірэйскага дома выбраў болей зацішнае месца, прысеў на лаўку і выняў з кішэні «Минский голос»* (так у трылогіі названа газета «Минское слово». — *В. М.*)*, у якім была змешчана злая нататка аб народных настаўніках… Прачытаў і задумаўся. І тут прыйшла ў галаву думка — зайсці да рэдактара «Минского голоса», да чарнасоценца Шміта… Спачатку думка гэта здалася недарэчнаю, але чым болей разважаў, тым глыбей яна захапляла яго. І сапраўды: што ён траціць? Калі рэдактар нават не захоча гаварыць з ім — дык што за бяда! Пра Шміта хадзілі гутаркі, што раней ён быў флоцкім афіцэрам, украў планы Кранштацкай крэпасці і перадаў іх нямецкай разведцы. Яму далі за гэта дзесяць гадоў катаржных работ, але цар Мікалай Другі зняў пакаранне і вярнуў рэдактару грамадзянскія правы. А зараз ён — самы адданы «истинно-русский» чалавек. Лабановіч канчаткова замацаваўся ў сваім намеры схадзіць да Шмідта. Хоць паглядзець, што гэта за чалавек, і папрабаваць завесці гутарку аб выгнаных настаўніках, якіх шальмавала газета*» [4].

Каб зразумець, да каго вырашыў звярнуцца Якуб Колас, прывядзём некаторыя факты з біяграфіі адыёзнай асобы рэдактара-выдаўца «Минского слова».

Шмідт (Шмід, Шміт) Густаў (у праваслаўным хрышчэнні Міхаіл) Карлавіч (1852—1909), грамадскі дзеяч і публіцыст, член правай фракцыі III Дзяр-

жаўнай Думы, актыўны ўдзельнік права-манархічнага руху на Захадзе Расіі. Служыў на флоце, удзельнічаў у руска-турэцкай вайне 1877—1878 гг. У 1889 г. з мэтай абагачэння прадаў немцам планы крэпасці Кранштат з пазначэннем мінных палёў, за што быў асуджаны і сасланы ў Сібір. На судзе запэўніваў, што прадаў фіктыўныя, выдуманыя ім самім, планы. Адбыўшы пэўны тэрмін, Шміт быў памілаваны царом, пазней яму вярнулі страчаныя па судзе правы і прывілеі, з яго паслужнога спіса па хадайніцтве Мінскага епіскапа Міхаіла было знята ўпамінанне аб правіне. Шміт рэдагаваў і супрацоўнічаў з патрыятычнымі газетамі «Морская волна» (Вільня), «Белорусский вестник», «Минская речь», «Минский листок», у 1906—1908 гг. з’яўляўся рэдактарам-выдаўцом чарнасоценнай газеты «Минское слово». Восенню 1907 г. Шміт быў абраны ў III Дзяржаўную Думу ад Мінскай губерні, але ў хуткім часе яму прыгадалі яго правіны, разгарнулі кампанію і выключылі з ліку дэпутатаў. Шміт вярнуўся ў Мінск, барацьбу не спыніў, быў абраны ў Мінскую гарадскую думу як прадстаўнік праваслаўнага духавенства. Памёр ад анеўрызмы аорты, пахаваны на Старажоўскіх могілках [5; 6].

Рэдакцыя газеты «Минское слово» месцілася на рагу вуліц Губернатарскай і Магазіннай, 46/31 (цяпер на гэтым месцы будынак адміністрацыі Нацыянальнага мастацкага музея), у доме Караліны Вяржбоўскай. «Минское слово» — штодзённая грамадска-палітычная газета, рупар вялікадзяржаўных шавіністаў і рэакцыйнай буржуазіі, у грамадстве была ўплывовай, з ёю лічыліся губернатар і епіскап, яе чыталі нават тыя, хто не падзяляў поглядаў чарнасоценца Шміта [7].

Якуб Колас па-майстэрску выканаў сваю «ролю» ў размове з галоўным рэдактарам. Пасведчанне карэспандэнта «Виленского вестника» і наіўны аповед звольненага вясковага настаўніка расчулілі Шміта. Ён прапанаваў напісаць аб настаўніцкім сходзе ўсё так, як пачуў ад свайго наведвальніка. Так Коласу ўдалося «правесці папа ў рэшаце». Праз дзень артыкул, падпісаны псеўданімам *Кудесник*, быў надрукаваны.

Артыкул меў вельмі важнае значэнне, палепшыў сітуацыю ў адносінах улады да звольненых настаўнікаў, аўтар атрымаў дазвол на легальны выезд у Вільню.

На віленскай фотапаштоўцы, зробленай у верасні 1907 г., малады, прыгожы, з хітрынкай у вачах Якуб Колас глядзіць на нас з Замкавай гары і пасміхаецца...

## Спіс літаратуры:

1. Александровіч, С. Х. Новыя матэрыялы пра настаўніцкі з’езд / Літаратура і мастацтва. — 1959. — 12 жніўн. (№ 63). — С. 3.

2. Александровіч, С. Х. У пошуках праўды // Народны настаўнік Якуб Колас: зб. артык. — Мінск: Народная асвета, 1966. — С. 23 — 32.

3. Маўр, Я. Старонка мінулага // Жыццё для народа: зб. матэрыял. аб жыцці і дзейн. Якуба Коласа. — Мінск: выд. Акадэміі навук БССР, 1962. — С. 62 — 69.

4. Колас, Я. Збор твораў: у 20 т. / Мінск: Беларус. навука, 2007 — 2012. — Т. 14: кн. 3. — 2011. — С. 281 — 282.

5. Государственная Дума Российской империи 1906 — 2006: энциклопед.: в 2 т. — М.: Российск. политич. энциклопед., 2006 — Т. 1: 1906 — 1917. — С. 732.

6. Чёрная сотня: историч. энциклопед. — М.: Крафт+, Ин-т рус. цивилизации, 2008. — С. 609.

7. Шибеко, З. В., Шибеко, С. Ф. Минск: Страницы жизни дореволюционного города. — Минск: Полымя, 1990. — С. 296.

Якуб КОЛАС

# К ПЕЧАЛЬНОЙ ГОДОВЩИНЕ

Вот уже скоро год, как группа минских народных учителей устроила «съезд» в с. Николаевщине Минского уезда. Результаты «съезда» очень несложны: учителей уволили и привлекли к суду по 126 ст[атье][1].

В своё время участники этого «съезда» были «притчею во языцех». О них и писалось и говорилось немало, и, надо сознаться, никто не жалел красок, чтобы выставить всю эту историю в мрачном освещении. От учителей сторонились, как от прокажённых, пускали о них легенды и бросали грязью. Всякому хотелось лягнуть их, — «мне, мол чего робить? И я его лягну — пускай, дескать, знает ослиные копыта». Но никто не хотел взять на себя труд глубже вникнуть в суть дела и в интересах правды сказать своё беспристрастное слово. Поэтому мне хочется изложить вкратце эту печальную историю так, как она происходила.

9 июля 1906 года учителя собрались у своего товарища А. Сенкевича[2] в с. Николаевщине. Всех учителей собралось свыше 20 человек. Собрание было самого мирного характера и ничего преступного в себе не имело. Такие собрания происходили ежегодно, где учителя устраивали пирушку на артельных началах, чтобы хоть этим внести маленькое разнообразие в свою тяжёлую серую жизнь. Собрание приурочивалось к тому времени, когда учителя начинают разъезжаться по училищам в глухие закоулки, где всё время не увидишь живого человека. На этих собраниях обыкновенно пели вольные песни, говорили свободные речи, писалось и читалось, и всё сходило с рук. Но это, впрочем, бывало в доброе старое время, когда о конституции не было и речи, когда полиция не так зорко наблюдала за учителями и потому всё было благополучно.

По такой же программе происходило и настоящее собрание. Днём была предпринята прогулка, а вечером происходила заключительная часть, причём нельзя отрицать присутствие водки. За дружеской чаркой забитая и приниженная душа учителя разошлась вовсю. Кто-то шутя (возможно, что и серьёзно) предложил устроить учительский союз. Здесь явилась потребность так или иначе заявить о своём существовании, напомнить, что и ты человек… Я больше чем уверен, что если бы ни полиция, то постановление, за которое учителей привлекли к судебной ответственности, было бы уничтожено самими учителями. Тут была мгновенная вспышка, готовая потухнуть при освещении критической мысли самих проспавшихся «потрясателей и разрушителей государственных основ». «Всё это было бы смешно, когда бы не было так грустно»[3].

Я оставлю в стороне все возражения, которые можно сделать по этому вопросу. Я разберу только две его точки зрения: 1) съезд учителей в с. Николаевщине был устроен сознательно, обдуманно и заранее приготовлялся; 2) никакого съезда не было, было собрание учителей семейного характера, а постановление — не больше и не меньше, как выходка, вызванная весёлым настроением.

Прежде всего может показаться странным то обстоятельство, что в данной местности собралось свыше 20 учителей. Отсюда естественно сделать выбор в пользу первого положения. Но в одной Николаевщине своих учителей имеется не меньше 30 человек, а все участники «съезда» — люди свои да окрестные. Во время ужина учителя были извещены одним из товарищей, что в «окрестностях рыщут» стражники. Но на это никто не обратил внимания, что говорит в пользу мирного учительского собрания. Протокол был подписан не всеми; один из учителей подписал его уже тогда, когда этот протокол был в руках пристава. Он спокойно взял и написал «Олешкевич»[4]. Получалось нечто несуразное: с одной стороны люди собрались разрушать государственный строй, с другой стороны полная невменяемость разрушителей, подписывающих сами не зная что. В момент при-

бытия полиции некоторые учителя спали тут же, на кровати учителя в несколько этажей, другие в это время отплясывали трепака на деревенской свадьбе. Полиция производит самый тщательный обыск, распарывая саблями чемоданы, один из учителей наигрывает на скрипке какой-то вальс, другой готовится идти [на] пари с полицейским чином, утверждая, что он, учитель, удерёт от него, несмотря на то, что у того и ружьё, и сабля, и револьвер, и прочие атрибуты полицейской власти. Третий приглашает пристава в свою компанию выпить с ним «по чарке» и т. д. А батарея выпитых и непочатых бутылок водки как нельзя лучше говорили о «преступном сообществе». Обыск никаких результатов не дал, если не считать протокола «заседания».

Вот при каких обстоятельствах происходило «низвержение существующего строя».

*Кудесник*

Минское Слово. — 1907. — 27 июня (№ 186). — С. 1—2.

**Каментарыі:**

[1] Тэкст артыкула 126 Крымінальнага ўлажэння наступны: «Виновный в участии в сообществе, заведомо поставившем целью своей деятельности ниспровержение существующего в государстве общественного строя или учинение тяжких преступлений посредством взрывчатых веществ или снарядов, наказывается каторгою на срок не свыше восьми лет или ссылкою на поселение. Если такое сообщество заведомо имело в своём распоряжении средства для взрыва или склад оружия, то виновный в участии в таком сообществе наказывается срочною каторгою».

[2] Сянкевіч Аляксандр Антонавіч (1884—1938) — зямляк і сябар Я. Коласа, адзін з арганізатараў нелегальнага настаўніцкага з’езда ў Мікалаеўшчыне, у той час настаўнік Мікольскага народнага вучылішча. У будучым беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч, вучоны, публіцыст. Рэпрэсіраваны. Расстраляны. Прататып Алеся Садовіча ў трылогіі Якуба Коласа «На ростанях».

[3] З верша М. Ю. Лермантава «Александре Осиповне Смирновой» (1840). Гучыць як каментар да знешне трагікамічнай, але па сваёй сутнасці вельмі сур’ёзнай сітуацыі.

[4] Аляшкевіч Аляксей Пятровіч, удзельнік нелегальнага настаўніцкага з’езда, выпускнік Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1901). У 1906 г. настаўнік Дабравольшчынскага народнага вучылішча Бабруйскага павета. Прататып Аляксея Алешкі («Дзед Хрушч») у трылогіі Якуба Коласа «На ростанях».

---

*У заключэнне хачу выказаць падзяку за дапамогу ў атрыманні электроннага адбітка газеты з Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі (Масква) супрацоўніцы аддзела МБА і дастаўкі дакументаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Л. І. Курылінай.*

***Падрыхтоўка тэксту і каментарыі Веры МІЦКЕВІЧ.***



**Ганна ЗАПАРТЫКА**

# «ГЭТЫ СКАРБ НАМ АДЗІН ЗАХАВАЎСЯ...»
## Да гісторыі акадэмічнага выдання Алеся Гаруна

У 1929 г. у серыі «Акадэмічная бібліятэка беларускіх пісьменнікаў» пабачыла свет трэцяя па ліку кніга — «А. Гарун. Матчын дар. Думы і песьні. 1907—1914» пад рэдакцыяй акадэміка Івана Замоціна. На авантытуле пазначана, што яна выпускаецца з дазволу Прэзідыума БАН, яе коштам і ў яе друкарні накладам 1500 асобнікаў. Чытач атрымаў томік з невялікай прадмовай І. Замоціна, у якой кіраўнік камісіі Беларускай акадэміі навук па выданні твораў беларускіх пісьменнікаў вытлумачыў сітуацыю з творчай спадчынай Алеся Гаруна наступным чынам*: «Аднэй з чарговых задач у пляне Камісіі для выдання твораў беларускіх пісьменнікаў зьяўляецца і выданне збору твораў А. Гаруна (А. Прушынскага). Гэты збор твораў, у які павінны ўвайсці ня толькі вершы А. Гаруна, але і яго мастацкая проза і драматычныя творы, падрыхтаваны да друку. З двох аддзелаў яго вершаў, ужо скончаным друкаваннем, першы заняты вядомым зборнікам вершаў А. Гаруна «Матчын дар», першае выданне якога зьявілася ў 1918 г. і цяпер ужо цалкам разышлося.

Улічваючы, з аднаго боку, пэўную вартасць гэтага зборніка вершаў А. Гаруна, як найбольш апрацаванай часткі яго літаратурнай спадчыны, а з другога — тэхнічную магчымасць перавыдаць зборнік зараз-жа, не чакаючы зьяўлення ў сьвет поўнага акадэмічнага выдання твораў А. Гаруна, Беларуская Акадэмія Навук знайшла пажаданым першы аддзел збору яго твораў, г. зн. зборнік «Матчын дар» выпусціць асобнай кніжкай, незалежна ад поўнага збору твораў, куды «Матчын дар» у сваю чаргу ўвойдзе ў якасьці першага аддзелу» [1, с. V]. Далей аўтар прадмовы дае некаторыя тлумачэнні адносна тэкстаў зборніка «Матчын дар» і ў апошніх яе радках адзначае: «У склад поўнага акадэмічнага выдання твораў А. Гаруна ўваходзіць і крытычна-біографічны нарыс, у якім будуць сконцэнтраваны як папярэднія, так нанова здабытыя фактычныя даныя аб пісьменніку, якія малююць абстаноўку яго дзейнасьці, а таксама будзе дана псыхоідыолёгічная ацэнка яго літаратурнай продукцыі, якая, ня трацячы і зараз свайго мастацкага значэння, у ідыолёгічных адносінах павінна быць адзначана як месцамі зблытаная, нявытрыманая і чужая нашаму часу» [1, с. VI].

Выдадзены, а дакладней перавыдадзены зборнік, пасля прадмовы І. Замоціна змяшчае невялікі ўступны артыкул А. Барычэўскага «А. Гарун і яго “Матчын дар”», у якім аўтар падае кароткую біяграфію паэта і крытычныя характарыстыкі на зборнік, мэтай якога ставіць «сконцэнтраваць увагу чытача на клясавым твары аўтара і псыхоідыолёгічнай накіраванасці яго вершаў» [1, с. VII]. А. Барычэўскі, прызнаючы бясспрэчны талент А. Гаруна, яго заслугі перад беларускім народам, яго рэвалюцыйную дзейнасць, вымушаны быў выказацца пра яго «нацыонал-дэмократызм», «затушоўванне клясавай структуры грамадзтва», неразуменне «вялікай ролі пролетарыяту», «політычную серадзіннасьць» і г. д.

* Тут і далей захоўваецца правапіс архіўных арыгіналаў.

Але абяцанае ў прадмове І. Замоціна выданне збору творчай спадчыны Алеся Гаруна чытач 1920-х — 1930-х гг. так і не ўбачыў. І таму прычынай былі далёка не тэхнічныя праблемы.

У свой час літаратуразнавец Уладзімір Казбярук, рыхтуючы ў пачатку 1990-х гг. да друку зборнік выбранага А. Гаруна «Сэрцам пачуты звон», выкарыстаў пры ўкладанні некаторых раздзелаў «Збор твораў, падрыхтаваны да друку ў 1929 г., які захоўваецца ў Архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР» [10, с. 353]. У каментарах укладальніка да ўключаных у зборнік «Сэрцам пачуты звон» твораў з названага «Збору» не падаюцца дакладныя звесткі пра архіўную крыніцу. Думаю, што У. Казбярук выкарыстаў канвалют, які захаваўся ў асабістай бібліятэцы крытыка і літаратуразнаўцы Л. Бэндэ і ў 1960-я гг. разам з яго архівам і бібліятэкай паступіў у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Зараз ён захоўваецца ў бібліятэцы ўстановы пад інвентарным нумарам 2503. Канвалют складаюць названае вышэй выданне «А. Гарун. Матчын дар. Думы і песьні. 1907—1914», якое мае 160 старонак, і Збор твораў А. Гаруна, які і дакляраваў І. Замоцін у цытаванай тут прадмове. Гэтая частка канвалюта захавалася не поўнасцю, мае 320 старонак і складаецца з наступных раздзелаў: «І — Матчын дар. Думы і песьні. 1907—1914», «ІІ — Вершы з пэрыодычных выданняў. 1908—1921 гг. (якія не ўвайшлі ў зб. «Матчын дар»)», «ІІІ — Вершы з аўтографаў. 1907—1920 гг.», «IV — Чарнавыя накіды з аўтографаў розных гадоў», «V — Апавяданні 1912—1920». Збор павінен быў мець яшчэ і шосты раздзел «Драматычныя творы», а да таго каментары і змест, якія, відавочна, не захаваліся. «Крытычна-біографічны нарыс» адсутнічае. Ён павінен быў адкрываць Збор, нумаравацца рымскімі лічбамі і не ўплываць на агульную нумарацыю ўласна Збору твораў. Так, прынамсі, пабудавана выданне «А. Гарун. Матчын дар. Думы і песьні. 1907—1914». Як бачым, Збор быў не проста падрыхтаваны, ён быў выдрукаваны ці цалкам, ці толькі меў сігнальны экзэмпляр з друкарні для зацвярджэння дазволу на выпуск поўнага тыражу. У любым выпадку, да чытача гэты том не дайшоў. Відавочна, што «Матчын дар» і Збор друкаваліся ў розны час. На гэта ўказвае нумарацыя выдавецкіх аркушаў, якая прастаўлена ў ніжнім левым кутку старонкі, з якой пачынаецца аркуш. Кніга «Матчын дар. Думы і песьні. 1907—1914» мае дзевяць поўных аркушаў, што зафіксавана на старонцы 131. Старонка 147, якая распачынае наступны дзясяты аркуш, лічбай не адзначана. Збор твораў мае дваццаць аркушаў, адпаведна на старонцы 147 прастаўлены нумар чарговага дзясятага аркуша. Асобнік з бібліятэкі Л. Бэндэ, які захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, пакуль што адзіна вядомы. Гісторыю падрыхтоўкі і выдання гэтага Збору мы і паспрабуем узнавіць, выкарыстаўшы некаторыя архіўныя крыніцы.

Яшчэ ў верасні 1927 г. І. Замоцін у лісце да Я. Карскага пісаў: «Дорогой Ефимий Фёдорович! На днях я послал Вам 1-й том сочинений М. Богдановича, — один из первых экземпляров, вышедших из брошюровки. Мне очень хотелось бы знать Ваше мнение об этом издании, — особенно о недостатках его, как с технической, так и с научной стороны, чтобы при дальнейшей работе (готовим второй том М. Б-ча и, кроме того, собрание сочинений А. Гаруна) их избежать» [2, с. 6]. Гэты фрагмент ліста дае падставу меркаваць, што падрыхтоўка выдання А. Гаруна ўжо ў 1927 г. была прадвызначана, тым больш, што камісія валодала не толькі выдадзенымі ці апублікаванымі творамі пісьменніка, а і яго рукапісным архівам.

У той жа год у часопісе «Узвышша» № 5 Адам Бабарэка ў артыкуле «Аб разуменьні мастацкай творчасьці і аб некаторых пытаньнях у вывучэньні беларускай літаратуры» даў надзвычай яскравую ацэнку А. Гаруну як паэту, вызначаючы яго месца ў беларускай літаратуры: «Алесь Гарун, таленавіты і слаўны поэтарабочы, самавучка, бясчасна, як і М. Багдановіч, зышоўшы ў магілу, пакінуў пасьля сябе невялікую па колькасьці, але вялікую і глыбокую па якасьці і сваёй

каштоўнасьці спадчыну творчасьці, у якую яшчэ ніводнае вока крытыкі не заглядала, каб вынесьці на сьвет яе пэрлы. Ніхто з маладых поэтаў таксама не рупіцца заглянуць у гэту, кажучы словамі М. Багдановіча, «студню са сьлязамі», у якой сьвецяцца «пуцяводныя зоркі». Але гэта творчасьць не памерла, бо яна падобна таму ручайку, пра які казаў сам Гарун:

Цячэць ручайка вось — і тут яго не стала.
Няма яго, схаваўся ў зямлі,
А недзе — тамака рака зямлю прарвала
І воды той ракі па лузе пацяклі.

Так і творчасьць А. Гаруна. Яна схавалася ў землю нашай літаратурнай сьвядомасьці, каб выплысьці, як рака» [3, с. 137].

Праца над зборамі твораў Алеся Гаруна і Максіма Багдановіча, як пісаў І. Замоцін, ішла паралельна. І гэта невыпадкова. Значэнне іх творчасці многія крытыкі і літаратуразнаўцы ўжо ў 1920-я гг. ставілі ў адзін шэраг. Пра гэта яскрава сведчыць згаданы ўжо тут артыкул А. Бабарэкі. Вось толькі дзве яго цытаты: «Так, вершы А. Гаруна і М. Багдановіча — гэта нерухомыя вобразы-вокны “ў іншы сьвет”, адкрытыя ў рытмічным гучанні ўзвышальнага парадку. Пры гэтым вокны з асобай уласьцівасьцю адкрываць перад людзкім вокам жыцьцё ў шырыні, адваротна-залежнай ад адлегласьці чалавека ад вакна. Чым бліжэй мы стаім каля вакна, тым шырэйшыя перад намі прасторы расьцілаюцца, і наадварот, чым далей ад яго мы, тым і кола прастору вузейшае, але затое большая глыбіня адкрываецца перад нашымі вачыма». Пасля развага пра палітычныя, філасофскія і літаратурныя факты як элементы быцця, якія вызначаюць грамадскую свядомасць, крытык сцвярджае: «…вершы і Багдановіча, і Гаруна, калі яны дачыняюцца да нас, як об’екты да суб’екта, яны ўжо быццё, якога нельга абмінуць пры суджэньнях аб такіх прадметах, як беларускае мастацкае слова, разуменьне мастацкасьці, разуменьне дачыненьня поэты да матар’ялу сваёй творчасьці і да твораў і, нарэсьце, месца і значэньне літаратурна-мастацкіх твораў у справе фармаваньня тых ці іншых сьветаглядаў у грамадстве» [3, с. 142].

Трэба прызнаць, што ролю літаратурна-мастацкіх твораў і іх стваральнікаў у фармаванні грамадскай свядомасці і грамадскай думкі выдатна разумелі і тыя, хто гэтыя працэсы абавязаны быў падпарадкоўваць сваім інтарэсам і абслугоўваць сваю ідэалогію. І калі творчасць М. Багдановіча, якога, як выказаўся А. Бабарэка, «прывыклі лічыць паэтам так званага чыстага хараства», была з пэўнай умоўнасцю прынята пануючай ідэалогіяй, то з творчасцю А. Гаруна справа ўскладнялася як праз змест яго твораў, асабліва напісаных пасля 1917 г., так і праз некаторыя факты яго біяграфіі. Рэакцыя на артыкул А. Бабарэкі з боку такіх крытыкаў, як Л. Бэндэ, была вельмі хуткай і адназначнай: «Паслухаем яшчэ слова «старшыні А. Прушынскага (А. Гаруна), якога на старонках часопісі «Узвышша» філёзаф беларускай котр-рэволюцыі Адам Бабарэка атэстуе, як «правадыра працоўных беларусоў», як «пролетарска-рабочага пісьменніка» (*далей Л. Бэндэ цытуе вытрымку з выступлення А. Гаруна*) [9, с. 3]. Ці яшчэ, некаторым часам пазней: «Пра Гаруна і гаварыць няма чаго. Той апрануўся ў палкоўніцкую вопратку і дапамагаў белапольскім акупантам заліваць крывёю абшары Беларусі. І вось гэтага “адданага беларуса” ўжо пры савецкай уладзе праз савецкі друк нацыянал-дэмакраты і іх прыяцелі ўзносілі на вышыню “народнага героя”» [8, с. 14]. Па сутнасці, Л. Бэндэ выносіў публічны прысуд А. Гаруну, тым самым прадвызначаючы лёс яго творчай спадчыны. І адкуль было ведаць у 1927 г. сябрам камісіі па выданні Збору твораў, што падрыхтаваная і даведзеная да друкарскага варштата кніга так і не дойдзе да чытача, а дазволеная ў аб’ёме зборніка «Матчын дар» у хуткім часе зойме месца ў «спецхранах».

Гісторыя знікнення выдатных узораў беларускай літаратуры з грамадскага ўжытку пачыналася не толькі з негатыўных ацэнак палітычна заангажаваных

крытыкаў, але і з пастанаўляючых дакументаў іх заказчыкаў. У гісторыі з выданнем Збору твораў Алеся Гаруна, як і многіх іншых, адным з першых такіх дакументаў можна лічыць наступны:

«Сакрэтна № 12/с. 26 кастрычніка 1927 г. г. Менск. Усім Акрлітам /Аддзел друку ЦК КП/б/Б і ПК ДПУ — да ведама/.

У мэтах барацьбы з разводдзем на кнігарным рынку ідыолягічно-шкоднай і дрэннай па якасьці мастацкай літаратуры ў тых выпадках, калі няма дастатковых падстаў да забараненьня кнігі, Галоўлітбел прапануе Вам:

1. Скараціць тыраж такіх кніг да 1500 /і ніжэй/ экзэмпляраў;

2. Не дапускаць паўторных выданняў бэлетрыстычных кніг з тыражом 1500 / і ніжэй/ экзэмпляраў без дазволу Галоўліту, дзеля ўхіленьня перавыданьня кніг, тыраж якіх ужо быў абмяжован.

Такім чынам паказаная вышэй лічба для бэлетрыстыкі, павінна служыць паказальнікам дрэннай якасьці, які ставіць умову абмежаваньня кнігі адным выданьнем. Загадчык Галоўліту Гурскі. Сакратар Груша» [4, с. 193].

Нам не ўдалося выявіць дакумент, якім наўпрост забаранялася выданне Збору твораў А. Гаруна ў тым складзе, у якім яно было падрыхтавана акадэмічнай камісіяй. Мяркую, што І. Замоцін і яго аднадумцы некаторы час адстойвалі сваё права давесці да чытача спадчыну А. Гаруна ў поўным аб'ёме. Страціўшы магчымасць на дазвол выхаду Збору цалкам, І. Замоцін, відавочна, пачаў адстойваць выхад хоць бы яго першай часткі «Матчын дар. Думы і песьні. 1907—1914». Мяркуючы па ўступным артыкуле, які тут цытаваўся ў самым пачатку, укладальнікі былі ўпэўнены ў хуткім часе і ў поўным выданні. Але некаторыя дакументы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь схіляюць да думкі, што гэта магло быць усяго толькі своеасаблівае публічнае апраўдванне, згладжванне праблем, што ўзніклі пасля рашэння акадэмічнай камісіі аб выданні творчай спадчыны А. Гаруна. Паўстае пытанне, ці мог адбыцца Збор у прапанаваным аб'ёме на фоне азлобленай крытыкі ў адрас паэта і адпаведных пастаноў Галоўліта і ці верыў у гэта канчаткова акадэмік І. Замоцін?

Хачу яшчэ раз акцэнтаваць увагу на дэталях выходных дадзеных кнігі «Матчын дар. Думы і песьні. 1907—1914»: «Кніга выпускаецца з дазволу Прэзідыуму БАН, яе коштам і ў яе друкарні накладам 1500 асобнікаў». Але было б наіўным думаць, што да гэтага выдання, як і да іншых, не меў ніякага дачынення Галоўліт БССР і Аддзел друку ЦК КП(б)Б і ДПУ. Што тычыцца пазначаных на тытуле выходных дадзеных, то яны могуць сведчыць аб своеасаблівым «адмяжоўванні» афіцыйнай цэнзуры ў сітуацыі, «*калі няма дастатковых падстаў да забараненьня кнігі*». Сустрэўся вось такі дакумент, які можна цалкам аднесці і да іншых выданняў, у тым ліку да выдання А. Гаруна: «У Белдзяржвыдавецтва тав. Вансоўскаму. Лічу, што вершы Я. Пушчы «Шум клёнаў» друкаваць можна, але без маркі Белдзяржвыдавецтва — прычына — тыя ўпадніцкія настроі, якімі просякнут увесь «Зборнік». Ня ў інтарэсах Белдзяржвыдавецтва гэтае «ўпадніцтва» культывіраваць. С тав. прывіт. А. Сянькевіч» [5. с. 17]. Вось так: друкаваць без маркі дзяржаўнага выдавецтва, не ставіць адзнаку афіцыйнай цэнзуры — і калі што — не несці адказнасці, а дакладней, усю адказнасць скласці на тых, хто па вялікім рахунку мала што вырашаў. Так яно ў будучым і адбылося.

Абмеркаванне акадэмічнага выдання Алеся Гаруна ў канчатковым варыянце «Матчын дар. Думы і песьні. 1907—1914» было, відавочна, распачата ў канцы 1928 г. У гэты час адбыліся некаторыя кадравыя змены ў складзе палітрэдактараў Галоўліта БССР. Калегіяй 27 кастрычніка 1928 г., на якой прысутнічалі «т. т. Якшэвіч, Гурскі, Міхайлаў і Гірко», быў зацверджаны новы спіс палітрэдактараў на 1928—1929 гг.: «Сербента — філёзофія; Прышчэпаў — с. г. літаратура; Гурскі — мастацкая літаратура; Сянкевіч — пытаньні партыі; Якшэвіч — эканоміка; Панкевіч — пэдагогіка; Рудоміно — грамадазнаўства; Лысоў — коопэрацыя; Міхайлаў — мастацкая літаратура; Барсукоў — мэдыцына; Балашоў — чырв. арм.

і вайск.; літар. Вольскі — мастацкая літаратура; Клыс — польская мова; Вансоўскі; Канаплін — пытанні права; Ошэраў — яўрэйская мова; Мар'ясіна; Відрынайціс — нямецк. і літ. мовы; Платун — партыйныя пытанні; Ігнатоўскі — гісторыя; Даўгаполаў — рэлігійная літаратура; Кравякоў — дзіцячая і прыродазнаўчая» [6, с. 8].

Пытанне аб выданні А. Гаруна разглядалася 10 лістапада 1928 г. На калегіі прысутнічалі: «т. т. Якшэвіч, Гурскі, Ліманоўскі, Міхайлаў і Гірко.

Абвестка дню 1/ Аб дазволу на друкаваньне вершаў А. Гаруна «Матчын дар»

Слухалі: Аб выдачы дазволу на друкаваньне вершаў А. Гаруна «Матчын дар». Дакл. тав. Гурскі

Пастанавілі: 1. Лічыць магчымым дазволіць да друку творы А. Гаруна «Матчын дар» пры ўмове дадання грунтоўнай прадмовы аб творчасьці Гаруна, якая выяўляла бы сацыяльную значымасьць яго твораў».

2. Пажадана, каб да кожнага вершу была дадана дата напісання вершу» [6, с. 3].

Мяркуючы па тым, што пытанне «агучваў» Гурскі, ён і быў палітрэдактарам зборніка Алеся Гаруна. Відавочна, што ён з'яўляецца і аўтарам фармулёўкі пастановы.

Праз паўтара месяца, 28 снежня 1928 г., калегія Галоўліта БССР зноў вярнулася да пытання зборніка А. Гаруна. Цікава, што на гэтым пасяджэнні яно зафіксавана ў дзвюх пазіцыях парадку дня.

На калегіі прысутнічалі: «т. т. Якшэвіч, Гурскі, Міхайлаў, Балашоў, Ліманоўскі і Гірко». Пунктам 4 парадку дня разглядалася «Адносіна БАН аб падвялічэнні тыражу твораў А. Гаруна з 2000 экз. да 3000 экз.». Дакладчыкам быў Якшэвіч. Па гэтым пытанні была прынята пастанова: «Паколькі творы А. Гаруна зьяўляюцца выданнем акадэмічным, Калегія Галоўліту ня можа згадзіцца на падвышэнне тыражу да 3000 экз.» [6, с. 18].

Другая частка названага пратакола зафіксавала 126 пунктаў-дазволаў на друкаванне самых розных выданняў. Пунктам 15-м значыцца паўторны дазвол на зборнік А. Гаруна. Фармулёўка пастановы цалкам паўтарае выдадзеную 10 лістапада: «І. Б. К. Алесь Гарун — «Матчын дар». Дазволіць друкаваць пры ўмове даданьня грунтоўнай прадмовы аб творчасьці Гаруна, якая бы выяўляла сацыяльную значымасьць яго твораў. Пажадана, каб да кожнага вершу была дадана дата напісання вершу» [6, с. 21].

Да выдання дазволенай часткі творчай спадчыны А. Гаруна «грунтоўная прадмова» не спатрэбілася. А. Барычэўскі ўсяго на чатырох з невялікім старонках змясціў уступны артыкул пад назвай «А. Гарун і яго «Матчын дар», пра што ўжо было адзначана ў самым пачатку. Не атрымалася адстаяць і запланаваны тыраж. Ён апусціўся да той самай лічбы 1500, якая станавілася сімвалам-перашкодай для *«паўторных выданняў бэлетрыстычных кніг».*

Пасля выхаду ў серыі «Акадэмічная бібліятэка беларускіх пісьменнікаў» у 1929 г. «Матчынага дару» праца над Зборам твораў А. Гаруна, трэба думаць, усё ж не спынілася. Была замоўлена і «грунтоўная» прадмова, «якая выяўляла бы сацыяльную значымасьць яго твораў». Яе аўтарам мог быць Тодар Дакутовіч. Менавіта яго крытыка-біяграфічны нарыс «Творчасьць Алеся Гаруна» на трыццаці трох машынапісных аркушах захаваўся ў архіўным фондзе Л. Бэндэ: са шматлікімі праўкамі і купюрамі як уласна аўтара, так і, відавочна, Л. Бэндэ. Пісаўся нарыс, улічваючы спасылку на выданне БДВ «Сталін. "Выбраныя творы па нацпытаньню"», у 1930 г. — пачатку 1931 г. У ім аўтар дае разгорнутую біяграфію паэта, падрабязна аналізуе вершы, засяроджвае ўвагу на некаторых апавяданнях. Але галоўным матывам гэтага нарыса з'яўляецца нішто іншае як навешванне палітычных ярлыкоў. Т. Дакутовіч шматкроць паўтарае пра контррэвалюцыйны лібералізм, нацдэмаўшчыну, буржуазна-кулацкую ідэалогію, якую нясуць творы А. Гаруна. Не забывае і пра некторыя факты яго біяграфіі, адзначаючы, што

«Гарун ня толькі словамі, але справай выступіў на барацьбу супроць бальшавізму, супроць рабочых і сялян». Ставячы мэту вызначыць ролю і месца паэта ў класавай барацьбе на розных гістарычных этапах, аўтар нарыса, з увагай на «агульнае наступленне царызму на рэвалюцыйныя масы» і «палітычную рэакцыю, наступіўшую пасьля рэвалюцыйных падзей 1905—7 гг.», прызнае, нягледзячы на «вялізарныя супярэчнасьці», вартасць творчай спадчыны А. Гаруна «дакастрычніцкага перыяду». Усё, што было напісана пасля 1917 г., падвергнута знішчальнай крытыцы. З гэтай жа прычыны патрабаваў і палітрэдактар Галоўліта, «каб да кожнага вершу была дадана дата напісання вершу». Заканчваецца нарыс высновай: «Творчы шлях поэты такім чынам становіцца ясным і выразным. Выступіўшы спачатку як поэта рэволюцыйна настроенай дробнай буржуазіі Гарун у далейшым перайшоў на позіцыі контррэволюцыйнага нац-дэмократызму» [7, с. 33].

Нарыс, трэба меркаваць, выканаў ролю не столькі «грунтоўнай прадмовы», колькі з'явіўся канчатковым прысудам падрыхтаванаму да выдання акадэмічнаму тому Алеся Гаруна. Выдрукаваны Збор твораў вывучаўся і аналізаваўся палітрэдактарамі Галоўліта, адзіны асобнічак якога і «затаіўся» ў яго шафах, а пасля трапіў, як многае іншае, у «калекцыю» Л. Бэндэ. Гэта і выратавала яго для нас.

Інстытут беларускай культуры, які толькі што быў пераўтвораны ў Беларускую акадэмію навук, меў вялікую праграму па выданні лепшых узораў беларускай літаратуры. Але вынікі гэтай праграмы засталіся вельмі сціплымі: два тамы творчай спадчыны Максіма Багдановіча, пасмяротнае выданне Паўлюка Труса, «Матчын дар» Алеся Гаруна. У 1930 г., калі прайшлі масавыя арышты па справе «Саюза вызвалення Беларусі», калі выдатныя пісьменнікі і вучоныя павінны былі пісаць хіба што толькі паказанні і запаўняць анкеты, Л. Бэндэ на старонках друку даў сабе волю: «Яшчэ дрэнны мікроб, ад якога трэба як мага хутчэй ачысьціцца, гэта акадэмічныя выданні беларускіх пісьменнікаў. Мы ня супраць акадэмічных выданняў наогул, але-ж зараз, калі наглядаецца незвычайны рост попыту на мастацкую літаратуру, акадэмічныя выданні з іх вялікай цаной з'яўляюцца тормазам у здавальненні попыту шырокіх колаў чытачоў» [9, с. 2]. А на зыходзе таго ж года аўтарам гэтых радкоў ужо рыхтавалася глеба для рэпрэсій і тых, хто меў непасрэднае дачыненне да акадэмічных выданняў: «Ёсьць кнігі, якія нічога агульнага з марксызмам, як пануючай дактрынай, ня маюць, напрыклад: нарысы па гісторыі беларускай літаратуры праф. Піотуховіча, па этыцы праф. Барычэўскага, мастацкая літаратура Замоціна ды інш…» [8, с. 3].

Варта адзначыць і яшчэ адну асаблівасць канвалюта са збораў Бэндэ — гэта заўвагі на палях, зробленыя двума рознымі почыркамі, адзін з якіх на зборніку «Матчын дар. Думы і песьні. 1907—1914» несумненна належыць Л. Бэндэ. Сярод гэтых нешматлікіх заўваг, напісаных, за выключэннем адной, на беларускай мове, некалькі пра «перайманні»: «Каб мой люд маю песьню… зап. Купала» (верш «Людзям», ст. 6); «Лермантаў» («Nokturno» ст. 59, «Як ліст вярбінкі маладой…», ст. 68); «Жуковский боллада Светлана» («Варажба», ст. 131); некалькі — пра «матывы»: «Фаталізм» (верш «Ідуць гады», ст. 65); «Вострая брама — нац. фірма» («Варажба», ст. 125); і адна заўвага-папрок «А сам здрадзіў» на бачыне верша «Хто сказаў: «і я з народам» (ст. 64).

Заўвагі да «Збору твораў» значна шырэйшыя і выключна на рускай мове. Іх характар схіляе да думкі, што яны зроблены тым, хто творы Алеся Гаруна вывучаў дзеля напісання рэцэнзіі ці артыкула. Сярод іх угадваюцца тэмы будучага крытычнага аналізу: «перевоплощение», «идеализация “минуўшчыны”»; «неверие в освобождение», «пейзаж», «покоряйся, иди», «антиурбанист.» і інш., а таксама шэраг указваюць на мачымыя параўнанні з творамі Я. Купалы, Цёткі, М. Чарота, П. Труса, М. Някрасава, «Словом о полку Игореве» і інш.

Пасля 1929 г. кнігі Алеся Гаруна ў БССР не будуць выдавацца без малога шэсцьдзясят гадоў. Толькі ў 1988 г. з'явіцца факсімільнае выданне зборніка «Матчын дар. Думы і песьні. 1907—1914». Праз тры гады, у 1991-м, чытач атрымае

самае поўнае выданне яго творчай спадчыны, якую сабраў і ўклаў У. Казбярук, — зборнік пад назвай «Алесь Гарун. Сэрцам пачуты звон», выпушчаны выдавецтвам «Мастацкая літаратура». У апошніх радках сваёй прадмовы ўкладальнік названага тома аптымістычна заўважыў: «Алесь Гарун пачынае нарэшце займаць тое месца ў свядомасці нашага народа, якое заслужыў усёй сваёй літаратурнай і грамадскай дзейнасцю» [10, с. 28]. Лік яго кніг і выданняў сёння ўжо мае і будзе мець працяг.

## Спіс літаратуры:

1. Гарун, А. «Матчын дар. Думы і песьні. 1907—1914». Падрыхтавана камісіяй для выдання твораў беларускіх пісьменьнікаў. Пад рэдакцыяй акад. І. І. Замоціна. Менск — 1929.

2. Архіў СП-б філіяла Расійскай акдэміі навук. Ф. 292. Воп. 2. Адз. зах. 48.

3. Бабарэка, А. «Аб разуменьні мастацкай творчасьці і аб некаторых пытаньнях у вывучэньні беларускай літаратуры» // А. Бабарэка. Збор твораў у двух тамах. Т. 2. Уклад. А. Бабарэка, В. Жыбуль, Г. Запартыка. Вільня-Беласток, 2011.

4. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 4 п. Воп. 1. Адз. зах. 3546.

5. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 4 п. Воп. 1. Адз. зах. 3553.

6. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 4 п. Воп. 1. Адз. зах. 4192.

7. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Ф. 66. Воп. 1. Адз. зах. 1385 (Т. Дакутовіч. Творчасьць Алеся Гаруна. Крытыка-біяграфічны нарыс).

8. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Ф. 66. Воп. 1. Адз. зах. 103 (Л. А. Бэндэ. Якая нам не патрэбна кніга. Артыкул).

9. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Ф. 66. Воп. 1. Адз. зах. 121 (Л. А. Бэндэ. Беларуская нацдэмаўская контр-рэвалюцыя ўчора і сёння. Артыкул // Камуністычнае выхаванне. 1930, № 12).

10. Гарун, А. «Сэрцам пачуты звон». Паэзія. Проза. Драматургія. Публіцыстыка. Укладанне, прадмова і каментарыі Уладзіміра Казберука. Мн., 1991.



**Віктар ЖЫБУЛЬ**

# ТАВІЗ: ПА СЛЯДАХ ЛЕГЕНДАРНАГА ЛІТАБ’ЯДНАННЯ

Сярод беларускіх літаратурных згуртаванняў міжваеннага перыяду бадай самым загадкавым з’яўляецца ТАВІЗ — «Таварыства аматараў выпіць і закусіць». У адрозненне ад «Маладняка» і «Узвышша» яно мела нефармальны характар і, адпаведна, не прадугледжвала ні статуту, ні пратаколаў пасяджэнняў, ні якой-кольвечы іншай афіцыйнай дакументацыі, па якой можна было б, напрыклад, скласці храналогію яго дзейнасці або меркаваць пра яго эстэтычную праграму.

Да нядаўняга часу ці не адзінай крыніцай інфармацыі пра ТАВІЗ з’яўляліся тэксты пісьменніка-эмігранта Юркі Віцьбіча (1905 — 1975). Упершыню ў друку ён згадаў пра ТАВІЗ у палемічным фельетоне «Цьвілікае шэранькі верабей» (у аўтарскім арыгінале — «верабейчык»), апублікаваным у нью-ёркскай газеце «Беларус» (1966, № 116, с. 2):

*«Дарэчы, у 1930-х гг. у беларускім літаратурным асяродзьдзі нейкі час існавала, бяз статутаў, суполка “ТАВІЗ”, або — Таварыства аматараў выпіць і закусіць. Да “ТАВІЗу” належалі Міхась Багун, Валеры Маракоў, Тодар Кляшторны, Сяргей Дарожны, Уладзімер Хадыка, Юрка Віцьбіч і шмат іншых, уяўляючы зь сябе дэманстрацыйную ў дачыненьні да Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР сувора забароненую багему. Ня ў залях і габінэтах Дому пісьменьніка, а ў шынках па Савецкай й Камсамольскай вуліцах абмяркоўвалі таленавітыя тавізаўцы сваю творчасьць. Дагэтуль паміж рознымі фотакарткамі беларускіх літаратараў з прачулымі аўтографамі захавалася ў мяне фота Валерыя Маракова, які сядзіць у менскай “Шашлычнай” за кухлем піва, апрацоўваючы свой чарговы добры верш. А ўвогуле гарэлку п’е чалавек у той час, калі вераб’ю, каб спагнаць смагу, цалкам хопіць лужыны, спакінутае крылатым Пэгасам»* [1, с. 200].

А ў 1997 г. дзякуючы літаратуразнаўцу і бібліёграфу Лявону Юрэвічу сталі вядомыя лісты Юркі Віцьбіча да літаратуразнаўца і гісторыка Антона Адамовіча, дзе інфармацыя пра ТАВІЗ дапаўняецца новымі падрабязнасцямі (першапублікацыя: Архіўная кніга. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1997); з’явіўся і артыкул, прысвечаны ўдзельнікам літаб’яднання [2, с. 160 — 169]. Так, у лісце ад 5 снежня 1951 г. больш дакладна і разгорнута пазначаны месцы збораў гэтай суполкі: *«Зьбіраліся звычайна або ў каго-небудзь на кватэры (пераважна ў Багуна), або ў 2-й гасьцініцы, калі я прыязджаў з Віцебску, або ў шашлычнай на вул. Камсамольскай, або ў маленькай піўнушцы — уніз па вул. Савецкай, або (у крайнім выпадку) у сутарэньні Дому пісьменьніка, дзе меўся пэўны час рэстаран»* [3, с. 141]. Вынаходнікам іранічна-эпатажнай назвы згуртавання А. Адамовіч называе Міхася Багуна. У ліку іншых удзельнікаў ТАВІЗа ён згадвае Васіля Каваля, Алеся Дудара, Эдуарда Самуйлёнка, а таксама Максіма Лужаніна — цытуючы адзін з яго пасляваенных вершаў:

Тут плоціцца дзесяць марак  
і ставіцца дзесяць чарак,  
а мне трэба больш купіць —  
і ўжыць,  
і сябрам наліць [2, с. 142].

Даследчык архіваў беларускай эміграцыі Лявон Юрэвіч прыходзіць да высновы, што да ТАВІЗа належалі таксама Змітрок Астапенка і Юлі Таўбін [2, с. 165 — 169], якія да свайго арышту ў 1933 г. жылі ў Мінску.

Цяжка сказаць, наколькі абавязковым і прынцыповым атрыбутам з’яўляліся ў Таварыстве выпіўка і закуска. Думаецца, яны былі больш «для адводу вачэй», а галоўны акцэнт рабіўся ўсё ж на незалежнасці згуртавання, на яго непадкантрольнасці палітызаванаму літаратурнаму афіцыёзу, партыйным ідэолагам, цэнзарам. *«На паседжаньнях багемы без старшыні і сакратара за кухлем ці кілішкам чыталіся творы, якія пісалі для сябе, а не для друку. Тут кожны адчуваў сябе самім сабой, тут скідваліся тыя «маскі», пра якія прыгадваў Язэп Пушча»*, — пісаў Ю. Віцьбіч, маючы на ўвазе радкі з Пушчавага верша «Прарокі і вучні» з цыкла «Перад скупым абліччам часу», упершыню апублікаваным у часопісе «Узвышша» (1929, № 5): *«Усе, усе мы носім маскі, / Нат скінуць дома баімося. / Да слёз смяёмся ў вечар майскі. / Да слёз спяваема увосень»* [3, с. 142].

Юрка Віцьбіч падкрэсліваў, што ТАВІЗ — гэта «зусім не згуртаваньне алкаголікаў», а «штосьці накшталт спробы арганізацыйна аформіць беларускую багему», «пратэст супраць існуючага “Пракрустава ложа”», «супраціў стварэньня пісьменьніцкаму калгасу» [3, с. 141—143]. Пад апошнім вызначэннем (дарэчы, прапанаваным А. Адамовічам), як вынікае з ужо цытаванага фельетона, мог разумецца Саюз пісьменнікаў БССР. Ён быў створаны паводле пастановы ЦК ВКП (б) ад 23 красавіка 1932 г. «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» і пастановы ЦК КП(б)Б ад 27 траўня 1932 г. «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР», а арганізацыйна аформіўся на 1-м Усебеларускім з’ездзе пісьменнікаў (Мінск, 8—14 чэрвеня 1934 г.). Гэта наводзіць на думку, што прыкладна ў гэты час узнік і ТАВІЗ.

Спрабуе Юрка Віцьбіч і акрэсліць суполку ў кантэксце вядомых яму падобных прыкладаў у іншых літаратурах — у прыватнасці, параўноўваючы з асяродкам расійскіх імажыністаў, якія таксама марылі адасобіць мастацтва ад дзяржавы. *«Да нейкае ступені, вельмі невялікае ступені, гэты наш ТАВІЗ нагадвае ясенінска-марыенгофскую “Зойкину квартиру”,* — прыгадваў Ю. Віцьбіч. — *І тут, і там — літаратарская багема, аднак на гэтым падабенства і канчаецца. У нас ТАВІЗ набыў характар ня толькі палітычнага, але й нацыянальнага супраціву...»* [3, с. 144].

І вось тут варта нагадаць: Антон Адамовіч у той час збіраў інфармацыю акурат для сваёй манаграфіі «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры (1917—1957)». Здавалася б, інфармацыя, паведамленая Ю. Віцьбічам, мусіла мець для яго неацэнную каштоўнасць: гаворка ішла пра вяртанне з забыцця і ўвядзенне ў навуковы ўжытак цэлага апазіцыйнага пісьменніцкага згуртавання! Але А. Адамовіч чамусьці ніяк не скарыстаўся гэтымі звесткамі: ці то забыўся, ці то не надаў значэння, ці то… не даў веры ўспамінам Ю. Віцьбіча, хоць той спрабаваў падмацаваць свае словы адсылкамі да дакументальных крыніц: *«Гэтая назва неаднойчы прыгадвалася і ў друку, і на паседжаньнях, і ў пратаколах гэтых паседжаньняў»* [3, с. 141]. Сумняюцца ў рэальным існаваньні ТАВІЗа і некаторыя сучасныя даследчыкі, ад якіх неаднойчы даводзіцца чуць, што, маўляў, гэтае літзгуртаванне — ні што іншае, як выдумка-містыфікацыя Ю. Віцьбіча: іншых жа крыніц быццам бы і не захавалася!

Сёння ж ёсць падставы аспрэчыць падобныя сцвярджэнні. Найперш звернемся да публікацый, што з’явіліся ў друку непасрэдна ў час існавання суполкі. Так, у газеце «Савецкая Беларусь» № 26 ад 1 лютага 1931 г. сустракаем нататку пад разгромнай назвай «Арганізатарам багемы — ня месца ў радох пралетарскіх пісьменьнікаў», падпісаную крыптанімам *Б. Б.* Тэкст яе прыводзім цалкам з захаваннем правапісу арыгінала:

***АРГАНІЗАТАРАМ БАГЕМЫ — НЯ МЕСЦА Ў РАДОХ ПРАЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ***

*Багема сярод літаратараў, багема як адрыжка буржуазнай упадніцкай уласьцівасьці ў нашых умовах, ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту перарастае ад бытавой язвы ў язву ідэолёгічнага характару. Праяву багемы з усімі яе спадарожнікамі, п'янкамі, хуліганствам, упадніцтвам, адрывам ад мас, мы ня можам інакш расцэньваць, як праяву клясава варожых адносін да пралетарскай літаратуры.*

*Група багемствуючых пісьменьнікаў знайшла сабе прытулак у доме Пісьменьніка і адчувала сябе там «як дома». П'янкі, п'яныя лаянкі, парнаграфічныя надпісы на сталох, кніжках, каляндарох, карэспандэнцыях — былі звычайнай зьявай. Усе прыгоды гэтай групы набываюць арганізаваны ўжо характар і вырастаюць у групу пад назваю «ТАВІЗ» (таварыства аматараў выпіць і закусіць).*

*Найбольш сумным зьяўляецца тое, што на чале «Тавізу» знаходзіліся такія пісьменьнікі як А. Звонак, Ул. Хадыка, Маракоў і інш.*

*У свой час Сакратарыят Белапу ўдарыў па гэтай арганізацыі, асудзіў удзел у ёй т. Звонака, але гэтым і абмежаваўся. Барацьба з багемшчынай вялася недастаткова і толькі нядаўна Белап ударыў па канкрэтных носьбітах багемы.*

*Трэба спадзявацца, што ў бліжэйшы час такая работа будзе праведзена.*

*Зусім нядаўна Сакратарыят Белапу выключыў з сваіх радоў Ю. Іаўрука. Справа ў тым, што за апошні час у творчасьці і паводзінах Іаўрука даволі выразна праяўлялася нацыянал-дэмакратычная ідэалёгія. Барацьба з беларускім нацыянал-дэмакратызмам ня сустрэла водгуку з боку Іаўрука нават і пасьля ўскрыцьця контр-рэвалюцыйнай дзейнасьці групы беларускіх нацыянал-дэмакратаў. Іаўрук да гэтага не асудзіў сваёй нацыянал-дэмакратычнай вылазкі.*

*Рады пралетарскіх пісьменьнікаў ачышчаюцца ад клясава-варожых людзей. Рады Белап'у перабудоўваюцца, правяраюцца і ачышчаюцца. Заклік ударнікаў у літаратуру яшчэ больш узмацняе рады Белап'у і папаўняе іх новымі кадрамі пралетарскіх пісьменьнікаў. Ачышчэньне радоў Белап'у ад нацыянал-дэмакратычнай цьвілі яшчэ раз пацьвярджае, што Белап стаіць на правільным шляху* [4, с. 1].

Зважаючы на недахоп агульнай інфармацыі пра ТАВІЗ, зазначым, што кожная, нават найдрабнейшая дэталь можа стаць каштоўнай зачэпкай для даследчыка гісторыі напаўлегендарнага літаб'яднання. Такім чынам, што мы даведваемся з прыведзенай нататкі?

1. ТАВІЗ узнік не ў перыяд стварэння Саюза пісьменнікаў БССР, а ўсё ж раней — яшчэ пры існаванні Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП), якая таксама выконвала функцыю манапалізатара літаратурнага працэсу. Згадванне падзей, звязаных з ТАВІЗам, пераважна ў мінулым часе і фармулёўкі кшталту «ў свой час» сведчаць пра тое, што паміж утварэннем згуртавання і часам выхаду нататкі (1 лютага 1931 г.) была пэўная часавая разбежка. Але ТАВІЗ з'явіўся прынамсі не раней за арышт Антона Адамовіча (25 ліпеня 1930 г.) — інакш ён ведаў бы пра гэтую суполку і не стаў бы распытваць пра яе Юрку Віцьбіча. Атрымліваецца, што ТАВІЗ быў створаны прыкладна ў верасні 1930 г. — неўзабаве пасля хвалі масавых арыштаў беларускай інтэлігенцыі па сфальсіфікаванай справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пагатоў, ніхто з асуджаных па гэтай справе як удзельнік ТАВІЗа ў лістах Ю. Віцьбіча не згадваецца.

2. Сходкі ТАВІЗа часам адбываліся ў Доме пісьменніка (тагачасны адрас: Мінск, вул. Савецкая, 68) — то бок, у афіцыйным месцы сходаў і пасяджэнняў БелАПП. Але магчыма, тут маецца на ўвазе не сам Дом пісьменніка, а рэстаран у сутарэнні яго, пра які пісаў Ю. Віцьбіч [3, с. 141]. Пісьменнік успамінаў, што аднойчы Эдуард Самуйлёнак назваў гэты рэстаран «паграбком Аўэрбаха», маючы

на ўвазе вядомую лейпцыгскую піўніцу — месца дзеяння першай часткі трагедыі Ё. В. Гётэ «Фаўст». Віцьбіч неасцярожна пажартаваў: «А можа, паграбок Авербаха?» — і *«ў той жа дзень меў афіцыйную сустрэчу з Андрэем Александровічам, які даводзіў мне геніяльнасць Леапольда Авербаха»* [3, с. 141]. Крытык Леапольд Авербах (1903—1937) быў адным з галоўных ідэолагаў і генеральным сакратаром Усесаюзнай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (УАПП), а паэт Андрэй Александровіч (1906—1963) — членам сакратарыята БелАПП, у пэўным сэнсе яго беларускім калегам.

2. Назву ТАВІЗ суполка насіла небеспадстаўна: яе ўдзельнікі сапраўды вялі багемны (ці блізкі да яго) лад жыцця, былі схільныя ўжываць алкагольныя напоі, а таксама забаўляць адно аднаго «парнаграфічнымі надпісамі». Зрэшты, усё гэта магло ўспрымацца самімі літаратарамі як у пэўным сэнсе маркёры духоўнай разняволенасці, вальнадумства, свабоды творчасці.

3. Тагачасныя арганізатары літаратурнага працэсу ў БССР сапраўды разглядалі ТАВІЗ як арганізацыйна аформленую багему і бачылі ў ім ідэалагічную небяспеку для развіцця афіцыйнай пралетарскай літаратуры.

4. Акрамя пералічаных Ю. Віцьбічам удзельнікаў ТАВІЗа (сярод іх У. Хадыка і В. Маракоў), у нататцы называецца яшчэ адзін — паэт Алесь Звонак (1907—1996), які нават быў асуджаны сакратарыятам БелАПП. Як і Максім Лужанін, Алесь Звонак пражыў доўгае жыццё, аднак нідзе ў сваіх успамінах пра ТАВІЗ не згадаў, хоць алкагольнай тэмы як такой не цураўся — прыгадваў, напрыклад, як піў разам з Паўлюком Шукайлам «ружовы лікёр, размешаны гарэлкай», адзначаючы сваё паступленне ў аспірантуру [5, с. 106]. Праўда, А. Звонак прабыў у ТАВІЗе нядоўга: у тым самым 1931 годзе ён паехаў «перавучвацца» на літаратурны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта [5, с. 105].

5. У справе з'яўляецца яшчэ адзін фігурант — «Ю. Іаўрук». Тут мы маем справу з відавочнай памылкай друку, а маецца на ўвазе перакладчык і паэт Юрка Гаўрук (1905—1979). Такое ўражанне, што альбо наборшчык кепска расчытаў почырк журналіста, альбо сам журналіст не ўяўляў, пра каго піша, а толькі выконваў чыюсьці ідэалагічную замову: у дачыненні да Ю. Гаўрука такая нататка выконвае бадай што ролю палітычнага даносу. З публікацыі, аднак, не зусім зразумела, ці Ю. Гаўрук меў непасрэднае дачыненне да ТАВІЗа, ці быў прыплецены да справы, так бы мовіць, «за кампанію» — таксама як з'ява аднаго шэрагу, «класава варожы элемент».

Ці была нейкая канкрэтная прычына для такога сур'ёзнага і небяспечнага для таго часу абвінавачання ў нацыянал-дэмакратызме? Натуральна, што ні ў сваёй аўтабіяграфіі, ні ва ўспамінах (большасць з іх склала кнігу «Ступень адказнасці», 1986) ён нідзе не напісаў, за што ж менавіта яго выключылі з БелАПП у студзені 1931 г. Вядома, што ў той час Ю. Гаўрук жыў і працаваў у Горках, таму наўрад ці ён уваходзіў у ТАВІЗ — хіба што мог завітаць на яго сход, будучы заездам у Мінску. Магчыма, крытыкі-вульгарызатары адшукалі крамолу ў якім-небудзь з апублікаваных незадоўга да таго твораў Ю. Гаўрука? З бібліяграфіі пісьменніка даведваемся, што цягам усяго 1930 г. ён апублікаваў тры вершы Аляксандра Пушкіна («Ліст у Сібір», «Зімовы вечар», «Сосны») у сваім перакладзе («Маладняк», № 2) і толькі адзін уласны твор — апавяданне «Памятка» («Чырвоная Беларусь», № 7) пра селяніна Дзямяна Салабуту, які шкадуе чырвонаармейца, які страціў у баі каня, і пасля ваганняў дорыць яму свайго. Цяжка зразумець, дзе ў гэтым апавяданні крытыкі маглі ўгледзець нацыянал-дэмакратычныя матывы; хутчэй за ўсё, падставай для такіх абвінавачанняў сталі нейкія непублікаваныя творы Ю. Гаўрука, якія абмяркоўваліся на сходах і пасяджэннях БелАПП.

Вось да такіх разваг і высноў падштурхнула нас невялічкая тэндэнцыйная газетная нататка ў «Савецкай Беларусі» 1931 года. Падказала яна і пэўны кірунак далейшых пошукаў: а раптам у прэсе пачатку 1930-х гг. (у тым ліку ў літаратурных хроніках) знойдзецца яшчэ што-небудзь датычнае ТАВІЗа?

Нават там, дзе назва згуртавання непасрэдна не згадваецца, можна «вылічыць» прысутнасць «тавізаўскага кантэксту». Напрыклад, у часопісе «Маладняк» (1931, № 1) паведамлялася:

*«— Сэкратарыятам БелАПП за нацыянал-дэмакратычную дзейнасьць выключан з БелАПП Юрка Гаўрук.*

*— За адрыў ад работы БелАПП, за сыстэматычныя п'янкі выключаны з БелАПП Хадыка і Шалай»* [6, с. 124].

Заўважым, што гэтая часопісная хроніка выйшла амаль адначасова з газетнай нататкай таямнічага Б. Б., і дзве цытаваныя навіны (пра Гаўрука і пра Хадыку з Шалаем) так і змешчаны — побач, адна за другой — так бы мовіць, адной «абоймай». Магчыма, і ў газеце, і ў часопісе папрацаваў адзін і той «інфарматар».

Пра згаданага тут Уладзіміра Хадыку як пра аднаго з завадатараў ТАВІЗа мы ўжо ведаем. Яго таварыш па прыгодах Макар Шалай (1906—1937) — таксама асоба неардынарная. Літаратурны крытык, колішні ўдзельнік постфутурыстычнай «Беларускай Літаратурна-Мастацкай Камуны», ён набыў вядомасць (хоць і пасмяротную) тым, што будучы арыштаваным у 1933 г. па справе «Беларускай Народнай Грамады», адкрыта здзекаваўся са следчых, сцвярджаў, што хацеў далучыць Беларусь да Індыі [3, с. 158—159], а пазней быў адпушчаны з турмы з псіхіятрычным дыягназам.

Архіў Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП), у адрозненне ад яе папярэдніка — «Маладняка», як адзінае цэлае не захаваўся. Але матэрыялы асобных сходаў і пленумаў захаваліся ў архіўным фондзе аднаго з ідэолагаў арганізацыі — крытыка і літаратуразнаўца Лукаша Бэндэ (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 66). У гэтых дакументах наўпроставых згадак пра ТАВІЗ мы таксама не знаходзім, але можам — як і па публікацыях у друку — прынамсі, прасачыць лінію барацьбы афіцыйных літаратурных колаў з літаратурнай багемай.

Вось вытрымка з даклада Рыгора Мурашкі «Барацьба з нацыянал-дэмократычнымі рыцарамі ў літаратуры», агучанага на пленуме праўлення БелАПП, што праходзіў 12—16 траўня 1931 г.: *«Пленум адабрае захады Сакратарыяту па барацьбе з літаратурнай богемай, якая, уносячы разладжваньне ў шэрагі БелАПП'у, зьяўляецца перашкодай па падняцьці ідэйнага і тэорэтычнага ўзроўня белапаўцаў. Працягваючы ў далейшым* ***рашучую барацьбу з богемай ва ўсіх яе відах і формах*** (тут і далей вылучэнні нашыя. — *В. Ж.*)*, неабходна адначасова ўзмацніць выхаваўчую працу, дабіцца палепшаньня матар'яльнага становішча пісьменьнікаў, дабіцца правільнай нагрузкі і грамадзкай працай, творчасьцю, вучобай»* [7, арк. 20—21].

У гэтым жа тэксце знаходзім яшчэ адно пацвярджэнне, што Юрка Гаўрук ужо на самым пачатку 1930-х гг. быў запісаны ў нацыянал-дэмакраты: *«З 500 асоб у аб'яднаньні застаецца толькі каля 70, і характэрна, што сярод гэтых апошніх якраз пазаставаліся элемэнты наяўна чужыя і нават варожыя па сваёй нацыянальна-дэмакратычнай тэндэнцыі (Касьпяровіч, Купцэвіч, Жылка, Гаўрук і некаторыя іншыя). Чым далей у лес, дык болей дроў»* [7, арк. 4].

А вось «Нататкі публіцыста пра чырвоную халтуру» В. Пінскага, напісаныя прыкладна ў пачатку 1932 г.: *«Сымптомы заспакаеньня на значных посьпехах, якія аднак не ліквідуюць адставаньне — у асобных творчых адзінак пролетлітаратуры сям-там праяўляюцца.*

*Гэтыя сымптомы знаходзяць сваё прыватнае праяўленьне* ***ў ажыўленьні провінцыяльнай з прэтэнзыяй на сталічную богемы,*** *у актывізацыі за апошні час сям-там ячэства, графаманства…*

*Бязумоўна, ня гэта характарызуе сёнешняе становішча пролетлітаратуры, але гэтыя балячкі тармозяць перамаганьне адставаньня, і іх трэба перамагчы. Перамаганьне іх адна з перадумоў перамаганьня адставаньня пролетлітаратуры, адна з перадумоў стварэння Магнітбуду ў літаратуры»* [8, арк. 48].

І гэта толькі нямногія ілюстрацыі таго, што афіцыйныя пісьменніцкія сходы, а таксама літаратурныя дыскусіі тых часоў праходзілі пад знакам барацьбы з нацыянал-дэмакратамі і іншымі «класавымі ворагамі», у тым ліку на культурным фронце.

Нягледзячы на тое, што кіраўніцтва БелАПП прымала рашучыя меры па барацьбе з багемай, праблема не знікала, а па-ранейшаму заставалася актуальнай і праз некалькі гадоў — калі БелАПП ужо не існавала, а на яго месцы паўстаў Саюз савецкіх пісьменнікаў Беларусі (ССПБ). У газеце «Літаратура і мастацтва» ад 16 лютага 1935 г. чытаем: *«За апошні час Праўленнем ССПБ ускрыта група пісьменнікаў, якая сістэматычна п'янствуе, прычым частка з іх (Дудар, Вольны, Маракоў)* ***стала на шлях багемы, а багемшчык можа трапіць у балота нацыяналістычнай контррэвалюцыі****. Праўленне ССПБ і пісьменніцкі актыў вельмі жорстка асудзілі халтуру і багемшчыну, п'янку і іх носьбітаў, і папярэдзіла пісьменніцкую арганізацыю: гэта арэна, на якой магчымы рэцыдывы і ўплывы нацдэмакратызма ў літаратуры і літаратурным асяроддзі. Праўленне ССПБ выключыла на 6 месяцаў з Саюза Кляшторнага і Маракова, абвясціла суровую вымову Дудару, Вольнаму, вымову С. Баранавых»* [9, с. 3].

Дарэчы, Юрка Віцьбіч сцвярджаў, што Т. Кляшторны «за справы ТАВІЗа» быў прыняты ў ССПБ не сябрам, а толькі кандыдатам [3, с. 134], а ў энцыклапедычных артыкулах са спісамі сяброў саюза прозвішча гэтага паэта ўвогуле адсутнічае; вышэй цытаваная нататка, аднак, пацвярджае, што Т. Кляшторны ў саюз усё ж такі ўваходзіў.

Змест нататкі яшчэ раз падкрэслівае, што куды большым злом за багемшчыну і п'янкі ў вачах літаратурных ідэолагаў бачыўся нацыянал-дэмакратызм. А да праяў апошняга маглі быць залічаны, бадай, любыя выказванні пра самабытнасць беларускай культуры, як і нядаўняя спрычыненасць да ўжо згорнутай на той час беларусізацыі. Абвінавачанні пісьменнікаў у злоўжыванні алкаголем і ў нацыянал-дэмакратызме амаль што зліваліся ў адно. Як зазначыў Алесь Бельскі, «залічэнне да "п'янай багемы", "адарванасць ад грамадства", "лінія ўпадніцтва" напрамую звязваліся крытыкамі-аглабельшчыкамі з прыналежнасцю да буржуазнага нацыяналізму» [10, с. 449]. Праз гэтую ідэалагічную прызму разглядалася і творчасць. Вось і В. Маракоў, і Т. Кляшторны былі выключаныя з пісьменніцкага саюза адначасова і за «багему», і за супольнае напісанне «крамольнага» верша «Песня перамог», апублікаванага ў газеце «Піянер Беларусі» 6 лютага 1935 г. [11, с. 114]. Неўзабаве, 21 сакавіка, В. Маракоў быў арыштаваны органамі дзяржбяспекі і правёў тры месяцы ва ўнутранай турме НКВД. Як бачым, меры ў дачыненні да «багемшчыкаў» прымаліся рашучыя і радыкальныя, на якія была здольная ў той час таталітарная дзяржава. Але масавыя расстрэлы былі яшчэ наперадзе…

У тагачаснай характарыстыцы В. Маракова для НКВД, падпісанай старшынёй Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Міхасём Клімковічам, сярод іншага было зазначана: *«Разгром нацдемовщины и арест близких друзей Морякова, видимо, заставил его отойти от прямых хвалебных од нацдемизму к большей маскировке: он начал опевать богему, по-кулацки показывать наши заводы, нашу действительность (см. его изъятую книгу "Права на зброю")»* [11, с. 111].

Яшчэ больш разгорнута тэза пра В. Маракова як «багемшчыка» і «буржуазнага нацыяналіста» прадстаўлена ў характарыстыцы «О творчестве Валерия Морякова», напісанай крытыкам Алесем Кучарам на запыт УГБ па даручэнні кіраўніка Саюза пісьменнікаў ад 20 траўня 1935 г.: *«Белорусские буржуазные контрреволюционные националисты одним из оружий борьбы против советской власти избрали богему, богемский разврат и вырождение, упадничество и разложение. В этом смысле пьяная, разухабистая богема, упадничество,*

*пессимизм, как в жизни, так и в творчестве, являлись оружием в руках буржуазных националистов в их борьбе против пролетарской революции. В. Моряков является наиболее ярким представителем богемско-упаднического отряда буржуазного национализма в белорусской литературе. Моряков исповедует в своем творчестве общие для всех буржуазных националистов идеи, однако, оттененные богемским упадничеством. Явно контрреволюционные нацдемовские произведения вроде “Беларусі”, “Чуеш, Беларусь” (Кастусю Калиновскому), “Рахунак паэта, пададзены да аплаты”, “Фабрыка Дзвіна”, “Мая паэма” чередуются у него с есенинско-упадническими стихами, выражающими безнадежность и неверие поэта. Обратимся к раннему творчеству В. Морякова (1926—29 гг.), и мы увидим, что в первую очередь Моряков — белорусский нацдем и именно отсюда у него начинается упаднический, богемский разлад с действительностью. Советская действительность ему чужда, враждебна. Отсюда неверие ни во что, ни в какие перспективы, отсюда пессимизм. Линия упадничества, пьяной богемы идет через все три сборника Морякова, а так же через “Мою поэму”. В сборниках “Пялёсткі”, “На залатым пакосе”, “Вяршыні жаданняў” всюду пьяный разухабистый и безнадежный пессимизм:*

І так моцна, так глуха галосіць душа,
І на сэрца з трывогай кладзецца рука.

*Этот лейтмотив проходит через все стихи Морякова»* [11, с. 117—118].

Акрамя Валерыя Маракова, яшчэ адным арыштаваным у той час (8 лютага 1935 г.) беларускім літаратарам быў ужо згаданы ў сувязі з ранейшымі «багемнымі» справамі Юрка Гаўрук, хоць увогуле 1935 год, як зазначыў Леанід Маракоў, «на арышты быў даволі “сціплы”» [11, с. 108].

Багемны лад жыцця, у якім спрабавалі знайсці паратунак Валеры Маракоў (чый актыўны ўдзел у ТАВІЗе засведчаны нават дакументальна) і яго сябры, знайшоў адбітак у мемуарах некаторых сучаснікаў. Успамінаючы часы свайго юнацтва, паэт Сяргей Грахоўскі пісаў: *«З гэтай пары* [з вясны 1932 г. — *В. Ж.*] *мы амаль пасябравалі з Мараковым: часта сустракаліся ў Доме пісьменніка, шпацыравалі па інстытуцкіх калідорах, па Савецкай вуліцы. А калі заводзіліся капейкі, выходзячы з бухгалтэрый выдавецтва ці “Чырвонай змены”, заварочвалі на Камсамольскую вуліцу ў мясцовае “Стойла Пегаса” — прапахлую півам і нейкаю смажанінаю забягалаўку, названую “Капернаумам”. Адразу станавілася шумна і весела. Потым “ідэолагі” нашы паходы ахрысцілі “амаральнай багемай”, хоць і самі часам заварочвалі туды, каб сабраць назіранні дзеля далейшай “работы”ды і глынуць піва»* [10, с. 409—410].

На той час Валеры Маракоў спалучаў творчую працу з навучаннем на літаратурна-лінгвістычнага аддзяленні Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута, жывучы то на ганарар, то на стыпендыю. Атрыманне грошай ён часам бурна адзначаў з сябрамі:

*«У дні выплаты стыпендыі часам каля касы Маракова чакалі Кляшторны або Багун, спадзеючыся пазычыць нейкую дробязь. Выдавецтва ганарары па 30 капеек за радок цыркала нерэгулярна. На калідоры каля кабінета намесніка дырэктара Івана Адамавіча Бучукаса на дзіравай цыратовай канапе часта чакалі фінансавай ласкі паэты і празаікі. Аднойчы тут жа Маракоў склаў “слязніцу”: “Бучукас, Бучукас, пашкадуй ты нас, дай адзін рубляс на куфляс півас”. Яна стала папулярнаю сярод пісьменнікаў, дайшла і да Бучукаса. Ён звычайна, падпісваючы паперку ў бухгалтэрыю, казаў: “Вось табе на куфляс півас”»* [10, с. 408—409].

У фондзе Лукаша Бэндэ захаваўся машынапіс поўнага тэксту эпіграмы, нават з датай ці то напісання аўтарам, ці то перадруку на машынцы самім Бэндэ:

**Новы ойча наш**

Дзядзька Бучукас,
Пашкадуй ты нас,
У гэты страшны час
Пашкадуй хоць раз, —
Дай хоць паўрубляс
На адзін куфляс.

Сядзеў і ікаў
Уладзімер Хадыка;
Скардзіўся крэпка
Пятрусь Глебка.

Стукаў кулаком
Валеры Маракоў.
Каб мог, вас зьмяў бы
Юлька Таўбін.

Хаваўся за зброю
Мікола Хведаровіч.
Бразгаў нажамі
Максім Лужанін.

А іншы народ
Стаяў каля варот,
Скрыгаў зубамі на нас,
Дзядзька Бучукас.

3/X—1933 г. [12, арк. 1].

Магчыма, гэта і ёсць ці не адзіны ацалелы верш з тых, што чыталіся на сходках ТАВІЗа… Дарэчы, у архіўным вопісе твор пазначаны як эпіграма «неўстаноўленага аўтара». Вось як карысна часам бывае зазірнуць у падобныя дакументы, а заадно зняць з іх пячатку ананімнасці!

Сярод «герояў» верша, акрамя тавізаўцаў У. Хадыкі, В. Маракова, Ю. Таўбіна, М. Лужаніна сустракаем і такіх асоб, як Пятро Глебка і Мікола Хведаровіч. Вядома ж, сяброўскія застоллі і проста гутаркі за куфлем піва былі ў літаратараў, бадай, звычайнай справай, магчыма, яны і самі не асабліва задумваліся над тым, якія з гэтых сустрэч трэба было лічыць пасяджэннямі «Таварыства аматараў выпіць і закусіць», а якія — проста будзённымі пасядзелкамі з выпіўкай і закускай. Натуральна, што і склад удзельнікаў такіх сустрэч мог вар’іравацца.

Датычна згаданага ў вершы будучага акадэміка Пятра Глебкі мусім заўважыць, што яшчэ ў часы «Маладняка» ён выяўляў сябе як прыхільнік «багемнага» ладу жыцця, таму яго магчымы ўдзел у ТАВІЗе зусім не выглядаў бы выпадковым.

Пакінуў успаміны пра Валерыя Маракова і Павел Пруднікаў (упершыню — «Маладосць», 1998, № 12). І што асабліва цікава — у іх прысутнічае непасрэдная згадка суполкі ТАВІЗ. Акрэслім кантэкст гэтай згадкі: у канцы 1960-х гг. П. Пруднікаў наведаў родны дом В. Маракова і сустрэўся з ягонай маці. У гутарцы з ёю ён меў неасцярожнасць сказаць: *«Валера быў членам ТАВІЗа. Удзельнікі яго збіраліся звычайна ў адной з кавярняў горада. Афіцыйныя ўлады называлі іх багемай і абвінавачвалі ў злоўжыванні алкаголем...»* Рэакцыю маці рэпрэсаванага паэта аўтар успамінаў апісаў наступным чынам:

*«І вось тут раптам адбылося нечаканае: маці насцярожылася, збляднела — змянілася ў твары і вымавіла:*

*— Гэта няпраўда, мой сын...*

*— Матуля, супакойцеся. Я ж меў на ўвазе, што Валера, як і яго сябры, адчуваючы непазбежны арышт, часам здымаў нервовасць, узбуджанасць чаркай…*

*Шчыра кажучы, я ўжо не раз укусіў сябе за язык за непрадуманую заўвагу»* [10, с. 432].

У часопісным варыянце ўспамінаў пададзены яшчэ некаторыя рэплікі з гэтага дыялогу:

*«— Усё роўна мой сын не п’яніца! — стаяла яна на сваім.*

*— Я такой жа думкі, матуля, прабачце мне, калі што не так сказаў пра Валеру»* [13, с. 208].

Зразумела, чаму паэтава маці так негатыўна зрэагавала на згадку пра ТАВІЗ: у свой час тыя абвінавачанні ў злоўжыванні алкаголем папярэднічалі арышту і расстрэлу В. Маракова, яны быццам спадарожнічалі трагедыі гэтай сям’і… І ўвогуле, думаецца, такая непажаданасць згадак пра крамольны ТАВІЗ шмат у чым тлумачыць тое, чаму пра гэтае літаратурнае згуртаванне так праблематычна знайсці ў друку хоць якуюсь інфармацыю. Магчыма, у «тавізаўскіх колах» вяліся ў свой час сапраўды вострыя гутаркі — настолькі вострыя, каб пасля гэта ўпарта абвяргаць. Дый нават у наш час прыналежнасць тых паэтаў да «Таварыства аматараў выпіць і закусіць», напэўна, успрымалася б некаторымі аматарамі літаратуры як нейкая кампраметацыя — але ўжо ў сувязі не з «супрацівам саветызацыі», а з «не ідэальным» ладам жыцця, на думкі пра які наводзіць назва суполкі.

Другая прычына — у тым, што ўспамінаць пра ТАВІЗ ужо асабліва не было і каму: з усіх удзельнікаў суполкі, згаданых Ю. Віцьбічам, акрамя яго самога, у паваенныя гады заставаўся ў жывых толькі Максім Лужанін. Усе астатнія альбо загінулі ад рэпрэсій (М. Багун, С. Дарожны, А. Дудар, В. Каваль, Т. Кляшторны, В. Маракоў, У. Хадыка), альбо заўчасна памерлі ад хвароб (Э. Самуйлёнак). З гэтай прычыны выглядае сумнеўным сцвярджэнне Ю. Віцьбіча, што «ТАВІЗ праіснаваў да самай вайны» [3, с. 142]. З каго ж, у такім разе, ён складаўся ў канцы 1930-х гг.?

У апошнія гады жыцця Максіма Лужаніна з ім сустракалася пісьменніца Людміла Рублеўская, каб распытаць пра жыццё беларускіх літаратараў міжваеннага перыяду. Паводле яе слоў, падчас гэтых сустрэч М. Лужанін з захапленнем неаднойчы распавядаў і пра ТАВІЗ, праўда, з вышыні пражытых гадоў расцэньваючы гэта проста як смелае і вясёлае перайманне багемы, якое мела месца ў маладосці. У апублікаваных мемуарах М. Лужаніна абрэвіятура ТАВІЗ нідзе не сустракаецца, а самі згадкі пра сяброўскія бяседы ў пакоі Тодара Кляшторнага за пляшкай лошыцкага віна з агрэсту ці антонаўкі або вячэру «на закрытым ад цікаўных вачэй балкончыку рэстарана “Еўропа”» [14, с. 15] датычаць пераважна ранейшага перыяду — 2-й паловы 1920-х гг., калі і сам Лужанін, і згаданы Т. Кляшторны былі студэнтамі. *«За жартамі і спевамі праседжвалі і поўнач, перабраўшы на памяць Купалу, Коласа, Блока і, часцей, Гумілёва,* — пісаў М. Лужанін. — *Назаўтра мы беглі слухаць лекцыі або сядалі за працу пры ўласным стале. Адным словам, быў узрост і духоўны стан, калі “водку пьешь ради славы, не потому что хороша”»* [14, с. 15]. Успаміны даюць зразумець, што багемны лад жыцця захапляў маладых паэтаў ужо ў той перыяд. Яны знаходзяць пацвярджэнне і ў лістах Пятра Глебкі да Паўлюка Труса: *«20 сьнежня 27 году атрымлівалі стыпэндыі і ўмовіліся пасьля гэтага сыйсьціся ў Кляшторнага на кватэры (ён жыў разам з Падабедам Яз.). Сышліся: я, Маракоў, Дарожны, Лужанін, Каваль, Кляшторны і Падабед. Узялі выпіць — тры бутэлькі (паўлітры). Выпілі, пачыталі вершы, пасьпявалі і разышліся…»* [15, арк. 1].

Але тады гэта ішло часткова ад «маладой задзірыстасці, жадання пафарсіць легкадумным учынкам», часткова ад даніны модзе («А мы што, кіпцямі загон барануем?»), і ніхто яшчэ не ўкладаў у гэтыя сустрэчы з піццём алкаголю, чытаннем вершаў і спевамі таго сэнсу, які з’явіўся пазней, а менавіта — паспрабаваць арганізацыйна аформіць беларускую багему і стварыць апазіцыю афіцыйнай

літаратурнай арганізацыі. Сам М. Лужанін, як бы імкнучыся праз шмат гадоў апраўдацца, рэзюмуе: *«Як жа назваць тое бадзянне, нясытае жыццё маладых літаратараў? Багема? Хутчэй за ўсё — не. У кожным разе не тое змрочнае прадонне, якое глынае, не дае падняцца хоць бы на кароткі час работы»* [14, с. 15].

Ёсць, аднак, ва ўспамінах М. Лужаніна эпізод, які відавочна датычыць крыху пазнейшага часу, 1930—1933 гг. — акурат у гэтыя гады жыў у Мінску Змітрок Астапенка, пакуль не быў арыштаваны па справе «Беларускай народнай грамады»: *«Пры шклянцы таннага лошыцкага збіраліся Хадыка, Астапенка, Броўка з Глебкам, са старэйшых — Зарэцкі і Сташэўскі»* [14, с. 15]. Менавіта ён, Змітрок Астапенка, у 1943 г. напіша ў Маскве на рускай мове п'есу «Запалім люлькі» пра паэта Юрыя Смоліна — чалавека з пакручастым лёсам: увaходзіў у колы літаратурнай багемы, быў арыштаваны па даносе, высланы ў лагер, адкуль уцёк перад самай Вялікай Айчыннай вайной, пачаў супрацоўнічаць у акупацыйнай газеце, а потым, пабачыўшы рэальныя жахі вайны і перажываючы за лёс Радзімы, стаў падпольшчыкам… У значнай ступені Смолін з'яўляецца героем аўтабіяграфічным: шэраг фактаў яго біяграфіі супадае з фактамі жыццяпісу самога З. Астапенкі. Яшчэ адзін каларытны персанаж п'есы — супрацоўнік Беларускага радыё-цэнтра і таксама паэт Скарга, на якім атмасфера літаратурнай багемы адбілася найгоршым чынам. З аднаго боку, ён стварае ўражанне чалавека, які даўно прапіў свой талент, з другога — раскрываецца як даволі складаная асоба са сваёй жыццёвай драмай, прываблівае шчырасцю, разважлівасцю, іранічным поглядам на рэчы. Характары гэтых двух персанажаў з'яўляюцца ў п'есе аднымі з найбольш прапісаных.

Асобныя сцэны п'есы перадаюць атмасферу жыцця беларускай літаратурнай багемы 1930-х, прыкладна такую, якім яна паўстае ў лістах Ю. Віцьбіча да А. Адамовіча і ўспамінах некаторых іншых сучаснікаў. Возьмем, напрыклад, сцэну сяброўскай вечарынкі, якую ладзіць у сябе дома Юры Смолін з нагоды 10-годдзя сваёй літаратурнай дзейнасці:

*«МРАЧНЫЙ ПОЭТ — Браво, Скарга! Ты вовсе не скептик, а настоящий поэт. Только по шибке пьешь, вместо того, чтобы писать.*

*СКАРГА — Ты так думаешь? (Махнув рукой.) Ну, так давай выпьем!*

*СМОЛИН — Пьем за хорошую, настоящую, живую поэзию, друзья! — без натянутой тенденции и без оптимизма по обязанности, как у моего соседа Любецкого. Пьем, друзья!.. (Пьют.) А теперь — споем! Галя! Сейчас твое слово! Ну-ка ту — купальскую!*

*(Шум. Гости группируются вокруг Гали. Около нее садится с гитарой Скарга. Галя запевает чудесную белорусскую купальскую песню. Песню подхватывают. Поют почти все. Герасим Андреевич, улыбаясь, дирижирует. Песня постепенно гаснет в глубоко-лирическом аккорде.)*

*СМОЛИН — Друзья мои! Почему так глубоко трогают нас наши милые народные песни? Не потому ли, что в них слышен голос народа? Его чувства, его страдания и радости? Наши задушевные простые народные песни! Выпьем, друзья, за нашу песню! За Белорусь! За ее национальную культуру! Да-да! За белорусскую национальную культуру!*

*БАМБУРА (дремавший во время пения на авансцене) — За Белорусь? За белорусскую национальную культуру?! Национал-демократизм! Ага! (Что-то пишет, отвернувшись, и прячет.)»* [16, арк. 16—17].

Крытык Бамбура рыхтуе на паэта Смоліна чарговы данос у НКВД. У выніку Юрыя арыштоўваюць і, як потым высвятляецца, асуджаюць на 10 гадоў лагераў. Потым шляхі гэтых персанажаў сустрэнуцца ўжо ў акупаваным Мінску… Нягледзячы на ўсю інтрыгоўную фабулу п'есы, сітуацыя выглядае вельмі рэалістычнай: як мы ўжо бачылі, абвінавачанні ў «багемшчыне» і «антысаветчыне» часта

спалучаліся паміж сабой, і Змітрок Астапенка меў смеласць апісаць у сваёй п'есе такую тыповую для свайго часу сітуацыю.

З п'есы можна зрабіць выснову, што і багемныя літаратурныя колы (прыкладам якіх і быў ТАВІЗ), нягледзячы на ўсю сваю дыстанцыяванасць ад палітыкі і закамуфляванасць пад звычайныя сяброўскія застоллі, не былі застрахаваныя ад стукачоў-даносчыкаў. Можна выказаць меркаванне наконт таго, хто быў прататыпам Бамбуры і, адпаведна, каго менавіта З. Астапенка вінаваціў у сваім несправядлівым арышце і асуджэнні.

Прозвішча персанажа найбольш сугучнае з прозвішчам Уладзіміра Сядуры (1910—1985), які на пачатку 1930-х гг. у сваіх артыкулах разглядаў творчасць З. Астапенкі з вульгарна-сацыялагічных пазіцый. Так, на прыкладзе паэмы «Канцы паэмы» ён зазначаў, што творчая ўстаноўка аўтара мае яскравы «ідэалістычны, асветніцкі характар» і, адпаведна, уяўляе з сябе «навевы буржуазнага, ідэалістычнага мастацтва». *«З гэтае-ж устаноўкі*, — развівае сваю думку крытык, — *усімі сваімі карэньнямі вырастаюць і скэптычныя адносіны да ўтылітарных запатрабаваньняў поэзіі, імкненьні адасобіцца ад грамадзкага жыцьця ў сфэры нейкага надклясавага, апалітычнага мастацтва (а фактычна соцыяльна абумоўленага дробнабуржуазным быцьцём і навевамі буржуазнае літаратуры), непрыстасаванасьць да жыцьця, выпаданьне з ягонае плыні, нараканьні...»* [17, с. 153]. У час Другой сусветнай вайны збеглы з-пад арышту У. Сядура вярнуўся ў акупаваны Мінск, дзе рэдагаваў часопіс «Новы шлях» і друкаваўся ў «Беларускай газэце».

Магчыма, З. Астапенка вырашыў гэтак адпомсціць свайму крытыку, зрабіўшы яго прататыпам адмоўнага персанажа сваёй п'есы. Хоць Бамбура можа быць і вобразам абагульненым: у ім сканцэнтраваны найбольш тыповыя і пры гэтым шаржаваныя рысы крытыка-вульгарызатара…

…Пакуль што ў справе даследавання «Таварыства аматараў выпіць і закусіць» больш загадак і гіпотэз, чым выяўленых, дакументальна пацверджаных фактаў, аднак відавочна адно: ТАВІЗ, насуперак меркаванням некаторых скептыкаў, усё ж такі існаваў. Гэта рэальнае нефармальнае згуртаванне беларускіх літаратараў 1930-х гг., а ні ў якім разе не міф, прыдуманы Юркам Віцьбічам. Дзейнасць ТАВІЗа — адна з праяў супраціву саветызацыі ў беларускай літаратуры, якая магла б заняць належнае месца ў вышэйзгаданым даследаванні Антона Адамовіча. Вядома ж, даследаванне дзейнасці ТАВІЗа патрабуе далейшых пошукаў, і магчыма, у фондах архіваў і бібліятэк некалі знойдуцца новыя, невядомыя раней факты пра гэтую суполку.

## Літаратура і крыніцы:

1. Віцьбіч, Ю. Цьвілікае шэранькі верабейчык / Ю. Віцьбіч; падрыхт. да друку і камэнт. Ц. Чарнякевіча // Запісы БІНІМ. — 2012. — Т. 35.

2. Юрэвіч, Л. Тавізаўцы. Пра лёсы ўдзельнікаў аднаго літаратурнага аб'яднання / Л. Юрэвіч // Роднае слова. — 1997. — № 11.

3. Віцьбіч, Ю. Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза / Ю. Віцьбіч. — Мінск: Кнігазбор, 2011.

4. Б. Б. Арганізатарам багемы — не месца ў радох пралетарскіх пісьменнікаў / Б. Б. // Савецкая Беларусь. — 1931. — 1 лют.

5. Звонак, А. Разбітыя скрыжалі лёсу / А. Звонак; зняў з магнітнай стужкі А. Пашкевіч // Першацвет. — 1995. — № 6.

6. Хроніка // Маладняк. — 1931. — № 1.

7. Дакументы дзейнасці БелАПП (рэзалюцыі пленумаў, пастановы сакратарыяту, выступленні П. Р. Галавача, Я. Ліманоўскага, Р. Мурашкі і інш.) // БДАМЛМ. — Ф. 66. — Воп. 1. — Адз. зах. 1053.

8. Дакументы пленумаў праўлення БелАПП // БДАМЛМ. — Ф. 66. — Воп. 1. — Адз. зах. 901.

9. Суровае і своечасовае папярэджанне // Літаратура і мастацтва. — 1935. — 16 лют.

10. Маракоў, В. Рабінавая ноч: Выбранае: Вершы, паэмы, проза, публіцыстыка, крытыка, пер. / В. Маракоў. — Мінск, 2003. — 480 с.,

11. Маракоў, Л. Валеры Маракоў: Лёс. Хроніка. Кантэкст / Л. Маракоў. — Мінск: МФ «Бел. кнігазбор», 1999.

12. Неўстаноўлены аўтар [Маракоў, В.]. «Новы ойча наш». Эпіграма. Машынапіс // БДАМЛМ. Ф. 66. — Воп. 1. — Адз. зах. 1360.

13. Пруднікаў, П. Паэт эмоцый / П. Пруднікаў // Маладосць. — 1998. — № 12.

14. Лужанін, М. Наш рух — калодзеж непачаты… / М. Лужанін // ЛіМ. — 1988. — 1 крас.

15. Глебка, П. Лісты да П. Труса // БДАМЛМ. Ф. 404, воп. 1, адз. зах. 30, арк. 1 — 5 адв.)

16. Астапенка, З. Запалім люлькі: Пьеса в 4 действиях. Машинопись / З. Астапенка // БДАМЛМ. — Ф. 128. — Воп. 1. — Адз. зах. 10.

17. Сядура, У. Пра маладую рэволюцыйную поэзію (пра творчасьць З. Астапенкі і М. Багуна / У. Сядура // Маладняк. — 1930. — № 12.



Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ЛЮБЫ СВЕТ І ЗОРАК ЗВОН

Палымянскія калідоры шмат чаго могуць прыгадаць. На маёй памяці — таксама. У пэўнай ступені сваімі яны сталі ў пачатку верасня 1972 года. Хоць гэта магло адбыцца і некалькі месяцаў раней. Запрашэнне на працу ад галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» Кастуся Кірэенкі атрымаў недзе ў канцы ліпеня. Нават прыязджаў са Слуцка, дзе на той час працаваў у рэдакцыі аб’яднанай газеты «Шлях Ільіча» (была і такая, у адрозненне ад звычайных «раёнак» яна выходзіла не тры разы на тыдзень, а чатыры). Сустракаўся з Кастусём Ціханавічам. Згадзіўся пераходзіць у «Полымя». Але па вяртанні ў Слуцк перадумаў. Усё ж меў месца ў інтэрнаце за сімвалічную плату — тры рублі ў месяц. У сталіцы ж давялося б падшукваць кватэру. Дый у часопісе, не тое, што ў газеце, часта не надрукуешся. Значыць, фінансавае становішча пагоршыцца.

Аднак неўзабаве з’явілася яшчэ адна прапанова, цяпер ужо ад галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Хведара Жычкі. У абодвух выпадках паспрыяў гэтаму Алесь Масарэнка. Пазнаёміліся мы, калі я студэнтам праходзіў практыку ў газеце «Чырвоная змена», дзе ён тады ўзначальваў аддзел літаратуры. У «Полымі» ж Алесь Герасімавіч быў адказным сакратаром. Гэтым разам я адмаўляцца не стаў. Тым самым і вырашыўся ўвесь мой далейшы творчы лёс.

Хоць працаваў у «ЛіМе», але часта наведваўся і ў «Полымя». Дый як было не заходзіць туды, калі «палымянскі» калідор тады быў працягам «лімаўскага». Толькі пасярод гэтай «дарогі» знаходзілася яшчэ рэдакцыя часопіса «Беларусь», у якой таксама працавалі слынныя пісьменнікі. Аднак самыя знакамітыя ўсё ж былі ў «Полымі». Апроч Кірэенкі — гэта Анатоль Вялюгін, Іван Пташнікаў, Барыс Сачанка, Іван Чыгрынаў… Канешне, не з усімі адразу пазнаёміўся. Як і не да кожнага мог зайсці, каб пагаварыць. Кастусь Ціханавіч не з’яўляўся выключэннем. Затое крыху пазней адносіны з ім склаліся прыязныя. Ён не толькі не пакрыўдзіўся, што не перайшоў я ў «Полымя». Наадварот, яшчэ разы тры прапаноўваў зрабіць гэта. Калі распавядаў сябрам, не ўсе верылі ў магчымасць падобнага. Усё ж многія ўспрымалі Кірэенку чалавекам няпростага характару.

Дарэчы, не мне казаць: шмат пра каго, хто занадта патрабавальны, складваецца такое памылковае ўяўленне. Так было і з Кастусём Ціханавічам. Ягоную патрабавальнасць, строгасць многія ўспрымалі прыдзірлівасцю. На самай жа справе — гэта не так. Ён быў душэўным чалавекам. Калі ж праяўлялася ягоная строгасць, дык за ёю хавалася дабрата. Дастаткова было кінуць пры гэтым позірк на ягоны твар, і адразу адчувалася — густыя бровы не такія ўжо і насупленыя. У позірку — спагада, жаданне зразумець цябе, калі неабходна, то і дапамагчы, штосьці падказаць.

## Надсожаўская зямля — найцудоўнейшая

У адным са сваіх вершаў, напісаных у 1982 годзе, ён прызнаваўся:

Зімою сцюжнай я прыйшоў у свет.
Ці не таму заўсёды цеплыні жадаю,
Ці не таму заўсёды цеплынёю шчасны,
Ці не таму заўсёды цеплыню люблю.

Гэтую цеплыню пранёс ён праз усё сваё жыццё. Праяўлялася яна ў адносінах да маці і жонкі, да дзяцей... Дый да ўсіх, з кім сябраваў і каму давяраў. І, канешне, да любай Радзімы. Гэтая любоў і цеплыня да яе асабліва праявілася ў «рыбацкай паэме» (так ён сам вызначыў жанр свайго твора, хоць і напісаны ён прозай) «Вандроўнае шчасце». А, па-мойму, «рыбацкая паэма» магла называцца інакш — «Цяпло Бацькаўшчыны», бо ў гэтым творы вельмі шмат таго, што прамаўляе ўдзячны сын зямлі, якая ўзгадавала яго, звязана са сваім стаўленнем да роднай зямлі. У ім, кажучы словамі самога Кірэенкі, «сказ пра сходжаныя і нясходжаныя рыбацкія дарогі, пра рыбацкія вандроўкі і рыбацкія прыгоды».

Для дарослых пісалася «рыбацкая паэма», але і для дзяцей таксама, бо што ні старонка яе — то свет дзівосны і па-сапраўднаму паэтычны. Дый шмат пазнавальнасці ў ёй. Пра многія рэкі расказвае Кастусь Ціханавіч. Вялікія і малыя — яны свайго роду героі гэтага твора. Увагу аўтара прыцягваюць Свіслач, Балачанка, Бярэзіна, Дзвінаса і самая маленькая рачулка, што не заўсёды і назву мае. А яшчэ ў «рыбацкай паэме» знаходзіш назвы дзясяткаў рыб. І пра кожную расказваецца з такім веданнем, нібыта прыведзеныя звесткі чэрпаеш з энцыклапедыі па прыродзе. У гэтым, безумоўна, праявілася даўняе захапленне Кірэенкі — ён быў заўзятым рыбаком, шмат дзе рыбачыў.

На гэтае захапленне, безумоўна, паўплывала месца ягонага нараджэння. А ўпершыню ён пабачыў свет 12 снежня 1918 года ў вёсцы Гайшын цяперашняга Слаўгарадскага раёна. Тады яна адносілася да Быхаўскага павета. Рака Сож не толькі калыхала-люляла ягоныя мары, а і вабіла да сябе, выклікала жаданне ўжо ў маленстве адчуць сваё рыбацкае шчасце. Любоў да Сажа ён пранёс праз усё сваё жыццё. Рацэ маленства прысвяціў на дзіва паэтычныя радкі і ў «Вандроўным шчасці»: «Кожны, хто пабываў на берагах Сажа, згодзіцца са мною, што гэта зямля — не перабольшваючы — незвычайная. Як бы ні бралася рыба, усё роўна не стрывае рыбак, пакіне вуду, узыдзе на гару, сядзе на чабаровы грудок між арэшнікамі і соснамі і аддасца ва ўладу малюнкаў, фарбаў і гукаў цудоўнай надсожаўскай зямлі. Цягне мядовым настоем з пакошаных у расцяробах лугавін, над грывамі вучацца лятаць маладзенькія падворлікі. Сож уздыхае на поўныя грудзі пад шчодрым сонцам, а недзе збоку ацяжэлая сцяна жыта пахне маладым, найсмачнейшым у свеце свежым хлебам... Аднекуль, нечакана і зіхотна, з’явіцца перад вачыма рыбака чароўная постаць — казачная каралева летуцення, празрыстая, як Сажова вада, і бязгучная, як размова прамянёў...»

Дарэчы, пра повязь Кастуся Ціханавіча з роднай прыродай вельмі хораша сказаў слынны крытык, літаратар, цудоўны знаўца паэзіі Уладзімір Гніламёдаў: «У яго кнігах чутны трывожны шум лесу і зімовыя завеі, паэт прагна ўслухваецца і ўглядаецца ў жыццё прыроды, звяроў, птушак. Унутраная патрэба «пакланіцца прыродзе» заўсёды жыла ў яго душы. Тэма прыроды, успрыняцце якой у яго пранікнута своеасаблівым, па-свойму глыбокім пантэізмам, скразной лініяй праходзіць праз творчасць паэта. Ён умее тонка і разам з тым вельмі моцна адчуваць шматколерны і шматгалосы свет прыроды. Паважаць і шкадаваць яе. Адносіны да прыроды звязаны ў паэта з пэўным маральным пачаткам: «Баюся словам лішнім, неўпапад, парушыць дарагое сугалоссе крынічных звонаў і лясных рулад, дыханне зор і шэпату калосся». У яго вершах прырода поўная таямнічасці. Яна можа ўзбуджаць у чалавеку нейкія нават першабытныя адчуванні, элементы «пралагічнага» мыслення».

У якасці прыкладу Уладзімір Васільевіч прывёў гэтыя адухоўленыя (да месца нават сказаць і адушаўлёныя радкі):

Ізноў адчуеш ты,
Што ў цемры сядзіш не адзін:
Там цягнуцца ў рост кусты
Алешніку і крушын,

Там ціха трызніць рака;
Ільясняцца зоры ў высі,
А збоку, у лазняках,
Пасуцца ў статку ласі.

## Цымбалы ветру і хада ранку

Скончыўшы няпоўную сярэднюю школу, Кірэенка нейкі год правучыўся ў Гомельскім аўтатэхнікуме. Затым паступіў на літаратурны факультэт Гомельскага педагагічнага інстытута. Як і яго сябры па вучобе Мікола Сурначоў і Паўлюк Пранузa, уваходзіў у паэзію ў другой палове 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Прынамсі, першыя надрукаваныя ім творы датуюцца 1939 годам. Яны напісаны ў рэчышчы фальклорных традыцый. Напрыклад, у вершы «Дуб», у якім яшчэ відавочна вучнёўства, «абапёрся дуб рукой зялёнай // На страху і, пахіліўшы стан, // Утаропіў вочы улюбёна // У блакітны ранішні туман». Заўважыў дуб, як «пасля сну гамоніць з дружкай сліва // У сям'і чарэшань ля стаўка». Засумаваў, убачыўшы якая прыгожая яна: «Хустка белая, касу тугую // Трэпле вецер ласкавай рукой». Але заключная страфа засведчыла аб тым, што аўтар верша ўсё ж знайшоў свае фарбы, свой падыход, каб перадаць «пачуццё» дрэва. А дзякуючы таму, што ён ачалавечаны, дуб здатны на праяўленне яго. У гэты момант ён нагадвае сабой закаханага юнака, абставіны якому не дазваляюць быць поруч з любай:

І паўзе раса слязой у дуба,
Па ствалу з тугіх лістоў паўзе…
О, каб мог ён даскакаць да любай
На адной на стомленай назе.

Малады паэт, аднак, настойліва асвойваў і ўласныя вобразы, як, напрыклад, у вершы «Дождж», у якім добрая назіральнасць спалучаецца з умелым выкарыстаннем вобразна-выяўленчых сродкаў:

Пад поўдзень вецер сціх.
І з чорнай хмары ударыў гром.
І вецер гул разнёс
Над хатамі, над бронзавым загарам пшаніц
І па-над зелянню бяроз.

«Бронзавы загар пшаніц» у творы вельмі да месца. На фоне зялёнай лістоты бяроз ён узмацняе паэтычны вобраз, надаючы яму большую аб'ёмнасць, зрокавую выразнасць. А ўдар грому з чорнай хмары — гэта напамінак пра тое, што, калі рушыцца звыклая раўнавага, прырода страчвае сваё пастаянства, пераходзіць у новую якасць буйства, што можа прывесці і да стыхіі.

Аднак, Кірэенка, не забываючы пра лепшыя ўзоры вусна-паэтычнай творчасці, паступова ўсё больш упэўнена намацваў уласную паэтычную сцежку, удала спалучаючы фальклорныя элементы і тое, што нараджалася дзякуючы ягонаму светабачанню і светаўспрыманню. Гэта добра ўдалося яму ў вершы «Ранак ідзе», напісаным у 1941 годзе. З'явіўся твор аптымістычны па сваім гучанні, у якім у нечым проста, але ў той жа час па-свойму, з нечаканым паваротам перададзена

радасць мірных будняў, вера людзей у заўтрашні дзень. Дый перакананасць у тым, што ён будзе не менш шчаслівым, чым сённяшні.

Ёсць у гэтым вершы і свой герой, прытым нечаканы. Толькі да самага апошняга радка не здагадваешся, хто ён такі. У няпэўнасці знаходзішся, пачынаючы з першай страфы:

Што гэта? **Што гэта** чутна далёка?
Быццам гамоніць, пяе?
Вецер, прачнуўшыся, кратае блёкат,
Гутарыць з вербай, прабуе ў асоках
Цымбалы свае.

Сапраўды — што? Зацікаўленасць яшчэ больш узмацняецца дзякуючы таму, што пытанне па сутнасці «нанізваецца» на пытанне. Яшчэ тады, калі няма адказу і на першае, а няпэўнасць не прасвятляецца. Ды ўсё адно ўжо ставіцца наступнае. «Што гэта?» уступае не менш інтрыгуючаму пытанню, што вынікае з папярэдняга, становячыся лагічным у гэтым ланцужку няведання: «Што гэта? — «Дзе гэта?» З’яўленне наступнага пытання падрыхтавана каларытнасцю пададзенага малюнка, ягонай вобразнай насычанасцю (выдзелена мною. — *А. М.*):

**Што гэта? Што гэта** свеціцца ў змроку?
Меркне, не гасне ніяк.
Зорка шукае адцвіўшую зорку,
Дужыцца ўзняцца над Сожам шырокім
Зялёны маяк.

**Дзе гэта? Дзе гэта** песня зязюляй,
Чуеш — ку-ку ды ку-ку?
Сына ў калысцы галубіць матуля,
Дзеўчына з ночы па любым сумуе —
Адзін на вяку.

Абмалявана ўсё так, нібы гэта бачыш сам. А ўражаны ім, прапускаеш яго праз сябе. Ад зачаравання, захаплення як бы перахоплівае дыханне. Хочацца ўсё гэта ўвабраць у сябе. Так увабраць, каб нічога не прапусціць, а тым самым атрымаць яшчэ большае задавальненне ад успрымання таго, пра што расказвае паэт:

Шырыцца, шырыцца, плешча, бы хваля,
Гукаў нястройны мажор.
Унь умываюцца золатам далі,
Унь зараніцы пялёсткі апалі
На поле, на бор.

Нарэшце заключны акорд гэтай — без перабольшання — самой музыкі прыроды:

Што ж гэта, што — цераз пушчы, па нівах,
Шляхам, уброд па вадзе,
З яснаю ўсмешкай, прыгожай надзіва,
Быццам крадзецца — а смела, імкліва?..
То ранак ідзе!

Не ведаю, як каму, а мне ён падаецца юнаком, які разумее, што ўсе яго даўно зачакаліся. Як разумее і тое, што ягоны прыход прынясе радасць тым, хто не развучыўся захапляцца ранішнім хараством. Для каго яно — яшчэ адна магчымасць упэўніцца, што ў прыродзе няма нічога выпадковага, а што ні адбываецца — да лепшага. Светлы, цудоўны ранак, як вядома, абяцае і светлы, цудоўны дзень.

Аднак на захадзе ўжо збіраліся сіберныя хмары. Наколькі аптымістычна ні гучалі па радыё і ў друку запэўніванні, што Германія і надалей будзе прытрымлі-

ваца пакта аб ненападзе, на сэрцы ў многіх савецкіх людзей было неспакойна. Канешне, трывогу гэтую яны адкрыта не выказвалі — цябе лёгка маглі назваць панікёрам. Ды каб жа толькі такая небяспека падсцерагала. Ды сэрца маўчаць не прымусіш. Водгулле гэтага аўтарскага неспакою — у вершы «На кургане крычыць пугач...», прысвечанага маладому паэту Леаніду Гаўрылаву, якому заставалася жыць нядоўга — загінуў у самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны:

На кургане крычыць пугач,
Быццам хоча прастор застрашыць.
Ты ж будзь мужным, як слава наша,
Смутак мой, ціхі мой, не плач.

Асабліва кранае гэты боль паэтавай душы ў заключных радках. Ды не толькі боль. Адначасова і нібы гатоўнасць, хоць адкрыта і не прамоўленая, і самому прайсціся віхурнымі дарогамі. Дый разуменне, што за барацьбу з ворагам давядзецца заплаціць ахвярамі:

І суціхні. Няхай наш век
Будзе песняй бадзёрай самай!
Зразумей жа, што я чалавек,
І заплакаць магу таксама.

## Святая мана — таксама мана

Ваенны стралок танка, карэспандэнт армейскай газеты на Заходнім і 2-м Беларускім франтах... Гэта ўжо ваенная біяграфія Кірэенкі. Водгулле яе гучыць у яго прызнанні ў аўтабіяграфіі «Незабыўнае»: «Галоўнае, што пакінулі ў памяці грозныя гады вайны,— гэта тое, што на свае вочы ўбачыў, які гераічны, які самаахвярны, які верны і велікадушны наш савецкі чалавек! І на шляхах адступлення, дзе не дымам, а жальбою засціláліся вочы, і на падмаскоўных палях, дзе быў удзельнікам і сведкам грандыёзнай бітвы, і на дарогах Беларусі і Польшчы ў дні іх вызвалення — усюды расла мая вера ў людзей, і з гэтай верою рос і я сам».

Ваенная біяграфія паэта — і ў ягоных вершах, напісаных у час барацьбы з фашызмам. Яны поруч з некаторымі даваеннымі творамі, а таксама напісанымі адразу пасля Перамогі, і ўвайшлі ў першую ягоную кнігу «Ранак ідзе», якая пабачыла свет у 1945 годзе. У пазнейшых вершах — а да пражытага ён звяртаўся на працягу ўсяго свайго жыцця, — безумоўна, куды больш моцныя абагульненні, шырэйшае асэнсаванне падзей, дый глыбейшае прачытанне іх, а таксама чалавечых лёсаў. Аднак у гэтых свайго роду водгуках, своеасаблівых паэтычных малюнках не можа не ўражваць праўда зведанага, адчутага, выпакутаванага, пачэрпнутага, узятага з першых рук:

Каля пажараў прыкурвалі,
У касках варылі гарбату.
Спявалі з вачмі пахмурнымі
Аб нівах сваіх і хатах..

Зайздросцілі ўсім параненым,
Жадалі ім радасці ўсякай.
А потым па росах ранішніх
Адважна хадзілі ў атаку.

Не сумняваюся, знойдуцца і тыя — знаходзіліся такія, канешне, і раней, каму не ўсё спадабаецца ў гэтым вершы. Сяго-таго з «патрыётаў» карабаціць прызнанне: «Зайздросцілі ўсім параненым…» Нехта ўбачыць і голы натуралізм: «Ля трупаў чужых вячэралі…» Ды не гэта трэба бачыць, а тое, што робіць верш паэзіяй высокага грамадзянскага і патрыятычнага гучання:

Ізноў ад кастроў прыкурвалі,
Тужылі па родных хатах
І рушылі ў свет разбураны
Вялікай зямлі салдаты…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

…І, пэўна, ніякай сілаю
Ніхто іх нідзе не спыніць,
Пакуль за краіну мілую
Іх сэрцы балець не кінуць.

Кастусь Ціханавіч прызнаваўся: «Калі б пачаў успамінаць усё, што ўбачыў і што перажыў за чатыры гады вайны, — патрэбна было б пісаць тоўстую кнігу мемуараў». Але ў яго нямала і вершаў, у якіх адчуваецца гэтая, вобразна кажучы, мемуарнасць. Дый не толькі ў вершах прысутнічае яна. У паэмах — таксама. У адной з іх — «Уступ», напісанай яшчэ ў 1946 годзе, кранае жаданне казаць праўду нават тады, калі, здавалася да месца, як ні дзіўна, мана, якая хоць на нейкі момант магла б суняць боль па загінулых. Толькі на гэта ён пайсці не мог, сумленне не дазваляла маніць:

Я сам ляжаў, кроў глытаў ля стром,
Дзе пад зямлёй сябры мае ляжаць;
Я знаў, што нельга матак суцяшаць,
Калі яны галосяць па сынах,
І грэх і крыўда сіратам маніць,
Што быццам прыйдуць іх бацькі дамоў
З тых сцежак, дзе ляглі касцьмі даўно.

Часам пра зведанае, перажытае гаварыў коратка, лаканічна: «Не ацёр і крывавага поту, // Злёг навекі на ўзмежку голым». Але гэтага дастаткова, каб убачыць загінулага («Баец пяхоты» называецца твор). Міжволі прыгадваецца хрэстаматыйны верш паэта-франтавіка Аляксея Коршака, які склаў сваю галаву незадоўга да Перамогі, 27 лютага 1945 года ва Усходняй Прусіі:

От і ўсё. За светлы край азёрны,
За вясну ў палёх,
Неба сіняе ў промнях зорных
Я навек тут лёг.

У змесце вершаў відавочна ўнутраная пераклічка, што сведчыць і пра тое, наколькі творы розных паэтаў, прысвечаныя ўсенароднай барацьбе з фашызмам, сугучныя. У той жа час гэта не перашкаджала аўтарам, якія самі знаходзіліся на пярэднім краі гэтага змагання, выказваць тое, што адпавядала менавіта іх настрою.

Верш «Пасля атакі», зноў жа, народжаны на пярэднім краі. Напісаны ў самым пачатку вайны, у 1941 годзе, а адчуванне такое, што былі ўжо пройдзены вялікія і малыя вёрсты яе. Першае ж уражанне пасля атакі, пасля бою, не аслабла, набыло вечную занатаванасць у памяці:

Што прыйшло пасля атакі? Цішыня.
Цішыня прыйшла такая, ад якое
Лёг на чорным папялішчы сполах дня,
Спахмурнела нават сонца над ракою.
Ці
  шы
    ня...

Згадваючы творы Кірэенкі ваеннай пары, нельга абмінуць верш «Беларусь», у якім праўдзіва, панарамна, наколькі дазваляюць абсягі малой паэтычнай формы, паказана нараджэнне народнай помсты ворагу, нянавісці да яго. Здавалася б, пакуль

нічога не гаворыць аб тым, што праз колькі часу ўся Беларусь падымецца на змаганне з чужынцамі: «Галасілі салдаткі не дзень і не два, // Жабравалі па свеце малыя сіроткі. // А на лузе шумела, як мора, трава, // І жыты наліваліся сокам салодкім». Але ўжо «Запалалі кастры ў хмызняках за Лясной, // Што з Пятроваю славай навек заручона». Дый «грозным клічам гукнулі сыноў Мастаўляны. // І здалося, што сам Каліноўскі з труной // Развітаўся, каб вызваліць край зруйнаваны».

Менавіта ў гэты час, як прызнаваўся Кастусь Ціханавіч у гутарцы з аўтарам гэтых радкоў, нарадзілася ў яго і задума драматычнай паэмы «Помста». Праўда, спатрэбілася ледзь не сорак гадоў, каб яна ажыццявілася. Праявы народнага гераізму падштурхнулі паэта да абагульненняў і дазволілі стварыць аб'ёмныя вобразы — такія, як вобразы Маці і Жыта, што сімвалізуюць само жыццё. Якраз у фінале паэмы і чытаем: «Але жыць трэба. Жаць трэба. І горкі трэба зберагаць у нашай долі хлеб...» Чытаем і бачым Маці і Маладзіцу. Жыццё і яго бясконцы працяг, несупынную плынь.

Вярнуўшыся з вайны, Кірэенка, як і многія яго аднагодкі, апынуўся па сутнасці сам-насам з багатымі жыццёвымі назіраннямі. Спачатку, зразумела, публікаваліся вершы, якія па тых ці іншых прычынах у друк раней не трапілі. Пісаліся новыя творы, што таксама былі прывязаны да ваеннай тэмы, выходзілі кніжкі, рыхтаваліся наступныя...

## Шмат могуць сказаць… ластаўкі

Другая кніга Кастуся Ціханавіча выйшла ў 1947 годзе. Назва адпаведная — «Пасля навальніцы». Магчыма, крыху і прыземленая, яна дакладна адпавядала тагачаснай рэальнасці. Зруйнаваная ліхалеццем Беларусь, як і ўся краіна, выпроствалася, узнімала плечы пасля жудаснай вайны. Цяжка было ўсім і ўсюды, але асабліва там, дзе людзі на ўласнай скуры адчулі, што такое «новы парадак». Тым жа, хто страціў блізкіх, яшчэ і балюча. Пра ўласны боль паэт скажа пазней, у 1955 годзе, у вершы «Роздум»: «Бацька мой, // Скатаваны эсэсаўскім катам, // Не падняўся // З пажарышча роднае хаты; // Брат малодшы // Ля Кіева злёг у траншэі — // Пад нямецкаю бомбаю // Згаслі яго надзеі; // І сястра — // Над Сажом — // Спіць, // Забітая куляй, // З Рура прынесенай». У вершы ж, які даў назву кнізе, Кірэенка пісаў пра агульнанародны боль. Сімвалам агульнай бяды ўспрымаецца вобраз арліцы, якая не дачакалася сваіх дзяцей:

Заўсёды пасля бурнай навальніцы
Клякоча над разбураным гняздом
Ды арлянят падлічвае арліца

І песціць тых, што жывы, пад крылом.
І кліча тых з тужліваю надзеяй,
Каго разбіў аб скалы цяжкі гром.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Паплача па загінуўшых употай
І ласку ўсю сваю аддасць жывым,
Каб крыллі іх мацнелі для палёту.

Следам выходзілі кнігі «Мая рэспубліка», «Маякі», «Родны свет», «Любоў і дружба», «Светлая хваля»… Перачытваючы іх, і сёння не можаш не радавацца аўтарскай бадзёрасці, аптымізму, нават, я б сказаў, маральнаму здароўю. Усё, што адбывалася наўкола, радавала яго, пра ўсё яму хацелася сказаць. І абавязкова на высокай пафаснай ноце. Часам паэтызуючы рэчаіснасць, якую, можа, і не надта трэба было паэтызаваць. Так нарадзіўся і верш «Мая рэспубліка». Твор гэты ў свой час быў праграмным, успрымаўся хрэстаматыйным.

Не завіце маю рэспубліку
Краінай цёмных лясоў!
Паглядзіце —
Над ёю свецяцца
Агні завадскіх карпусоў.

Не завіце маю рэспубліку
Краінай ціхіх далін!
Паслухайце —
Як грымяць над ёй
Галасы магутных турбін.

Не завіце маю рэспубліку
Краінай багнаў-аблог!
У садах яна разліваецца,
У жытах яна калыхаецца,
Разбягаецца ў стрэлах дарог!

Разам з тым недаравальна — сёння ўжо і перад памяццю паэта — закрываць вочы на тое, што Кірэенку, як і іншых паэтаў, не абмінула часіна бесканфліктнасці, «ружовага» ўспрымання жыцця. Тут у ацэнках, як заўсёды, дакладны быў вядомы беларускі крытык і літаратуразнаўца Віктар Каваленка: «У канцы 40-х і ў першай палове 50-х гадоў творчасць К. Кірэенкі, як і ўся літаратура таго часу, не была пазбаўлена ўплыву спрошчаных сацыялагізаваных уяўленняў аб задачах мастацтва, што, безумоўна звужала ўнутраны дыяпазон ідэйна-мастацкіх пошукоў, прывучала да кананічных і гатовых, схематычных вобразных ходаў і стылёвых рашэнняў. Многія вершы той пары маюць неабавязковы, легкаважкі змест, дапускаюць паўторнасць вобразаў, не могуць вызваліцца ад штучнасці лірычнага пачуцця».

Аднак якраз у гэты час — у пачатку і асабліва ў другой палове пяцідзясятых гадоў — лірыка Кастуся Ціханавіча становіцца больш даверліва-адкрытай, пранікнёна-шчырай, набываючы тыя рысы, якія пазней, у такіх яго кнігах, як «Слухайце ластавак», «Сіні вырай», «Надзея» і іншых сталі вызначальнымі.

Першы з названых твораў Кірэенку быў асабліва дарагі. Таму менавіта яго ён узяў у якасці назвы для томіка свайго выбранага, што папоўніў папулярную тады серыю «Бібліятэка беларускай паэзіі». Ім адкрыў і гэтую сваю кніжку.

Пісаўся верш у верасні 1969 года, у Нью-Ёрку, калі Кастусь Ціханавіч у складзе дэлегацыі Беларускай ССР прымаў удзел у рабоце XXIV Генеральнай Асамблеі ААН. Вынікам гэтай паездкі стала і яго кніга публіцыстыкі «Амерыка здалёку і зблізку». Безумоўна, і ў ёй шмат цікавых назіранняў, абагульненняў. Але акурат вершы, кшталту «Слухайце ластавак», куды больш кранальныя, шчырыя, непасрэдныя.

У думках паэт, канешне, быў з Беларуссю — гэтакай далёкай і разам з тым блізкай. Дзякуючы шматлікім згадкам, у тым ліку і такім, што ўвайшлі ў душу з гадоў маленства. Яны сутыкаліся з іншымі рэаліямі, замежнымі. У пачуццёвым плане гэта было не на карысць таму, што з'яўлялася родным і дарагім. Перажыванні станавіліся свайго роду заклікам шанаваць і любіць усё гэта:

Адкіньце ўсё —
І смутак, і жальбу.
Забудзьце крыўду
Позіркаў няласкавых.
Станьце каля хаты
          пад вярбу,
Слухайце ластавак.

Заклік «Слухайце ластавак» — гэта і заклік «Любіце Радзіму», «Беларусь любіце»:

Слухайце,
Як скрушна шалясцяць
Крылцы іх, —
На льдзінкі
Голас колецца.
Ластаўкі
Заўтра адляцяць,
Сёння
На радзіму яны моляцца.
Моляцца
На ціхую павець,
На страху,
Замшэлую і цёплую.

## Маладосць у сталым узросце

У гэты час у творчасці Кірэенкі намецілася суладдзе паміж творамі адкрыта публіцыстычнымі і вершамі з ярка выражаным пачуццёвым пачаткам. Пашырэнне творчага дыяпазону адбывалася паступова. Паэт не прыспешваў сябе. Рэзка не адмаўляўся ад твораў, здавалася б, унутрана блізкіх яму сваёй поклічнасцю, але ў той жа час і празмерна «бунтарнымі», у якіх прысутнічала пэўная надрыўнасць у выказванні пачуццяў. Творчае ўзмужанне не дазваляла яму кідацца ў крайнасці. Кнігі ж «Вернасць», «Смага», адзначаная Літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы; «Цёплая радуга» — упэўненыя прыступкі да сталасці. А гэта, як і ў самім жыцці: чалавеку ўпэўненаму ў сабе няма неабходнасці з любой нагоды ці нават без яе грукаць у грудзі, даказваючы сваю правату.

Ці не найбольш сімптаматычны з тагачасных кірэенкаўскіх твораў гэты безназоўны верш:

Хай цягнікі грукочуць без прыстанку,
Хай з космасу ўрываецца «бі-біп».
А вы пачуйце — на глухім паўстанку
Хтось кліча друга.
Чуеце вы ўсхліп?

Касмічнае і зямное, агульначалавечае і канкрэтна людское... Як паяднаны яны ў гэтых знешне простых радках, які моцны сплаў уяўляюць сабой?! Услед за Каваленкам паўторым паэтава пытанне і словамі ж Віктара Антонавіча адкажам: «Чуеце вы ўсхліп?» гэта нібы праверка жыццядзейнасці чалавечых узаемаадносін, гэта пароль для ўстанаўлення ўсякага кантакту паміж людзьмі. «Чуеце вы ўсхліп» у наш грымотны час матораў і ракет? Чуеце. Значыць, усё нармальна: мы застаёмся людзьмі, мы ідзём наперад, мы варты будучыні».

Ва ўсёй паўнаце «пацяпленне» ў творчасці Кастуся Ціханавіча ўпершыню адчулася ў «Кнізе ста песень», за якую ён быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы. Перад чытачом паўстаў па сутнасці новы Кірэенка. Тонкі, пранiклiвы лірык, ён разнасцежна раскрываў душу лірычнага героя, ва ўчынках якога, выяўленні пачуццяў найчасцей бачыўся сам. Вабіла і жаданне перадаць усё хараство навакольнага свету. Сто песень — гэта ўжо выказанае, прамоўленае, але ў той жа час і набліжэнне да таго, што яшчэ чакае свайго выяўлення і раскрыцця:

Сто песень… Сто жывых паданняў…
Сто дум… І сто адказаў ім…
І сто — са ста дарог — жаданняў,
І сто пытанняў перад тым.

Ці ўсё прызнаў з таго, што спела?
Ці ўсё збярог, што браў навек?

Чым жыў? Чым славіў тую смеласць,
Што не дае жыцця на здзек?

Якім святлом, якой турботай,
Душу выводзіў з нематы?..
Сто песень… Як дайсці да сотай
З агнём ад першае вярсты?..

Творы, што ўвайшлі ў «Кнігу ста песень», узбагацілі мастакоўскі арсенал, які стаў у яго яшчэ больш напоўнены. Але ў ім знаходзілася яшчэ нямала назапашаных тэм, вобразаў, што чакалі свайго ўвасаблення. Галоўнае ж у тым, што паэзія Кірэенкі памаладзела сваёй пачуццёвасцю. Стала яшчэ больш актыўная сваім жыццядайным пафасам. Яна скіравалася на паўсядзённае жыццё з яго радасцямі і нягодамі, набыткамі і няўдачамі. Тое, пра што Кастусь Ціханавіч пісаў раней, асэнсоўвалася на новым мастакоўскім вітку.

Ён быў упэўнены, што «вёсны веснаваць» (назва аднаго з яго зборнікаў паэзіі, выдадзенага ў 1979 годзе) — гэта, не растрачваючы набыткаў і духоўнага запасу пражытых гадоў, па-ранейшаму заставацца маладым. Аднак памаладзенне яго паэзіі ў «Кнізе ста песень» і пасля яе — гэта ніколькі не жаданне падлагодзіцца пад новае пакаленне чытачоў. Проста ў яго творчасці настаў перыяд, калі сама душа лірычнага героя прагнула амаладжэння. Відаць, не апошнюю ролю адыграла тое, што паэт, перанёсшы цяжкую хваробу, па сутнасці нанова вярнуўся да жыцця.

## Для дзяцей, як і для дарослых — таленавіта

Паспяхова працаваў Кастусь Ціханавіч і як празаік, выдаўшы некалькі кніг. Сярод іх і ўжо згаданая «Вандроўнае шчасце». Але важкія яго набыткі і ў галіне дзіцячай літаратуры. Дарэчы, дзякуючы паэтычнай кніжцы «Вясна-красна», што была ў нашай школьнай бібліятэцы, я і адкрыў для сябе гэтае новае імя ў літаратуры — Кастусь Кірэенка. Зборнік пабачыў свет у 1956 годзе. Перад ім было «Зялёнае рэха». Пасля яго выходзілі «Урачыстая песня», «Прысяга», «Размова з капітанамі» і іншыя.

Часта друкаваўся Кірэенка і ў выданнях для дзяцей, у тым ліку ў часопісе «Бярозка», галоўным рэдактарам якога быў некаторы час. Актыўна выступаў у друку і пасля таго, як пайшоў на заслужаны адпачынак. У яго паэзіі для маленькіх стала больш задушэўнасці. Напэўна, таму што, чым чалавек старэйшы, тым ён больш любіць дзяцей. Не сакрэт жа, што дзядулі і бабулі песцяць іх куды часцей, чым родныя бацькі. І ў творах гэтага перыяду Кастусь Ціханавіч паўстае не толькі таленавіты паэт, а і чулы, клапатлівы дзядуля. А што ён ведаў сакрэты педагогікі, разумеў дзіцчую псіхалогію, яскрава засведчыла невялікая паэма «Настуліна казка»:

Плакала Настулька
Слёзна і без слёз,
Каб хутчэй татулька
Казку ёй прынёс.

Але бацька пайшоў па справах, ён «у лесе, між хваёвых стром, // сосны там пілуе, рубіць новы дом…» Дзяўчынка просіць маці расказаць казку. Мама ж, аказваецца, разумее, што куды больш карысці будзе, калі яны гэтую казку прыдумаюць з дачушкай разам. Далей твор пабудаваны ў форме дыялогу:

— Што ж, — гаворыць маці, —
Сціхні, не тужы
Ды прыдумаць казку

Маме памажы…
Чуеш? — за сцяною,
Між зялёных ніў,
Быццам у званочкі
Нехта зазваніў?

«Чую, мамка…» — адказвае Настулька, а маці расказвае пра тое, як «села казка ў вазок з залатымі коламі, закілзала коніка стужкамі вясёлымі». Дый пра тое, як «ёй услед — сярпок месяца імчыцца, каб табе ў вясёлым сне ўсю ночку сніцца…» Пакрысе дзяўчынка засынае, а маці абяцае назаўтра прыдумаць ёй новую казку.

Удаваліся Кірэенку і творы, у якіх ажывалі родныя краявіды, расказвалася аб хараստве прыроды. Тая багатая назіральнасць, што прысутнічае ў «Вандроўным шчасці», вылівалася ў прачулыя радкі. Яны лёгка запамінаюцца, бо паэт не карыстаўся груваскімі рыфмамі, адмаўляўся і ад ускладнёных вобразаў. Разумеў, што для дзяцей важна пісаць проста, але выразна, каб кожны паэтычны малюнак яны бачылі перад сабой, канкрэтна ўяўлялі яго. Як у вершы «Ручаінка»:

Ззяе, ззяе прамянямі
Тонкая ільдзінка.
А пад ёй —
Звініць, булькоча
Дзіва — ручаінка.

Не ўстрымаўся мароз, запытаўся: «Ты адкуль бруіш-імкнешся, як і дзе ўшчалася? // І ў каго ты, невялічка, рупнасцю ўдалася?..» Запытаўся, а ў адказ пачуў:

…Ад матулі ад крынічкі
Я цяку з дубровы…

Ненавязліва даводзіў паэт думку пра тое, як вельмі важна памятаць аб сваёй повязі з роднай зямлёй. У вытоках — сіла, трываласць…

А цыкл «Бабулін двор» — здатнасць у некалькіх радках стварыць вычарпальны малюнак, каб маленькія пабольш даведаліся пра насельнікаў вясковага двара. Вось як, скажам, характарызуецца індык:

Распусціўшы хвост трубою,
З горда ўзнятай галавою,
Хоць і ўпэцкаў ногі ў гразь,
Ходзіць важна, нібы князь,
Ды любуецца сабою:
— Ось, які я хвацкі, гожы,
Самы дужы і прыгожы!
Ось які я, докі-дык,
Не абы-хто, а — індык!

У вершах гэтага цыкла гаворыцца і пра бабуліну ўнучку Светку, якая даглядае ўсё хатняе птаства — індыка, качак, курэй, сыпле ім крупы… Увогуле, у лепшых творах Кірэенкі дзеці не маўклівыя сузіральнікі таго, што адбываецца вакол іх. Яны — асобы дзейсныя, актыўныя. Калі неабходна, і на дапамогу прыйдуць. Як у вершы «Козачка». Клапоцяцца не аб сваіх сябрах, а козачцы. Хоць і яна для іх сяброўка, таму і папярэджваюць, каб яна ножку не парэзала аб востры каменьчык.

Як кожны творца, Кастусь Ціханавіч задумваўся над вечнымі паняццямі дабра, справядлівасці, хацеў, каб дзеці гадаваліся смелымі, дужымі, паслухмянымі, каб ніколі не былі задавакамі. Як ставіўся ён да гэтых паняццяў, у значнай ступені дае адказ «Казка пра Дзятла і Драздa». Сюжэт у пэўным сэнсе традыцыйны. Абавязкова знаходзяцца тыя, каму падаецца, што іншаму жывецца лепш. Сам жа ён, будучы на ягоным месцы, дамогся б яшчэ большага. Так атрымалася і ў Дзятла з Драздом:

Казаў Дзятлу пеўчы Дрозд:
— От каб мне твой дужы хвост!
Ды дзюбу, як ў цябе,
Што так хвацка ствол дзяўбе!..
Я б у дрэвах —
Дзень і ноч —
Дуплы біў, аж іскры з воч.
І крычаў бы на ўсю зямлю:
— Хто бяздомны —
Жыць сялю!

Аднак, як высвятляецца, і Дзяцел не лепшы за Дразда. Ён таксама пачаў зайздросціць суседаваму ўмельству. Хто ведае, чым бы скончылася гэтая спрэчка, калі б не пачуў іх стары мудры Арол, які славіўся «чарадзеем навакол…» Ён махнуў крылом — «дрозд стаў дзятлам той жа міг…» Як выявілася, нічога гэтае нечаканае ператварэнне не дало. Кожны можа хораша спяваць, рабіць тое, што наканавана яму прыродай. Зразумелі гэта і Дзяцел з Драздом ды папрасілі Арла, каб зноў ён зрабіў іх такімі, якімі яны былі дагэтуль.

Пра творчасць Кірэенкі для дзяцей можна гаварыць шмат, адзначаючы яго высокае майстэрства, зайздроснае ўменне ўжывацца ў свет маленькіх. Радуючыся, што яму гэтак хораша пісалася, што ён быў паэтам ад нараджэння, паэтам па прызванні. Але і ў дзіцячай літаратуры таксама засведчыў сябе і цікавым празаікам, што відаць дзякуючы аповесцям «Сум і радасць дзеда Рэпкі», «Алесевай кніжцы».

## Прыгожы чалавек сярод прыгожых людзей

Ён умеў радавацца жыццю і здзіўляцца яму. Любіў яго і людзей. Ненавідзеў жа хцівасць, падман, спекулятыўнасць. І ў гэтай сваёй нянавісці, бескампраміснасці часта выглядаў крыху як бы жорсткім, нейкім халодным. Ды толькі гэта было проста знешняе праяўленне неспакойнага, неўтаймаванага характару. На першы план заўсёды выступала любоў да роднай зямлі, людзей. Адзін з вершаў так і называецца — «Якія прыгожыя людзі»: «Якія прыгожыя людзі // Насустрач мне ўсюды ўстаюць. // Якія прыгожыя людзі // Мне рукі свае падаюць. // Якія прыгожыя людзі — // І юныя, і з сівізной. // Якія прыгожыя людзі // Ідуць у дарогу са мной». Сам ён таксама быў адным з гэтых прыгожых людзей, адчуваючы сябе неад’емнай часткай іх. Менавіта такая повязь з імі і дапамагала яму не проста жыць у сваім часе, а і, радуючыся жыццю, верыць, што не згасне дабро на зямлі, пераможа прыгажосць і справядлівасць. Разам узятае, гэта паспрыяе вечнасці таго, што называецца светам:

Іду сярод іх я,
 і славу
Пяю ім,
 і сэрца аддам
За права жыць з імі, за права
Служыць такім светлым людзям.
Я веру: свет быў наш і будзе,
І жыць будуць, як і жылі, —
Такія прыгожыя людзі
На гэтай чароўнай зямлі!

А час жа ішоў няспынна наперад, размотваючы не толькі віткі дарог, але і гадоў. Набліжалася семдзесят... Нялёгкую ношу галоўнага рэдактара ён нёс ужо чатырнаццаць гадоў, з 1972-га. І нямала ахвотнікаў даўнавата «прымервалі» на сябе ягоную пасаду. Сказаць, што ўсю гэтую валтузню ён успрымаў спакойна,

пакрывіць душой. Аднак свае перажыванні, сумненні не выстаўляў напаказ. Людзі сумленныя, моцныя звычайна не любяць дзяліцца тым, што, нават маючы і грамадскі рэзананс (а ў творчым, дый калялітаратурным асяродку, толькі размоў было аб змене галоўнага рэдактара «Полымя»), пры ўсім іншым, у нечым і асабістае. Канешне, перажываў. Зразумела, непакоіўся аб тым, каб знайшоўся надзейны наступнік. А ў астатнім…

Астатняе можна прачытаць у гэтым невялікім вершы, напісаным ужо тады, калі Кірэенка знаходзіўся на заслужаным адпачынку. Прызнаюся шчыра: гэтае спалучэнне — «заслужаны адпачынак» — мне не асабліва падабаецца. Дый у дадзеным выпадку без яго ніяк не магу абысціся. Чаму — відаць з першага ўжо радка гэтага твора:

Я не на пенсіі,
Я проста пайшоў па песні,
У зялёнае лета,
У ростані і бары.
Успомніць трэба,
Як звініць жаваранак весні,
Як п’юць ваду кнігаўкі,
Як ставяцца венцяры на зары.

Так што ніякая і не пенсія ў яго была. На паэтавым стале засталіся рукапісныя лісты кнігі ўспамінаў пра сяброў-пісьменнікаў і проста людзей, якіх ён ведаў... Засталіся і новыя раздзелы «Вандроўнага шчасця»... І вершы — маладыя, бадзёрыя, аптымістычныя, напісаныя чалавекалюбам і выдатным паэтам.

## Кусаць ці не кусаць

Калі чаго і не ставала яму, дык звыклага асяродку. Часта званіў мне ў «ЛіМ», дзе я па-ранейшаму працаваў. Прызнаюся, сам зварот «Алесь Андрэевіч» крыху бянтэжыў. Гаварылася гэта, канешне, з непрыхаванай усмешкай, інтанацыя якой адчувалася і ў тэлефоннай трубцы. Ды за ёй усё адно заўважалася як бы нейкая «вінаватасць». Маўляў, патрывожыў, а ў цябе справы, я ж — чалавек вольны. Запрашаў, каб заходзіў да яго дамоў. Але «навязвацца» госцем, хай сабе і запрошаным, не хацелася. Разумеў, якая адлегласць паміж мною і ім.

Адзін толькі раз завітаў. Пра што гаварылі, запамятаў я. Ніколі не меў (і па-сённяшні дзень не маю) звычкі весці дзённік. А што згадалі гэтую праклятую-распраклятую радыяцыю, помню. Яна кранулася і родных мясцін Кастуся Ціханавіча. Згадаць яе была і іншая прычына. Неўзабаве жонка Кірэенкі Лідзія Пятроўна накрыла стол, на якім з’явілася і тое, без чаго ў падобных выпадках не абысціся. Сярод закусі былі і грыбы:

— Не бойся, — запэўніў Кастусь Ціханавіч. — Правераныя…

А я і не баяўся. Хіба можна не давяраць яму, яго жонцы? Дый увогуле ад падобнага пачастунку ніколі не адмаўляюся. Гэта прытым, што збіраць грыбы не люблю. Як у народзе кажуць з такой нагоды? Даронаму каню ў зубы не глядзяць. Адмовіўся я і ад «фабрычнай», аддаўшы перавагу напою, настоенаму на розных прысожскіх травах і зёлках. Хораша гаварылася і хораша… Апошняе тычылася толькі мяне, бо Кірэенка толькі прыгалубіў маленькую чарачку. Яго прыкладу паследавала і Лідзія Пятроўна.

Затое даволі часта сустракаліся з Кастусём Ціханавічам паблізу ад будынка, у якім і сёння знаходзіцца рэдакцыя часопіса «Полымя». Звычайна Кірэенка прагульваўся ад сваёй кватэры, што была ў адным з дамоў па вуліцы Пуліхава, як любілі казаць, у андатравым раёне, да «ін’яза» — цяперашні Мінскі дзяржаўны

лінгвістычны ўніверсітэт. Непадалёку ад яго стаяла некалькі тэлефонаў-аўтаматаў. З аднаго і «выходзіў» на мяне.

З радасцю спяшаўся насустрач яму. Зразумела, заўсёды звяртаўся Кастусь Ціханавіч. Называць Ціханавічам язык не паварочваўся. А прытрымлівацца звароту «дзядзька Кастусь», ці «дзядзька Кірэенка», які быў гэтак папулярны ў 20—30-я гады мінулага стагоддзя, не мог. Дый наўрад ці Кастусь Ціханавіч успрыняў бы яго ўсур'ёз.

Прагульваліся тут, поруч з «ін'язам». Пра што заўгодна гаварылі. Найчасцей, пра справы літаратурныя. Пра калялітаратурныя — таксама. Абмінуць іх ніяк нельга было. Асабліва цікавілі яны Кірэенку. Ён жа, адарваны ад звыклага асяродку, знаходзіўся як бы ў некай ізаляцыі. І, будучы галоўным рэдактарам, не так часта завітваў у Дом літаратара, наведваўся на мерапрыемствы, што праводзіліся ў ім. Тым больш на творчыя вечары.

Што да літаратуры, дык за навінкамі сачыў рэгулярна. У нашай гаворцы згадваў прачытаныя творы, дзяліўся ўражаннямі аб іх. Быў у курсе і часопісных публікацый. Заходзіла гаворка і пра канкрэтных пісьменнікаў. Думкі пра некаторых з іх у нас супадалі. Асабліва, калі гэта тычылася празмернага захвальвання асобных з іх. Прынамсі, аднаго паэта, а па сумяшчальніцтве і крытыка. Хоць, бадай, правільней, крытыка з патугамі на паэтычную геніяльнасць.

— Не звяртай на яго ўвагі, — сказаў Кастусь Ціханавіч, — чым яшчэ займацца яму, калі не цябе «скубці».

— А я і не звяртаю.

Кірэенка задумаўся. Адчувалася, што разважае — гаварыць нешта ці прамаўчаць. Мне нават падумалася: «Нічога сабе, сакрэтнічаць уздумаў», а Кастусь Ціханавіч нечакана заявіў рэзка:

— Плагіятар ён!

Ад пачутага я і не ведаў, што сказаць. Канешне, я не з тых, хто ўспрымае таго пісьменніка ледзь не геніем, але каб ён перапісваў чужыя творы?! Ды яшчэ такога знакамітага творцы, як Кірэенка?! У гэта не хацелася верыць…

— Сумняваешся? — здагадаўся Кастусь Ціханавіч.

Я ўхіліўся ад прамога адказу:

— Можа, які-небудзь ваш верш яму так запомніўся, што праз пэўны час ён успрыняў яго сваім?

— Алесь Андрэевіч, — ужо спакойна-роздумна прадоўжыў Кірэенка. — Ды для іх (прамаўляючы «для іх» нават узмацніў голас, даючы зразумець, што ёсць крытыкі, якія прызнаюць толькі «сваіх») — для іх ні я, ні ты — ніхто.

— Але каб свядома перапісваць? — настойваў я на сваім.

— Гэта адзін з маіх ранніх вершаў, — толькі і сказаў Кастусь Ціханавіч.

Як ні ўгаворваў яго, назваць гэты твор адмовіўся. Калі ж я паабяцаў, што напішу ў «ЛіМ» «рэпліку», прывёўшы тэксты двух вершаў — яго і «геніяльнага паэта», каб чытач сам упэўніўся ў плагіяцтве, толькі кісла ўсміхнуўся:

— Навошта варушыць старое?

А, можа, і сапраўды — навошта? Прынамсі, так меркаваў Кірэенка. З-за яго вялікай чалавечнасці, сумленнасці. З жадання, хай гэта не прагучыць дзіўным, на зло адказваць... дабром. А і сапраўды — пакусаў цябе сабака, то, хіба, і табе яго кусаць?

## Памятнае з дзён юнацтва

Нядаўна Выдавецкі дом «Звязда» выпусціў кнігу твораў Кірэенкі — вершы, паэмы, апавяданні, любоўна ўкладзеную яго дачкой Аленай Шафарэнкай. Гэты ладны том называецца проста — «Выбранае». Ды, зразумела, што справа не ў назве. Галоўнае, што пад адной вокладкай сабраны найбольш значныя, яркія

творы пісьменніка, хай сабе некаторыя і ва ўрыўках. Тым больш важна, што спадчына гэтага выдатнага мастака слова даўно не перавыдавалася. Збор жа ягоных твораў у трох тамах, які выходзіў яшчэ ў 1986 — 1988 гадах, даступны толькі ў бібліятэках вялікіх гарадоў.

Цяпер мажлівасць прайсціся шмат якімі творчымі пуцявінамі пісьменніка атрымаў і сучасны чытач. Праз іх ёсць мажлівасць лепш спазнаць і яго самога, бо ў вобліку ягонага лірычнага героя, як ужо адзначалася, шмат узятага з уласнага жыцця. Гэта далучанасць да яго маладога, калі навакольны свет толькі раскрываўся сваёй шматколернасцю і паўставаў у сваім шматгалоссі, і ўзмужнелага з рашучасцю і ўпэўненасцю граміць ворага. І не па гадах сталага, калі свой крок звяраў з крокамі Беларусі. Дый абцяжаранага адказнасцю за час і сваіх суайчыннікаў. А таксама магчымасць чытача ў пэўнай ступені прайсціся і сваімі дарогамі, а тыя, якія яшчэ наперадзе, уявіць такімі, якімі яны могуць быць.

Чытач жа сталы, той, хто даўно знаёмы з творчасцю Кірэенкі, можа як бы абнавіць сваю памяць, далучыўшыся да твораў, з якімі даўно знаёмы. Але некаторыя з іх у ягоныя прыжыццёвыя кнігі не траплялі, змяшчаліся толькі ў перыёдыцы. Знаёмячыся з імі, можна у думках перакінуць свайго роду масток і да іншых твораў. Дый не толькі перакінуць, а і, адгарнуўшы патрэбную старонку, ажывіць у памяці ужо знаёмае. Дзякуючы гэтаму лірычны герой паўстае ў развіцці. Недагаворанае, спалучыўшыся з тым, што прамоўлена раней, струнамі сваімі стварае адну цэласную мелодыю — мелодыю жыцця нашага сучасніка, які на скразных вятрах эпохі не страціў чалавечнасці, дабрыні, улюблёнасці ў свет і людзей.

Мне вельмі падабаецца верш Кастуся Ціханавіча «Вечар», напісаны ў 1981 годзе. Год напісання ўказваю невыпадкова. Ведаючы тагачасны ўзрост паэта, куды вастрэй успрымаеш тое, што было тады на душы ў ягонага лірычнага героя. Яно асабліва блізкім становіцца і табе самому, калі разумееш, як шмат засталося ўжо таго, што незваротна страчана, хай сабе і з важкімі набыткамі, і як мала на што можна яшчэ спадзявацца:

Дождж сціх, і запахла чаборам і доннікам.
Вяслуе ў задуме над рэчкай заход.
Далёкая песня…
Як мроя…
Пра конніка,
Што тут вось калісь ад’язджаў у паход.

Гукае дзяўчына зажурана:
— Косю…
З рукі абяцае вадой напаіць…
І голас… Знаёмы?.. Ці толькі здалося,
Што ў памяці ён
з дзён юнацтва стаіць?..

Нягучнае, думнае, добрае рэха
Нясе над залужжам нястоены жаль…
Вярнуцца заве… Хоць з тых дзён, як паехаў
Юнак, —
Прамінула паўвека амаль.

Так соладка пахне ад берага доннікам,
І вечар праз хвілю
ўжо вочы самгне.
А песня не ціхне…
З тугою пра конніка…
Каго яна кліча?..
Няхай бы мяне…

## Пах чабаровы…

У вершы «Вечар» нездарма чаборам і доннікам «запахла». У прыроду ўлюбёны, з прыродай знітаваны, Кірэенка ўдыхаў у сябе ўсе яе пахі, як жыватворны водар. Надта падабаўся яму чабор. Яшчэ ў 1954 годзе ён напісаў і верш, які так і назваў — «Пах чабаровы»:

Не прыдумаю сама,  
Што са мной здарылася:  
З працы сёння йшла дамоў  
І з дарогі збілася.

Мне б ісці каля ракі.  
Я ж пайшла дубровай,  
Галаву маю кружыў  
Пах чабаровы.

Нічога вам гэтыя радкі не нагадваюць? А калі напружыць памяць? Канешне ж, гэта аднайменная песня, якую на словы Кастуся Ціханавіча напісаў Уладзімір Буднік. Дарэчы, да творчасці Кірэенкі ў розны час звярталіся Мікалай Аладаў, Уладзімір Алоўнікаў, Ігар Кузняцоў, Самуіл Палонскі, Юрый Семяняка і іншыя кампазітары. Але песня «Пах чабаровы» — найбольш папулярная. Яшчэ колькі гадоў назад, уключыўшы радыё, яна часта лагодзіла наш слых. Даўно і блізкая, і дарагая, кожны раз хораша абуджала пачуцці, вабіла той сваёй прастатой і замілаваннем, вытокі якіх у фальклоры. І заўжды, як і пры першым праслухоўванні яе, так і хацелася паўтараць услед за выканаўцай: «Я ішла ўсё ды ішла, // Аж пакуль сумелася. // І не ведаю сама, // Як з Ігнасем стрэлася. // А Ігнась жа — ён са мной // Ды такі суровы… // Не кружы ты галавы, // Пах чабаровы!»

Цяпер, на жаль, песню «Пах чабаровы» рэдка пачуеш. Няма ў жывых не толькі Кірэенкі, заўчасна пайшоў з жыцця і Буднік. Ды ўсё адно не забываецца яна. Як і не забываецца ў літаратуры тое, што некалі вельмі ўсхвалявала і ўзрадавала. Бяру ў рукі адну з кніг, падораных Кастусём Ціханавічам, і быццам чую ягоны голас, услухоўваюся ў ягоную споведзь:

Я захварэў на пах лясных сутонняў —  
З дымком слязы смалістай на карчах.  
І гэтак, мусіць,  
                    нават і пры сконе  
Зазіхаціць, засвеціцца ў вачах...

Пах лясных сутонняў — гэта і пах самога жыцця. Дый, калі можна так сказаць, пах сапраўднай паэзіі. Той паэзіі, дыханнем якой і напоўнены лепшыя творы Кірэенкі. У паэме «Трыпутнік» ён, засяродзіўся і на тым, што ўспрымае характэрным для сябе, у чым бачыць дамінанту сваёй творчасці. Паколькі ў творы прамаўляецца ад аўтарскага «я», няма ніякага сумнення, што лірычнага героя трэба атаясамліваць з самім паэтам. У вусны яго ўкладзена тое, што дазваляе адчуць яго яркую творчую індывідуальнасць:

Мой любы свет… Хоць ён суровы,  
Ды — мой!.. Яго на мне пячаць…

Аднак суровы гэты свет, калі мець на ўвазе тое, што давялося ў жыцці прайсці і праз многія нягоды. Але не ачарсцвеў ад іх, не растраціў душэўнай цеплыні, не расчараваўся ў людзях. У тым, што свет гэты — цудоўны і непаўторны — таксама. Таму і трэба берагчы яго, адчуваючы сваю адказнасць за ўсё, што адбываецца. Гэтая далучанасць, гэты клопат нярэдка болем адгукаўся ў сэрцы. Лішнім болем, бо на ім і так ужо былі рубцы ад інфаркту. Толькі інакш ён жыць не мог, дый не хацеў. Сімптаматычны ў гэтым сэнсе такі верш:

Пагасла зорка дзесь над полем.
Пасля яшчэ вунь і яшчэ…
Што мне да іх?.. А нейкім болем
Раптоўна сэрца апячэ.

Як быццам зараз нешта страціў,
Кагосьці болей не вярнуць.
І ўспомніш фронт, балоты, гаці,
І згадкі памяць разануць.

І нешта стане ў горле комам,
І здасца раптам: сам гарыш…
А зоркі падаюць са звонам,
І звон такі, што не сасніш…

Пасля прачытання яго, у памяці ажывае яшчэ адзін — «Ля агню», напісаны даўно, у першыя пасляваенныя гады. Матывы ў ім крыху іншыя. Дый не глабальныя, не касмічныя, а традыцыйна зямныя. Больш за тое, шмат у чым знаёмыя. Але гэта, калі падыходзіць з таго, пра што гаворыцца. Толькі для разумення сапраўднай паэзіі існуе іншы, адзіна правільны падыход: як гэта сказана, як прамоўлена. Сказана ж так, як далёка нямногім даецца. Каб пад вершам не стаяла дата, нават цяжка паверыць, што напісаў гэта трыццацігадовы паэт:

Аж боязна працягнуць
Руку ў гэты важкі змрок,
Дзе хвалі бераг сякуць
Так, што скрыпіць пясок.

Зноў адчуваеш ты,
Што ў цемры сядзіш не адзін:
Там цягнуцца ў рост кусты
Алешніку і крушын.

Гайдаецца рослы авёс,
Значыць, на вятрыне спяць,
І завушніцы з рос
На піках сцяблін звіняць.

Якая асацыятыўная напоўненасць і напружанасць — вобразы нібы нанізваюцца адзін на адзін, паступова ствараецца ўсё больш узбуйнены малюнак. Прырода ж паўстае неаддзельнай ад чалавека, а сам ён успрымаецца такой суладнай часцінкай яе, што ўсё гэта, разам узятае, таксама ўспрымаецца часцінкай вечнасці. Гэта ўсё «любы свет» цудоўнага паэта. Хоць часам ён, свет гэты, быў і суровы, ды — ягоны. Адначасова і наш. Свет усіх, хто любіць творчасць Кастуся Кірэенкі. Не ў апошнюю чаргу яго паэзію, што напоўнена любоўю да чалавека. Да свайго 70-годдзя ён не дажыў усяго нейкія тры месяцы. Раптоўна памёр 15 верасня 1988 года. А паэзія жыве, як і ўсё лепшае, напісанае ім, дорачы шчодры пах чабаровы яго творчасці.



**Мікола МІКУЛІЧ**

# МАШТАБНАСЦЬ ТАЛЕНТУ

Яго акруглы, з шырокім носам ды пухлаватымі вуснамі твар авеяны спакоем, непасрэднасцю і даверам. Ледзь прымружаныя лагодныя вочы выпраменьваюць зацікаўленасць і ўвагу. Мабыць, кожны з яго суразмоўцаў прыкмячае іх характэрны вохрыста-цёплы колер з балотна-карычневым залацістым адлівам. У вачах прытоены залежы вялікай унутранай энергіі, глыбокага жыццёвага досведу, магутнага народнага інтэлекту і мудрасці. Яны спрэс свецяцца залацінкамі дабрыні і шчырадушнасці.

Яго позірк прамы, лагодны, зычлівы, з ледзьве прыкметнымі іскрынкамі дасціпнай іроніі і сяброўскага жарту. Часам складваецца ўражанне, што ён, як гэта ні дзіўна, толькі і шукае магчымасці, каб заліцца зіхатлівым дружалюбным смехам.

Пад кароткімі кусцістымі валасамі на шырокім лбе, нібыта раскінутыя ў палёце птушыныя крылы, пралеглі даволі глыбокія зморшчыны. Прыродна-генетычныя выпукліны і ўгнутасці хараша падкрэсліваюць своеадметнасць каларытнага аблічча, высокую эстэтыку яго натуральнай арганічнасці і вабнасці. Без аніякіх сумненняў, яны сведчаць пра тое, што яму даводзіцца шмат думаць ды нямала перажываць.

Гэта ён, Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў, выдатны беларускі літаратуразнаўца, літаратурны крытык, празаік і мой дарагі настаўнік. Падумаю пра яго — і ажывае мінулае, перад вачамі паўстаюць доўгія гады натхнёнай сумеснай працы, абмеркаванне складаных навуковых праблем, грамадска-сацыяльных працэсаў, творчасці таго ці іншага пісьменніка і г. д.

Нарадзіўся У. Гніламёдаў 26 снежня 1937 года ў вёсцы Кругель (цяпер Камянецкі раён Брэсцкай вобласці). У 1954 годзе закончыў Кругельскую сярэднюю школу і паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Пасля заканчэння пединстытута працаваў завучам Тамашоўскага дзіцячага дома і адначасова настаўнікам беларускай і рускай мовы і літаратуры Тамашоўскай сямігодкі Брэсцкага раёна. Служыў у арміі (1959—1961), некаторы час настаўнічаў у Камароўскай сярэдняй школе на Брэстчыне, вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры АН БССР (1962—1965). У 1966 годзе паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную даследаванню праблемы традыцый і наватарства ў беларускай літаратуры 1950—1960-х гг., у 1987 — доктарскую на тэму «Сучасная беларуская паэзія: творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс».

Пры сустрэчы адкрытае ўсмешлівае аблічча Уладзіміра Васільевіча неяк рашуча падаецца наперад, выпраменьваючы ветлівую прыязнасць і сяброўскую радасць. І ты ўжо адчуваеш сваю куртатую руку ў яго шырокай і мяккай чарпакаватай далоні і тым самым нібыта атрымліваеш благаславенне на шчырасць, дабрыню і праўду. Здаецца, усё ў ягоных паводзінах гаворыць пра тое, што ён думаў пра цябе, хацеў бачыць, нават чакаў, і вось сустрэліся… І ад усведамлення гэтага псіхалагічнага матыву тваю душу агортвае хваля ўдзячнай цеплыні і шчымлівай пяшчоты.

Даволі часта сустракаючыся і гутарачы з У. Гніламёдавым, я заўважыў тую акалічнасць, што ён любіць звяртацца да мовы насычанага позірку, экспрэсіўнага мімічнага жэсту, ёмістага эмацыянальна-пачуццёвага ўздыху, урэшце, да выразнай і характарыстычнай мовы маўчання.

Неяк доўга не пазірае на цябе і, здаецца, не слухае, аднак пры гэтым добра адчувае, што называецца, бачыць і чуе. Ён можа літаральна прашыць свайго суразмоўцу працяглым позіркам, як секануць мячом ці шабляю. А можа паглядзець, быццам праверыць на дабраякаснасць, на шчырасць, сумленне, надзейнасць, і нібыта забыцца.

Часамі яго настойлівы позірк востра карпане тваю душу і неміласэрна кіне яе ў кіпень млосна-шчымлівай трывогі, прымусіўшы адчуць сваю непаўнавартаснасць і заняпаласць, а пасля неспадзявана ўссадзіць на крылы вітальнае надзеі і злёгку пагайдае пад аблокамі.

Гаворыць У. Гніламёдаў павольна, не спяшаючыся, роздумна, нібыта прыглядаючыся да кожнага новага слова і спрабуючы яго на зуб, памалу намацваючы скразную сюжэтную думку, але разам з тым неяк акцэнтавана, выразна і ўпэўнена. Прамаўляе так, што слова ніколі не апярэджвае думку, якая яго нараджае, абавязкова прыслухоўваецца да яе характару і настрою.

У густой мелодыцы яго голасу, чэпкай энергетыцы, якую ён нясе, жывапіснай моўнай палітры я чую велічны подых Белавежскай пушчы, разгоністы гул палескай дубровы, адвечны спакой і раўнавагу беларускіх абшараў і краявідаў. Яны заварожваюць і скараюць, дарэшты забіраюць тваю ўвагу. Міжволі падпарадкоўваешся іх магічнай абладзе, пачынаеш услухоўвацца ў мернае грукатанне слоў і сказаў, як заўважаў Максім Танк з іншай нагоды, «адтвараць» іх гаючы змест і жыватворную сілу.

Гаворыць Уладзімір Васільевіч, здаецца, проста, аднак заўжды неяк насычана, ёміста, а таксама займальна, з замешанай на аргументаванай логіцы цікавай інтэрпрэтацыяй праблемнага матэрыялу і, як правіла, з выхадам на значныя сацыяльныя абагульненні. Тое, што ён кажа, выпадковаму чалавеку можа падацца ў пэўнай ступені неабавязковым ці неактуальным. Але, па-першае, чалавеку выпадковаму, а па-другое, яно ніколі не з'яўляецца неістотным, а тым больш легкаважкім і прахадным. Пра што б ён ні разважаў — пра прыроду і сацыяльную значнасць літаратуры як феномена духоўнай свядомасці, мэту чалавечага жыцця, ісціну і хараство ў свеце, след чалавека на зямлі, — усе ці амаль усе яго думкі ўспрымаюцца не проста як цікавыя навуковыя і жыццёвыя назіранні, а як арыгінальныя і самабытныя філасофскія адкрыцці.

Знешне У. Гніламёдаў, мабыць, менш за ўсё падобны да сучаснага тыповага беларуса. Наадварот, хутчэй да якога-небудзь старажытнага асірыйскага цара. Сапраўды, у яго адмысловых рысах твару аддалена ўгадваецца штосьці гістарычнае, паўднёвае, можа, нават цюркска-хазарскае.

Няспешна-паважныя, у нечым нават панавітыя рухі, размашыстая, з характэрным раздольным куляннем з боку на бок, паходка, высока ўзнятая галава на невысокай шыі, у цэлым насычанае аблічча… Слухаючы яго, вы абавязкова пачуеце пра знакаміты Камянецкі стоўп. Сваёй магутнай паставай, каларытнай натураю, адмысловай самавітасцю У. Гніламёдаў нагадвае гэты вядомы помнік старажытнай архітэктуры. Ёсць нешта манументальна-скульптурнае ў яго важнай постаці, на якую нельга не звярнуць увагі ў варунках грамадскага асяроддзя.

Гэта магутны стоўп-асілак, асоба першай велічыні ў сучаснай беларускай гуманітарыстыцы і культуры. Выдатны тэарэтык і гісторык літаратуры, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і выдатны мастак-практык, пісьменнік-раманіст. Класік сучаснага беларускага літаратуразнаўства, патрыярх айчыннага слоўнага мастацтва. Тое, што У. Гніламёдаў робіць, што стварае ў нацыянальнай культуры, вядома далёка за яе межамі. Я ведаю, яго кнігі чыталі і чытаюць не толькі ў Расіі і ва Украіне, але і ў Поль-

шчы, Балгарыі, Чэхіі. Аднак вы не прыкмеціце ў асобе Уладзіміра Васільевіча нават намёку на нейкі фанабэрлівы арыстакратызм або выбранасць, на знешнюю афектацыю. У яго фактурнай постаці за вонкавай стрыманасцю, а часам і суровасцю каларытнай натуры прытоена вялікае сэрца і чулая, трапяткая душа тонкага летуценніка і высакароднага рамантыка.

Часам складваецца ўражанне, што гэтага быліннага волата з высакароднай рыцарскай душою адмыслова стварыла для нашай культуры, будучы ў добрым настроі і шчодрасці, Высокая духоўная сутнасць. Ад яго зыходзіць веліч духу і волі, гістарычны спакой вякоў і самадастатковасць. Ён увесь поўніцца беларускай народнай сілай і праўдай. Гэта чалавек светлага розуму, маштабнага мыслення, высокай унутранай культуры і ў той жа час сціплы, сумленны, разважлівы.

Яго мажную, але рухавую постаць вы можаце сустрэць і ў калідорах Дзяржаўнай навуковай установы «Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі», дзе ён працуе галоўным навуковым супрацоўнікам і старшынёй Савета па абароне дысертацый, і ў рэдакцыйна-выдавецкай установе «Выдавецкі дом «Звязда», дзе з’яўляецца старшынёй рэдакцыйнай калегіі часопіса «Полымя», і ў грамадскім аб’яднанні «Саюз пісьменнікаў Беларусі», дзе з’яўляецца членам праўлення, на розных навуковых канферэнцыях, кангрэсах і сімпозіумах, літаратурных вечарынах, прэзентацыях кніг і інш.

Уладзімір Гніламёдаў — падкрэслена цэльная натура, асоба, якая, з аднаго боку, заўсёды прытрымліваецца ўзважаных і прынцыповых перакананняў і ацэнак, а з другога, з’яўляецца пластычнай і рухомай у душэўна-псіхалагічным плане. Ён неяк увесь прасякнуты духаносным пачаткам, я б сказаў, канструктыўна-стваральнай ідэяй яднання. Некалі юбілейны артыкул з нагоды 50-годдзя Уладзіміра Васільевіча Генадзь Шупенька вельмі ўдала назваў — «Талент дабрыні». Якая б складаная праблема з яго ўдзелам не вырашалася, У. Гніламёдаў абавязкова шукае дабратворнага рэчышча яе вырашэння, кампрамісу, узаемаразумення і згоды. Па ўсім відаць, яму вельмі блізкая думка, выказаная ў далёкія часы адным з рымскіх гісторыкаў: «Пры яднанні і малое расце, а пры разладзе і сварках і найвялікшае апынецца ў заняпадзе».

Ён заўсёды верны сабе, сваім адчуванням і ўяўленням, і ў той жа час ніколі не ідзе на канфлікт. Наадварот, усё робіць дзеля таго, каб пазбегнуць абвастрэння супярэчнасцей і ўзнікнення напружанасці. Мне здаецца — гэта вялікі прыродны душэўна-чалавечы дар. Што б ні адбылося, як бы ні разгортваліся падзеі, У. Гніламёдаў заўсёды здолее паразумецца з чалавекам, які па розных прычынах прытрымліваецца іншых, адрозных ад яго, думак і меркаванняў, знайсці з ім агульную мову, наладзіць дружалюбныя адносіны.

Думаецца, якраз гэтыя ўнікальныя асобасныя якасці, а таксама несумненныя арганізатарскія ці, як сёння б сказалі, менеджарскія здольнасці, пачуццё адказнасці за даручаную справу абумовілі той факт, што У. Гніламёдаў фактычна ўсё сваё жыццё займаў адказныя кіруючыя пасады. Ён 22 гады (з 1977 па 1999) працаваў загадчыкам аддзела тэорыі літаратуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, 21 год (з 1976 па 1997) — намеснікам дырэктара гэтага інстытута па навуковай рабоце і амаль 10 гадоў (з 1997 па 2006) — яго дырэктарам. А да гэтага, як вядома, было сем гадоў (з 1969 па 1976) службы ў ЦК КПБ на пасадах інструктара і загадчыка сектара мастацкай літаратуры, калі яму даводзілася адказваць за работу Саюза пісьменнікаў Беларусі, курыраваць усё літаратурнамастацкае жыццё рэспублікі.

Намеснікам дырэктара Інстытута літаратуры Уладзімір Васільевіч быў тады, калі яго ўзначальвалі такія вядомыя і аўтарытэтныя ў нашай навуцы і культуры асобы, як акадэмікі і пісьменнікі Іван Навуменка і Віктар Каваленка. Працуючы дырэктарам, ён здолеў паспяхова прадоўжыць традыцыі сваіх выдатных папярэднікаў, забяспечыў далейшае развіццё ўстановы, актывізацыю пошукаў акадэмічнага літаратуразнаўства па ўсіх актуальных навуковых напрамках.

Надзвычай высока яго дзейнасць на пасадзе дырэктара ацэньваюць непасрэдныя калегі па рабоце ў Інстытуце літаратуры. «Уладзімір Васільевіч — вельмі таварыскі чалавек, уважлівы да іншых, умее выслухаць і трапна падказаць, разумна і мэтазгодна, — разважаў, адказваючы на пытанні Таццяны Сівец з нагоды 70-годдзя У. Гніламёдава былы шматгадовы загадчык аддзела выданняў і тэксталогіі, член-карэспандэнт НАН Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Міхась Мушынскі. — Доўгі час ён быў дырэктарам. Праўду кажуць, як маем — не шануем, а як страцім — плачам! Мінуў час, і мы бачым, што гэта было разумнае, чалавеказнаўчае кіраванне. Уладзімір Васільевіч добра разумеў, што мы навукоўцы і дробная апека над намі — шкодная, непатрэбная, ён ведаў, што кожны чалавек прыходзіў у інстытут, каб штосьці сваё сказаць у літаратуры, знайсці ўласную нішу ў літаратуразнаўстве. Трэба давяраць чалавеку, бо чалавек, якому давяраюць, якога цэняць, адпаведна і працуе! Я з задавальненнем гляджу на наш інстытут і цвёрда ўпэўнены, што тая традыцыя паважлівага стаўлення да супрацоўнікаў, уменне выпрацаваць стратэгічную лінію развіцця беларускага літаратуразнаўства — таксама вялікая заслуга Уладзіміра Васільевіча. За час яго кіравання вельмі шмат было зроблена для нашай літаратуры!»

І далей: «Як кажуць, крытыка — гэта крытыкі, а літаратура — гэта пісьменнікі. Уладзімір Васільевіч заўсёды меў разуменне таго, што літаратура — з'ява эстэтычная, ён адчуваў, што разам з вызначэннем перыядызацыі і агульнага значэння літаратуры трэба абавязкова раскрываць шматграннасць творчых індывідуальнасцей».

Разважанні М. Мушынскага своеасабліва дапаўняе і развівае былы загадчык аддзела даўняй і новай беларускай літаратуры, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Вячаслаў Чамярыцкі: «Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў — чалавек выдатнай дабрыні, зайздроснай мудрасці, шырокай адукаванасці. Дарэчы, дырэктарам ён быў прызначаны ў свой час яшчэ і таму, што яго інтарэсы ахопліваюць ледзь не ўсе перыяды нашай літаратуры. Ён заўсёды чытаў не проста па абавязку кіраўніка, каб паставіць подпіс пад выкананай працай, а дзеля ўласнага ўзбагачэння. Ён — разважлівы і няспешны. Перш чым штосьці сказаць, прыняць адказнае рашэнне, ён абавязкова ўсё абдумае, узважыць, таму нам з ім вельмі лёгка працавалася. Да дырэктара Гніламёдава хацелася ісці, бо кожны ведаў, што гэты чалавек заўсёды выслухае, знойдзе кампраміс, дапаможа вырашыць праблему.

Гады, калі дырэктарам быў У. Гніламёдаў, можна назваць «залатым часам» у жыцці Інстытута літаратуры. Тады ўвесь калектыў быў паяднаны незвычайнай цеплынёй гэтага чалавека. І ўстанова развівалася, і кадры папаўняліся, і кнігі выдаваліся. Працу нашу вельмі высока ацанілі. Не дзіва, што наш інстытут, ледзь не першы ў СССР, атрымаў ордэн Дружбы народаў! А трывалыя сувязі, якія мы наладжвалі ў тыя часы з навукоўцамі іншых краін, дапамагалі нам рыхтаваць уласных вучоных і давалі магчымасць нашым супрацоўнікам працаваць у замежных бібліятэках. Дарэчы, гэтыя сувязі захоўваюцца і па сённяшні дзень, дазваляючы нам быць у курсе навуковых шляхоў, якімі ідуць нашы суседзі».

Сапраўды, у тыя гады ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы панавала атмасфера даверу і павагі да асобы навуковага работніка, натхнёнай творчай працы і адказнасці за яе вынікі, дабратворнай навуковай канкурэнцыі і самасцвярджэння. Пад кіраўніцтвам У. Гніламёдава і пры яго непасрэдным удзеле ажыццяўляліся, дарэчы, на аснове новых тэарэтыка-метадалагічных прынцыпаў і каштоўнасцей і з улікам усяго магчымага спектру факталагічных дадзеных такія фундаментальныя праекты, як «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя» ў 4-х тамах, 5-ці кнігах, «Гісторыя беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў» у 2-х тамах, «Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI — першая палова XVIII стагоддзя», вялася распрацоўка Збору твораў Якуба Коласа ў 20-ці тамах, Збору твораў Максіма Танка ў 13-ці тамах, шматлікіх манаграфічных выданняў і інш.

Наогул, гады працы У. Гніламёдава ў кіраўніцтве Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы — сёння тое асабліва даляглядна бачна — былі лепшымі ў развіцці не толькі акадэмічнага, але і ўсяго айчыннага літаратуразнаўства і літаратурнай крытыкі. Тады на поўную сілу заявілі пра сябе такія яркія і неардынарныя асобы, як Міхась Мушынскі, Мікола Арочка, Адам Мальдзіс, Васіль Жураўлёў, Павел Дзюбайла, Уладзімір Калеснік, Дзмітрый Бугаёў, Сцяпан Лаўшук, Алесь Яскевіч, Мікола Мішчанчук, Вячаслаў Чамярыцкі, Вячаслаў Рагойша, Таццяна Шамякіна, Міхась Тычына, Іван Чарота, Іван Штэйнер, Пятро Васючэнка і іншыя. Некаторыя літаратуразнаўцы сталі лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі Беларусі. У той перыяд свае буйнейшыя манаграфічныя даследаванні апублікаваў і сам Уладзімір Васільевіч. Яго кнігі «Сучасная беларуская паэзія: творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» (1983), «Ля аднаго вогнішча» (1984), «Іван Мележ: нарыс жыцця і творчасці» (1984), «Класікі і сучаснікі» (1987), «Праўда зерня: творчы партрэт Васіля Зуёнка» (1992), «Ад даўніны да сучаснасці: нарыс пра беларускую паэзію» (2001), «Янка Купала: жыццё і творчасць» (2002) і іншыя прысвечаны вывучэнню самых складаных і актуальных праблем гісторыі беларускай нацыянальнай літаратуры. Яны ўражваюць багаццем факталагічнага зместу, смеласцю і арыгінальнасцю тэарэтыка-метадалагічнага мыслення, аналітычным асэнсаваннем ідэйна-мастацкіх з'яў, падкрэсленай важкасцю ацэнак і заключэнняў. Варта заўважыць тую акалічнасць, што ўсе буйнейшыя літаратуразнаўчыя даследаванні У. Гніламёдава адразу па іх выхадзе атрымлівалі высокую ацэнку навуковай грамадскасці. Пра многае гавораць нам адны толькі назвы некаторых рэцэнзій на манаграфіі Уладзіміра Васільевіча, напрыклад, Івана Сачанкі на кнігу «Як само жыццё» — «Каштоўны скарб», Любові Гарэлік на даследаванне «Сучасная беларуская паэзія: творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» — «Талент — быць асобай», Алеся Марціновіча на працу «Ад даўніны да сучаснасці: нарыс пра беларускую паэзію» — «З энцыклапедычным падыходам» і інш. Шмат у чым паказальнай і характарыстычнай з'яўляецца ацэнка манаграфіі «Ад даўніны да сучаснасці: нарыс пра беларускую паэзію» такога заўсёды да прыдзірлівасці прынцыповага крытыка, як прафесар Дзмітрый Бугаёў, які ў сваёй рэцэнзіі пад назвай «Кароткая гісторыя паэзіі» адзначыў наступнае: «Новая кніга даследчыка мае сціплы падзагаловак «Нарыс пра беларускую паэзію». Па сутнасці ж, У. Гніламёдаў напісаў кароткую гісторыю нашай паэзіі, пачынаючы ад яе старажытных вытокаў…

Напісана кніга ўмелай і вопытнай рукой. Важкасць абагульненняў у ёй спалучаецца з тонкасцю аналізу канкрэтных твораў. І адно, і другое зроблена, як правіла, з добрым веданнем справы, з улікам гістарычных рэалій той пары, калі пісаліся творы, і тых даляглядаў, якія высвечвае сучаснасць, наша цяперашняе разуменне жыцця і літаратуры.

Па-сучаснаму гаворыць У. Гніламёдаў, напрыклад, пра біблейскія матывы ў творчасці Купалы, якія ў савецкія часы знарок абміналіся літаратуразнаўствам, вымушаным трымацца афіцыйнай атэістычнай пазіцыі. Гніламёдаў жа заўважыў сувязь з біблейскай паэтыкай і ў такіх купалаўскіх творах, дзе яна не кідаецца ў вочы, скажам, у вершах «А хто там ідзе?», «Ворагам Беларушчыны», «Я не для вас...».

І далей Д. Бугаёў падкрэсліў: «Шырокае выкарыстанне мініпартрэтаў можна лічыць характэрнай прыкметай і вызначальнай структурнай асаблівасцю гніламёдаўскай кнігі. Звязана гэта з імкненнем крытыка паказаць адметнасць, непаўторную своеасаблівасць многіх паэтаў, багацце іх індывідуальных стыляў. Каб у гэтым мностве не збіцца на хаатычнае нагрувашчванне паэтычных імёнаў, даследчык вылучае вызначальныя стылёвыя плыні ў нашай паэзіі і пераважна другой паловы XX стагоддзя. Іх у яго набралася роўна шэсць: лірыка-апавядальная, рамантычная, публіцыстычная, філасофска-аналітычная, мастацка-сінкрэтычная і ўніверсальна-інтэлектуальная.

Падзел, як і ўсе класіфікацыі такога кшталту, даволі ўмоўны, прынамсі суб'ектыўны, бо рэдка які з нашых значных, арыгінальных творцаў цалкам укладваецца ў адведзенае яму стылёва-выяўленчае рэчышча. Крытык пры канкрэтным аналізе і сам у шэрагу выпадкаў агаворвае гэта. Пры ўсіх такіх агаворках яму ўдалося ў межах сваёй класіфікацыі даць па неабходнасці сціслую, але сутнасна змястоўную характарыстыку некаторых граняў творчага вобліку А. Куляшова і М. Танка, П. Панчанкі і А. Пысіна, У. Караткевіча і Р. Барадуліна, Н. Гілевіча і Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага і П. Макаля, В. Зуёнка і М. Арочкі, Я. Янішчыц і А. Разанава. І не толькі іх».

Усяго акадэміку У. Гніламёдаву належыць больш за 600 навуковых работ, у тым ліку каля 30 кніжных выданняў.

Уладзімір Гніламёдаў з'яўляецца галоўным тэарэтыкам і філосафам у сучаснай беларускай навуцы пра літаратуру, галоўным знаўцам творчасці Я. Купалы, І. Мележа, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, без перабольшання, — усёй сучаснай беларускай паэзіі, а таксама літаратуры беларускага замежжа, у прыватнасці, беларускай літаратуры ў Польшчы і інш. Гэта ён, Уладзімір Васільевіч, вучыў мяне асновам спасціжэння філасофіі творчасці Максіма Танка, аналізу спецыфікі ідэйна-вобразнага свету і мастацкага стылю народнага паэта Беларусі.

Яшчэ працуючы ва ўніверсітэце і падтрымліваючы з Уладзімірам Васільевічам цесныя сувязі, я неаднойчы лавіў сябе на думцы, што ён разумее і ведае літаратуру нашмат лепш за самых вопытных і падрыхтаваных выкладчыкаў. Ён надзвычай тонка адчувае саму прыроду мастацкага слова, яго вобразна-асацыятыўныя магчымасці, надзвычай глыбока пранікае ў змест індывідуальна-аўтарскага мыслення пісьменніка. Пры жаданні У. Гніламёдаў мог бы паспяхова выкладаць курсы беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, 1920—1930-х гадоў, не кажучы ўжо пра сучасны перыяд, дзе яму знаёма, здаецца, усё да драбніц. А якія цікавыя і пазнавальныя былі б спецыяльныя курсы, прапанаваныя Уладзімірам Васільевічам студэнтам: «Янка Купала і беларуская літаратура», «Традыцыі і наватарства ў беларускай літаратуры», «Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс», «Іван Мележ і сучасны беларускі раман», «Сучасная беларуская лірыка» і іншыя.

Мяне заўсёды ўражвалі шырыня навуковых інтарэсаў У. Гніламёдава, яго філасофска-метадалагічная заангажаванасць, глыбіня пазнанняў. Яго даследаванні вызначаюцца падкрэсленым багаццем і разнастайнасцю праблемна-тэматычнага зместу. Вось ён піша пра слабую дыферэнцаванасць сацыяльна-эстэтычных поглядаў і мастацкага мыслення большасці беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя, пра тое, што ў лірызме паэтаў пераважала агульнае і знешняе, адзначае, што Я. Купала «паглыбіў сацыяльнасць беларускай літаратуры, узняў яе ад народазнаўства да народатворчасці». А гэта падкрэслівае сінкрэтызм лірызму і грамадзянскасці, драматычны напал пачуццяў у творчасці П. Панчанкі, аб'ектыўнасць апавядальнай манеры і пластычнасць І. Чыгрынава, майстэрства пісьменніка маляваць чалавечы характар у яго аб'ёмнасці і супярэчлівай цэласнасці. У нядаўняй цікавай манаграфічнай працы «На рубеже времен: русскоязычная поэзия Беларуси», упершыню ў айчынным літаратуразнаўстве прысвечанай раскрыццю сістэмна-модульных асноў развіцця сучаснай рускамоўнай паэзіі Беларусі, даследчык прасочвае схільнасць да філасофска-медытатыўнага ладу мыслення, міфалагізацыі рэчаіснасці, інтравертнага характару мастацкай свядомасці такога самабытнага паэта, як А. Жданаў, выяўляе ўменне А. Аўруціна збіраць верш з малазначных дэталяў, ледзь не з «бытавога смецця», здабываць вобраз «непасрэдна з рэчаіснасці», гаворыць пра натуральнасць светаадчування, інтымна-чалавечы пачатак, гэтак званы «суб'ектыўна-біяграфічны рэалізм» (Б. Пастарнак) у творчасці А. Казанцавай і інш.

Перспектыўныя навуковыя ідэі літаральна перапаўняюць акадэміка У. Гніламёдава. Зразумела, што іх увасабленне проста не пад сілу адной асобе. Патэнцыял гэтых ідэй настолькі багаты, што многія з іх ён прапануе для рэалізацыі сваім калегам, паслядоўнікам, вучням. Пад яго навуковым кіраўніцтвам і пры яго кансультацыйным суправаджэнні выконваліся і выконваюцца дысертацыйныя работы самага рознага канцэптуальнага характару і тэматычнага зместу: «Дакастрычніцкая творчасць Якуба Коласа і фальклор» (А. Ненадавец), «Беларуская драматычная паэма (эвалюцыя жанру)» (Г. Харошка), «Праблема інтэлектуалізму ў сучаснай беларускай паэзіі» (Я. Гарадніцкі), «Мастацкае народазнаўства ў беларускай прозе XX стагоддзя» (В. Бароўка), «Паэзія Яна Чыквіна: станаўленне творчай індывідуальнасці» (А. Раманчук), «Мастацкі міфалагізм у сучаснай беларускай паэзіі» (А. Шылец), «Аксіялогія сучаснай беларускай журналістыкі» (Т. Падаляк), «Праблема міфалагізму ў сучаснай беларускай літаратуры (на матэрыяле прозы)» (А. Васілевіч), «Апакрыфічныя традыцыі ў сучаснай беларускай літаратуры» (Д. Аўчароў), «Беларуская проза XX стагоддзя ў еўрапейскім літаратурным кантэксце: экзістэнцыялізацыя духоўнага свету героя» (Т. Тарасава), «Чалавек у беларускай прозе другой паловы XX стагоддзя» (І. Шаладонаў) і інш.

Акадэмік У. Гніламёдаў валодае выдатным педагагічным дарам, тонкім майстэрствам далікатнай падказкі. Ён ніколі не пазбаўляе цябе душэўна-псіхалагічнай вольніцы, хаця, трэба сказаць, не заўсёды і падтрымлівае яе. Уладзімір Васільевіч не навязвае сваёй сістэмы аналізу і ацэнак, ніколі катэгарычна не аспрэчвае тваіх поглядаў на тую ці іншую літаратурную з’яву і ў цэлым перакананняў. Ён умее тактоўна падправіць, скарэктаваць прафесійныя імкненні і жаданні вучня, прыдаць ім належны навуковы характар і кірунак. Яго адмысловая чалавечая рахманасць і вытворчы дэмакратызм забяспечваюць аспіранту ці дактаранту шырокую прастору для самастойнага мыслення, стымулююць наватарскі пошук, натхняюць на адкрыццё. «У маёй навуковай біяграфіі асоба Уладзіміра Васільевіча Гніламёдава, навуковага кіраўніка кандыдацкай дысертацыі, а потым і кансультанта доктарскай, займае выключнае месца, — піша ў нядаўнім лісце да мяне доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай літаратуры і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка Тамара Тарасава. — Супрацоўніцтва з Уладзімірам Васільевічам заўсёды дае поўную свабоду ў навуковых пошуках, але гэта і дысцыплінуе адначасова, узмацняе адказнасць за слова, думку, выклікае жаданне шукаць, думаць, супастаўляць. Уладзімір Васільевіч — чалавек шырокамаштабнай эрудыцыі, яго разважанні, часта нават зусім нелітаратурныя, падштурхоўваюць на нечаканыя тыпалагічныя паралелі, усвядомленую неабходнасць «взгляда со стороны». У. В. Гніламёдаў аднолькава свабодна можа разважаць пра нарвежскага мастака Эдварда Мунка і яго карціну «Крык» і пра вучэнне аб біясферы і наасферы У. І. Вярнадскага. Асоба У. В. Гніламёдава шматгранная. Ён і пісьменнік, і крытык, і літаратуразнавец, але мне бліжэй за ўсё Гніламёдаў-вучоны, які спалучыў высокую даследчыцкую культуру з тонкім адчуваннем рэальнага жыцця».

І далей: «У асобе Уладзіміра Васільевіча жыве прыроджаны дух настаўніцтва: далікатнасць, уважлівасць, зацікаўленасць, душэўная цеплыня, духоўная натхняльнасць, інфарматыўна насычаная змястоўнасць парад, поўная адсутнасць прымусу. Кожная размова з Уладзімірам Васільевічам дэманструе яго сапраўдную эрудыцыю вучонага, здольнага прапанаваць перспектыву далейшага даследавання, даць карысную метадалагічную параду. Яго выступленні як навукоўца захапляюць незвычайнай свабодай руху думкі, таямнічай асалодай пазнання, камфортам у «літаратурным лесе». Са словамі Т. Тарасавай шмат у чым пераклікаецца выказванне кандыдата філалагічных навук, загадчыка аддзела выданняў і тэксталогіі Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Алены Васілевіч. «Уладзімір Васільевіч заўсёды здзіўляе неабсяжнай

эрудыцыяй, шырынёй і свабодай мыслення, — адзначае яна. — Уражваюць і неардынарны падыход падчас навуковых даследаванняў, і талент заўважыць асноўнае і лепшае ў любых аўтараў, з'явах ці працэсах.

Не можа не імпанаваць і характэрная смеласць у распрацоўцы самага featureзнага кшталту літаратурнага матэрыялу, дэмакратызм поглядаў, глабальнасць даследаванняў. Разам з тым — гэта чалавек незвычайнай унутранай цеплыні і добразычлівасці, асабліва ў падтрымцы маладых навукоўцаў. Тактоўнасць і ўменне нязмушана прыадчыніць новыя і нечаканыя далягляды навуковых росшукаў я асабліва ацаніла падчас навучання ў аспірантуры. Безумоўна, неаспрэчна і тое, што Уладзімір Васільевіч як чалавек і навуковец шмат у чым паўплываў на маё інтэлектуальнае сталенне…»

Пры непасрэднай кансультацыйнай падтрымцы У. Гніламёдава плённа працуе над доктарскай дысертацыяй кандыдат філалагічных навук, дацэнт Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Т. Падаляк. Яе прызнанне таксама вельмі паказальнае і характарыстычнае. «Глыбокага, адметнага навукоўца-даследчыка Уладзіміра Гніламёдава ведаю з 1990-х гадоў, — падкрэсліла ў нядаўняй нашай гутарцы Т. Падаляк, — з таго часу, калі ён быў дырэктарам Інстытута літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук, а я працавала рэдактарам аддзела культуры газеты «Звязда». Велізарную ўвагу рэдакцыя ўдзяляла праблематыцы нацыянальнай літаратуры, вектарам яе развіцця, рэгулярна знаёміла чытачоў з галоўнымі дзейнымі асобамі беларускага літаратурнага працэсу — паэтамі, пісьменнікамі, драматургамі, публіцыстамі. Менавіта дырэктар Інстытута літаратуры Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў і яго намеснік Сцяпан Сцяпанавіч Лаўшук былі асноўнымі кансультантамі рэдакцыі. Узважанасць, кампетэнтнасць, грунтоўнасць, дакладнасць — гэтыя характарыстыкі «звяздоўскага» медыяадлюстравання былі магчымыя дзякуючы ў тым ліку парадам-падказкам-ідэям Уладзіміра Васільевіча… Паступаючы ў дактарантуру, невыпадкова звярнулася да акадэміка з просьбай пагадзіцца стаць навуковым кансультантам маёй доктарскай дысертацыі «Аксіялогія сучаснай беларускай журналістыкі» — Уладзімір Васільевіч, па сутнасці, увесь час і з'яўляўся для мяне навуковым кансультантам (як для публіцыста і навукоўца). Шчыра ўдзячная мэтру за згоду. Гэта не толькі выдатны даследчык, арыгінальны празаік, цікавы шматгранны чалавек, але і мудры педагог-дарадца».

Ну што тут дабавіш ці ўдакладніш? У. Гніламёдаў адкрыў шлях у вялікае навуковае жыццё 39 кандыдатам і 4 дактарам навук. Гэтыя лічбы не могуць не ўражваць, асабліва калі пранікнешся думкай: якую ж тытанічную працу патрэбна было пакласці на алтар гэтага выніку!..

Дзелавыя, прафесійныя і чалавечыя якасці У. Гніламёдава высока цанілі выдатныя беларускія пісьменнікі і паэты Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Андрэй Макаёнак, Іван Чыгрынаў, Іван Шамякін і іншыя. Напрыклад, даведаўшыся пра тое, што навуковым кіраўніком маёй дысертацыйнай працы з'яўляецца У. Гніламёдаў, падчас адной з нашых сустрэч і гутарак у маі 1993 года Максім Танк заўважыў літаральна наступнае: «Ну, гэта і крытык цікавы, і чалавек, па-мойму, вельмі харошы. Ён так сочыць за літаратурай, за навінкамі ўсімі. Так што можна вас павіншаваць з такім кіраўніком…»

У свой час да ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Беларусі мяне рэкамендавалі Арсень Сяргеевіч Ліс, Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў і Іван Пятровіч Шамякін. Памятаецца, перадаючы дзесьці ў студзені 1998 года тэкст сваёй рэкамендацыі і маючы на ўвазе нядаўняе прызначэнне на пасаду дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі У. Гніламёдава, І. П. Шамякін падкрэсліў: «Супрацоўнікі інстытута павінны радавацца, што ў наш няпросты час маюць такога вопытнага і дасведчанага кіраўніка. Уладзімір Васільевіч — выдатны літаратурны крытык, умелы арганізатар літаратурнага і навуковага жыцця, ён даўно зарэкамендаваў сябе з самага лепшага боку».

Блізкія сяброўскія адносіны на розных этапах свайго жыцця і навуковай дзейнасці У. Гніламёдаў падтрымліваў з Піліпам Пестраком, Іванам Мележам, Барысам Сачанкам, Анатолем Грачанікавым, Уладзімірам Караткевічам, Рыгорам Барадуліным і іншымі выбітнымі асобамі ў нашай літаратуры і культуры. Пра многае гавораць нам, напрыклад, наступныя пранікнёна-лірычныя радкі Р. Барадуліна, пакінутыя ім У. Гніламёдаву падчас аднаго з сяброўскіх наведанняў:

Я не аматар
хітрых кодаў,
Адкрыты тэкст
даю ў эфір:
«Не знайся з сумам,
Гніламёдаў,
Харошы друг Уладзімір!
*Рыгор 29.ІІІ.70 г.*

Мала хто ведае, што якраз на маладым таленавітым крытыку У. Гніламёдаве вывяраў-апрабоўваў многія свае наватарскія літаратурна-крытычныя канцэпцыі і сістэмныя погляды знакаміты даследчык, выдатны знаўца паэтаў і паэзіі Рыгор Бярозкін, што па самых складаных і актуальных праблемах вывучэння слоўнага мастацтва даволі часта з ім раіўся яго былы выкладчык, аўтарытэтны літаратуразнаўца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір Калеснік. Напрыклад, у лісце да свайго былога студэнта ад 4 кастрычніка 1994 года ён віншаваў У. Гніламёдава з абраннем членам-карэспандэнтам АН Беларусі, паведамляў яму, што дапрацоўвае манаграфію «Ветразі Адысея», піша раздзел пра У. Жылку для акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры» ў 4 тамах, «здаў у друк кавалак партызанскіх успамінаў», а далей падкрэсліваў: «Валодзя, я ўласна ўзяўся за гэты ліст, каб вырашыць дзелавое пытанне. Ёсць у мяне нядаўняя рупная студэнтка, якую ўзялі на кафедру ў запрошлым годзе, — Андрэйкавец Надзея родам са Століншчыны, вельмі старанная і працавітая, хоча выбраць тэму дысертацыі ды паспрабаваць сіл. Прапанавала сама дзве тэмы: «Беларуская ідэя ў літаратуры XIX—XX стст.» або «Праблема трагічнага і камічнага ў творчасці Я. Купалы». Мне абедзве тэмы выдаюцца важкімі, змястоўнымі і актуальнымі, а якімі яны выдадуцца Вам, акадэмікам, не ведаю. Не маю інфармацыі, ці не занята ўжо каторая з іх. Трэба было б зарэгістраваць. Памажы, калі ласка, па-зямляцку дзяўчыне, як гэта ты рабіў ужо не раз…

Напішы мне пару слоў, якая з тэм больш перспектыўная і як яе афіцыйна зарэгістраваць».

Закранутая тэма знайшла свой працяг у наступным лісце У. Калесніка да У. Гніламёдава, напісаным 8 лістапада 1994 года: «Калі тэма «Трагічнае ў Купалы» ўжо асвоена, то, канешне, можна было б узяць тэму «Камічнае ў Купалы», толькі мне вядома, што праблема камізму не дужа шырока распрацоўвалася айчыннымі філосафамі і эстэтыкамі. Баюся, што работа выйдзе эмпірычная, усё зоймуць пераказы. Каб гэтага пазбегнуць, я прапаную тэму «Камічнае і яго антыпод у творах Купалы». Гэта надасць рабоце пэўную супярэчлівасць і аб'ёмнасць, можна будзе паразважаць, чаму Купала часта і лёгка пераходзіць ад адной да другой супрацьлеглай эстэтычнай катэгорыі. Выкажы, браце, сваю думку».

У апошняе дзесяцігоддзе У. Гніламёдаў надзвычай ярка заявіў пра сябе як празаік. Унікальнай з'явай на этапе навейшай літаратурнай гісторыі Беларусі стала сямейная хроніка пісьменніка. Яго раманы «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008), «Валошкі на мяжы» (2014), «Вайна» (2014) заключаюць у сабе адзнакі вялікага нацыянальнага беларускага эпасу. У іх У. Гніламёдаў глыбока выявіў гісторыю жыцця беларускага народа на скразняках самага складанага і супярэчлівага — XX стагоддзя, стагоддзя рэвалюцый і войнаў, шматлікіх грамадска-сацыяльных катаклізмаў, змен і пераўтварэнняў. Асоба героя ў яго

сямейнай хронiцы паварочваецца i высвечваецца самымi рознымi гранямi i асаблiвасцямi. Трэба пагадзiцца з З. Драздовай, якая, аналiзуючы тэтралогiю У. Гнiламёдава, падкрэслiвае наступнае: «Чалавек даследуецца ў раманах пiсьменнiка не толькi ў сямейных, сяброўскiх, класавых, прафесiйных, фiласофскiх, але i ў сувязi з жыццём народа ў цэлым, з яго гiсторыяй у дадзены перыяд. Раманiсту цiкавыя розныя пошукi i блуканнi чалавека, дзейнасць яго свядомасцi. Яму ўдалося паказаць «бязмежную разнастайнасць» чалавека, яго багатыя магчымасцi, шматаблiчнасць народжаных iм iдэй. Пiсьменнiк здолеў выказацца па надзённых пытаннях першай паловы XX стагоддзя, паказаць залежнасць чалавечага жыцця ад iдэй, палiтычных тэорый i грамадскiх рухаў, паставiць праблему выбару».

Раманная хронiка У. Гнiламёдава ўражвае шырынёй ахопу грамадска-сацыяльных працэсаў i ў той жа час увагай да прыватнай канкрэтыкi з’яў i фактаў народнага жыцця, праблемна-тэматычным багаццем i разнастайнасцю зместу. Пiсьменнiк раскрыў асаблiвасцi вялiкага беларускага нацыянальнага свету з цэнтрам у вёсцы Пруска, у якiм усё прасякнута глыбiннай унутранай логiкай i высокiм сэнсатворным пачаткам, знаходзiцца ва ўзаемазвязанасцi i ўзаемаабумоўленасцi дэталей i кампанентаў, малога i вялiкага, у суладнасцi i гармонii зместу i формы, функцыянуе ў адпаведнасцi з даўно ўсталяванымi i адладжанымi прынцыпамi i законамi. Гэты свет жыве на аснове адвечных духоўна-сацыяльных традыцый i каштоўнасцей беларускага народа, звязаных з жыццядайнымi земляробчымi заняткамi — ворывам, сяўбой, касавiцай, жнiвом i iнш. У iм канец аднаго з’яўляецца пачаткам другога i наадварот.

Разам з тым тут не толькi традыцыйныя карцiны працоўных будняў i свят беларусаў, але i адлюстраванне iх бежанства падчас Першай сусветнай вайны, жыцця ў Расii, стасункаў i ўзаемадачыненняў з мясцовымi жыхарамi, цяжкiх ваенных катаклiзмаў i г. д.

Тыповае для беларускага мастацкага эпасу хранiкальна-падзейнае адлюстраванне рэчаiснасцi спалучаецца ў У. Гнiламёдава з фiласофска-заглыбленым асэнсаваннем жыцця i чалавека, тонкiмi лiрычнымi замалёўкамi i вiдарысамi. У вынiку з-пад пяра пiсьменнiка паўстае жывы летапiс часу, жывая гiсторыя эпохi ва ўсёй яе дынамiцы складаных грамадска-сацыяльных супярэчнасцей i канфлiктаў, змен i зрухаў.

Адлюстраванне звычайных, канкрэтна-бытавых, падзей i фактаў народнага жыцця ў У. Гнiламёдава арганiчна сумяшчаецца з аналiзам значных грамадска-гiстарычных працэсаў, дапаўняецца маштабнымi духоўна-сацыяльнымi абагульненнямi. Глыбокая праўдзiвасць карцiн i малюнкаў, тонкая пластыка выяўлення рэчаiснасцi забяспечваюцца за кошт цеснага перапляцення, з аднаго боку, рэалiстычна-аб’ектывiзаванага паказу з’яў, а з другога — iндывiдуальна-аўтарскага, эмацыянальна-пачуццёвага, суб’ектыўнага асэнсавання i iнтэрпрэтацыi складанага жыццёвага матэрыялу. Адсюль, па справядлiвай заўвазе В. Локун, i «палiфанiзм яго прозы — як адзнака маштабнага светабачання i глыбiнi пранiкнення ў сутнасць быцця» («Вайна як трагедыя народнага лёсу ў творчасцi Уладзiмiра Гнiламёдава»). Шараговае, бытавое, прыватнае, зменлiвае, часовае абавязкова прадугледжваюць у мастака наяўнасць сацыяльна важнага, агульнанароднага, быццйнага, анталагiчнага, вечнага. У той жа час глыбокая праўдзiвасць апiсанняў i характарыстык абумоўлiваецца ў У. Гнiламёдава майстэрскiм спалучэннем аб’ектыўнага адлюстравання знешняга свету падзей i фактаў i дэталёвага раскрыцця тых змен i зрухаў, якiя адбываюцца ў душэўна-псiхалагiчным свеце героя. Пiсьменнiк стварыў галерэю самабытных чалавечых характараў. Несумненна, вялiкая ўдача празаiка — вобраз Лявона Кужаля. Ацэньваючы духоўна-сацыяльную мiсiю галоўнага героя У. Гнiламёдава, наша крытыка адразу i абгрунтавана паставiла яго ўпоравень з коласаўскiм Мiхалам i мележаўскiм Васiлём Дзятлам. Iх чалавечая свядомасць базуецца на хрысцiянска-рэлiгiйных традыцыях i каштоўнасцях. Яны — сцiплыя, сумленныя, справядлiвыя, дабрадушныя, клапатлiвыя,

спагадлівыя. Іх вызначае любоў да жыцця, да людзей, да роднай зямелькі-карміцелькі. Яны звернуты да сваёй адвечнай прыродна-генетычнай сутнасці, земляробчай наканаванасці. Героям Я. Коласа, І. Мележа і У. Гніламёдава мала цікавяць грамадска-палітычныя працэсы, і Міхал, і Васіль Дзяцел, і Лявон Кужаль макcімальна набліжаны да асноў народнага жыцця, можна сказаць, непасрэдна забяспечваюць гэтыя асновы. Яны мудрыя сваёй практычнасцю і дальнабачнасцю, ураўнаважаныя, памяркоўныя, спакойныя і перакананыя ў сваіх дзеяннях і ўчынках, сканцэнтраваныя на зямлі і працы на ёй як сэнсе жыцця і працягу роду. «Нас выратуе працавітасць, — кажа Лявон Кужаль пра беларусаў, — мы ўмеем працаваць». Варта заўважыць, што герой У. Гніламёдава не проста і не толькі ўмее працаваць, з'яўляецца руплівым, дбайным, умелым ці, як сёння б сказалі, паспяховым гаспадаром, — ён чула і клапатліва адносіцца да сваіх бацькоў, уважліва і добразычліва — да сясцёр, Лявон шчыры, пяшчотны і надзейны муж і бацька.

Яркімі, пераканаўчымі, каларытнымі, жывымі паўстаюць у пісьменніка і іншыя вобразы-персанажы — Фёкла, Андрэй Кляновік, Трахім, Кузёмка, Ілля Аляксандравіч, Таццянка Чудайкін… Яны розныя па ўзросце, па сваіх схільнасцях і сімпатыях, выхаванні, маралі, поглядах на свет і яго першакаштоўнасці, па самой жыццёвай філасофіі, сацыяльным статусе, душэўна-чалавечых якасцях і г. д.

Вось сябар ці прыяцель Лявона — чалавек свету Андрэй Кляновік, непакорны бунтар, самаахвярны рэвалюцыянер, дарэшты аддадзены «чарадзейнай казцы аб камунізме». «Мы вызвалім чалавека ад хвароб, — захоплена гаворыць ён Лявону, — палепшым яго прыроду, гатунак, і нават смерць прымусім адступіць! Не верыш? Мёртвых ажывім! Так, ажывім! Гэта будзе, калі хочаш, новая папуляцыя, новы, чысты, стэрыльны чалавек!» Вядома, Кляновік не ўсведамляе сваіх ідэйных памылковых поглядаў, не разумее няправільнасць свайго жыццёвага шляху. Наадварот, ён лічыць, што памыляюцца тыя, хто пакуль марудзіць, не салідарызуецца з рэвалюцыйным змаганнем, камуністычным рухам, хто не далучаецца да яго і яго аднадумцаў і паплечнікаў.

А гэта — непасрэдны сапернік Лявона прускавец Трахім, грубы, самаўпэўнены, высакамерны, эгаістычны, у нечым як і мележаўскі Яўхім. «Праз колькі дзён сустрэў і Трахіма, — чытаем у пісьменніка. — Здаравец, як і быў. На галаве суконная фуражка з бліскучым брылём. На нагах дабрэнныя боты, са скрыпам. Над жоўтымі вачыма навісалі густыя рудыя бровы, а рот закрывалі такія ж рудыя вусы. Загадаваў. Погляд цяжкі: зірне — быццам калоду табе на плечы ўзваліць». Многае ў паводзінах Трахіма разлічана на знешні эфект: ён усюды імкнецца звярнуць на сябе ўвагу, зрабіць ураджанне, паказаць сваю перавагу над іншымі. З. Драздова, думаецца, правільна заўважае: «Гэты персанаж выглядае ў Гніламёдава шмат у чым памерлым для душэўнага росту, бо мае сэрца звужанае, чэрствае, няздольнае для любові нават да самых блізкіх людзей. Трахім — чалавек, які жыве не сэрцам, а ўласнымі хаценнямі, ён, кажучы словамі чорнаўскіх гераінь (аповесць «Люба Лук'янская»), пазбаўлены «сардэчных сувязей», усялякіх «сардэчных дачыненняў».

Апісанні і характарыстыкі пісьменніка не проста, як прынята ў такіх выпадках гаварыць, дакладныя і трапныя, а яскравыя, маляўнічыя, дыялектычна-пластычныя, нават у многіх выпадках хлёсткія і афарыстычныя. Вось як, да прыкладу, уражліва і запамінальна ён прэзентуе чытачу асобу расіяніна Таццянкі Чудайкіна: «Апрануты ён быў у кароткі зіпунок са шматлікімі латкамі, а абуты ў лапці з аборамі. На галаве — зліняла шапка, на нагах — старыя апоркі. У вачах — спакой і нейкая як бы бессэнсоўнасць». А калі мець на ўвазе, што гэта быў чалавек зусім малога росту ды яшчэ з маршчакаватым тварам, дык перад намі паўстае надзвычай каларытная і адметная натура.

Бясспрэчнай заслугай У. Гніламёдава з'яўляецца тое, што ён першым у айчыннай літаратуры шырока і аб'ёмна паказаў пошукі беларусам чалавечага

шчасця ў Амерыцы. Патрапіўшы за акіян, Лявон Кужаль працуе спачатку мыйшчыкам вокнаў, ліфцёрам, а затым ліцейшчыкам на заводах Форда, рыбаком на Вялікіх азёрах, у фермера Бузука ў Маршалтаўне. Ён з вялікай цікавасцю пазнае законы жыцця новай і дзіўнай краіны, блізка знаёміцца з яе жыхарамі. Упершыню ў нашай літаратуры пісьменнік вывеў шэраг яркіх вобразаў іншаземцаў. Сярод іх, вядома, найперш звяртае на сябе ўвагу каларытная асоба фермера Бузука, які аказаў вялікі ўплыў на Лявона, на развіццё яго жыццёвых уяўленняў і прынцыпаў, кругагляду, працоўных навыкаў і г. д. Мы бачым, што містар Бузук з павагай адносіцца да справядлівай улады, законаў Амерыкі, з'яўляецца яе вялікім патрыётам, але заўсёды помніць пра свае нацыянальныя карані, пра сваё ўкраінскае паходжанне. Ён глыбока верыць у Бога, шмат і прадуктыўна працуе, актыўна цікавіцца грамадскімі працэсамі, палітыкай, дасягненнямі ў навуцы, механіцы і інш. Несумненна, пераканаўчым атрымаўся ў пісьменніка і вобраз негра Букера. На кожным кроку церпячы дыскрымінацыю і несправядлівасць, ён трагічна гіне падчас малацьбы пшаніцы на ферме Бузука.

Гэта вялікая заслуга пісьменніка, вялікае яго творчае дасягненне — паказаць багацце і разнастайнасць жыцця ў такой стракатай і насычанай вобразна-чалавечай палітры. Нічога падобнага ў сучаснай беларускай прозе мы болей неназіраем. Героі У. Гніламёдава — тыповыя прадстаўнікі геаграфічных беларускіх, расійскіх і амерыканскіх абшараў. Яны з гонарам нясуць свой род, сваю сацыяльную місію, прыналежнасць да сваёй зямлі і працы на ёй.

Пісьмо У. Гніламёдава палоніць чытача характэрнай сугестыўнасцю мастацкага мыслення, у якім густая рэчыўнасць рэалістычнага паказу жыцця і чалавека паўстае ў абрамленні тонкіх духоўна-псіхалагічных сентэнцый і рэфлексій, раскаванасць, нязмушанасць аўтарскага аповеду, пільная ўвага да прыроднага каларыту натуры вядуць да яркіх, насычаных малюнкаў. Пісьменнік валодае дарам літаральна лічанымі жывапісна-акварэльнымі штрыхамі стварыць жывую, стэрэаскапічную карціну, паўнакроўную ў сваёй адмысловай дыялектычнай субстанцыйнасці, у якой ёсць і адлюстраванне, і выяўленне, і аналіз, і ацэнка. Напрыклад, пачатак рамана «Уліс з Прускі». Вясковы дзівак-вандроўнік Кузёмка, чалавек «у ботах з блішчастымі халявамі», «са звыклай усмешкай на твары», прыносіць прускаўскім мужчынам навіну: «Стаіцё?! А вунь у двары кажуць — дваццатае сталецце пачалося! Дваццатае!..

Па вуліцы якраз праязджаў у сваім дубовым вазку, грузна калдыбаючыся на ўхабінах, айцец Глеб — бацюшка мясцовага прыхода, накіроўваўся збіраць асяніну. Ззаду прытуліўся дзяк Садоўскі.

Убачыўшы Кузёмку, айцец Глеб незадаволена чмыхнуў у старасвецкую, з сівізной, бараду:

— Пра такіх і ў Пісанні гаворыцца: не сеюць, не жнуць, не збіраюць у житніцу. Здзівіў! Я ўжо год пра сію навасць ведаю…

Вазок уваліўся спачатку пярэднімі, а потым заднімі коламі ў глыбокую калдобіну.

— О-о-о! — не то здзівіўся, не то застагнаў айцец Глеб.

Вазніца, мясцовы селянін, счакаўшы, пакуль бацюшка супакоіцца, таксама хацеў нешта сказаць, але толькі кракгануў, невядома да каго звяртаючыся — да бацюшкі з дзяком ці да каня. Неяк яно будзе, маўляў, жывём жа… І ён меў падставы так думаць, бо, сапраўды, людзі тут трывала прыстасаваліся да жыцця, аціхлі ў сваёй бясконцай і нялёгкай працы, нібы паснулі, зачараваныя замаруджанай плынню штодзённага існавання. Нягледзячы на тое, што гэта быў амаль што геаграфічны цэнтр Еўропы, гістарычны час чамусьці абмінуў яго, несучы змены і навіны іншым краям і народам.

— Гэта — апошнія ліцвіны, — уголас падумаў айцец Глеб, пазяхнуўшы і адвярнуўшыся ад мужчын, што стаялі зняўшы шапкі».

Такімі ці падобнымі да іх карцінамі і апісаннямі літаральна перасыпана ўся раманная эпапея У. Гніламёдава.

Нельга не звярнуць увагі на свабоду і раскаванасць мастацкага дыскурсу пісьменніка, у якім традыцыйная для беларускага эпасу запаволенасць, непаспешлівасць аўтарскага аповеду спалучаецца з вострымі сюжэтнымі сцэнамі і эпізодамі і ў цэлым дынамічным дзеяннем і займальным сэнсарадам, непасрэдны расказ-адлюстраванне перамяжоўваецца з дзённікавымі запісамі герояў, іх ліставаннем, матэрыяламі шматлікіх дакументаў, газетных вытрымак і інш.

Раманная хроніка У. Гніламёдава скіравана да асэнсавання экзістэнцыяльных праблем жыццядзейнасці чалавека, сутнасці яго духоўна-сацыяльнай місіі на зямлі. Раскрываючы асаблівасці складанага і супярэчлівага перапляцення шматлікіх грамадска-гістарычных падзей і працэсаў і асабова-чалавечых лёсаў на шляхах XX стагоддзя, пісьменнік глыбока выявіў асноватворныя прынцыпы і кампаненты філасофіі мыслення, нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, іх менталітэту, беларускага народнага характару.

Раманная эпапея У. Гніламёдава — гэта гімн роднай зямлі і яе народу, гімн духоўна-філасофскім традыцыям і каштоўнасцям беларусаў. Яна з'яўляецца сведчаннем вялікага ідэйна-эстэтычнага патэнцыялу айчыннай літаратуры, невычэрпных магчымасцей беларускага мастацкага слова.

Варта заўважыць, што мастацкая творчасць У. Гніламёдава стала прадметам глыбокага навуковага вывучэння многіх беларускіх даследчыкаў. Яе аналізу цікавыя працы прысвяцілі лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Беларусі В. Жураўлёў і А. Марціновіч, пра раманы У. Гніламёдава пісалі і пішуць вядомыя і аўтарытэтныя крытыкі і літаратуразнаўцы Т. Тарасава, В. Локун, З. Драздова, В. Русілка, Г. Навасельцава, Я. Гарадніцкі ды іншыя. На іх выхад грунтоўнымі аналітычнымі матэрыяламі адгукнуліся буйнейшыя рэспубліканскія перыядычныя выданні — часопісы «Полымя», «Нёман», «Маладосць», «Беларуская думка», «Роднае слова», «Весці», газеты «Літаратура і мастацтва», «Звязда», «Веды» і іншыя.

Паказчыкам вялікай сацыяльнай значнасці ідэйна-мастацкіх пошукаў і адкрыццяў У. Гніламёдава з'яўляецца той факт, што ў рамках нядаўняга шырокага і прадстаўнічага еўрапейскага форуму — міжнароднай навуковай канферэнцыі «Першая сусветная вайна ў народнай памяці і мастацкім адлюстраванні», якая адбылася ў Дзяржаўнай навуковай установе «Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі», была арганізавана работа спецыяльнай секцыі «Падзеі Першай сусветнай вайны ў раманнай хроніцы Уладзіміра Гніламёдава». Як вядома, работа канферэнцыі ажыццяўлялася ў трох асноўных напрамках — літаратуразнаўчым, культуралагічным і гістарычным. У ёй прынялі ўдзел вучоныя з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Вялікабрытаніі і многіх іншых краін свету, паслы і прадстаўнікі пасольстваў дзесяці замежных краін і Еўрасаюза. Усяго на пленарным пасяджэнні і сямі секцыях было заслухана больш за сто навуковых дакладаў.

Фактычна пра вялікае грамадска-сацыяльнае значэнне ідэйна-мастацкіх пошукаў У. Гніламёдава сведчаць і словы былога старшыні Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а цяпер старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь М. Мясніковіча. Выступаючы з дакладам на Сесіі агульнага сходу НАН Беларусі 5 лютага 2010 года, ён, у прыватнасці, падкрэсліў: «Можна купіць нямецкі трактар ці камбайн, можна запрасіць амерыканскага спецыяліста, хіміка ці біёлага, каб паставіць у Беларусі завод, абучыць персанал. Але не набудзеш па імпарце веды пра нашу мову, культуру, гісторыю, літаратуру. Гэта чыста наша, нацыянальная зона адказнасці. Гэтыя веды патрэбны нашым дзецям і ўнукам, патрэбны нацыі, нашаму народу — адукаванаму, памяркоўнаму, шчыраму. Навукоўцы-гуманітарыі стараюцца, гэта так. Але, шаноўнае спадарства, не крыўдуйце — вельмі дробныя Вашы творы. У свой час акадэмік Іван Навуменка на гэты конт мне адказаў мудра: «У нас рэкі невялічкія, лясы — не тайга, зямелька таксама не стэп, таму і літаратурныя творы такія». Не буду спра-

чацца з пісьменнікам. Але я ўпэўнены, што нашы творцы здольны працягнуць справы вялікіх Шамякіна, Быкава, Мележа, Караткевіча. Мяркую, што і Дудараў яшчэ змог бы парадаваць нас новай яскравай драматургіяй. Маю высновы так гаварыць. Падарыў жа грамадству акадэмік Гніламёдаў у апошнія гады тры новыя цудоўныя творы і, ведаю, амаль закончыў чацвёрты раман. Дзякуй Вам, паважаны Уладзімір Васільевіч!»

Я ведаю, за ідэйна-мастацкімі пошукамі У. Гніламёдава зацікаўлена сочаць і горача іх падтрымліваюць старшыня Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі У. Гусакоў, акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі А. Каваленя, выдатныя беларускія вучоныя-гуманітарыі — акадэмікі А. Лакотка, Я. Бабосаў, Д. Шыраканаў, члены-карэспандэнты НАН А. Лукашанец, А. Данілаў, Л. Яўменаў, А. Дайнека, доктар мастацтвазнаўства В. Жук, доктар філалагічных навук А. Ліс, доктар філасофскіх навук В. Пракошын, кандыдат філасофскіх навук А. Лазарэвіч, кандыдат гістарычных навук В. Даніловіч і многія іншыя.

Творчасць У. Гніламёдава літаральна ўскалыхнула шырокія чытацкія колы беларускай грамадскасці. Многія жыхары Беларусі, прадстаўнікі самых розных сацыяльных сфер, розных узростаў, адукацыі і г. д. звяртаюцца да пісьменніка з лістамі ўдзячнасці, у якіх прызнаюцца ў своеасаблівым адраджэнні цікавасці да беларускай літаратуры, у прыватнасці, прозы, адзначаюць глыбокае разуменне аўтарам праблем народнага жыцця, сацыяльна-гістарычных працэсаў, тонкае выяўленне духоўнага свету асобы героя, высокае майстэрства псіхалагічнага аналізу, апісанняў і характарыстык, звяртаюцца да яго з пытаннямі, просьбамі і інш. У гэтых адносінах дужа паказальны і красамоўны ліст да У. Гніламёдава чытачкі з Пінска, урача па прафесіі Таццяны Рыгораўны Дубінецкай. Звяртаюся да яго і цытую таму, што ліст прыйшоў на мой хатні адрас з просьбаю, каб я перадаў яго непасрэдна пісьменніку. «Прачытала Ваш раман «Расія», — піша Т. Дубінецкая 23 лютага 2015 года, звяртаючыся да Уладзіміра Васільевіча. — Хачу выказаць Вам вялікую падзяку за Вашу творчасць, Вашу мудрасць. Атрымала моцныя ўражанні ад жыцця, няўзгод нашых блізкіх, нашых землякоў. Многае мяне закранула да глыбіні душы. Асабліва памяркоўны, ураўнаважаны Лявон, адказны ў першую чаргу за сям'ю, родных, а не ўвогуле за ўсё чалавецтва.

Гэты раман толькі і ўяўляю на беларускай мове. Вельмі трапныя выказванні. Я заўжды лічыла, што так могуць толькі нашыя, мястэчковыя, родныя, а тут і ў Вас такое багацце мовы (пад'ялдыкваць і многія многія іншыя трапныя словы і выказванні). Лявон ні ў якіх акадэміях не вучыўся, а жанчыну разумее, як «акадэмік». А ўся яго сям'я, дзед, маці, не спяшаюцца асуджаць, паняцці дабра і зла ў іх крыві».

І далей: «А камуны… Напомнілі мне лёс маіх блізкіх. П'яны ўпаўнаважаны, з наганам, непрыстойна ругаючыся, уварваўся ў хату майго дзядулі Цімоха. Дзед быў ганарысты і не змог пасля такога жорсткага прымусу падпарадкавацца гэтаму гэкачэпісту — уступіць у калгас. І адзін у невялікай вёсачцы застаўся па-за калгасам. А які ён багацей, як і мой бацька пазней, працаўнікі. Мой бацька ездзіў і вазіў усё, што трэба было для жыцця. Калгас нічога не даваў аднаасобнікам, ды і калгаснікам адны толькі «палачкі».

Такія ж мясціны ў рамане, як і нашы родныя пад Пінскам, вёска Болгары, Хойна (25 км ад Пінска). Бацька быў заядлы рыбак і паляўнічы і ўсе гэтыя балоты схадзіў уздоўж і ўпоперак.

Бедная вёска, побыт, звычкі, прырода, добрыя працавітыя сяляне, вострае з гумарам слоўца, калаварот гісторыі і ўладаў, немцы — Польшча — саветы. Засталося процьма дзотаў у нашых мясцінах з Першай сусветнай. Пакорлівасць, незлаблівасць і цярпімасць да ўдараў лёсу нашых землякоў — адно да аднаго з рамана да маіх родных. Ілья Аляксандравіч і дзед Цімох, як пісаны з гэтых людзей. Працавітыя.

Дзякую за тое, што Вы так тонка разумееце жыццё нашай недалёкай гісторыі. Я з Вашага рамана пазнала многа новага і цікавага пра нашу айчынную гісторыю».

Дзеля чаго працуе пісьменнік?.. Шмат у чым і дзеля таго, каб па меры магчымасці атрымліваць вось такія чытацкія лісты. Але іх трэба заслужыць… Гэта вялікая ўзнагарода для любога аўтара… Заслужыць талентам, цяжкой, шчырай і самаадданай працай. Аднак не кожнаму тое пад сілу. У. Гніламёдаў, як бачым, заслужыў.

З Уладзімірам Васільевічам вельмі лёгка і прыемна гутарыць на самыя складаныя навуковыя і жыццёвыя тэмы, абмяркоўваць самыя важныя грамадскія і асабістыя праблемы, бо ён шчыры і глыбокі чалавек, вялікі прафесіянал, патрыёт роднай Беларусі, выдатны знаўца яе гісторыі і культуры, клапатлівы настаўнік, надзейны сябра. Веды яго не проста грунтоўныя — энцыклапедычныя, думкі і перакананні выверaныя багатым і шматстайным жыццёвым вопытам.

Уладзімір Васільевіч ніколі не шукае ісціну дзесьці на паверхні жыццёвых з'яў і працэсаў, а ідзе ў глыбіню, дакопваецца да іх прычынна-выніковых сувязей. Іншымі словамі, ён не толькі бачыць крону, але і адчувае карані, уяўляе вытокі.

Папытай яго пра мастацкі вобраз, тэму і ідэю або сюжэт і кампазіцыю твора — і ён разгорне цэлую сістэму тэарэтычных разваг і абгрунтаванняў, рэалізаваных і нерэалізаваных у айчыннай і замежнай пісьменніцкай практыцы. Звярні ўвагу на нейкую новую кнігу (не абавязкова, дарэчы, звязаную з мастацкай літаратурай) — і ён сціпла заўважыць, што чытаў яе яшчэ дзесьці ўлетку, а то і зусім напрыканцы мінулага года. Закрані праблему сэнсу чалавечага жыцця — і ён параіць намацваць яго ў любові да роднай зямлі і яе каштоўнасцей, шукаць у стваральнай працы, жыццядайнай энергетыцы, супрыроднасці. Услых задумайся над тым, дык хто ж ён у першую чаргу — літаратуразнаўца і літаратурны крытык ці празаік? — і ён з лёгкім дакорам пачціва прамовіць: пісьменнік…

Мы стаім пасля спорнага дажджу перад акном і з вышыні трэцяга паверха неяк нават засяроджана пазіраем у яго нешырокае празрыстае праймішча. Нешта трохі за поўдзень. Угары ярка шугае вогнішча шчодрага блакіту, да якога, праўда, зноў марудна падступае пляма вогкай шэрані. Хвалі сонечнага святла імкліва ліюцца ў невялікі пакой, лагодна ахінаючы нашы постаці і напаўняючы яго цеплынёй і прасторам. Трохі збоку ўнізе ляжыць шумлівы праспект. Бліщчасты пасак мокрага асфальту таямніча хаваецца за зелянінай кучматых дрэў і кустоў.

Палае жаўцізною восень жыцця… На яго твары задумлівыя вочы ў акаймленні лёгкага ажыўлення і прасветленасці.

Уладзімір Васільевіч разважае пра сваё жыццё. Успамінае нямецкую акупацыю, нялёгкае, але светлае і незабыўнае дзяцінства з яго клопатамі і забавамі, родных і блізкіх, прыход у літаратуразнаўства і літаратуру, пра суадносіны заканамернага і выпадковага ў чалавечым лёсе. Кажа, усім, што сёння мае, абавязаны сваім духоўным бацькам, мілым і дарагім выхавацелям — бабе Фёкле Цімафееўне ды дзеду Лявонцію Міхайлавічу. Яны адносіліся да яго, як да роднай крывінкі, — вучылі, шкадавалі, усяляк аберагалі. «Калі ўспамінаю іх, — уздыхае Уладзімір Васільевіч, — дык часам і слязу змахну — дужа нялёгкім і клопатным было іх жыццё…»

Боль і гаркота апяклі сэрца, калі, служачы ў войску, даведаўся, што не стала бабы Фёклы. Не стала найроднай на зямлі душы, неўтаймоўнай руплівіцы-працаўніцы, клапатлівай і пяшчотнай заступніцы і апякункі, надзейнага і дарагога сябра. Даведаўся са спазненнем — бацькі пабаяліся своечасова паведаміць сыну цяжкую звестку, каб не нанесці яму душэўнай траўмы, засцераглі ад прыезду на пахаванне.

Яго вочы праясняюцца іскрынкамі шчодрай цеплыні і пяшчоты, адчуваннем віны і адначасова азмрочваюцца бязмежным сумам і шкадаваннем па той далёкай незваротнай страце.

У. Гніламёдаў гаворыць пра асноватворныя духоўныя каштоўнасці асобы і людской супольнасці, пра давер і сумленне, маральны абавязак і працу. На яго думку, чалавек жыве толькі адзін раз, а таму мусіць шукаць пэўныя стымулы, каб абуджаць свае духоўныя сілы і патэнцыі, падтрымліваць смак да жыцця.

Тое, што ўчора было праўдай, заўважае Уладзімір Васільевіч, сёння з'яўляецца ёю ўжо не ў такой ступені, а то і зусім не з'яўляецца. Па-сапраўднаму прыгожае даволі часта прытоена ў вонкава непрыгожым, вялікае мастацтва, бывае, пачынаецца са звычайнага рамесніцтва, а то і кан'юнктуры. Радасць і захапленне, з аднаго боку, і драма і бяда, з другога, у літаратурнай творчасці маюць прыкладна аднолькавую вагу. Каб стаць аўтарам шэдэўра, часам трэба перажыць вялікае гора ці ўсвядоміць чужое гора як сваё асабістае.

Як зазвычай, я ўважліва слухаю свайго настаўніка, бачу, як нараджаецца яго глыбокая пластычная думка, ажываюць у памяці даўнія падзеі і назіранні. Ён раз-пораз задумліва ўздымае свае вочы і хвалю за хваляй разгортвае цікавы аповед, насычаны важнымі дэталямі і падрабязнасцямі.

Па маёй просьбе У. Гніламёдаў разважае пра асаблівасці сваёй творчай лабараторыі, пра тое, як спалучаюцца ў ёй халодны разлік вучонага-літаратуразнаўцы, акадэмічная рацыянальнасць тэарэтыка і гісторыка слоўнага мастацтва і гарачае парыванне пісьменніка-практыка. Ён кажа, што ў навуковых працах «заўсёды імкнуўся спалучаць гістарычнае з тэарэтычным, пранікнуць у абсягі эстэтычнага аналізу, паказаць адметнасць вобразнасці, вабнасць, прыгажосць, рэльеф мастацкага твора, з тым, каб можна было палюбавацца той духоўна-эстэтычнай рэальнасцю, якая складае яго змест». Літаратуразнаўчы і пісьменніцкі пачаткі не толькі не супрацьдзейнічаюць у яго адзін аднаму, а наадварот, з двух бакоў дапамагаюць агульнаму прадуцыраванню аўтарскай думкі.

Адзначае экстравертны характар беларускай паэзіі, яе звернутасць да адлюстравання знешняга свету падзей і фактаў. На думку акадэміка, ёй не хапае самааналізу, лірычнага псіхалагізму, усяго таго, што ідзе ад асобы аўтара, тыпу яго светаўспрымання і мыслення.

Я, як маладзейшы і менш выхаваны, часам у нашых гутарках дазваляю сабе даволі крытычныя заўвагі і рэплікі адносна той ці іншай літаратурнай з'явы. Ён жа заўсёды ўсведамляе зерне яе нерэалізаванага патэнцыялу і развіцця, перспектывы росту. Уладзімір Васільевіч, напрыклад, кажа, што ў параўнанні з ранейшымі часамі, нашы сучасныя маладыя паэты ў персаналіях яму неяк не бачацца. Беларуская паэзія перажывае няпростыя часы, але, без ніякіх сумненняў, яна неўзабаве актывізуе свае пошукі і развіццё. Наперадзе яе чакаюць уздым і росквіт.

Успамінае І. Мележа, які падабаўся яму сваёй чалавечай, духоўнай сутнасцю, прыгадвае М. Танка, І. Шамякіна, Б. Сачанку, некаторых іншых мастакоў слова. Каб стаць пісьменнікам, кажа ён, трэба быць уважлівым да ўсяго, назіральным, любіць жыццё, радавацца яму, як цуду, смакаваць кожнае імгненне існавання.

Вялікую пазнавальную цікавасць уяўляюць разважанні знакамітага вучонага і пісьменніка пра літаратуру і сучаснасць. Тут сапраўдны «кландайк» для тых, хто займаецца асэнсаваннем сувязей мастацкай творчасці і жыцця, рэчаіснасці, бягучых грамадска-сацыяльных працэсаў, цэлы россып каштоўных думак і ідэй, назіранняў і абагульненняў. Здаецца, бяры любое, развівай і атрымаецца арыгінальнае даследаванне. «Сёння часта чуюцца галасы накшталт таго, — кажа Уладзімір Васільевіч, — што «аўтар памёр», «літаратурны працэс абмялеў і знік», «літаратура скончылася». Ці так гэта? Вядома, усё цячэ, змяняецца, але патрэба ў літаратуры не адпала і яна не знікла, не парвала са сваімі асноватворнымі традыцыямі. Маральнай, нраўсцвеннай асаблівасцю нашай літаратуры было тое, што яна заўсёды судакраналася з народным лёсам, з усім тым, з чым гэты лёс быў звязаны. Яна страсна сцвярджала гуманістычную ідэю каштоўнасці чалавека як жывой, крэатыўнай істоты, адлюстроўвала нацыянальную ідэнтычнасць народа,

матэрыяльны і духоўны ўклад жыцця, мову і традыцыі, характар і распаўсюджаныя тыпы асобы.

Літаратура — наша люстра і наша памяць. Яна стане яшчэ бліжэй і даражэй нам, калі мы пранікнем у яе сацыяльна-эстэтычную прыроду, зразумеем гістарычныя асаблівасці. Нягледзячы на тое, што «літаратурацэнтрызм» у многім стаў атрыбутам мінулага, літаратура была і застаецца летапісам жыцця і адначасова чалавеказнаўствам, незаменным сродкам пазнання чалавека ў яго сувязях з навакольным светам, з працэсам фарміравання, станаўлення нацыі. Беларуская літаратура ва ўсе часы імкнулася пранікнуць у субстанцыю народнага жыцця, выявіць карэнні і асновы грамадскага, чалавечага быцця, даць вобраз часу».

Маючы на ўвазе беларускую літаратуру апошніх дзесяцігоддзяў, Уладзімір Васільевіч заўважае: «Зменшыўся маштаб пісьменніцкай асобы і, адпаведна, маштаб творчасці, хаця літаратура і не звужае сваёй тэматыкі, па-ранейшаму імкнецца трымаць у полі зроку важнейшыя праблемы жыцця, шукаць новыя, сучасныя падыходы да іх асэнсавання. Творы сучасных беларускіх пісьменнікаў, такіх, як В. Зуёнак, В. Казько, А. Вярцінскі А. Федарэнка, А. Разанаў, Л. Левановіч, Ю. Станкевіч, М. Мятліцкі, У. Саламаха, А. Бадак, Б. Пятровіч, В. Шніп, Т. Сівец, Н. Касцючэнка, М. Пазнякоў і многіх іншых, дапамагаюць літаратуры ў пошуках праўдзівага, адэкватнага слова, садзейнічаюць у выкараненні застарэлага грэху сервільнасці. У лепшых творах абмяркоўваюцца пытанні прызначэння чалавека, яго ўзаемадачыненняў з прыродай, грамадствам, зямлёй, космасам. Літаратура імкнецца зразумець, што аб’ядноўвае ў адно цэлае, скажам, кветку пралескі, бляск зоркі і лёс чалавека.

Наш час — час усталявання капіталістычных адносін у грамадстве, — працягвае У. Гніламёдаў — прывучае чалавека да жыццёвай, дзелавой актыўнасці, намагаецца загартаваць яго ў пустыні індывідуальнай барацьбы за існаванне. У 90-я гады перамагае ўстаноўка на асабістую рызыку і адказнасць, цэніцца дзелавітасць. У Беларусі марудна, але ідзе фарміраванне грамадзянскай супольнасці. Умацоўваецца вера людзей у самарух самога жыцця, у тое, што ўсё ўрэшце ідзе да лепшага, што людзі разумнеюць, набіраюцца досведу, што іх згуртоўваюць агульначалавечыя каштоўнасці.

Уладзімір Васільевіч устрывожаны тым фактам, што сёння, як ён кажа, размываюцца межы паміж сур’ёзнай літаратурай, вытрыманай у класічных традыцыях, і літаратурай масавай, разлічанай на не надта патрабавальнага чытача. Адна і другая, між іншым, карыстаюцца пэўным попытам, маюць свайго спажыўца.

Сёння літаратура больш уважліва, чым учора, узіраецца ў чалавечае жыццё, сферу грамадскай свядомасці, індывідуальныя лёсы і характары. Назіраецца агульны нахіл да шчырасці, верагоднасці, праўдзівасці і дакументалізму. Уладзімір Васільевіч адзначае ўзмацненне дакументальнага пачатку ў развіцці сучаснай беларускай літаратуры: «Павялічылася ўдзельная вага факта ў сучаснай прозе, у пошуках пісьменнікаў, актывізуецца мемуарная плынь, сцвярджае ён. Мастацкая форма даволі часта набліжаецца да публіцыстыкі, эсэ, рэпартажу, а часам нават да навуковага даследавання.

Разнастайны фактычны матэрыял праходзіць праз прызму прафесійнай пісьменніцкай свядомасці, уважліва аналізуецца, адбіраецца, кампазіцыйна арганізуецца, усебакова асэнсоўваецца. Пошук фактаў становіцца пошукам новых дакументальных і мастацка-дакументальных выяўленчых сродкаў, новых жанраў. Усё гэта абумоўлівае поспехі дакументальнага слова».

Дакументальныя жанры, па меркаванні У. Гніламёдава, багатыя на разнастайныя адценні. Сюды ўваходзяць дзённікавыя, публіцыстычныя, нарысавыя кнігі, гісторыка-мемуарныя творы, навукова-даследчая літаратура.

Літаратура намаганнямі многіх пакаленняў пісьменнікаў паглыбляе памяць і ўяўленне пра вайну, паказваючы яе ва ўсёй праўдзівасці перажытага і выпакутаванага народам, пазбягаючы іранічных інтанацый, фальшу.

Важнае пытанне сучаснага літаратурнага працэсу, — падкрэслівае У. Гніламёдаў, — прадмет і метады мастацкага пазнання і адлюстравання жыцця. Пазнанне чалавека было і застаецца галоўным прадметам літаратуры. Больш за тое, сёння цікавасць да чалавечых глыбінь асобы выходзіць у ёй, як і ва ўсім мастацтве, на першы план. Не заўсёды ёсць патрэба рэзка размяжоўваць літаратуру па тэмах і звязваць з гэтым мастацкія крытэрыі літаратурнай творчасці. Не варта, скажам, «народны характар» звужаць пераважна да паняцця «характару селяніна», бо ў складванні гэтага характару прымала ўдзел не толькі сялянства, але ўвесь народ, усё грамадства.

«Не стаіць на месцы, развіваецца, — сцвярджае У. Гніламёдаў, — не толькі біялагічная прырода чалавека, але і яго сацыяльнае, грамадскае аблічча. Чалавек у большай ступені, чым раней, стаў цікавым для сябе, ён стаў заўважаць «другога», іншага, аказаўся здольным на ўчынак, асмельваецца думаць па-свойму — усё гэта ідэйныя вынікі XX стагоддзя. Літаратура наша назапасіла багаты мастацкі матэрыял, досвед пісьменнікаў значна пашырыўся. І чым болей здабыта крупіц мастацкіх адкрыццяў, тым настойлівей патрэба ў новым мастацкім сінтэзе, у смелым ахопе рэчаіснасці, ва ўменні за сціплым фактам убачыць патаемныя, запаветныя глыбіні быцця».

У нас нядаўна група таварышаў ад літаратуры на адным сумна вядомым інтэрнэтпартале зусім сур'ёзна ставіла пытанні аб тым, што такое крытыка, як стварыць крытыку і інш., не ведаючы ці не разумеючы, што гэта адзін з трох раздзелаў літаратуразнаўства, што яна даўно і даволі актыўна развіваецца.Назіранні Уладзіміра Васільевіча, якога некалі з Акадэміі навук запрасілі на працу ў апарат ЦК КПБ найперш і галоўным чынам за выдатныя літаратурна-крытычныя працы, вызначаюцца надзвычайнай глыбінёй і арыгінальнасцю зместу: «Крытыка вучыцца бачыць у мастацкім тэксце, як таго патрабаваў М. Бахцін, складаную сістэму сувязей, рухомае і зменлівае адзінства, якое можна раскладаць на састаўныя часткі, разнімаць і аналізаваць, тлумачыць, але да дна вычарпаць немагчыма, таму што яго сутнасць — шматзначнасць. Тэма твора ці аб'ект адлюстравання пачалі губляць каштоўнасную сілу. Увага крытыкі павярнулася да «краевугольных слоў», антыноміяў матываў, да паэтычнага сінтаксісу, постаці апавядальніка, індывідуальнасці інтанацыі, законаў рытму, узбагачэння жанравага канона. Крытыка заклапочана перш за ўсё тым, каб устанавіць «код» твора — як камунікатыўнага акта, які становіцца ўсё складаней у XXI стагоддзі, ускрыць як мага болей сэнсавых слаёў яго полісемантычнага адзінства. Абазначаюцца апазіцыі ў структуры твора: высокае — нізкае, чорнае — белае, дзень — ноч, агонь — вада, вяршыня — глыбіня, добрае — дрэннае, свет — дом, жыццё — смерць. Падлічваецца, колькі разоў сустракаюцца ў творы прыметнікі сіні, зялёны, чырвоны, шэры, — такім чынам устанаўліваецца каляровая гама. Складаецца пералік дзеясловаў, які фіксуе асноўныя сэнсы твора і акрэслівае кругагляд аўтарскага мыслення і г. д. Аднак падобная крытычная інтэрпрэтацыя не тычыцца пытання аб каштоўнасці твора. Частотны слоўнік ці бінарныя апазіцыі, тапонімы ці аксюмароны аднолькава адлюстроўваюць колькасную будову як моцных, так і слабых кніг, таму што застаюцца абыякавымі да эстэтычных абертонаў сэнсаў.

Пазнанне каштоўнасці твора — важнейшая задача крытыкі. Найсучаснейшыя тэорыі не могуць замяніць непасрэднага перажывання мастацкай каштоўнасці. Гэта духоўная энергія крытыкі, з якой ствараецца прастора і напружанне літаратурна-крытычнага тэксту, як раманіст, паэт ці драматург ствараюць свае творы з перажывання агульначалавечых каштоўнасцей. Ва ўстанаўленні каштоўнасці ўдзельнічаюць усе якасці асобы: сіла інтэлекту, жыццёвы вопыт, маральныя прынцыпы, эстэтычная чуласць, культурная памяць, інтуіцыя».

І яшчэ: «XXI стагоддзе мала чым падобнае да XX. Змяніліся, сталі больш прагматычнымі адносіны паміж людзьмі, якія апынуліся ва ўмовах сацыяльнай адзіноты і вымушаны весці ідывідуальнае змаганне за існаванне. Чалавек аднак

павінен заставацца чалавекам, здольным на дабрату, чалавечнасць, пошукі адказу на пытанне пра сэнс свайго існавання. Літаратура выступае як захавальніца і стваральніца духоўных каштоўнасцей, якія выступаюць адначасова як крыніца чалавечых патрэб і як норма быцця. Параметры жыццёвых, духоўных каштоўнасцей літаратура мадэлюе на матэрыяле сямейнага, грамадскага, дзяржаўнага жыцця. Яна прасвечвае кожны атам гэтага матэрыялу, не прызнаючы забаронных зон. Сёння, калі шмат што істотна змянілася, гэтых зон, здаецца, і наогул няма. Не ўсё, на жаль, змянілася ў лепшы бок. У многім страцілі сілу рычагі маральнага рэгулявання. Філосафы і сацыёлагі гавораць пра «пераломную сітуацыю» ў маральнай сферы. Сталася так, што сёння ад чалавека ў першую чаргу патрабуецца запас ведаў, дзелавітасць, прабіўная сіла характару, а духоўныя, маральныя якасці адыходзяць на задні план.

Сучасная літаратура — у руху, у спаборніцтве пісьменнікаў і твораў, у пошуках. Без сістэмы каштоўнасцей, без згуртоўваючых, інтэгруючых ідэй грамадства існаваць не можа. Тут і павінна сказаць сваё слова літаратура. Даць канкрэтны прагноз яе стану на заўтра, прадказаць тэматыку, тэндэнцыі і напрамкі немагчыма, але ясна адно: развіццё літаратуры не спыніцца, нават калі б нехта захацеў яго спыніць. Патрэба ў мастацка-эстэтычным пазнанні і творчасці такая ж неадольная, як само жыццё. Сёння мы апынуліся ў новых гістарычных умовах XXI стагоддзя, і значэнне літаратуры ўзрастае, ніколькі не губляючы сваёй актуальнасці. Яна — наш нацыянальны пашпарт, па якім нас пазнаюць у свеце, яна мае адначасова нацыянальнае і агульначалавечае значэнне. Яна прасякнута вітальнаю сілаю, выступае на баку жыцця, чалавека, яго правоў і каштоўнасцей.

Практыка паказвае, што толькі тое застаецца ў гісторыі, у людской памяці, што атрымлівае пацвярджэнне ў літаратуры».

Да сваёй працы і ў цэлым творчага і жыццёвага лёсу Уладзімір Васільевіч адносіцца як да нечага звычайнага, заканамернага, лагічнага, называе сябе, удакладняючы, не столькі пісьменнікам, колькі апавядальнікам, наратыўшчыкам. Што датычыць вынікаў гэтай працы, дык імі, відаць, ніколі не будзе задаволены.

Я люблю яго пранікнёныя аповеды. Здараецца, Уладзімір Васільевіч, як дзіця, радуецца кожнай новай згадцы з дзівоснага свету мінулага з яго маладымі сіламі і жаданнямі, неўтаймоўнай энергіяй пошукаў і самасцвярджэння. Ён літаральна свеціцца святлом успамінаў, цяплом шчырай і глыбокай удзячнасці людзям, якія спрычыніліся да яго жыццёвага лёсу.

Пазіраеш на яго, слухаеш і міжволі адчуваеш, што ўзаемадзейнічаеш з высокай, светлай і гарманічнай душою, глыбокім, справядлівым і дасканалым розумам. Далучаешся да багатага і разнастайнага сацыяльна-маральнага вопыту выдатнага айчыннага вучонага і пісьменніка, пранікаешся глыбокай павагай і любоўю да яго асобы, вызначаеш сваю сістэму жыццёвых каардынат і крытэрыяў з папраўкай на высокія духоўна-маральныя і грамадзянска-патрыятычныя прынцыпы і каштоўнасці.

Мне здаецца, ён шмат і паспяхова вучыўся непасрэдна ў прыроды, арыентаваўся на яе спакой, меру і гармонію. А ні для каго не сакрэт, што сіла і краса творцы, у прыватнасці, пісьменніка, у яго цесных сувязях і дачыненнях з багатым і разнастайным прыродным асяроддзем.

Я неаднойчы заўважаў, што Уладзіміра Васільевіча найперш цікавяць першародны стан з'явы, некрануты матыў роднага краявобраза, цеплыня прадметнай рэчыўнасці жыцця. У адрозненне ад шмат каго, ён мае ахвоту не так да ўзнёслапаэтычнага, як да звыкла-будзённага. Нездарма прызнаецца, што неадэкватна паводзіць сябе «і ў горадзе, і дзе-небудзь на прыродзе», спыняецца «не там, дзе патрэбна было б спыніцца па звычайнай чалавечай логіцы».

Увагу акадэміка У. Гіламёдава можа прыцягнуць мернае пакалыхванне свіслацкіх хваляў падчас лёгкіх павеваў асенняга ветру або дзівоснай канфігурацыі цень на марозным цаліку ў парку. Ён можа надоўга затрымацца каля звычайнага

кражыстага карча, зіхатліва-мітуслівага мурашніка ці нават сямейкі пудлівых вераб'ёў дзесьці ў лясной глухамані.

А вось Уладзімір Васільевіч да глыбіні душы ўзрушаны даўняй народнай песняй, якую чуў яшчэ ад бабы Фёклы, шчымлівай тэлевізійнай перадачай, звязанай з пошукамі людзей. Безумоўна, яго арганічнасць і натуральнасць ідуць і ад глыбокага адчування і разумення складанай дыялектыкі жыццёвых з'яў і працэсаў, як гэта ні прагучыць банальна, ад любові да чалавека, усведамлення яго непаўторнасці і безабароннасці.

Здаецца, У. Гніламёдаў нікому не зайздросціць, нікому не помсціць, нават стараецца ні пра кога кепска не думаць. Ад яго даволі часта можна пачуць, што ўсім нам жывецца нялёгка, у кожнага свая, адпаведная яго індывідуальнаму патэнцыялу, мера цяжару. Ён, здаецца, зусім раўнадушны да пасад і званняў, багацця і вядомасці. Я заўсёды дзіўлюся той чалавечай сціпласці, з якой Уладзімір Васільевіч паводзіць сябе сярод людзей, таму, як успрымае ўвагу да сваёй асобы ў нашай грамадска-культурнай супольнасці.

Акадэмік У. Гніламёдаў добра ведае цану чалавечай слабасці, прабачае нявыхаванасць і няўдзячнасць, не звяртае ўвагі на зайздрасць, злосць і несправядлівасць. Ён верыць у вялікі маральны закон жыцця — заўсёды заставацца сабой, быць асобай.

Ён не з тых, хто схільны наракаць ды скардзіцца, некага ў нечым прасіць і на некага надта спадзявацца. Ён заўжды разлічвае на сябе, на свае веды і вопыт, на сваю працу і яе вынікі.

Я добра ведаю свайго настаўніка. Уладзімір Васільевіч не любіць пазіцыянаваць сваю асобу — распавядаць пра творчыя задумы і планы або пра тое, што яшчэ не завершана, прапагандаваць кнігі і г. д. Ідзе цяжкая, карпатлівая, натхнёная праца — пошукавая і наватарская па сваім характары ў беларускай нацыянальнай літаратуры. Ён перакананы ў тым, што яна, гэтая праца, і яе вынікі ўсё паставяць на свае месца, дадуць адказы на складаныя і важныя пытанні, прынёсшы патолю яго душы і сэрцу.

І таму ён натхнёна працуе, піша. Піша, як жыве. А жыве натуральна, арганічна, шчыра, з адчуваннем смаку да кожнага новага дня, да яго золкай раніцы, блакітнага неба, сонца, снегу, дрэў і аблокаў.

З любоўю да ўсяго сапраўднага, таго, што дорыць радасць і шчасце існавання на зямлі.

Смаку да жыцця Вам на доўгія гады, дарагі Уладзімір Васільевіч, ды новых цікавых, наватарскіх, адкрыўчых кніг на спажытак шматлікіх удзячных чытачоў!



Юлія АЛЕЙЧАНКА

# НАШЫ ЗАЛАТЫЯ МАРЫ




*Пас ДАМЕЙКА ЛЕА-ПЛАСА*

**ІГНАТ ДАМЕЙКА: З МЯДЗВЯДКІ — У САНЦЬЯГА-ДЭ-ЧЫЛІ (1802 — 1889)**
***Пераклад з іспанскай***

*Мн., Выдавецкі дом «Звязда», 2017.*

Ёсць людзі, якія ствараюць гісторыю. Ёсць кнігі, якія гісторыю ўвекавечваюць. Без перабольшвання сенсацыйнай можна назваць другую кнігу ў серыі «Адрасы Беларусі ў свеце» Выдавецкага дома «Звязда». Аўтарам змястоўнага тома выступае праўнучка Ігната Дамейкі, якая не пабаялася ўзяць на сябе цяжар стварэння найбольш поўнай на дадзены момант біяграфіі славутага продка. І гэта пры тым, што Пас Дамейка не мела да гэтага пісьменніцкага досведу! Па-іспанску кніга выйшла ў 2002 г., які быў афіцыйна абвешчаны ЮНЕСКА Міжнародным годам Дамейкі. Зразумела, што пераклад на беларускую мову ўнікальнага выдання — справа гонару для сучаснай Беларусі. А яшчэ — вяртанне той недаравальна забытай часткі гісторыі, якая, безумоўна, належыць нам.

Проста, абаяльна распавядае Пас Дамейка ў прадмове пра лёс сям'і і лёс асабісты. На вялікі жаль, у Еўропе род Ігната Дамейкі скончыў сваё існаванне. Гісторыя яго сям'і цяпер цесна звязана з Чылі, ЗША, Аўстраліяй. Аднак у нашчадкаў і сёння беражліва захоўваюцца асабістыя рэчы, лісты, дакументы дона Ігнасіа, як пачціва называлі навукоўца пры жыцці. «Я спецыяльна ездзіла збіраць матэрыялы ў Францыю, Чылі, Польшчу, Літву і двойчы бывала ў Беларусі. Не паспела заўважыць, як продак завалодаў маім жыццём», — ахвотна дзеліцца ўмовамі напісання кнігі Пас Дамейка. Яна — нястомная збіральніца і захавальніца багатага архіва Ігната Дамейкі. Таму і распавед пра лёс выбітнага навукоўца атрымаўся багатым на фактаграфічныя дадзеныя, падрабязным, заснаваным на лістах і сведчаннях. Грамадскае і асабістае цесна пераплецены ў кнізе. А сваю галоўную мэту Пас Дамейка сфармулявала наступным чынам: «Паказаць іншага Ігната Дамейку — высакароднага чалавека, удзячнага назіральніка і добрага сем'яніна, якім ён быў».

Прысутнічае ў выданні і гістарычны экскурс, падрабязнае знаёмства з варункамі ўтварэння Рэчы Паспалітай і яе падзелаў, класавай і палітычнай барацьбы, паўстанняў, што пралівае святло на акалічнасці лёсу гарачага патрыёта Ігната Дамейкі. Удзел у тава-

рыствах творчай і навуковай моладзі, паўстанні 1830 г., праслед агентаў рускай паліцыі і, нарэшце, высылка — незабыўныя старонкі беларускай часткі біяграфіі нашага земляка з Вялікай Мядзвядкі пададзены дынамічна і эмацыйна. Вельмі цікавымі з'яўляюцца і падрабязныя апісанні прыроды, гарадоў, быту насельніцтва розных краін, якія старанна занатоўваў у час доўгага падарожжа Ігнат Дамейка. Прысутнічае ў кнізе і захапляльная гісторыя кахання. Рамантычнае знаёмства з 15-гадовай чылійкай Энрыкетай цалкам змяніла жыццё паважанага прафесара. У лісце да Адама Міцкевіча Ігнат Дамейка пісаў: «Яе прыгажосць настолькі захапляльная, што я сумняваюся ў тым, што ты хоць раз бачыў нешта падобнае; такое можна ўбачыць толькі пад гэтым вечна блакітным небам, пастаянна спакойным, якое толькі зімой азмрочваецца некалькімі аблокамі». Шчаслівае сямейнае жыццё прынесла Дамейкам душэўную гармонію ў складаных жыццёвых умовах ды таленавітых нашчадкаў, якія і цяпер захоўваюць памяць пра радзіму свайго прадзеда.

Вялікая галерэя фотаздымкаў выдання знаёміць чытачоў з гербам роду Дамейкаў, краявідамі родных мясцін навукоўца, партрэтамі яго сяброў і родзічаў. Прысутнічаюць і падрабязныя каментары пасля кожнай главы, што даходліва тлумачаць геаграфічныя, сацыяльныя, культурныя рэаліі аповеду. Упэўнена можна сказаць, што Пас Дамейка дасягнула сваёй мэты — вядомы геолаг, мінеролаг, рэктар Чылійскага ўніверсітэта, нацыянальны герой Чылі паўстае прад намі глыбокім, цікавым чалавекам з адмысловымі звычкамі, захапленнямі, спадзяваннямі.

*Барыс МІКУЛІЧ*
**МАЕ ЗАЛАТЫЯ МАРЫ**
**Уклад. Т. САКАЛОВАЙ**

*Мн., Мастацкая літаратура, 2017.*

Імя Барыса Мікуліча — быццам тэст на нацыянальную ідэнтычнасць. Калі ведаеш яго — несумненна, ты ў энергетычным полі беларускага народа.




Некалі недаравальна забытае, гэтае імя, на шчасце, усё часцей гучыць з цягам гадоў. Адкрываюцца невядомыя творы, факты біяграфіі, акалічнасці вельмі няпростага лёсу двойчы зняволенага, рэабілітаванага пасля смерці пісьменніка. «Аповесць для сябе», «Лісты з сібірскай ссылкі» і іншыя надзвычай цікавыя творы загучалі цяпер для сучаснікаў. Зусім нядаўна на старонках «Полымя», дзякуючы рупнасці ўнучатай пляменніцы пісьменніка Тамары Сакаловай і ўважлівай тэксталагічнай працы літаратуразнаўца Міколы Труса, упершыню пабачыла свет і аповесць Барыса Мікуліча «Зялёны Луг».

Таксама 105-годдзе з дня нараджэння пісьменніка азначылася і выхадам кнігі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». «Мае залатыя мары» — зборнік, што вельмі ўдала раскрывае багатую жанравую палітру творчасці Барыса Мікуліча. Легенды, акварэлі, запіскі, эцюды, сілуэты — трапныя вызначэнні, якія могуць саслужыць добрую службу і сучасным празаікам! Часам жанр замацаваны і ў саміх назвах твораў. «Тэма і варыяцыі» — твор з гэткім музычным найменнем па-свойму ўнікальны для беларускай літаратуры 1920—30-х гг. Напісаны ў імрэсіяністычнай манеры, быццам напаўпразрыстымі тонамі, ён, між іншым, закранае вельмі балючую тэму чалавечай адзіноты ў вялікім горадзе, такую актуальную і сёння. Трое

прыезджых хлопцаў, тры непадобныя лёсы — але яднае іх неўладкаванасць, душэўныя пакуты, нястомны пошук уласнага шчасця. Паэт, вершы якога не ацанілі рэдактары, студэнт рабфака, які нечакана сустракаецца з маральнай разбэшчанасцю гарадскіх жыхароў, рамонтны рабочы, што прамяняў вясковае каханне на заманлівыя перспектывы… Варыяцыі лірычныя, патэтычныя, трагічныя гучаць у іх жыццях і змяняюць адна адну. «Жыццё — гэта вузел нітак рознай велічыні і афарбоўкі. Гэта, калі хочаце, Гордыеў вузел, які рассякаецца сканчэннем усё ж такі не развязаным», — справядліва заўважае Барыс Мікуліч. Вельмі сучаснымі выглядаюць і запіскі «Па дарогах», якія так нагадваюць папулярны сёння «дзённікавы» стыль і нават запісы на фэйсбуку:

«— Добры дзень!

— А!

…Ён сядзіць супраць мяне, сёрбае чай і кажа, кажа без перапынку.

Кажа аб кепскіх умовах працы ў школе, кажа, як ён звыкся з гэтым і цяпер вось нічога…

Чамусьці ўспамінаю коласаўскага Лабановіча…

Але гэта мінулае…

На этажэрцы апошні нумар «Савецкай Беларусі».

Выяўляе Барыс Мікуліч і абсалютна чароўнае майстэрства стварэння пейзажных апісанняў: «Вечар скронямі сінімі ціха звініць у палях. Вечар — русы юнак сінявокі — раскідаў падзёўку сваю…» ці «Разгортвалася ранне. Гаспадар змываў з попельніцы-неба дробныя кавалачкі попелу. Гаспадар наладжваў парадак, бо любіў працаваць у чыстаце. Узыходзіла сонца».

Ясна, што сустракаюцца ў творчай спадчыне Барыса Мікуліча і творы выразна кампрамісныя, абумоўленыя суровай эпохай цэнзурнага пераследу. Ды і як было выжываць пісьменніку, які знаходзіўся пад такой пільнай увагай адпаведных органаў? Апавяданні «Звычайны дзень», «Канцэрт» якраз такія. Першае з іх — пра вясковую прыгажуню Ніну Краўчанку, якая, кіруючы брыгадай на ўборцы ўраджаю, дасягае незвычайных вынікаў, славячы родны калгас на ўсю краіну. І адхіляе прапанову жаніха паехаць у горад з простай фармулёўкай: «Хіба я магу кінуць гэта?» Другое — пра хлопчыка-скрыпача, які ўдзельнічаў у канцэрце перад самім таварышам Сталіным. Але і ў падобных творах прарываецца праз гіпербалізавана-пафаснае непадробнае псіхалагічнае майстэрства пісьменніка. Абаяльна, шчыра апісвае ён адносіны паміж людзьмі: «Яны так увесь час і гаварылі не пра тое, што трэба, пра што хацелася, а выходзіла, што іх надта цікавіць палянанне вокуня за месячным рогам і тое, як падаюць зоры, і тое, як свеціць за курганам, на тым беразе ракі, неба, быццам водблеск далёкага пажару…»

Ёсць у нашай літаратуры «Загадка Багдановіча». Але не меншай загадкай з'яўляецца і постаць Барыса Мікуліча. Разгадваць трэба яшчэ багата чаго. Верыцца, што новыя і новыя знаходкі яшчэ папоўняць скарбонку айчыннай класікі.




*Кацярына МЯДЗВЕДЗЕВА*

**РАЗЛАМАШКІ МАЙСТРА ЛЮФТА**

*Мн., Выдавец А. М. Янушкевіч, 2017.*

Прага да незвычайнага, казачнага, чароўнага прысутнічае ў чалавеку з глыбокай старажытнасці. Вырастае яна з жадання патлумачыць светабудову, наблізіцца да вышэйшага розуму, пасяб-

раваць з прыродай. А потым — асвятляе зыркімі фарбамі паўсядзённасць, фарміруе рамантычнае светабачанне, натхняе на арыгінальную творчасць. І зноў жа — псіхатэрапеўтычную ролю казак ніхто не адмяняў. Ствараў свой сусвет — ды жыві ў ім па ўласных законах. Хаця б гадзіну. Магчыма, таму так любяць у XXI стагоддзі коміксы і фантастычныя гісторыі пра супергерояў, якія ратуюць свет… А якая папулярнасць у літаратурных фантастычных саг!

Нехта сцвярджае, што жанр фэнтэзі ў беларускай літаратуры яшчэ даволі малады і неасвоены. Ёсць жа і дыяметральна супрацьлеглыя сцверджанні. Ходкай стала фраза Сержа Мінскевіча, які на прэзентацыі ўласнай фантастычнай аповесці сцвердзіў: «Мы самыя першыя напісалі фэнтэзі, калі яшчэ і не прыдумалі гэтаму жанру назву. Яшчэ не было Толкіна, а ў нас ужо быў Ян Баршчэўскі…» Тое ж дакляраваў і Алесь Грушэцкі ў артыкуле з красамоўнай назвай «Беларусы — першапраходцы ў фэнтэзі». Але як бы там ні было, не заўважаць відавочныя дасягненні сучаснай беларускай фантастыкі немагчыма. Вялікую цікавасць выклікаюць творы Раісы Баравіковай, Людмілы Рублеўскай, Пятра Васючэнкі, Нікі Ракіцінай, Маргарыты Латышкевіч і інш. Смела заявіла пра сябе і маладая пісьменніца Кацярына Мядзведзева.

Яе «казкі» — хутчэй для дарослых. Хоць, безумоўна, чытач любога ўзросту знойдзе ў іх нешта для сябе. «Чараўніцтва бывае розным. Часам яго ствараюць чараўнікі, і тады здзяйсняюцца невыканальныя жаданні, расквітаюць чорныя ружы, і магічная іголка вышывае на палатне нечы лёс. Але часцей за ўсё чараўнікамі становяцца звычайныя людзі, і цуды яны робяць пры дапамозе дабрыні, святла, кахання. Цуды гэтыя простыя — але патрабуюць мудрасці і чыстага сэрца», — гаворыцца ў анатацыі да кнігі «Разламашкі майстра Люфта». І сапраўды, такой казачнаатмасфернай, добрай і глыбокай кнігі ў беларускай літаратуры не хапала даўно… Чароўнае двухсвецце Гофмана, разлітасць у паветры цудаў Брэдберы, незвычайнае ў дробных дэталях Андэрсена. Шмат культурных кодаў і нацыянальных уяўленняў арганічна спалучаюцца ў прозе Кацярыны Мядзведзевай. Англійская стылістыка, славянскі фальклор, непадробны народны гумар робяць гэтую сумесь вельмі прыцягальнай.

Героі казачных аповесцей і апавяданняў пісьменніцы — абаяльныя людзі з адметнымі характарамі, цікаўнасцямі, слабасцямі. Непрывабная на першы погляд дзяўчына Дэйсі з тварам-жытнім блінком, кульгавая і нешчаслівая ў каханні прыбіральшчыца Ліза, прафесарская дачка Анжаліка, што прыдумляе сабе ідэальны свет, настаўніца Марта, што баіцца аўтобусаў пасля страшэннай аварыі, дапытлівы студэнт Антон, які трапляе ў сапраўдны дэтэктыў… Усе яны шукаюць сваё шчасце, вераць, не губляюць надзею. А яшчэ Кацярына Мядзведзева захапляльна піша пра… смерць. Тую, якой не трэба баяцца, а ўспрымаць з сумнай усмешкаю, па-філасофску. Прывід памерлай дзяўчынкі Кларысы хоча пamірыць сваіх жывых бацькоў, а душы ўдзельнікаў ДТЗ сустракаюцца ў іншасвеце і нават жывуць там у адной хаце…

Цікавы і стыль пісьменніцы. Нечаканыя сюжэтныя хады і нестандартныя пачаткі, зачыны твораў тыпу «Жыў-быў ты…» выяўляюць абсалютную свабоду думкі аўтара. Вялікую ўвагу надае Кацярына Мядзведзева партрэтам, інтэр’еру, чароўным дэталям. Якімі каларытнымі выглядаюць, напрыклад, апісанні багатых сталоў у доме чараўніка Лунеша: «Макароны з марынаваным артышокам і цёртым сырам, агурочная салатка, круглыя пасыпаныя пятрушкай тэфтэлі, запечаная курыца, кменавыя аладкі з вэнджанай стронгай, фрыкасэ з крэветак, бульбяныя катлеткі, а на салодкае аб’ёмістая міска трускалак са смятанай і цукрам»!

Мы ўсе — недасканалыя, прызнае пісьменніца. Але дзякуючы добрым памкненням і веры ў цуды можам змяняць навакольны свет. Сілай думкі вырошчваць прыгажэйшыя кветкі, дарыць абяздоленым надзею, змагацца са сваімі і чужымі страхамі. Мы ўсе — чараўнікі.

# ЗМЕСТ ЧАСОПІСА ЗА 2017 ГОД

## ПРОЗА



## ПАЭЗІЯ

## ГАЛАСЫ СВЕТУ

**НАСОА Анібаль.** Мая галерэя. Уступнае слова і пераклад з іспанскай Рыгора Ляшука. XII—80.

**САВІН Сяргей.** Паміж дублікатамі пульсу. Вершы. Пераклад з украінскай Юліі Алейчанкі. III—68.

**СЕРВАТКА Мар'ян.** Мабільная сувязь з вечнасцю. Вершы. Пераклад са славацкай Міколы Труса. VI—91.

**Скандынаўскія народныя балады.** Уступнае слова і пераклад Яўгена Папакуля. II—122.

**СТЭФАНОВІЧ Алекса.** Сінеча далечы. Вершы. Уступнае слова Міколы Труса. Пераклад з украінскай Міколы Труса. X—108.

**ТАЛСТОЙ Аляксей.** Марна ты лічыш, мастак!.. Пераклад з рускай Пятра Жаўняровіча. X—104.

**ТУВІМ Юльян.** Хадзіць па зямлі, прагнуць неба. Вершы. Пераклад з польскай Сяргея Сцяпана. IV—92.

**ТУЛУШАВА Алена.** Апавяданні. Пераклад з рускай Максіма Пятрова. II—102.

**ХАНІНАЎ Міхаіл.** Званы Хатыні. Паэма. Уступнае слова Алеся Карлюкевіча. З калмыцкай. Пераклад Рагнеда Малахоўскага і Адама Шостака. V—94.

**ЦЗЯНЧЖАО Ван.** Люстра неба. Вершы. Уступнае слова Алеся Карлюкевіча. З кітайскай. Пераклад Міколы Мятліцкага. X—112.

**ЦІМАФЕЕЎ Андрэй.** На некалькі імгненняў. Апавяданне. Пераклад з рускай Юліі Алейчанкі. II—111.

## РУМЫНСКІЯ СТАРОНКІ

**Вітальнае слова Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Румыніі ў Рэспубліцы Беларусь Віярэла МАШАНУ.** XI—3.

**АЛЕЙЧАНКА Юлія.** Пошук святла. XI—4.

**ЭМІНЭСКУ Міхай.** Лучафэр. Урывак з паэмы. З румынскай. Пераклад Юліі Алейчанкі. XI—5.

**ТЭАДАРЭСКУ Крысціян.** Арабескі лёсу. Мініяцюры. З румынскай. Пераклад Веранікі Бандаровіч. XI—10.

**КЭРТЭРЭСКУ Мірча.** Жанчына на адно жыццё. Апавяданні. З румынскай. Пераклад Веранікі Бандаровіч. XI—16.

**ПЫРЖА Георге.** Прэлюдыя слова і моўкнасці. Вершы. З румынскай. Пераклад Васіля Саеўскага. XI—24.

**СОРЭСКУ Марын.** Ракіроўка пачуццяў. Вершы. З румынскай. Пераклад Ганны Бараноўскай. XI—28.

**МАНОЛЕ Дзіяна.** Калі прыйдуць анёлы — іх колер не будзе важны. Вершы. Пераклад з англійскай Ганны Бараноўскай. XI—34.

## СЕРБСКІ ГАСЦІНЕЦ

**Вітальнае слова Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Сербія ў Рэспубліцы Беларусь Велькі КАВАЧЭВІЧА.** IX—3.

**МІХАІЛАВІЧ Драгаслаў.** Шукар месца. Аповесць. Пераклад з сербскай Івана Чароты. IX—4.

## ДЗЕНЬ ПІСЬМЕНСТВА



## КОНКУРС «ПЕРШАЦВЕТ»



## КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

## КНІГАРНЯ



## НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

## КНІГА_LOG



## ЛІТАРАТУРНЫ ПАРТРЭТ



## ЛІТАРАТУРНАЕ ПАДАРОЖЖА



## ПАМЯЦЬ

## ПОМНАЕ



## ПОСТАЦІ



## СПАДЧЫНА



## КУЛЬТУРА МОВЫ



## МАСТАЦТВА

## СЦЭНА



## СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ



## СТАРОНКІ ЛЁСУ



## НАШ КРАЙ



## ЭПІСТАЛЯРЫЙ



## ХРАНАТОП



## АФАРЫЗМЛЕННЕ



***Падрыхтавала Марыя МІХАЙЛАВА.***

